А.К. СЕРЖПУТОЎСКІ

# КАЗКІ І АПАВЯДАННІ
## беларусаў Слуцкага павета



Повязь вякоў

*Высокаадукаваны этнограф*
*і фалькларыст А.Сержпутоўскі*
*творча адносіўся да збірання жамчужын*
*беларускай вуснапаэтычнай творчасці,*
*не спяшаўся браць усё, "што Бог паслаў".*
*Ён шукаў і знаходзіў*
*таленавітых расказчыкаў, запісваў творы,*
*якія адрозніваліся высокім майстэрствам.*
*У выніку запісы Сержпутоўскага*
*ўключаюць фальклорныя творы,*
*у якіх новы змест спалучаецца*
*з іх старажытнай мастацкай асновай,*
*так што водгукі глыбокай старажытнасці*
*не заглушалі сучаснасці ў творах*
*народнай фантазіі.*

*Л. Бараг*

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Александар Сержпутоўскі
Праўдзейны Член Інстытуту
Беларускае Культуры

# КАЗКІ І АПАВЯДАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ

## З СЛУЦКАГА ПАВЕТУ

Коштам Інстытуту Беларускае Культуры
У Ленінградзе — 1926

Серыя "Повязь вякоў"

А.К. Сержпутоўскі

# КАЗКІ І АПАВЯДАННІ

## БЕЛАРУСАЎ СЛУЦКАГА ПАВЕТА

Мінск
"Універсітэцкае"
2000

УДК 882.6-3+398.2(=826)
ББК 82.3(4Беи)6
С 32

Серыя заснавана ў 1997 годзе

Распрацоўка серыі «Повязь вякоў», навуковае рэдагаванне, прадмова кандыдата філалагічных навук У. К. КАСЬКО

Тэкст друкуецца па выданню:
Александар Сержпутоўскі. Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету.
Л., 1926

Навуковы кансультант доктар філалагічных навук, прафесар *А. С. Фядосік*

Мастак В. Р. Мішчанка

Рэкамендавана да перавыдання вучоным саветам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

ISBN 985-09-0361-9

# КАЗКІ І КАЗАЧНІКІ БЕЛАРУСКАГА ПАЛЕССЯ

Прапануемы ўвазе чытача зборнік «Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета» з'яўляецца чацвёртай кнігай з серыі «Повязь вякоў», прысвечанай жыццю, навуковай, збіральніцкай дзейнасці вядомага беларускага фалькларыста, этнографа, мовазнаўцы, публіцыста Аляксандра Казіміравіча Сержпутоўскага (1864—1940)[1]. У яе ўвайшлі запісы, зробленыя збіральнікам у 1890—1923 гадах на Беларускім Палессі. Упершыню зборнік убачыў свет у 1926 годзе ў Ленінградзе. Пяцьсот асобнікаў разышліся імгненна і сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

Кніга ўразіла чытачоў і спецыялістаў навізной, незвычайнасцю матэрыялаў. Вядомы беларускі фалькларыст А. Шлюбскі ў рэцэнзіі на яе пісаў: «Не ўмаляючы значэння зборнікаў Бяссонава, Шэйна, Раманава, Нікіфароўскага, Дабравольскага, кніга Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павету» ...з'яўляецца першай кнігай, якая падводзіць фундамент пад беларускую этнаграфічную казку».

Б. Эпімах-Шыпіла ставіў зборнік Сержпутоўскага вышэй за ўсе раней апублікаваныя зборнікі беларускіх казак. Ён адзначаў асаблівую літаратурную стройнасць твораў, высокую якасць запісаў, што садзейнічала вывучэнню дыялектных асаблівасцей мовы беларусаў-палешукоў.

Вялікую цікавасць выклікаў зборнік А. К. Сержпутоўскага за мяжой — у фалькларыстаў Чэхаславакіі, Польшчы. Рэцэнзія вядомага чэшскага фалькларыста Іржы Поліўкі[2] на зборнік перарасла ў спецыяльнае да-

---

[1] Касько У. К. Святло далёкай зоркі. Мн.: Універсітэцкае, 1997; Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн.: Універсітэцкае, 1998; Сержпутоўскі А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. Мн.: Універсітэцкае, 1999.

[2] Poliwka I. Kritiky a referaty Slawia Praga, 1929. Ročnik 8. Sešit 2. S. 404—416.

следаванне беларускай і славянскай казачнай традыцыі. Аўтар усебакова і падрабязна аналізуе творы зборніка, адзначае ідэнтычнасць асобных беларускіх сюжэтаў з сюжэтамі чэшскіх, балгарскіх і польскіх казак, спасылаецца на крыніцы, у тым ліку і на зборнікі Е. Раманава, П. Шэйна, М. Федароўскага. І. Поліўка падкрэсліваў наватарскі падыход А. Сержпутоўскага ў выбары казачнікаў, многія творы якіх не маюць аналагаў у сусветным фальклоры.

Пра высокую вартасць твораў, уключаных у кнігу А. Сержпутоўскага, сведчыць і той факт, што многія з іх пазней неаднаразова ўключаліся ў фальклорныя зборнікі, друкаваліся на старонках перыядычнага друку, гучалі па радыё, з тэатральных сцэн у выкананні прафесіянальных і самадзейных выканаўцаў.

Зборнік «Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета» ўключыў у сябе 100 твораў, пераважная большасць якіх насіла вострую сацыяльна-класавую скіраванасць. Яно і вядома — ён убачыў свет пры новым сацыяльным ладзе. Змянілася палітычная сітуацыя, погляды чалавека на свет, прыроду. Іншымі сталі яго духоўныя запатрабаванні. Пастулова страчвалася вера ў старажытныя фантастычныя вобразы, што не магло не адбіцца на трансфармацыі чарадзейнай казкі. Яна стала больш дынамічнай, у яе канву сталі ўплятацца матывы новага жыцця. Больш месца сталі займаць у ёй апісанні прыроды, аўтарскія адступленні, якія адлюстроўвалі адносіны казачніка да ўчынкаў сваіх герояў.

З народнай памяці пастулова сціраліся ўспаміны перыяду прыгонніцтва. У зборнік трапілі ўсяго некалькі твораў на гэтую тэму. Самым цікавым з іх з'яўляецца апавяданне «Пан і мужык» (Казкі. С. 45—46), якое данесла да нашых дзён страшэнную карціну бяспраўнага жыцця беларускага селяніна. Паразітызм, жорсткасць, чэрствасць — такімі рысамі характарызуецца памешчык-самадур. Аднак якой бы вялікай ні была яго ўлада, апошняе слова часта заставалася за сялянамі. Яны адкрыта насміхаюцца над новым панам, які выдае сябе за вялікага знаўцу земляробчай справы. На вачах

сялян ён бярэ ў рот кавалак зямлі і пачынае жаваць яе. Мужыкі яхідна раяць пану замест зямлі пакласці на язык кавалак гною.

Аналагічны сюжэт запісаны на Смаленшчыне[1]. Аднак апавяданне беларускага казачніка Данілы Куляша больш каларытнае, жывое. Сцэна сустрэчы сялян з новым панам пададзена тут па-майстэрску, з уласцівымі гэтаму казачніку камізмам, вобразнасцю.

Зброю смеха ўмела выкарыстоўваюць беларускія казачнікі і ў іншых творах зборніка. Так, у казцы «Недапад» (Казкі. С. 137—140) высмейваецца пан, які патрабуе ад свайго повара такіх вытанчаных страў, каб «усё было не па-людску». І мужык стараецца выканаць загад. Вяльможныя госці, якія прыехалі па запрашэнню пана на званы абед, прагна ядуць «недапад» — страву, прыгатаваную з памёту каровы.

У большасці казак сяляне заўсёды разумнейшыя за паноў, лёгка іх праводзяць, падманваюць. Герой апавядання «Аўсяная дворня» (Казкі. С. 107—109) Нічыпар пераконвае пана ў тым, што яго сяляне ператварыліся ў коней, бо пан корміць іх адным аўсом.

Хаця здаровая сялянская мараль супярэчыць падману, ілжы, зладзейству, палешукі з вялікай сімпатыяй адносіліся да герояў казак, якія насміхаліся над панамі, помсцілі ім, кралі ў іх. «У пана красці не грэх, бо пан багаты. Ён у нас пакраў, а мы сваё дабро возьмем назад. Дак гэто ж не грэх»,— развважае батрак Сцяпан Штукар у казцы «Іньшы сон як у руку дась». Гэты распаўсюджаны сюжэт у казцы Сержпутоўскага набыў ярка выражаную антыпанскую накіраванасць, адлюстраваў настроі беларускага сялянства напярэдадні першай рускай рэвалюцыі.

Значнае месца ў зборніку займаюць антыклерыкальныя казкі. У іх народ высмейвае папоў, ксяндзоў, выкрывае падман і крывадушнасць. У творах падкрэслены такія рысы характару боскіх служак, як скупасць, абмежаванасць, распуцтва. У казцы «Сабака й грошы», запі-

[1] Сказки Смоленского края / Сост. и обраб. В. С. Шуригин. Смоленск, 1950. С. 83.

санай у 20-я гады XX стагоддзя ад Лявона Лебедзіка, мужык просіць папа адслужыць малебен па сабаку. Спачатку раз'юшаны поп пагражае селяніну адлучэннем ад царквы і ссылкай у Сібір, але, убачыўшы грошы, адпявае сабаку і шкадуе, што «больш не хаваюць сабак».

У многіх творах адлюстравана класавае расслаенне ў беларускай вёсцы. Запісаныя ў 1890—1923 гадах, яны ўвабралі ў сябе многія рэальныя рысы вясковага жыцця тых далёкіх гадоў. У беларускіх казках эпохі капіталізму з'явіўся створаны народам вобраз эксплуататаракулака. Вечны канфлікт паміж беднымі і багатымі перарастае ў вострую класавую барацьбу. Кулак-міраед надзелены ў казках толькі адмоўнымі рысамі. Ён скупы, зайздрослівы, жорсткі і бессардэчны. Адзіная мэта яго жыцця — яшчэ больш разбагацець, не спыняючыся ні перад чым, нават перад забойствам брата, суседа. На слёзную просьбу селяніна прадаць або пазычыць сена для галоднай жывёлы багацей Нічыпар, персанаж апавядання «Сусецкая справа», адказвае: «Усяму сьвету не надаешса». Багатыя людзі глухія да патрэб і просьбаў беднякоў.

У шэрагу народных твораў праявілася стыхійна-матэрыялістычнае разуменне прычын класавай няроўнасці. Частка сялян пад уплывам царквы абвінавачвае ў сваім жабрацкім становішчы ўласны лёс. Але роздум аб вытоках багацця і беднасці ўсё часцей прыводзіць да думкі, што «з працы рук многа не нажывеш», што «багацце туды ідзе, дзе няма крыжа». У казцы «Хто выдумаў грошы» чорт робіць золата з поту, слёз і крыві людзей. У казцы «Усе і ў галаве не змесціцца» сын даведваецца, што яго бацька нажыўся на поце і слязах сваіх аднавяскоўцаў. Народная мараль сцвярджае недаўгавечнасць такога дабрабыту. У выніку ў многіх казках золата зноў ператвараецца ў пот, слёзы і кроў, у якіх патанаюць багацеі. Творы такога зместу мелі велізарнае значэнне для росту самасвядомасці беларуса-палешука. Сяляне вучыліся распазнаваць сваіх класавых ворагаў, прыходзілі да думкі аб неабходнасці барацьбы з імі.

У казках зло заўсёды нясе пакаранне, а праўда і справядлівасць перамагаюць. Пасля ўсіх бедстваў да бедняка прыходзіць дастатак. Аднак і ў такіх выпадках селянін не парывае з працоўнай дзейнасцю, не імкнецца памножыць сваё багацце махлярствам і ашуканствам, як робяць гэта багацеі.

Вялікай павагай карыстаўся ў народзе працалюбівы чалавек, які сумленна зарабляў хлеб для сваёй сям'і, і, наадварот, крытыкаваліся гультаі, няўмекі. У казцы «Цесьля» высмейваецца малады цясляр, які вучыць майстра, як трэба будаваць дом, хаця сам за сваё жыццё не зрабіў нават куратніка.

Не карысталіся ў народа сімпатыяй і людзі, якія не хацелі весці сваю гаспадарку, займаліся справамі, якія не паважалі земляробы («Стралец і рыбак», «Валачашчыса парабак, ці Служачы хлеб сабачы»). Уменне добра гаспадарыць на сваёй зямлі — асноўная якасць мужчыны, лічыць казка.

Адмоўна адносіліся казачнікі і да п'янства, падкрэслівалі ў сваіх творах, што п'яніца — дрэнны гаспадар, ён не варты павагі. Яны сцвярджалі, што гарэлку прыдумаў чорт, каб збіць чалавека з правільнай дарогі.

Светлымі фарбамі малюе казка ўзаемаадносіны паміж хлопцам і дзяўчынай, якія кахаюць адзін другога. Не заўсёды лёс спрыяе ім. Перашкодай да шчасця часта з'яўляецца сацыяльная няроўнасць. У казцы «Няхай так будзе» бацькі багатай дзяўчыны ўсяляк перашкаджаюць жаніцьбе дачкі з бедным парабкам. І тым не менш казка заканчваецца вяселлем. За дабрату і спагадлівасць маладога работніка, які аддаў жабраку ўсе заробленыя на сплаве грошы, Бог (а гэта ён выступае ў ролі жабрака) дапамагае закаханым. Бацькі дзяўчыны не толькі пасаромлены, але і вымушаны згадзіцца на шлюб дачкі з бедняком.

Казачнік тонка перадае душэўны стан дзяўчыны: яна не можа аслухацца бацькоў, але гатова лепш пакончыць з сабой, чым расстацца з каханым.

Чысціня пачуццяў, вернасць любаму, гатоўнасць да самаахвяравання дзеля шчасця блізкага чалавека — такі лейтматыў многіх твораў зборніка А. К. Серж-

путоўскага. Жанчына падзяляе з мужам радасць і цяжкасці няпростага сялянскага жыцця, вядзе гаспадарку, выхоўвае дзяцей. Але працуючы з раніцы да ночы, яна, тым не менш, застаецца бяспраўнай, забітай, прыгнечанай не толькі ў грамадстве, але падчас і ў сваёй сям'і.

Знойдзе чытач у гэтай кнізе і чарадзейныя казкі. Праўда, многія з іх можна аднесці да дадзенай катэгорыі з агаворкамі, бо ў іх адсутнічаюць традыцыйныя для чарадзейнай казкі элементы — зачыны, канцоўкі, цудадзейнае пераўвасабленне, фантастычныя персанажы, і наадварот — на кожным кроку сустракаюцца апісанні жыцця беларускай вёскі, сялянскага побыту, прыводзяцца ацэначныя меркаванні і адносіны казачнікаў да пэўных падзей. Характэрная ў гэтым сэнсе казка «Дурэнь». На першы погляд яе можна з поўнай падставай аднесці да чарадзейных твораў. Тут прысутнічаюць чэрці, Змей, які выкрадае царскую дачку, тры браты, сярод якіх малодшы — традыцыйны «дурэнь», цудоўныя памочнікі. Дурань размаўляе з памерлым бацькам, атрымлівае ад яго чарадзейныя прадметы, накіроўваецца вызваляць з палону прыгажуню царэўну.

І ў той жа час мы даведваемся са слоў галоўнага персанажа казкі, што ў апісваемай краіне паны прыгнятаюць сялян, а цар — крывадушны падманшчык: маніфест аб адмене прыгону выдаў, а мужыкоў паны паранейшаму прыгнятаюць. Стала людзям «яшчэ гарэй, як было».

Вызначальнай рысай народнай казкі з'яўляецца наяўнасць у ёй маральнага пачатку. Прычым этычнае тут заўсёды суседнічае з эстэтычным.

У казках зборніка А. Сержпутоўскага звяртае на сябе ўвагу дэталёвае апісанне станоўчага героя. Ён малюецца працалюбівым, смелым, гордым, непадкупным, гатовым на самаахвяраванне дзеля перамогі справядлівасці. Сын бортніка — герой казкі «Сьвіное рыло» — вельмі прыгожы. Ён не хоча служыць уцехай для царыц і просіць Бога зрабіць яго выродкам. Здаровая мараль казкі заключаецца ў самой прыродзе простага працаўніка, які выступае супраць прадажнага ка-

хання. У аснове пачуццяў маладога селяніна — прыгажосць духоўная, любоў, здольная зрабіць шчаслівым іншага.

У многіх казках зборніка выражана тонкае эстэтычнае пачуццё беларускага селяніна, глыбокае разуменне ім значэння музыкі, песні, трапнага вобразнага слова.

Музыка не толькі ўплывае на настрой людзей, прымушае забыць усе жыццёвыя няўзгоды, але і дапамагае герою знішчыць пекла і выратавацца ад пятлі. У казцы «Гуслі» Іваньчык, асуджаны царскім судом да павешання, зайграў перад смерцю на гуслях. Не было раўнадушных да яго ігры. «Скачэ кат, абняўшы шыбеніцу, скачэ суддзя з паперам у руках, скачэ поп з крыжам перад носам, скачуць мужыкі й бабы, аж пот з іх валіць, скачэ ўсе места, бы мошкі мак таўкуць...» А Музыка ў гэты час непрыкметна скрываецца.

Народ з асаблівай павагай адносіцца да стваральнай працы, высока ацэньвае прыгожае. У казцы «Харраство — сіла» цёпла расказваецца пра сялян — сапраўдных майстроў сваёй справы, якія прадуць ніткі танчэй за чалавечы волас, ткуць цудоўныя паясы і рушнікі. Нават цар выбірае сабе нявесту не толькі прыгожую, але і майстрыху на ўсе рукі.

Кожная казка, уключаная ў гэты зборнік,— завершаны мастацкі твор, асаблівы каларыт якому надае прывязка да палескай мясцовасці, канкрэтнага казачніка, з яго непаўторнай лексікай, маўленнем. У трох папярэдніх кнігах серыі «Повязь вякоў» даваўся грунтоўны аналіз збору запісаў лепшых твораў казачнага эпасу беларусаў-палешукоў, раскрывалася творчая манера казачнікаў Рэдкага, Азёмшы, Лебедзіка, Савіцкага, Болбата і іншых. Звыш 80 казак і апавяданняў гэтых рэдкага таленту казачнікаў змешчаны і ў зборніку А. К. Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета». Пра некаторых з іх Аляксандр Казіміравіч коратка расказаў у сваёй прадмове да зборніка, з іншымі мы пазнаёмімся праз іх творы, змешчаныя ў гэтым зборніку.

Найбольш шырока прадстаўлены тут казкі Данілы Куляша — 26 назваў. Тэматыка твораў самая разна-

стайная, але ўсе іх аб'ядноўвае здаровы маральны пачатак. Сімпатыі народа на баку працавітых сумленных людзей, у якіх можна павучыцца, як весці гаспадарку, ладзіць парадак у сям'і. Такім малюе казачнік старога селяніна, якому не пашанцавала з дзецьмі: адзін сын яго — стралец, а другі — рыбак. Напомнім, што гэтымі прафесіямі пагарджалі на вёсцы, нават падвялі пад іх філасофскую базу ў выглядзе прымавак: «Стралец страляе, а гаспадарка гуляе», «У стралца дым густы, да абед пусты, а рыбак як памочыцца, то і есці не хочацца».

Пакуль бацька вёў гаспадарку, расказвае Даніла Кулеш, у доме быў дастатак, а як толькі ён вырашыў на нейкі час пакінуць сядзібу, каб пераканацца, як будуць жыць без яго дзеці, тыя ледзь з голаду не памерлі. На шлях ісціны стаць дапамог маладым лайдакам старац, які падзяліўся з імі хлебам, салам, параіў заняцца як след гаспадаркай.

Сорамна было чуць гэта сынам, сорамна было прымаць з яго рук кавалак хлеба. Узяліся хлопцы за работу, паправілі гаспадарку. Узрадаваўся бацька, даведаўшыся пра гэта. «От, кажэ, цяпер я спакойна памру, бо бачу, што мае сыны не стралцы, не рыбакі, а гарапашнікі гаспадары, як і ■ сам».

З гумарам выкрывае Даніла Кулеш дэмагогаў-няўмек, якія пахваляюцца сваім дойлідскім майстэрствам, павучаюць іншых, як трэба будаваць хаты, а самі не ўмеюць забіць цвік у дошку. Малады цесля з аднайменнай казкі пачаў перабудоўваць дом з даху замест таго, каб замяніць некалькі гнілых падвалінаў.

Аддаючы належнае жанчыне-працаўніцы, Кулеш у той жа час высмейвае жанчын някемлівых, нядбайных, няўжыўчывых, асуджае тых, хто дрэнна адносіцца да сваіх і няродных дзяцей. Розныя «выхаваўчыя метады» прапаноўвае казка. Зласлівую гаваркую кабету муж саджае на мурашнік («Упартая жанчына»), няверную жонку, якая заляцалася ў дзяка, герой казкі «Цікавасць» перавыхоўвае паплескай.

Выступаючы ў многіх творах своеасаблівым бытапісцам палескай вёскі, выкрываючы асобныя хібы ў ха-

рактарах сялян-палешукоў, Даніла Кулеш узнімаецца да адкрытага выкрыцця сацыяльных заган грамадства, спрабуе разабрацца, чаму адны сяляне працуюць ад цямна да цямна і не могуць пракарміць сям'ю, а другія нічога не робяць, а грошай, багацця ў іх не пералічыць. У казцы «Праўда й Крыўда» старэйшы брат, у якога свірны поўныя зерня, адмаўляецца пазычыць малодшаму брату некалькі кілаграмаў жыта да новага ўраджаю. «Унясі залог — тады дам»,— кажа ён. У бедняка ў хаце хоць шаром пакаці, і ён прапануе міраеду свае ўласныя вочы. Той згаджаецца і выколвае брату вочы. Адсюль і назва Крыўда, якая замяняе багацею імя і прозвішча, становіцца выкрывальным.

Бедняк не мае за душой ні граша, але гатовы падзяліцца апошнім кавалкам хлеба з тым, хто мае ў ім патрэбу. Ён не злапамятлівы, добры, адзыўлівы. Таму і імя атрымлівае — Праўда.

У асобных творах Кулеш выступае як гісторык, філосаф, разважае над паходжаннем некаторых народаў і народнасцей, спрабуе асэнсаваць ход гістарычных падзей. І хаця пазнаць законы развіцця грамадства, прычыны сацыяльнай несправядлівасці не дазваляюць яму адсутнасць адукацыі, адарванасць палешукоў ад свету ў сілу адсутнасці дарог, укладу сялянскага жыцця, які складваўся вякамі, галоўны стрыжань сваіх разваг казачнік вызначыў правільна: сіла людзей у згуртаванасці, міры, згодзе, у гатоўнасці прыйсці адзін другому на дапамогу. Разладжанасць, сваркі, зайздрасць, прагнасць унеслі разлад у жыццё некалі дружнай сям'і («Палешукі й палевікі»). Дванаццаць братоў жылі ў ладзе, згодзе, пакуль быў жывы бацька, расказваецца ў казцы. А пасля яго смерці перасварыліся паміж сабой жонкі сыноў, і сваіх мужоў зрабілі ворагамі. Пачалі тыя захопліваць адзін у другога зямлю, маёмасць. Толькі два малодшыя браты вырашылі не грызціся паміж сабой. Кінулі сваю бацькаўшчыну і пайшлі ў свет са сваімі сем'ямі. Дарога аказалася доўгай і цяжкай. Каб ісці наперад, прыходзілася высякаць лес, гаціць дарогі. Першым надакучыла гэта старэйшаму з братоў. Вырашыў ён пасяліцца ў лесе. Стаў раскарчоўваць дзялянкі

пад пасевы, будаваць жытло. Адсюль, па словах Данілы Куляша, і пайшлі палешукі.

Малодшы брат аказаўся больш настойлівым. Ён прабіўся праз лясы, выйшаў на раўніну і заснаваў там паселішча. Так з'явіліся палевікі.

Размножыліся палешукі і палевікі і праз многія гады іх паселішчы і землі аказаліся побач. Зажылі яны дружна, дапамагалі адзін другому. Але неўзабаве старэйшыя браты даведаліся пра тое, што іх малодшыя браты жывуць больш заможна, чым яны і пайшлі на іх вайной. Казачнік цікава расказвае, як бараніліся палешукі і палевікі ад братоў-захопнікаў, як прымусілі тых адступіць.

Тут бы самы раз братам падружыцца яшчэ мацней, але замест гэтага яны сталі высвятляць, хто з іх больш зрабіў для гэтай перамогі. І хутка распачалі паміж сабой вайну. Гэта выкарысталі знешнія ворагі. Прыйшлі яны на землі палешукоў і палевікоў, забралі ўсё багацце, прымусілі працаваць на сябе.

Казка не гістарычны твор, яна не мае патрэбы ў храналагічнай перадачы падзей, фактаў, у вывадах. Даніла Кулеш таксама не ставіў перад сабой мэты расказаць, хто і калі нападаў на беларускія землі, што было пакладзена ў аснову ваенных і палітычных канфліктаў. Адно ён ведаў дакладна — не прыносяць карысці войны, спрэчкі паміж суседзямі, асобнымі людзьмі.

У той жа час казачнік—выказнік перадавых ідэй. Людзі ненавідзелі паноў, лічылі іх сваімі заклятымі ворагамі, а таму ён ухваляе той шлях, які выбіралі абяздоленыя сяляне, праганяючы паноў са сваіх мясцін.

Падмячае Кулеш і такую з'яву, як пранікненне на Палессе капіталістычных стасункаў. Хаця і марудна будаваліся дарогі, развівалася лёгкая прамысловасць, гандаль, рос попыт у беларускіх сялян на многія тавары, у першую чаргу гаспадарчыя. У той жа час казачніка непакоіць той факт, што першымі ў іх глухамань прыязджалі не настаўнікі, урачы, а, як правіла, розныя ландары. Яны адкрывалі крамы, карчомкі, у якіх галоўным атрыбутам сярод многіх тавараў была гарэлка. Яе ўжыванне адмоўна адбівалася на вядзенні гаспадаркі, люд-

скім дабрабыце. А паколькі ў большасці сваёй трымальнікамі лавак, карчомак былі яўрэі, казачнікі часта кпілі над імі, падтруньвалі, выкрывалі такія адмоўныя рысы, як сквапнасць, жаданне разбагацець за кошт сялян. Пры гэтым крытыка была памяркоўная, незласлівая, не мела ніякай падставы для праяў антысемітызму. Ды беларускія сяляне нават слова такога не ведалі. Яны жылі побач, уступалі ў эканамічныя адносіны, радніліся. І слова «жыд» успрымалася як адным, так і другім бокам спакойна, як, скажам, маскаль — рускі, хахол — украінец. Сатыра, гумар, якія казачнікі ўжывалі пры характарыстыках асобных беларусаў, былі не менш вострымі, з'едлівымі, але на гэта ніхто ніколі не крыўдзіўся.

Разнастайнасць тэм, сюжэтаў патрабавала ад казачнікаў вялікага майстэрства, жыццёвага вопыту, ведання псіхалогіі, запытаў аўдыторыі. Творы Данілы Куляша адпавядалі гэтым крытэрыям. У адрозненне ад казачнікаў, якія імкнуліся прыцягнуць увагу слухача да свайго аповеду нейкай інтрыгай, цікавым фактам, Даніла Кулеш звычайна пачынаў з характарыстыкі героя — простай, лаканічнай, але вельмі дакладнай. Гэтаму ўступу былі падначалены апісанні ўсіх наступных дзей і ўчынкаў казачных персанажаў. «Былі ў бацькі да ў маткі тры дачкі: дзьве ўдалые да стаpанныя, а трэйцяя хаць гожая як макаў цьвет, але такая ленівая да сварлівая, што мо такое й сьвет не бачыў («Упартая жанчына»). «Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён не то, каб сказаць вельмі багаты, а так сабе заможны гаспадар» («Смачно», «Мужык, цыган і яўрэй»).

Часта характарыстыка дзеючых персанажаў заключана ў народных прыказках і прымаўках: «Балото без чорта не будзе — адзін загіне, дзесяць будзе» («Пан і мужык»).

Казачнік імкнецца агонь сатыры, гумару скіраваць на недахопы ў характарах, паводзінах, учынках людзей. Зрабіць гэта дапамагаюць Данілу Куляшу назвы твораў, сарказм, параўнанні, супастаўленні, трапная метафара. Гераіня казкі «Дурная жонка» такая гаспадыня, што лепш, каб яе саўсім не было, бо яна не то, што робіць якое-небудзь дзела, а й то, што е, псуе. Пайшла

жаць — забыла дома серп. Жнуць людзі, пот градам льецца, а яна храпе ў цяньку на ўсе застаўкі. Разгільдзяйства жанчыны прывяло да таго, што яна аддала ўсе свае зберажэнні цыгану.

Павучальным момантам казак Куляша з'яўляецца тое, што заканчваюцца яны часта вывадамі, абагульненнямі. Так, грошы свае забраў гаспадар у цыгана. Хацеў было павучыць жонку паплёскай, але вырашыў паступіць мудрэй — не стаў расказваць ёй пра свае справы.

Філасофскім гучаннем вызначаецца казка «Два камені». Яна — супраць бахвальства, любавання самім сабой. Варты добрага слова людзі працавітыя, сціплыя, якія прыносяць карысць іншым. Вельмі высока стаў думаць пра сябе верхні камень, які вякамі ляжаў каля дарогі. На яго садзіліся прахожыя, каб адпачыць, паесці. А тут чалавек вязе яго дадому, каб выкарыстаць у якасці верхняга камня ў млыне. Вырашыўшы, што без яго людзям не абысціся, камень стаў выхваляцца сваёй незамянімасцю, зневажаць камні, якія ляжалі вакол дарогі. Асабліва дасталося ніжняму камню, які, на думку верхняга камня, адыграваў на млыне другарадную ролю. «Не ты, а я мелю муку да й мелю толькі тагды, як сам хачу. От пабачыш, як я замелю». І ён так закруціўся, так зашумеў, што ажно распаўся на кавалкі. Пагараваў мельнік і выкінуў тыя кавалкі ў гразь, а сабе купіў новы верхні камень. А сподні меле сабе і меле.

Важнае месца ў творчасці Куляша займае дыялог. Ён указвае на характары людзей, іх тэмперамент, служыць меркай вызначэння майстэрства, эрудыцыі, валодае выкрывальніцкімі здольнасцямі. Смех выклікаў у прысутных дыялог паміж жонкай і мужам у казцы «Упартая жанчына». У мэтах перавыхавання муж пасадзіў злаславую жонку ў мурашнік.

«— Такі й сякі, атвяжы мене да ратуй, а то я жыва не буду!

— А ці будзеш мене слухаць да гаспадарку даглядаць?

— Хачу — буду, хачу — не.

— Ну, та няхай цебе тут мурашкі вучаць, як трэба дзело рабіць, каб на сьвеці жыць».

Спагадлівым гумарам вызначаецца дыялог у казцы «Смачно». Селянін вырашыў запрасіць у госці папа і прыдбаў да гэтага выпадку бляшанку рыбнай кансервы. Пра гэтае ён расказвае свайму куму, якога запрасіў на шклянку гарэлкі ў святочны дзень. Кум напамінае гаспадару, што нядрэнна было б і яму паспрабаваць гэтай смакоты. Рыба так спадабалася, што кум пачаў хуценька паядаць яе.

«— Ото ж і смачно, ото ж і смачно,— гаворыць госць.

— Бо й дораго ж,— намякае гаспадар куму, каб той больш не еў рыбу.

— Звесно, дораго, дак затое й смачно. Але от скажы, куме, чаму яна такая смачная?

— Бо й дарагая ж, на яе ўсе ліхо!»

Зусім іншыя адценні набывае смех у казках вострай сацыяльнай скіраванасці. Якую б уладу не меў над сялянамі пан, што б ён ні думаў пра сябе, а апошняе слова застаецца за імі. У казцы Куляша «Пан і мужык» сяляне адкрыта насміхаюцца над новым панам, які лічыць сябе знаўцай земляробчай справы. На справе ж ён нічога не кеміць у ёй, не можа нават адрозніць бугор, нарыты кротам, ад звычайнай ворнай зямлі. «Ускочыў пан у сваіх ляксаваных ботах на кратавеЧе да й праваліўся па самыя костачкі. «От добрая зямля»,— кажа ён камысару».

З аднолькавым майстэрствам расказваў Даніла Кулеш фантастычныя казкі. Адна з іх — «Бязногі багатыр» была неаднаразова ўключана ў розныя зборнікі, выходзіла асобнымі варыянтамі. Казка вызначаецца цікавым сюжэтам, маляўнічым апісаннем прыроды. Гэта набліжае творы Данілы Куляша да літаратурнага апавядання, што, у сваю чаргу, сведчыць аб высокім майстэрстве палескага казачніка.

Па словах Сержпутоўскага, у большасці ён запісваў казкі ад мужчын. Выключэннем былі Матруна Бохмачыха і шляхцянка Умінская. Пра першую Аляксандр Казіміравіч у сваёй прадмове да зборніка адзначаў, што жанчына была занадта сарамлівая, адмаўлялася расказваць казкі, спасылаючыся на крайнюю занятасць, забыўлівасць. Усяго тры тэксты запісаў ад яе вучоны.

Яны абвяргаюць сцвярджэнні апавядальніцы пра яе дрэнную памяць. Перад намі ажывае вобраз мудрай жанчыны, якая добра валодала словам, трымала ў памяці мноства песень, прыказак, прымавак, была надзвычай назіральнай, дружыла з гумарам.

Казка «Хітрэй сьвету не будзеш» у яе пераказе пачынаецца з філасофскіх разваг: «Праўду кажуць старыя людзі: хітры не хітры, а хітрэй сьвету не будзеш. А як пачнеш вельмі хітраваць, та й перахітрыцца».

Гераіня казкі — жанчына, якая не карыстаецца ў вёсцы павагай за яе ляноту, няшчырасць. Людзі працуюць з раніцы да вечара, каб неяк выжыць, а тая цягне ў двор што ні зарве. І дачка такая ж гультайка. Іншыя дзяўчаты пасаг сабе рыхтуюць — ткуць, прадуць, шыюць, а яна ляжыць днямі ў пасцелі ды пасмейваецца. Навошта мазалі на руках націраць, калі на пасаг маці даўно ўсялякага дабра на базары накупіла. Людзям жа маці казала, што гэта яе дачка сама нашыла-навязала. Пайшла чутка пра лайдачку-майстрыху па наваколлі. Не зачыняюцца дзверы хаты ад сватоў. Але маладая ўсім адмаўляе, хоча выбраць сабе ў мужы самага ўдалога ды багатага. У рэшце рэшт засталася ні з чым. Прыйшлося выходзіць замуж за «плюгавага гультая-валацугу, з якога смяялася ўсе наваколле».

Казка напісана з лёгкім гумарам, сарказмам. Вяскоўцы недалюбліваюць гультайку маці і яе дачку, але ў той жа час не лічаць іх сваімі ворагамі як, напрыклад, паноў, падпанкаў. Існавалі іншыя метады барацьбы з такімі людскімі недахопамі. Гэта — смех, трапныя едкія параўнанні. Можна закляйміць нячыстую на руку гультайку абразлівым словам «зладзейка», але можна, як робіць гэта палеская казачніца, выкрыць заганы вуснамі сваёй гераіні. «Я,— кажа яна,— мірськая, і ўсе мірськое, дак мне можна й браць». Здаровая сялянская мараль не падзяляе такой думкі.

Не выклікалі жаласці ў сялян і прычытанні хітрай бабы, што Бог не вялеў крыўдзіць бедную ўдаву з сіроткай, бо гэтае сямейства, не працуючы, жыло лепш за тых, хто завіхаўся ад цямна да цямна і тым не менш перабіваўся з хлеба на соль.

Характарыстыкі хітрых «сіротак» добра дапаўняюць вызначэнні — гультайка, старая ведзьма, нялапая дзеўка, прыказкі-іроніі: «Дай Божэ ўсе ўмець, да не ўсе рабіць», «І за перабірачку дае Бог гарачку», якія ў вуснах казачніцы набываюць асаблівы выкрывальны сэнс.

Адной з лепшых не толькі ў рэпертуары Матруны Бохмачыхі, але і ўсяго збору А. Сержпутоўскага можна лічыць казку «Агонь у серцу, а розум у галаве». Яна — прыклад удалага спалучэння чарадзейнага і бытавога сюжэтаў, прычым апошні прэвалюе.

Юнак, які хоча ўсюды пабываць і даведацца пра ўсё, што робіцца на свеце, надакучыў аднавяскоўцам пытаннямі: «...што гэто такое? зачым яно да навошта?» Людзі самі не заўсёды маглі адказаць на пастаўленыя пытанні, раілі хлопцу не забіваць сабе галаву несур'ёзнымі, на іх думку, праблемамі, пераконвалі, што пазнаць усё немагчыма. Хлопец стаяў на сваім. Нарэшце вырашыў ён звярнуцца за парадай да Сонца. Па дарозе ён сустракае людзей, якія, як і ён, не ведаюць пра тое, што дзеецца на свеце, у чым сэнс іх жыцця, іх учынкаў. Адзін мужык не ведае, чаму ён сядзіць і нічога не робіць. Жанчыны, якія пераліваюць ваду ў рацэ, і мужчына, што корпаецца ў смецці, таксама не могуць растлумачыць сваіх учынкаў. Зрабіць гэта дапамагае хлопцу Сонца і яго дачка Зорка. Яны напоўнілі галаву юнака розумам, ведамі, прагай стваральнай дзейнасці. Дзякуючы ім герой казкі сам пра многае даведаўся і іншым карысныя парады даў. Чалавек, які шукаў у смецці згубленыя грошы, стаў працаваць і хутка разбагацеў. Жанчынам хлопец параіў не пераліваць з пустога ў парожняе, не бавіць час на бясконцыя гамонкі, а рабіць нешта канкрэтнае, што прынесла б карысць ім і іх сем'ям. Чалавек, які падпіраў плячыма плот, зразумеў, што дарэмна займаўся гэтай непатрэбнай справай — колькі ні падпірай гнілы плот, ён усяроўна ўпадзе.

У гэтых словах не цяжка ўлавіць скрыты падтэкст. Пад гнілым плотам бачыўся стваральніцы казкі царскі прагнілы лад, які ніякімі падпоркамі не выратуеш ад гібелі.

Вядома, не варта было б бачыць у асобе старой паляшучкі Матруны Бохмачыхі чалавека з рэвалюцыйным светапоглядам. Думаецца, што яна пачула некалі гэтую казку ад некага іншага і пастаралася перадаць яе, аздобіўшы апавяданне ўласнымі разважаннямі пра жыццё-быццё палешукоў. Такім чынам, фантастычны матыў адышоў на другі план. Бытавую аснову казкі пацвярджае і яе канцоўка: героі твора — сялянскі хлопец і яго жонка маладая прыгажуня Зорка — будуюць сваё шчасце на зямлі рупнай працай. Радасць і натхненне даюць ім любоў ды згода, сардэчнасць ды дабрыня, разуменне сапраўднага сэнсу жыцця. Гэтыя простыя ісціны героі казкі тлумачаць проста — трэба жыць з агнём у сэрцы і розумам у галаве.

Казкі Матруны Бохмачыхі невялікія па памерах, але выгадна вылучаюцца сярод іншых сваім філасофскім асмысленнем жыцця, учынкаў герояў, веданнем народнай псіхалогіі. Мова персанажаў перасыпана прыказкамі, выслоўямі, метафарамі.

Аб яе высокай апавядальнай культуры сведчыць вершаваная казка «Першае яечко», якая па сваіх мастацкіх вартасцях не ўступае лепшым узорам славянскага казачнага эпасу. «Хадзіў дзед на ахвоту, меў ён много клапоту: сам утоміцца, аж слова не прамовіць, а зьверыны не наловіць. Баба дзеда лае, што ён дарам гуляе. Пашоў дзед у алёс да бабе курку прынёс. Рада баба, скачэ, а курка кудахчэ. Села курка на вечко да й знесла яечко. Бегла мышка пад скрынку, цягла сабе скарынку, хвастом вільнула, яечко сапхнула. Вінавато вечко, што разбіласо яечко. Заплакала баба, аж завыла да з жалю ўсе гаршкі пабіла. Дзед як абазьліўса, дак і засіліўса. Баба рукі паламала да пад плотам і сканала. Пашлі бабы па воду, пабачылі тую прыгоду, пачалі сакатаць да людзей ззываць. Збегліса людзі за ўсяе ўёскі, не пагасілі цёскі. Пакуль разважалі тое дзело, дак село й згарэло. Людзі пад небам начуюць да хаты будуюць, робляць, як птушкі, гнезьдзечко, каб курка знесла ім яечко. Курка знесла ім яечко другое, яно ж не такое, бо першае дарагое, а другое ж ліхое».

На першы погляд, мы маем справу з варыянтам вядомай рускай казкі пра курку і залатое яечка. Праў-

да, там замест разбітага яечка курка знесла другое, залатое, парадавала дзеда з бабай.

Казка Матруны Бохмачыхі разам з тоеснымі эпізодамі і дэталямі мае шмат новых, якія да гэтага не сустракаліся ні ў рускіх, ні ў беларускіх варыянтах. З-за разбітага яечка паміраюць дзед і баба. Цікаўныя суседзі забыліся патушыць у сваіх хатах лучыну, і, пакуль бегалі паглядзець на нябожчыкаў, уласныя іх хаты згарэлі. Сяляне пачалі будаваць новыя хаты, рабіць для куркі гняздзечкі, каб яна знесла ім другое яечка.

Увядзенне новых сюжэтаў у вядомую казку, вершаваная пабудова, незвычайная канцоўка садзейнічалі ўзмацненню псіхалагічнага настрою, надавалі ёй беларускі каларыт, гучанне. Складваецца ўражанне, што склаў казку-верш таленавіты самадзейны паэт, які быў знаёмы з творчасцю рускіх казачнікаў.

З кароткай характарыстыкі, дадзенай А. Сержпутоўскім у прадмове да зборніка казачніцы Матруне Бохмачысе, чытач даведаўся нямнога — жыла ў вёсцы Чудзін, была на дзіва сарамлівай кабетай, неахвотна згаджалася баяць казкі. А між тым у пачатку сваёй казкі «Агонь у серцу, а розум у галаве» чудзінская апавядальніца расказала пра сябе шмат цікавага. З дзяцінства яна любіла слухаць казкі, што расказвала ёй бабуля, якая, у сваю чаргу, чула іх ад свайго дзеда. Пазней Матруна сама з задавальненнем расказвала казкі аднавяскоўцам. Уявім сабе маладую прыгажуню казачніцу з цяжкай, пшанічнага колеру касой ніжэй пояса ў акружэнні вясковых слухачоў, якія пасля працоўнага дня сабраліся ля вогнішча або на прызбе каля хаты. Мужчыны смаляць самакруткі, жанчыны лузгаюць семкі, жартуюць. Нехта просіць Матруну расказаць казку. І яна пачынае таямнічым голасам — менавіта такая манера большасці беларускіх казачнікаў — свой расказ. Заціхаюць размовы, старыя і малыя бліжэй абкружаюць светлавалосую прыгажуню.

Каб заваладаць увагай людзей розных узростаў, а казкі ў беларускіх вёсках аднолькава любілі і старыя і малыя, трэба было карыстацца іх павагай, мець цікавы рэпертуар, добрую памяць. Старэйшы жыхар вёскі

Чудзін Васіль Васільевіч Цалагуз (у сямідзесятыя гады яму было каля 90 гадоў) сцвярджаў, што бацька расказваў яму ў маленстве пра Матруну Бохмат, якая ведала не менш як 50 казак. Відаць, пад старасць, а па словах Сержпутоўскага, калі ён запісваў ад Матруны Бохмачыхі, жанчыне самой было за дзевяноста гадоў, яна многае забыла, да таго ж, пэўна, прысутнасць пана, а ў вачах сялян чалавек інтэлігентнага выгляду з'яўляўся панам, бянтэжыла старую, таму яна так неахвотна згаджалася выступаць у ролі казачніцы. Думаецца, і сам Сержпутоўскі не мог разгаварыць Матруну, каб яна перад тым, як прыступіць да апавядання, адчула сябе раскаванай.

«У нас у Чудзіне многія жанчыны казкі баялі, але лепшай сярод іх была цётка Матруна. Яна ведала іх вельмі многа,— успаміналa старэйшая жыхарка вёскі Чудзін Аўдоцця Сцяпанаўна Захарчэня, якой у 1978 годзе, у час маёй чарговай фальклорнай экспедыцыі, было 103 гады. Наогул, Бохматы былі вельмі таленавітымі. Добрым казачнікам быў пляменнік Матруны Грышка, яе стрыечная сястра Кацярына. Чаму Сержпутоўскі называў прозвішча Матруны Бохмачыха? Дык гэта павясковаму, вулічнаму. Так усіх жанчын звалі: муж Бохмат, жонка — Бохмачыха, Дудар — Дударыха. На гэтыя прозвішчы, ці, як яшчэ казалі, мянушкі, людзі адзываліся ахвотна, не крыўдзіліся».

Сярод найбольш здольных казачнікаў беларускага Палесся А. Сержпутоўскі называў шляхцянку Умінскую. Па яго словах, гэта жанчына ведала многа казак, ахвотна расказвала іх. У той жа час незразумела, чаму Аляксандр Казіміравіч уключыў у зборнік усяго два творы ў яе выкананні.

Галоўны герой казкі «Каму Бог судзіў, той і спажыў» — багаты шляхціц, якому пасля смерці бацькі і сямі братоў дасталася ўся немалая гаспадарка. Да гэтага быў шляхціц ганарлівым, высакамерным, а тут яшчэ больш распірае яго гонар: на суседзяў-беднякоў аніякай увагі не звяртае, адмаўляе ў іх просьбе аб дапамозе, называе лайдакамі. Маці напамінае сыну пра боскі запавет падзяліцца апошнім кавалкам хлеба з

іншым, хто мае ў гэтым патрэбу, раіць не задзіраць нос, не пахваляцца багаццем, якое набылі сваёй працай бацька са старэйшымі братамі, а сын і слухаць яе не хоча.

Як і папярэджвала маці, Бог пакараў фанабэрыстага сына. Голас з неба папярэдзіў яго, што багаты шляхціц зажабруе, а бедны каваль запануе. Пачуўшы гэта, спалохаўся багацей і вырашыў перахітрыць Бога. Прадаў сваю гаспадарку, а грошы схаваў у дупле старой засохлай вярбы. Але дарэмна радаваўся сваёй кемлівасці. Узнялася бура, вырвала з коранем вярбу і кінула яе ў раку. Прыбіла дрэва вадой да хаціны беднага каваля. Вырашыў той нашчапаць трэсак, каб развесці агонь у печы, а з-пад сякеры раптам залатыя манеты пасыпаліся.

Узрадаваўся каваль з кавалiхай знаходцы. Жылі век у галечы, і раптам такое шчасце прываліла. У той жа час яны добра разумеюць, што багацце набыта не іх працай, а таму хочуць падзяліцца ім з іншымі. З тым жа шляхціцам, якога пазналі яны ў жабраку, што валачыўся па хатах. Пра ганарлівасць шляхціца, яго былое багацце ім было добра вядома. Баючыся, што грошай той не возьме ў беднякоў, жонка каваля запякае некалькі залатых манет у бохане хлеба і дае яго жабраку.

У гэтым учынку праяўляецца адна з лепшых рыс беларускага селяніна — дапамагчы ў бядзе любому чалавеку. У звычайнай абстаноўцы ён мог пажартаваць, пакпіць над тым жа шляхціцам, які раней і за людзей беднякоў не лічыў, высмяяць яго мову, манеры, але калі той трапіў у бяду, селянін спяшаўся на дапамогу. Відаць, казачніца Умінская да таго, як стаць шляхцянкай, была звычайнай сялянкай, ведала цану кавалку хлеба, чалавечай спагады, бо гэтай спагадай пранізаны ўвесь яе твор. Гэтая рыса прыватна і шляхціцу, бо большасць беларускай шляхты — учарашнія сяляне, якіх у сваіх вялікадзяржаўных мэтах імкнуліся перацягнуць на свой бок польскія ўлады, каб даказаць свае правы на валоданне беларускімі тэрыторыямі. Стаўшы бедняком, шляхціц шкадуе селяніна, які арэ зямлю без

сашніка, і раіць яму папрасіць каваля выкаваць яму патрэбную дэталь, без якой каню цяжка цягаць плуг. Больш таго, ён аддае селяніну бохан хлеба, які дала яму жонка каваля.

Ёсць у казцы Умінскай і другі падтэкст: чалавек, які парывае са сваім асяроддзем, шукае крывыя сцежкі для паляпшэння свайго дабрабыту, павінен панесці пакаранне. Што і здарылася з героем твора.

Казка «У п'ятніцу не смейсе, а ў недзелю не плач» пабудавана на біблейскім матыве аб неабходнасці захоўваць царкоўныя каноны. Згодна ім, Бог наказаў людзям шэсць дзён у тыдзень працаваць, а ў нядзелю адпачываць. Гераіня казкі Умінскай не прытрымлівалася гэтага правіла, за што і была пакарана Богам. Чорт задушыў маленькае дзіця жанчыны, а старэйшае, якое схавалася ў печы за дрывамі, задыхнулася ад дыму, калі гаспадар запаліў печ. У роспачы маці просіць у Богамацеры растлумачыць, чым правінілася яна перад Богам. Жыла з верай у дабро, сама старалася дапамагчы іншым, чым магла, клапацілася пра сям'ю. У нядзелю хадзіла па грыбы ў лес таму, што хацела частку выкарыстаць на ежу, астатнюю прадаць, каб купіць хлеба. У гэтых развaжаннях прасочваецца імкненне беларускага селяніна асэнсаваць вытокі справядлівасці, праўды, дзеяння зямных і нябесных улад у дачыненні да людзей. Па законах казкі справядлівасць у рэшце рэшт бярэ верх над злом. Богамацер вяртае ёй дзяцей, праўда, пасля таго, як пераканалася, што паляшучка стала па нядзелях хадзіць у царкву, а не ў лес. І ўсё ж пытанне застаецца адкрытым — а чым жа будзе жанчына карміць мужа і дзяцей? Чаму такія выпрабаванні абходзяць бокам тых, хто наогул не працуе, а жыве працай іншых?

Інтрыга — характэрны прыём шляхцянкі Умінскай. У першай яе казцы нас цікавіць пытанне, ці скончацца калі-небудзь пакуты шляхціца, які па волі Бога з багацея ператварыўся ў жабрака. Яшчэ большае шкадаванне на першым часе выклікае жанчына, якая ў адзін дзень страціла двух дзяцей. Спачатку нас уражваюць яе паводзіны пасля смерці дзяцей. Замест

таго, каб па жыццёвай логіцы плакаць, прычытаць, яна супакойвае мужа, гатовага пакончыць з сабой, словамі: «Бог даў, Бог узяў». Узнікае думка: а ці не страціла розум жанчына? Такое падазрэнне ўзнікае і ў гаспадара. Але тут уступае ў сілу закон казкі — у ёй павінен быць шчаслівы канец. Не можа ж чорт, які спакушаў жанчыну, аказацца мацнейшым за Бога. Бог заўсёды літасцівы, даруе людзям іх грахі, калі тыя паступаюць так, як вучыць ён. І сапраўды, варта было жанчыне не смяяцца ў пятніцу і не працаваць у нядзелю, як Бог дараваў ёй ранейшыя праграшэнні, ажывіў дзяцей.

Адзначаючы апавядальніцкую манеру, сюжэтную скіраванасць твораў гэтых казачніц, звернем увагу на жаноцкі аспект гэтых твораў. Ён бачыцца не толькі ў жаночых персанажах, якія дзейнічаюць у казках, але, галоўнае, у апісанні іх характараў, учынкаў. Старая ведзьма, як празвалі гультайку за яе хцівасць, доўгі язык («Хітрэй сьвету не будзеш») нічога не ўмее рабіць, але паспрабуй зрабіць заўвагу, дык лямант узніме — не рады будзеш, што зачапіў «гэтую ліхую скулу».

Для таго каб выкрыць сацыяльнае зло або нейкую адмоўную рысу чалавечага характару, казачніцы звычайна ўжываюць розныя эпітэты, параўнанні, прыказкі. Матруна Бохмачыха асуджае людскія заганы — гультайства, падман, хцівасць — праз антытэзу. Пры гэтым казачніца не супрацьпастаўляе гультайкам маці і дачцы, якія і латкі сабе не залапяць, вобраз станоўчага дзеючага персанажа, як сустракалі мы, напрыклад, у казках пра Папялушку і яе сёстраў, а падводзіць нас да думкі, што ўчынкі дзяўчыны, якая, як яе маці, нічога не хоча рабіць, а толькі сядзіць ды прыхарашваецца, не характэрныя для беларускай моладзі, а з'яўляюцца хутчэй выключэннем з правілаў. «Ужэ трэба гатаваць ручнікі да лядаваць кубел, бо не за гарамі прыдуць і сваты, а дзеўка не то, каб што, але й латкі сабе не залапіць». Вобраз станоўчай гераіні замяняецца ў казцы разважаннямі казачніцы пра тое, што ў гаспадарцы трэба ўсё ўмець рабіць,

«бо кажуць жэ людзі: дай Божэ ўсе ўмець, да не ўсе рабіць».

У зборніку А. Сержпутоўскага ёсць шмат вершаваных казак, якія вылучаюцца сваёй паэтычнасцю, мяккім лірызмам, гумарам, умелым ужываннем метафары, параўнанняў, антытэзы. Два такія творы запісаў Аляксандр Казіміравіч ад жыхара вёскі Пешчанка Слуцкага павета Тычыны. У казцы «Цыган» падкрэсліваецца галоўная рыса характару гэтых вясёлых, знаходлівых людзей — імкненне да свабоды, нежаданне абмяжоўваць яе клопатамі пра гаспадарку, працай. Нават любоў да прыгажуні вядзьмаркі, багацце, якое звалілася на яго галаву, не могуць прымусіць бедняка цыгана жыць па-іншаму. Не прымае ён і прапанову чорта пакасіць да поту і за тое атрымаць параду, як жыць на свеце. Цыган кідае мяшок з грашыма і ўцякае, «каб нікому не служыць да без дзела век пражыць».

Душой казкі выступае паэтыка. Яна пранізвае кароткія дыялогі, звароты, дзеянні герояў, садзейнічае абмалёўцы характараў людзей. Да кожнага чалавека цыган мае свой падыход: «Куды не прыдзе цыган, та й просіць: дай мне, матулька, кусочак сала, каб табе жытка лепшая стала». Сустрэне гаспадара і гаворыць бацю, зажурыўса, што так рана ажаніўса? Не журыся, не турбуй, дробных дзетачак гадуй».

Стан закаханага юнака раскрывае казачнік праз параўнанні: «Сустрэў дзеўчыну маладую да прыгожую такую, што не бачыў свет мо праз сотню лет».

Лёгкім гумарам прасякнуты радкі твора, у якіх расказваецца, як цыган, які ніколі не працаваў як след, шчыруе таўкачом над ступай з вадой, выконваючы загад прыгажуні вядзьмаркі — паспець да вечара высушыць ступу да дна, інакш «капелька адна вады зробіць многа тут беды». І цыган: «...калі наняўся, дак ён баццэ запрадаўся, стаў аберучкі таўкці, баццэ крупы ля куці».

Падкрэсліванню дзеянняў, стану героя дапамагае апісанне прыроды, пейзажу, якімі Тычына валодае памайстэрску. Мужык на месцы цыгана, атрымаўшы гро-

шы, спакойна пайшоў бы дахаты, параіўся з жонкай, блізкімі, як лепш выкарыстаць іх. Цыган жа па натуры гарачы, няўрымслівы, непрадказуемы. «Ён грошы ў мех зграбае, да хуценька ўцекае». Настрой хлопца пры гэтым праяўляецца праз апісанне прыроды: «Сонцо паліць, сонцо грэе, ветрык жарам вее». Гэтыя радкі паўтарае казачнік некалькі разоў, напаляючы абстаноўку: «Сонцо паліць, сонцо грэе, ветрык жарам вее. Смага томіць, смага паліць, аж яго да долу валіць». На гэта ж нацэлена і антытэза: «От нажыў цыган беды, што з грашыма без вады да без яды».

Сарказмам, гумарам пранізаны разважанні героя, не здольнага не толькі працаваць, але нават распарадзіцца грашыма над тым, што «цяжко грошы валачыць, як на іх і хлеба не купіць, лепей і не жыць». І ўжо зусім нельга без усмешкі ўявіць сабе цыгана, які «...скінуў мех на пень, сеў і плача цэлы дзень». У гэтым бачыцца нам выказванне адносін беларускага селяніна да людзей, якія цураюцца хлебаробскай справы, вядуць паразітычны спосаб жыцця.

Памеры ўступнага артыкула не дазваляюць падрабязна расказаць пра творчасць усіх без выключэння казачнікаў А. К. Сержпутоўскага, творы якіх уключаны ў зборнік «Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета». Гэта тэма асобнага даследавання. Спадзяёмся аднак, што знаёмства з казкамі прапануемай кнігі будзе карысным і цікавым для кожнага чытача.

* * *

У папярэдніх зборніках А. К. Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (Мн., 1998) і «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (Мн., 1999) указвалася на своеасаблівасць запісаў вучонага, які імкнуўся захаваць усе адценні беларускай народнай гаворкі. Гэтым кіраваліся мы і пры падрыхтоўцы да друку кнігі «Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета»: пакінулі ў тэкстах с а к а н н е і а к а н н е, ненаціскное **і** і **э**, дыялектызмы, мяккі знак перад цвёрдым зычным. Захаваны націскі ў выпадках, калі вымаўленне слова адрознівалася ад агульнапрынятага.

У той жа час для лепшага ўспрыняцця матэрыялаў вырашылі не захоўваць дыфтонгаў, але захавалі напісанне літары **е** замест **я** ў першым складзе перад націскам.

Палічылі таксама мэтазгодным не ўключаць у кнігу па этычных прычынах дзвюх казак (42, 66), захаваўшы нумарацыю арыгінала. Гэта зроблена для аблягчэння работы вучоных, якія будуць карыстацца ёй і рабіць спасылкі на пэўныя тэксты.

*У. К. Касько,*
кандыдат філалагічных навук

# ПРАДМОВА

Сабраныя тут галоўным чынам жыццёвыя апавяданні, кароткія байкі ды зрэшты даўнейшыя казкі запісаў я на працягу 1890—1923 гадоў у Слуцкім Палессі, амаль што толькі не ў дзвюх суседніх вёсках — Чудзіне ды ў Вялікім Рожане.

З таго матэрыялу, які мне тут удалося сабраць, частка ўжо надрукавана ў маім першым зборніку казак і апавяданняў[1], а затым гэты сшытак трэба лічыць працягам першага, бо ў ім ёсць казкі і апавяданні тых самых баечнікаў, творы якіх ужо ўбачылі свет, напрыклад: Рэдкага, Савіцкага, Болбата ды Кулеша.

Запісаўшы так шмат казак ды апавяданняў амаль што толькі ў дзвюх вёсках, [redacted] думаў, што сабраў тут ужо ўсё, але пабываўшы ў гэтых самых вёсках у вясну 1915 года, калі грымела вялікая вайна, пачуў новыя і новыя казкі ды апавяданні. Тыя самыя баечнікі, ад якіх я 20 год таму назад запісваў казкі, цяпер казалі мне то адменнікі даўнейшых казак, то ўсё новыя ды новыя. Вельмі шкада, што тады час быў неспакойны, і мне нельга было запісаць больш адменнікаў і новых твораў, а то лёгка можна было б пазнаць, як складаюцца народныя творы, як яны множацца і як родзяцца іх адменнікі. З гэтага мы бачым, які багаты скарб захаваны ў думках і ў сэрцы нашых вясковых людзей, бачым, што крыніцы народных твораў ніколі нельга вычарпаць і што гэтыя творы растуць і шырацца. Ды яно так і мае быць, бо людзі, як і ўсё жывое, растуць і целам, і духам, ідуць наперад, шыраць сваю здольнасць і твораць усё новае і новае. Праўда, кожны народ жыве сваім асобным жыццём; адзін творыць больш, другі — менш, але кожны мае сваіх мастакоў, якія твораць тое, што само цячэ з думкі, што родзіцца на свет разам з пачуццём

---

[1] *Сержпутовский А. К.* Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб., 1911.

сэрца і потым доўга жыве ў памяці людзей. Тыя творы хутка разыходзяцца па свеце, растуць, прыгажэюць і так зліваюцца з думкамі людзей, і так напаўняюць іх сэрца, што, здаецца, быццам яны там век былі, ці аж там і радзіліся. Тых мастакоў, якія тварылі казкі, прыказкі ці што іншае, мы не ведаем, бо такіх, мабыць, і не было; мабыць, народныя творы, якія мы чуем ад баечнікаў, складаліся супольна: мастакі тварылі толькі нарыс, а потым баечнікі дапаўнялі, апрацоўвалі, каб было хораша ды складна, ды падганялі да думак грамадзянства. Мабыць, мастакі былі разам і баечнікамі або, наадварот, баечнікі больш усяго і тварылі казкі, апавяданні ці што іншае. Як бы яно там ні было, а баечнікі на вёсцы — самыя разбітныя людзі. Яны ўмеюць хораша ды складна гаварыць і маюць добрую памяць. Добры баечнік, кажуць, «як пачне выдумляць, плесці ды хлусіць, дык толькі слухаў бы яго». Лічу не лішнім памянуць добрым словам тых удалых мастакоў-баечнікаў, ад якіх і запісаны сабраныя тут творы.

Самым лепшым баечнікам, якога я толькі сустракаў на сваім вяку, быў стары дзед Рэдкі. Але аб ім я ўжо шмат гаварыў у сваім першым сшытку казак, а тут скажу аб іншых.

С а с н о ў с к і таксама быў ужо стары чалавек. У яго, кажуць, яшчэ ззамаладу памерла жонка, якую ён так любіў, што трэйчы парываўся накласці на сябе рукі, але ўсё неяк людзі ратавалі. Да смерці жонкі ён быў вясёлы ды гаваркі, якіх мала трапляецца сярод гарапашнікаў, а пасля свайго няшчасця — спрэсу змяніўся: стаў якісь пануры ды маўклівы, так, што часамі ад яго нельга было дабіцца слова. Але затое як ужо пачне што-небудзь расказваць, дык ужо будзе гаварыць доўга-доўга ды так гожа, што, здаецца, слухаў бы ўсю ноч і не захацеў бы спаць. Праўда, ад яго вельмі цяжка было запісваць казкі, бо невядома, калі ён будзе ў гуморы, каб баяць. Заўсёды трэба было лавіць такую часіну, калі ён ужо разгаворыцца і забудзе і сам сябе, і што кругом яго.

Старэнькі дзед Б о л б а т быў бортнік, ён амаль заўсёды сядзеў ля сваіх пчол ці каля перавозу. Бывала, пляце сабе лапці ці які-небудзь кашэль і ціханька ды

памаленьку кажа казку. Пазбіраюцца людзі, пасядуць кругом ці палягуць на траве, слухаюць казку, маўчаць, а пра дзела і забудуцца, пакуль іх хто-небудзь не пагоніць. Гожа гаварыў Болбат.

Стары дзед Савіцкі жыў у Бохаве недалечка ад в. Чудзіна. Свае гаспадаркі ён не меў, а жыў так-сяк у свайго зяця на ласкавым хлебе. Вядома, што ласкавы хлеб горкі, але старэнькі дзядок Савіцкі не тужыў: зімою сядзеў сабе ў запечку, рабіў з лучыны забаўкі дзецям ды баяў ім казкі, а ўлетку пасвіў перш гаўяда, а потым авечкі або коні. Ён быў дзед капрызны, яго цяжка было ўламаць, каб ён пачаў баяць казкі, але затое, калі, бывала, пачне ён баяць, дык ужо гатоў на цэлую ноч. Гаварыў ён ціха, роўна і памаленьку. Бывала, супыніцца на часінку, пакурыць люльку або адкашляецца ды зноў пачне: ду-ду-ду, бы вада пад колам у млыне. За сваё доўгае жыццё ён шмат павалачыўся па свеце і трохі паслужыў па дварох. Мабыць, затым і яго гаворка трохі была якаясь інакшая, а не гэткая, як у чудзінцаў.

Даніла Кулеш жыў у Чудзіне. Ён быў добры, старанны гаспадар; збудаваў новыя светлыя дзве хаты, развёў шмат гаўяда, выгадаваў і ажаніў сына,— адным словам, быў харошы чалавек, якіх мала ва ўсёй акрузе. Ужо яго сын быў старастаю, як вось наш Даніла задурыў, пачаў учашчаць у карчму, а нарэшце так запіў, што рэдка бываў цвярозым. Але затое ўпіўшыся, Даніла Кулеш вельмі хораша баяў казкі, а цвярозы, бывала, сядзіць ды толькі паплёўвае,— з яго нельга выцягнуць ніводнага слова.

Самы цікавы з усіх баечнікаў — гэта Лявон Лебедзік. Ён жыў у Чудзіне і прazываўся неяк інакш, але як — я не памятаю, а прадражнілі яго Лебедзікам затым, што пры гутарцы ён усім гаварыў «мой лебедзіку». Лявон Лебедзік быў добры гаспадар і вельмі харошы чалавек. За ўсё сваё жыццё ён, як кажуць, не скрыўдзіў і малога дзіцяці. Ён, мабыць, толькі адзін быў з усяго сяла, што ніколі не піў гарэлкі, ні з кім не сварыўся і нікога не кляў і не лаяў. Часта ён гаварыў: «Калі садзішся за стол, дык зірні перш, ці няма тут каго галоднага, каб уперад яго накарміць, а калі няма, дык

першы кавалак кінь сабаку, бо не ведаем, праз чыю ласку жывём, дык трэ і сабацы дагадзіць». Лебедзік сам любіў слухаць казкі і верыў, што яму кажуць праўду. «Багі яго святыя ведаюць,— казаў ён,— мо гэта калі была і праўда». Ён сам рэдка баяў казкі, бо не любіў, што маладзічкі няшчыра слухалі ці, слухаючы, пасмейваліся. «Няма чаго дарма гаварыць,— у такім разе казаў ён,— бо толькі сабака брэша на зві-вецер». Другія баечнікі як убачаць, што я запісваю казку, дык саромеюцца, пачынаюць мыляцца, а то і зусім змаўкаюць. А Лебедзік не то, што не сароміўся майго запісвання, але яшчэ больш рупіўся, каб лепш расказаць. Сваю гаворку Лебедзік заўсёды перасыпаў усялякімі прыказкамі, якіх ён ведаў больш ад усіх.

Больш усяго казкі ды апавяданні я запісваў ад мужчын, бо яны менш саромеюцца, як жанкі, якія доўга штурхаюць адна другую ды ўсё кажуць, што нічога не ведаюць. Толькі некалькі малых апавяданняў мне ўдалося запісаць ад старое Бохмачыхі ды ад Умінскае. Бохмачыха ўсё адпіралася, кажучы, што ў яе шмат клопату ды працы, дык затым яна ўсё перазабыла, што ведала змоладу. Затое ж Умінская, якая лічыла сябе шляхцянкаю, перш вельмі шмат расказвала пра сваё жыццё, пра тое, як яна лечыць людзей зеллямі і замовамі і як тое вельмі добра памагае. Урэшце расказала мне дзве-тры казкі дый стала гаварыць замовы. Пакуль я толькі слухаў, а не пісаў замовы — яна гаварыла, а як толькі я хацеў тое запісаць, дык яна кінулася вон з хаты і ўжо больш не захацела нічога гаварыць, каб не загубіць моцы знахаркі. Бо ёсць такое павер'е, што калі знахар ці знахарка навучыць знахараваць каго-небудзь другога, дык ужо сам загубіць моц і яго шэпты нікому не памогуць.

Кожны вясковы чалавек ведае дзесятак-другі казак ці якіх-небудзь апавяданняў, а мастакі-баечнікі дык ведаюць іх сотню ці яшчэ і больш, але ўсяго не могуць спамятаць, а расказваюць толькі тое, што пападзецца на памяць, аб чым загавораць іншыя людзі ці чым-небудзь напомняць. Запісваць народныя творы няцяжка, калі ёсць добрыя мастакі-баечнікі, трэба толькі прызвычаіцца хутка пісаць. Больш цяжка падысці да баечнікаў так,

каб яны не сароміліся ды даверчыва адкрылі свае думкі, сваё сэрца. Перш чым запісваць народныя творы, я доўга жыў на вёсцы, знаёміўся, як кажуць, з старымі і малымі, гаварыў з імі пра гаспадарку, пра іх дзела, пра тую бяду, якая заўжды трапляецца сярод людзей. І толькі тады, як людзі пачнуць гаманіць са мною, як з сваім братам, я распытоўваюся, хто там добра бае казкі. З тым казачнікам я сустракаюся нібы ненарокам і сам расказваю яму якое-небудзь апавяданне. Ён паслухае і пачне сам баяць. Перш я толькі слухаю казку, але не запісваю, а стараюся запомніць яе так. Бо калі адразу запісваць, дык кожны баечнік, саромеючыся, шмат што прапусціць, скамечыць, пачне варочацца назад ды блутаць, і выйдзе штось нікчэмнае, а не мастацкі твор. І толькі тады пачынаю запісваць, як баечнік добра пазнаёміцца і ўдругае пачне расказваць тую байку. Калі байка кароткая і добра запісана, дык я яе так і застаўляю, а калі ж яна даўгая ды блытаная, дык я яе слухаю яшчэ трэці раз ды сачу свой запіс. Тут часамі мастак-баечнік дабаўляе ўсялякія прыказкі, прымоўкі ды жарты, што і робіць яго твор мастацкім.

Запісваў я, як толькі мог запісаць у кароткі час і як чула маё вуха, слова ў слова так і тою самаю гаворкаю, якою гаварыў баечнік. Транскрыпцыя запісаў ясна кожнаму, хто толькі чытае па-беларуску, і не патрабуе асаблівага тлумачэння. Усюды паставіў я націскі так, як іх стаўляў у жывой гаворцы кожны баечнік. Калі ж адзін і той самы баечнік гаварыў неаднакова, дык там так і застаўлена. Зроблена гэта дзеля таго, каб запісаць на паперы жывую гаворку як можна вярней.

Разабраны ў зборніку казкі і апавяданні па баечніках. Творы аднаго і таго самага баечніка палажаны ў тым самым парадку, у якім іх мне апавядалі баечнікі.

Выявіць, якія распаўсюджаны на Палессі асновы казак і дзе ўжо надрукаваны іх адменнікі — гэтая праца адложана мною да другога разу, як набярэцца больш матэрыялаў.

*А. Сержпутоўскі*

Петраград, 1923

# 1. ЦУД

Было гэто якась улетку. Людзі з большаго пакасілі сено на берагох, а мурожные сенажаці яшчэ не вырасьлі да й жыто не пасьпело. Нема чаго рабіць, а тут нахапіўса якісь сьвяток; не то, каб ужэ якое велікае сьвято, але ўсе ж сьвяток; трэ сьвяткаваць, бо часамі малы наробіць гарэй, як велікі, ці варто, ці не, а трэ шанаваць. Хаць якое там шанаванне — адзін прыклёп: сабе рабіць не можна, бо яшчэ зашкодзіць, а людзі не наймаюць, бо самі абрабіліса й нікому не трэ. От хіба йці на работу ў двор. Дак добрэ, калі там е работа. У двары можна рабіць не то, што ў малы сьвяток, але й у самае велікае сьвято, бо тагды грэх будзе пану, а беда кашыцца на яго галаве. Дак от у такі малы сьвяток павыходзілі людзі на вуліцу, паселі на бервене кала плоцья, пакурваюць сабе люлькі да гамоняць пра між сабою да распытоўваюць, што чуваць на сьвеці. Хто бае а пагодзе, а хто а прыгодзе. Адзін скажэ, а другі прыскажэ. Седзяць радком і гамоняць ладком, пасьмеюцца, пашуткуюць ціхо да й забудуць ліхо, бо кажуць людзі, што часам трэ што-небудзь сьплесьці, каб душу атвесьці. Адны гамоняць, выдумляюць, а другіе слухаюць да на вус матаюць, потым скажуць бабе да прыбавяць; тая дзянне да суседцы. Так маленькая прачутка ходзіць з хаты ў хату да ўсе расьце, усе харашэе і датуль яна гуляе, пакуль казкаю стане, а як устарэе, дак і саўсім будзе праўда. Пачнуць старые казаць, а бабы слухаць да ўздыхаць, бо часам стары кажэ на глум, а малады берэ на вум. Кажуць жэ, што добрэ багатаму красьці, бо е к чаму прыкласьці. Добрэ старому хлусіць да плёткі насіць, бо як тут дагадацца, калі нельга спраканацца. Эгэ ж, дак от і тое даўней было, пачаў казаць стары дзед. Я чуў ат старых людзей. А хто старых не слухае, той і Бога не баіцца. Яны казалі, што самі бачылі. Седзяць людзі ў сьвято, от бы мы, раздабарваюць сабе аж да змроку. Мо ўжэ й сонейко зайшло, на небе анёлы запалілі сьвечачкі, толькі ось штось загуло да загрука-

цело, от бы перун. А на небе ні хмаркі. Хрысьцяцца людзі да азіраюцца, аж з заходу леціць зьмей, леціць над самым лесам да просто й садзіць на село. Галава велізазная, бы стог, блішчыць, баццэ сено гарыць, а іскры дакола й сыплюцца. Леціць, разявіўшы горло, а хвост цягнецца мо на трое ганоў. «Прапалі мы»,— думаюць людзі да толькі хрысьцяцца. Не зьлюбіў ён, мабыць, таго, пралецеў мімо села да як трэсьне, дак аж земля задрыжала. Рассыпаўся ён на дробные кускі да й упаў у балото. Седзяць людзі да й не варухнуцца, бы акаменелі, так яны спалохаліса. Толькі ось узышоў месячык, павеяў ветрык. Ачухаліса людзі да й кажуць: гэто божы цуд. Прапалі б мы ўсе, пажраў бы нас агністы зьмей, каб не перахрысьціліса. Хрэст — боская моц, уселякае ліхо перамагае. На другі дзень пашлі людзі на балото шукаць кускоў таго зьмея. Колькі ні хадзілі яны, колькі ні шукалі, дак от кажы, німа нічога да й толькі. Пагаманілі людзі да й пачалі ўжэ забываць, толькі ось з тых часаў быў хворы адзін пастух. Ён тагды, як лецеў той зьмей, шукаў у лесі згубленую карову. Толькі ён вышаў на прагаліну да як убачыў зьмея да як учуў грымоты, дак так спалохаўса, што й захварэў. Чаго людзі ні рабілі, якіх зельёў ні давалі, к якім шаптуном да шаптухам ні ўдаваліса, нічога не памагае. Можа і памер бы небарака, калі б не ўспомніў, што як лецела святого Іллі страла, дак перад яго ачу паваліла таўшчэразны дуб да й сама ў ёй засела. От і просіцца ён, каб яго павезлі на тое мейсцэ, то мо ён і выачуняе. Кажуць людзі: як топішса, та й за салому хопішса. Так і ў бедзе трэ ўсяго папробуваць. От павезлі таго пастуха ў лес. Толькі яны прывезлі яго к таму дубу, як ён усхапіўса з воза, баццэ й не хварэў, да й пачаў аглядаць пень таго дуба. Аж бачыць, седзіць там каменная страла, уся чорная да гладкая, аж палыскуецца. Убачылі людзі той цуд, памаліліса тут яны Богу да й паставілі там крыж. І да тых час е там прошча. Усякую першую недзельку зьбіраюцца туды людзі да моляцца Богу. Дак от які там быў цуд. Я сам яшчэ падшпаркам хадзіў туды з маткаю, як у мене ба-

лелі вочы. Дак от, дзякуй Богу, памагло, да тых час бачу божы сьвет. Тагды ўжэ дуба не было, толькі ў капліццы лежыць, от бы цепер бачу, чорны, велікі камень, мо з локаць даўжынею, а на ём гараць сьвечачкі.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 2. КАЛЬВІНСЬКІ ПОСТ

Пашоў адзін пан у лес на палеване. Доўго хадзіў ён, заблутаўса ў гушчэчы да й заблудзіўса. Дзень быў хмурны да ціхі. Ні сонейко не блісне, ні расліна не калыхнецца, німа жоднае прыкметы, куды йці. Ужэ такі добрэ прагаладаўся пан, утаміўса, лазячы цераз выскаці да каладзьё, а тут і зверыны німа ніякае да й супачыць недзе. Стаў ён і думае, што тут рабіць. Але ось у вадном боцы забрахаў сабака. Абрадаваўся пан да й пашоў у той бок. Ужэ добрэ сьцемнело, як ён прыцёгса ў хату к стражніку. Ведамо, стражніка хата аднаадзінюшачка стаяла на палянаццы серод лесу, а кругом мо на якіх дзесяць верстоў не было жывое душы. Застаўса пан у стражніка начаваць. Просіць пан есьці, а стражнік кажэ:— «Німа ў нас, паночак, нічога сягонячы, апрыч бульбы, бо ў нас пост».— «Які ж гэто пост,— кажэ пан,— калі ў вас і німа нічога скаромнаго. Гэта й усякі дурэнь так папосьціць, калі скаромнага німа. От ты тагды папасьці, як усяго много, а есьці не можна. От то, дак пост».— Наеўса пан печанае бульбы да й лёг спаць на цьвордуй лаве, падклаўшы пад голаў шапку. Сьпіць ён бы после маку, бо ведамо, за дзень нахадзіўса, як пацук. Назаўтрэ запрог стражнік сваю кабылку ды й паўёз пана ў яго маёнтак. Прыехалі яны туды, заўёў пан стражніка к сабе ў пакоі. Бачыць стражнік, што там сабралосо много паноў да паней; у кожнуй станцаі панастаўлено сталоў, а на іх розных патравак, што аж не прыдумаць, чаго там не было. Ідзе пах ат тых патраў па ўсіх пакоях, што аж сьліна цечэ з рота. Чакае ён, калі

ж гэто будзе абед. Тым часам ужэ даўно пара абедаць, а пані да паны ходзяць кала тых патравак да толькі сьлінку каўтаюць да аблізваюцца, бы сабакі. От сустракае ён таго пана да й кажэ: «Пара мне, паночку, ехаць да господы, бо яшчэ хто лес пакрадзе».— «Пачакай, каханы, ■ ж цебе пачастую за тое, што прыняў мене на нач»,— кажэ пан. Застаўса стражнік. Тым часам ужэ й даў Бог вечар, а абеду німа. У стражніка ўжэ даўно ў жываце перабурчало й у роцеперасхло, бо ўсю сьліну пакаўтаў, пазіраючы на смачные патраўкі. От і пытае ён у лёкая: «Калі будзе абед?» — «Заўтра аб гэтуй пары,— адмаўляе лёкай.— Бачыш, мае паны кальвіны, а ў кальвіноў сягодне пост. Да гэто яны так посьцяць, бо,— кажуць яны,— то не пост, калі німа чаго есьці, от то пост, калі ўсяго много, а есьці не можна». Не вытрымаў стражнік, ускочыў на сваю кабылку да ва ўсю ноч папёрса да господы, каб хутчэй наесьціса хаць поснае бульбы. Прыехаў дамоў да й думае: мо й праўда. Не дзіво не зграшыць у намастыры, дзе немашака граху, а от ты ў жыццы не саграшы, дзе грахі на кожнум кроку — як ступіў, та й саграшыў.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 3. САБАКА Й ГРОШЫ

Быў у ваднаго чалавека вельмі разумны сабака. Таго сабаку не кармілі, хібо калі-некалі гаспадар кідаў яму скарынку хлеба да агрызеную косць. У таго чалавека была вельмі паганая жонка; яна заўжды выганяла сабаку з хаты мешалкаю або качаргою ці аблівала вадою. Той чалавек быў жаласлівы нават да ўселякаго жыўёла. Ён часто гаварыў жонцы, што трэба сабаку карміць, бо каа мо не праз чыю ласку жывом. Пачуўшы тое, паганая жонка толькі зневажала свайго гаспадара да ешчэ гарэй біла сабаку.

«Сабака, як кот,— крычала яна,— павінен сам сабе знайсці корм». І праўда, бедны сабака цэлы дзень бегаў туды-сюды, шукаючы сабе корму. Больш усего любіў ён грабціса ў землі, каб злавіць мыш або крата. От пашоў раз той чалавек у поле, гдзе на межы стаяла йгруша, каб натрасці дзікіх ігруш. Ідзе ён і думае сабе: «Натрасу повен кашэль ігруш, занесу ў гумно, высыплю ў мурог. Яны там сапрэюць і хутко пагніюць. Будзе добрэ есці дзецям, рэшту баба высушыць да наварыць узвару». Падходзіць ён к ігрушы, аж бачыць — яго сабака грабецца тут на межы. Падыйшоў ён туды. Сабака ўбачыў хаджаіна, выскачыў з ямы, лашчыцца, кідаецца на грудзі да ўсе зноў скачэ ў яму. Зірнуў чалавек у яму, аж там стаіць повен гаршчок грошэй. Блішчыць золато, бы слеза. Забраў той чалавек грошы ў кашэль, натрос ігруш наверх і папёр да гасподы. Ужэ быў подвечарак, як ён прышоў дамоў. Жонка падаіла карову. От той чалавек наліў у місу малака, накрышыў туды хлеба да й даў сабацэ. Жонка давай лаяцца, давай зневажаць да праклінаць на чом сьвет стаіць. Насілу гаспадар сутрымаў трохі шалёную бабу. На другі дзень ён велеў бабе кожын дзень варыць страву сабацэ да карміць яго малаком. «Ашалеў гаспадар,— думае баба,— дай жэ я хіба атручу сабаку, а то ён скорміць ім усе малако». Побегла баба к суседкам, жаліласа на сваю горкую долю, праклінала гаспадара да й выпрасіла атруты. Наварыла яна стравы, усыпала туды атруту да й атруціла таго сабаку. Вернуўса з работы гаспадар да як даведаўса, што сабака здох, дак чуць не заплакаў, так яму шкода было вернаго слугі. Німа чаго рабіць, дастаў ён харошых дошак, збіў вельмі гожую труну, наслаў у яе пуху да й палажыў туды сабаку. Потым выкапаў на могліцах яму, прынёс туды труну да й пазваў папа хаваць змарлаго. Прышоў поп і велеў атчыніць дамавіну. Зняў той чалавек з труны вечо. Убачыў тут поп, што ў дамавіне сабака, а не чалавек, закрычаў і кажэ, што за гэтакі абман сашле да Сіберу ці згноіць у вастрозе. Насыпаў той чалавек папу поўную шапку грошэй і просіць, каб пахаваў сабаку. Паглядзеў-пагля-

дзеў поп у сваёй ксёнжцы да й кажэ: «Усякае стварэне да хваліць госпада»,— і пахаваў сабаку. Ідуць яны з могліц, а поп і кажэ: «Шкода, што больш не хаваюць сабак».

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 4. ЗАКАЛДОВАНАЯ ШАПКА

Быў сабе адзін нікчэмны мужычына да такі нескладны, плюгавы, што звычайные людзі не хацелі на яго й плюнуць. Ніхто з ім не знаўса, ніхто не зваў к сабе ў госці, ведамо, пакідзішчэ. Стояло толькі зірнуць на яго, як ужэ чалавека браў смех, такая то была пачвера, а не божае стварэне. Але ён, як і другіе мужыкі, меў сабе якуюсь слімазарную гаспадарку й нават найшоў сабе жонку, такую ж раскіраку, як і сам. Бо кажуць, што жанчына гэ меркуе: нехай сабе мужык як лапаць, абы з ім не плакаць. Усе яго лічылі дурням, а ў яго, мабыць, чорт розуму не з'еў,— ён быў дагадлівы й вельмі хітры мужык, дарам, што ўсе яго звалі раскіракаю. От раз гэстая раскірака паўёў у место на кірмаш прадаваць ялавіцу. Прыўёў ён сваю дыхляціну, прывезаў к слупу да й чакае, пакуль хто купіць...

Падышлі мужыкі, аглядзелі ялавіцу да й пытаюць: «Колькі хочэш за гэстую казу?» — «Якую казу? Гэсто ж карова»,— адмаўляе той нікчэмны мужык. «Такая гэсто карова, як і ты»,— кажуць мужыкі. «У цебе пытаюць, па чом прадаеш казу?» — «Каза дак каза, нехай сабе й каза, толькі давайце харошые грошы».— «У нас грошы новенькіе, харошые, толькі гавары сэс». Старгаваліса мужыкі да й купілі тую карову. Заплацілі мужыкі грошы й хочуць весьці карову. Толькі яны ўзяліса за повад, а гаспадар і кажэ: «Я вам прадаў жыўёло без повада, бо на казу злыгача не трэ». Нема чаго рабіць, заплацілі мужыкі яшчэ за повад і павелі карову. От той раскірака накупіў сабе ў кромках, што яму было патрэбно, потым зайшоў у карчму, купіў дзве пляшкі гарэлкі

да й кажэ ландару: «Нехай яны пабудуць у цебе, пакуль я зайду». Потым зайшоў у другую карчму да й там так само купіў дзве пляшкі гарэлкі да й аставіў да тых час, покі зайдзе. Зрабіўшы тое, пашоў шукаць тых мужыкоў, што купілі ў яго карову. Па немалым часе нібыто ненарокам сустракае ён тых мужыкоў і кажэ: «Заплацілі вы мне добрые грошы, дак хадзем хіба вып'ем барышу».— «Добрэ»,— кажуць яны. От наш раскірака паўёў мужыкоў у карчму й заказаў дзве бутэлькі гарэлкі. Выцяглі яны з кішэнь акрайцы хлеба й сала, выпілі гарэлку да й закусілі. Узяўса наш раскірака за шапку да й кажэ ландару: «За гарэлку табе заплачано».— «Заплачано»,— адмаўляе той. Подняліса мужыкі й пашлі з карчмы да толькі пераглядаюцца паміж сабою, чаму гэто іх сябер не плаціў карчмару за гарэлку, а той кажэ, што заплачано. Паўёў ён мужыкоў у другую карчму да й зноў велеў падаць дзве бутэлькі гарэлкі. Выпілі яны й тую. Зноў сябер узяўса за сваю шапку да й пытае ландара, ці заплачано за гарэлку. Той адмаўляе, што ўсе заплачано. Тут ужэ нашы мужыкі дзіву даліса да атразу дагадаліса, што ў гэстаго нікчэмнаго чалавека закалдованая шапка. От, як толькі вышлі з карчмы, дак і прысталі яны да таго мужыка, каб ён прадаў ім сваю закалдованую шапку. Але той не хочэ, кажэ, як жэ ён будзе жыць без гэтакае шапкі. Яны прасіць, яны благаць. Упіраўса, упіраўса наш мужык, нарэшце падаўса да й прадаў за сто рублёў сваю старую шапку, што была бы вароны гнездо. «Ну,— кажэ,— шкада мне гэстае шапкі, ні за якіе грошы не аддаў бы яе чужым людзям, а гэто толькі, што сябром. Ну, насеце на здарове да памінайце раскіраку. Прашчавайце, сябры! Трэ да гасподы цягнуцца, а то баба качаргою сперэсьціць мазгаўню да скажэ, што п'яны загубіў шапку». Пашоў наш раскірака сваею дарогаю, а мужыкі зайшлі яшчэ ў адну знаёмую карчму й заказалі дзве пляшкі гарэлкі. П'юць яны да радуюцца, што такі купілі такую дзіўную шапку. От выпілі яны гарэлку, адзін узяўся за тую шапку да й кажэ: «Заплачано!» А той усмехнуўса да й атказвае: «Ну, калі німа грошэй, та я запішу». Пашлі яны ў другую карчму й там выпілі пляшку гарэлкі. Узяўса ўжэ другі за шапку й кажэ

ландару, што заплачано, але ландар і слухаць не хочэ. «Сто ві, п'яніцы, валацугі, мене дурням робіце!.. Я лепш ат вас памятою, сто заплацано, а сто не». Заплацілі мужыкі за гарэлку, кінулі на землю тую шапку да й давай яе таптаць нагамі да рваць на сабе гіры. Ото ж абмануў, хварэць яго матары. І пацягліса дамоў, бы мокрые куры.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 5. ЛІХО АБХОДЗЬ, А ДАБРА НЕ МІНАЙ

Ішоў па свеце Хрыстос з Паўлам-Петром, доўго яны хадзілі, патаміліса й шукалі, дзе б ім супачыць. Абхадзілі яны немаль усю вёску, ніхто не прымае на нач. Усе адмаўляюца та сім, та тым. Пачула аб гэтум адна бедная ўдава, у каторае лежаў вельмі хворы апошні сын. Яна так сказала сабе, што калі к ёй зайдуць на нач гэтые падарожные, та яе сын выздаравее. Прыбегла яна з самага канца вёскі да й просіць іх к сабе. Тым часам Петро й Павел зайшлі ў вадну багатую хату, дзе было веселье, да й залезлі на печ. Ведамо, на веселы заўжды людзей много. Таўкуцца яны ў хаце, бы ўюны ў рэшаці. Прасіла, прасіла іх удава к сабе, каб у хаце былі чужые людзі, як будзе паміраць яе каханы сыночак, прасіла жывым Богам, аж у землю кланялася, але Паўло-Петро не ўважылі яе прозьбы, расьцегліса с краю на печы да й грэюць старые косьці. Толькі Хрыстос зжаліўся да й пашоў па гразі ў самы канец вёскі к беднуй удаве. Толькі ён улез у курную хатку ўдавы, як сын яе ачуняў і ўстаў з пасьцелі. Падзякувала ўдава Хрысту, пакланілася яму ў ногі, а той і знік. Тым часам на веселы хлопцы захадзіліся кала Паўла-Петра да й пачалі лупцаваць іх папліскамі. Круцяцца на печы Паўло-Петро, бы ўюны на скаварадзе, а хлопцы лупяць іх да прыказваюць: «Не чапайце нашых дзевак, не лезьце на чужое веселье...» Тут прышоў Хрыстос і велеў Паўлу-Петру легці на другі бок печы. Зайшлі хлопцы на другі бок

печы да й кажуць: «Цепер трэ правучыць і гэстых валацугаў»,— і давай іх перэсціць, давай лупіць так, што аж пара з іх паваліла.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 6. КАМУ ГРЭХ, А КАМУ НЕ

Разумныe людзі кажуць: грэх у мех, а спасенне ў торбу; хто кажэ — грэх, таго ў морду. Я чуў яшчэ ат свайго дзеда, калі я ешчэ быў малым падшпаркам, а ён ужэ тагды сгорбіўса, зморшчыўса бы порхаўка. Бало седзіць на прызбе ўлетку ў кажушку да грэецца на сонейку, а мы бегаем босые ў вадных сарочках, і пот з нас валіць, бегаем ці слухаем байкі старога дзеда. А ён вельмі любіў казаць байкі. Шмат я пераняў тых баяк, але, бачыце, сам ужэ састарэўса, здурнеў і многае запамятаваў. От,— дай Божэ памяць,— дзед расказваў, як Хрыстос з святым Петром хадзілі па сьвету да вучылі людзей. Доўго яны хадзілі пешкі, пазбівалі ногі, абадраліса да ніткі, а ўсе хадзілі да вучылі дабру, згодзе да братэрской жыццэ на сьвеце. Убачыў раз Петро, што бабы павесілі на плоце вельмі много рознаго плаця. Надаело Петру хадзіць у транцах, а можэ, яго й вошы заелі, от і пазарыўса ён на чыстае плаце да й украў сабе адну сарочку, толькі абмыліўса, узяў не мушчыньськую, а жаночую. Бачыце, даўней мушчыны насілі сарочкі доўгіе па самые пяты. Надзеў ён тую сарочку, аж каўнер не сходзіцца, а рукавы толькі па локці. Апрануў ён наверх свае лапікло, але нельга закрыць сарочку. Абернуўся Хрыстос к Петру да й пытае: «Скуль ты ўзяў жаночую сарочку?» — «Украў, Госпадзі, у багатых, даруй Божэ цяжкі грэх».— «Лядзі, каб не абернуцца ў жанчыну». Злекаўса Петро, скінуў сарочку да й панёс на тое мейсцэ, дзе яе ўзяў. Падходзіць ён туды да й чуе, аж там баба крычыць, кліне, чуць не галосіць, што хтось украў тую сарочку, каторую яна хавала сабе на смерць. «Чаго ты крычыш і турбуешся, бабко?» — пытае Пятро.

«Як жэ мне не турбавацца,— адмаўляе баба,— калі хтось украў у мене тую сарочку, якую я згатовіла сабе на смерць. Як жэ цепер я памру, калі ў мене німа на смерць сарочкі».— «Дак ты, бабко, не памірай»,— кажэ Петро. «Ой, мой саколіку,— адмаўляе баба,— на што ж я буду сьвет займаць, калі я нінавошта не патрэбна».— «А ты сабе жыві сама ля себе».— «Ой, не, мой родненькі, ля себе важко жыць, так важко, што лепш памерці». Як ні ўгаворваў Петро бабу, тая адмаўлялаcа, а нарэшце пачала галасіць. Аддаў ёй Петро сарочку й пашоў далей. Ідзе ён да йдзе, аж бачыць — вісіць на плоце кале растанцоў белая бы снег мушчыньськая сарочка. Палядзеў ён давокала, украў тую сарочку, надзеў яе пад свае лапікло да й хучэй пашоў далей. Прыходзіць ён да Хрыста й кажэ, што аддаў бабе сарочку жаночую, а ўзяў сабе мушчыньськую. «А ведаеш, якую сарочку ты ўзяў?» — пытае Хрыстос. «Не, Госпадзі»,— адмаўляе Петро. «Гэто два багатые браты дзеліліса да ніяк не маглі падзеліць гэстую сарочку; доўго яны сварыліса, калаціліса, біліса, а потым павесілі тую сарочку на растанцох, каб яна не ўвадзіла іх у грэх».— «Што ж мне рабіць?» — пытае Пятро. «Насі гэтую сарочку, хаць ты яе ўкраў, бо гэтым ты робіш людзям дабро — мірыш іх, а хто мірыць людзей, з тым і Бог памірыцца».

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 7. ПРАМУДРЫ САЛІМОН

Жыў колісь прамудры Салімон. Быў ён мудрэйшы ат усіх людзей. Цары з далёкіх царств прыезджалі к яму, каб паслухаць яго мудрасці да павучыцца ў яго розуму. І пачаў думаць Салімон: кепьско Бог сатварыў сьвет, бо разам з добрым пазволіў жыць і ліхому. От Салімон выдаў такі закон, каб кожнаго вешаць, каго зловяць на зладзействе. Убачыў Бог тые думкі Салімона й зрабіў так, што той пазнаў сваю амылку. От як тое было.

У Салімона была вельмі гожая дачка. Ён яе так моцно любіў, што чаго б яна ні папрасіла, ні ў чом ёй не атказваў. От раз папрасілаōа яна, каб Салімон узяў яе з сабою на ахвоту. Салімон узяў. От паахвоціўса Салімон з сваімі прыбліжоннымі, налавілі яны много ўселякае зверыны, нагатовілі там і пачалі баляваць. Толькі ось хапіла дачка Салімона кусок вельмі смачнаго мяса, ці мо яна вельмі моцно прагаладалаōа на ахвоце, толькі кусок у горле й перасеў. Што тут ні рабілі, як ні ратавалі, нічого не парадзяць. Падавіласа Салімона дачка да й только. Засмуціўса Салімон, годзі баляваць, паўёз з ахвоты любімую дачку хаваць. От убралі яе ў золато й дарагое адзене. Апрыч таго Салімон павязаў ёй на шыю д'ямантовые пацеркі, якіх яшчэ ніхто не бачыў. От адзін чалавек пабачыў на той змарлуй золато й д'ямант і задумаў тое ўкрасці. От як пахавалі Салімона дачку, засыпалі землёю да ўсе разышліса з могліць, от той злодзей хуценько раскапаў магілу, выцяг дамавіну наверх да й хацеў атчыніць веко, але яно было моцно прыбіто гваздамі. Як ён ні мучыўса, нічога не мажэ зрабіць, каб аткрыць веко. От ён вывернуў з аднае магілы велізны камень, прынёс яго да як ударыць па труне, дак веко й атчыніласо. Зірнуў ён, аж дачка Салімона ажыла да й падымаецца з труны, бо мусіць, як ён ударыў тым каменям, дак ат таго руху мясо ў горле й праскочыло й дзеўчына ажыла. Не ведаючы, што з ею робіцца й чаго яна лежыць у гэстуй скрыні, пачала яна зваць к сабе таго злодзея, але ён так спужаўся, што не мажэ ні варухнуцца, стаіць, бы акаменеў. От на крык збегліса людзі, убачылі тую дзеўчыну, забралі яе й таго злодзея да й прывелі к Салімону. Абрадаваўся ён, што ажыла дачка, а як даведаўса, што яе спас той злодзей, та вельмі засмуціўса й зразумеў ён, што не яму вучыць Бога, бо Бог зрабіў так, што часам і ліхое робіць добрае, што без ліхого, мо й сьвет пераўёўса б.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 8. ХЛАПЕЦ-УДАЛЕЦ

Жылі сабе дзед да баба. Пражылі яны немаль усю жытку й не было ў іх дзецей. Чаго яны не рабілі, якіх прымхаў не спраўлялі, якіх зельёў баба не піла, якіх варажбітоў не прасіла. Хадзіла яна па прошчам, давала на хвалу Божую, на цэркаў, на касцёлы й нават на жыдоўськую школу. Нічого не памагае. Толькі ось ішоў якісь старац да й заначаваў у тых людзей. Дала яму баба вечэраць, а сама стаіць кала печы да ўздыхае. Зірнуў старац да й пытае, чаго яна ўздыхае. «Як жэ мне не ўздыхаць, калі Бог прагневаўса на нас за грахі да й не дае нам дзецей»,— кажэ баба. «Чым жэ вы яго прагневілі?» — «А Бог яго святы ведае! Ці ж мы ведаем, што грэх, а што не грэх? Цёмные мы людзі, мой саколіку. Мы й не ведаем, мо грашымо кожную часіну». Уздыхае баба да жаліцца, што німа каму заставіць свае дабро, што не будзе каму памінаць іх душачкі, бо ўсе родные паўміралі, толькі яны ліпяць. «Не турбуйса, бабко, мо яшчэ Бог змілуецца над вамі да й дась вам дзетак»,— кажэ старац. «Ой, мой лебедзіку, парадзь, што мне рабіць?» — «Папасьці, бабко, шчырым постам двананцаць п'ятніц»,— радзіць старац. Падзякувала баба таму старцу да й пачала пасьціць шчырым постам п'ятніцы. Яшчэ не адпасьціла яна ўсіх п'ятніц, як чуецца, што ўжэ тоўстая. Сказала яна гаспадару. Той здзівіўса, але радуецца разам з ею. От прышоў час, і радзіла тая баба хлапчука, да такого маленькаго, як мезены палац. Хаць маленькі хлапчук, але ж ведамо, свае дзіця, гадуе яго баба, песьціць, просто й не атходзіць ат калышкі. Узгадаваўся той хлапчук, пачаў хадзіць да бегаць, стаў такі праворны да жвавы, што дзед з бабою й не нарадуюцца на яго глядзячы, толькі якім быў маленькі, такім і застаўса. Седзяць яны за сталом да сілкуюцца, а хлапчук бегае па сталу да пераскоквае цераз ложкі. От надаело яму бегаць у хаці па лавах да па жордках і пачаў ён прасіць бацька, каб паслаў яго на работу. Доўго дзед адмаўляўса, нарэшце паслаў яго ў лес па дрова. Запрог гэто дзед кабылку ў сані да й кажэ: «Ну, едзь, мой сынок, прывезі маццы дроў». Ускочыў хлопец кабылцы ў вухо, шапнуў ёй, куды бегці,

да й паехаў. Прыехаў ён у лес, дзе былі зложаны ў высокі стос дрова, падвёў к самаму стосу сані. Тым часам вецер як махне, дак і вывернуў тую дзераўляку, кала якое быў зложан стос, той і абернуўса просто на сані. Шапнуў хлапчук кабылцы ў вухо, а тая й павезла дрова ў вёску просто на свой двор. Падзівіліса дзед з бабою да й кажуць: «Хаць малы хлапец, да ўдалец». І празвалі яго з тых часаў хлапец-удалец. От пашоў раз дзед у лес па грыбы да ўзяў з сабою й хлапчука. Пакуль дзед убачыць грыба з высока, дак хлапец-удалец ужэ й знайдзе да й цягне ў кашэль. Назьбіраў ён грыбоў повен кашэль, так што дзед чуць плішчыць. Тым часам пан вышаў у лес на паляване да й сустракае таго дзеда. От пан суняўса да й пытае, ці много назбіраў дзед грыбоў. «Нічого, паночку»,— адмаўляе дзед. Тут пан падышоў к дзеду, глянуў у кашэль да й кажэ: «Што ж ты хлусіш, стары псюка, а гэто ж хто назбіраў?» — «Гэто мой хлапчук»,— кажэ дзед. «Дзе ж ён?» — «Ой, сцеражыса, паночку,— закрычаў дзед,— бо затопчэш майго хлапчука».— «А я ж думаў, што гэто грыб». Узяў пан хлапчука к сабе на далоню, а той і давай там скакаць да вычвараць уселякіе штукі. Вельмі спадабаўса пану той халпчук. От і просіць ён, каб дзед аддаў яго яму на службу. Не хацеў аддаваць дзед, але хлапчук шапнуў яму, каб не баяўса, бо ён хутко вернецца. Наняў пан таго хлапца-ўдальца, даў за яго дзеду сто рублёў да й панёс да гасподы. Паказаў пан яго пані, а тая дзівіцца й з рук яго не пускае. От сабраў пан много гасцей, каб яны падзівіліса на таго хлапчука. Селі яны за стол. Ведамо, паны, п'юць, едзяць, балююць сабе да дзівяцца, як хлапчук скачэ на стале. От скакаў ён да скакаў паміж талерак, потым ускочыў да давай скакаць па паньськіх лысінах. Крычаць паны да адганяюць яго як мух. Але ён скачэ, бы скочка, ат аднаго пана да другого, ат аднае пані ці паненкі да другое. Спалохаўса пан да й прагнаў яго з стала на дол. От размаўляюць сабе паны да пані а том, а сём, а хлапчук ціхенько забраўса к пані пад сукно да й давай там слыкатаць. Рагочэ пані, аж пукаецца ат смеху, а ўсе пазіраюць да дзівяцца, чаго яна рагочэ. Ужэ думалі яны, што яна памешаласа. Але ось пані схапіла сваю сукню да й задрала яе да верху, каб абараніцца, бо яна

думала, што там мыш. Але ось аттуль выскачыў той хлапчук. Абазліўса пан і давай яго чваліць сабакамі. Спусцілі сабак цэлую свору, яны за хлапчуком, а той ускочыў на ката да й трымаецца за шэрсць. Сабакі за катом, а той ускочыў на дзераво, з таго на другое да за плот і ўцёк у поле. Саскочыў хлапец-маладзец з ката, абернуўса вераб'ём да й прылецеў к бацьку й матцы. Рады старые, што сын вернуўса дамоў і не знаюць, чым яго пацешыць. От баба спекла яечню, наварыла сала да й частуе сынка, бы госця, а ён дзюбануў крыху да й годзі, бо ведамо, колькі яму трэ, мо менш як вераб'ю. Але стары кажэ: «Ось мы паедзем у место, нехай ён сам сабе выберэ гасьцінцы». Сказаў стары да запрог сваю кабылку да й паехаў з хлапчуком купляць яму гасьцінцы. От едуць яны да й сустракаюць якогось пана. Хлапчук і кажэ бацьку: «Я абернуся выжлам, ты прадай мене пану, толькі не аддавай ланцужка, та я зноў вернуса». Перакінуўса ён, абернуўса выжлам да й бежыць за возам. Убачыў пан, што гэто вельмі харошы выжал да й прыстаў к старому: прадай да прадай. Злупіў стары з пана за выжла добрые грошы, зняў ланцужок да й аддаў. Толькі трохі ад'ехаў пан, аж з лому выскачыў заяц. Выжал за тым зайцам церaз палянку да ў кусты, да ў лес і прапаў. Зваў, зваў пан, шукаў, шукаў выжла, а таго й след прастыў. Не так яму шкода грошэй, як таго сабакі, але нічого не парадзіш — паехаў сваею дарогаю. Тым часам выжал дагнаў старого, обернуўса хлапчуком да й седзіць на возе. Ось прыехалі яны ў место, выбраў сабе хлапчук добрую адзежу, боты да шапку й накупіў усяго, што трэ хлопцу. «На што табе такая вялікая адзежа,— пытае бацько сына,— калі ты сам ось які маленькі»,— паказвае стары свой мезены палац. Тут сын абернуўса ў такого малайца, што толькі ў казцы сказаць. Убраўса ён у тую адзежу, накупіў бацьку й матцы розных падарункаў, да й паехалі яны да господы. Хутко высватаў ён сабе самую гожую дзеўку, а за не доўгім часам яны й пабраліса. Справілі бацькі свайму сыну вельмі гучнае вясельле да й пачалі балявацць. Аж ось і прыходзіць на весельле той самы старац, што параіў бабе пасьціць дванаццаць п'ятніц. Пазнала

яго баба да й злекаласа. «Не бойса, бабко,— кажэ старац,— а закажы другім, каб яны п'ятніцу пасьцілі да паважалі»,— а сам і знік. Мо п'януй бабе тое прычудзіласо, а мо й праўда. Дак от якое здарэнне.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 9. НЕХАЙ ТАК БУДЗЕ

Служыў сабе ў ваднаго гаспадара малады да вельмі ўдалы хлопец. З маленства астаўса ён сіратою да так і выгадаваўса на чужых людзях. Цяжко было яму служыць, цяжко глядзець у чужы рот да чакаць, пакуль і яму дадуць асушак хлеба ці пагрысці якую-небудзь косьць. Нарэшце ён пачаў служыць у ваднаго вельмі багатаго гаспадара. А ведамо, калі мужык багаты, та ён гарэй паганы да скупы, а калі не сам, дак яго жонка. Ліхо было таму парабку ў багатаго гаспадара, да не хацеласо яго пакідаць, бо ў яго была вельмі гожая дачка, што так спадабаласа, як ніхто на сьвеці. Як ні цяжко парабку, як не есь яго, не піліць паганая гаспадыня, а ён служыць, робіць дзело бы чорны вол да яшчэ грае на скрыпаццы ці пае сабе так гожэ, што толькі заслухацца. І закахаласа ў яго хаджайськая дачка. Ведамо, маладось, не лядзіць на тое, што бацько да маці не аддадуць яе за бездомнаго парабчука, у катораго й парток сваіх німа, а лядзіць на ўроду да слухае яго песьні ці йгру на скрыпцы. От злюбіліса яны, да тояцца ат бацькоў,— баяцца, каб тые не прагналі парабка. Сустрэнуцца яны на йгрышчы ці абы-дзе пры людзях, дак дзеўчына таго парабка к сабе й блізко не падпускае: чмыхане да й атвернецца. Алеш кажуць, што шыла ў мешку не схаваеш, так і кахане людзі заўжды пранюхаюць. От пашлі бабы сакатаць, што багача дзеўка любіцца з тым парабкам. Дачуласа маці да й пачала ў яе дапытоўвацца. Круціла дзеўка, круціла, а нарэшце й прызналаса маццы. Яна думала, што матка не вораг ля свайго дзіцятка, да й ашукаласа: тая сказала бацьку.

А ён быў вельмі хітры мужык. Нічого ён не сказаў дзеўцы, а штось задумаў. Мо цераз тыдзень ці цераз два пасылае ён парабка на плыты — мо аж у самы Кралевец. Цяжко парабку расставацца з дзеўчынаю, але німа чаго рабіць, трэ слухаць, бо як наняўса, дак бы запрадаўса. Пагнаў ён плыты да й узяў з сабою сваю скрыпачку. Гоніць плыты, утоміцца, от ён сядзе на калодзе, пайграе трохі, дак і сам аддыхае, да й у другіх улье сілы. От і зноў яны хопяцца за работу, дак плыты бегуць уперад, толькі бурчаць. Хучэй усіх загналі яны свае плыты, а за тое далі ім больш грошэй. І пачалі яны купаваць сабе гасьцінцы: хто шапку, хто чобаты, хто пояс, хто люльку ці што другое, а той хлопец пашоў на кірмаш, сустрэў там вельмі беднаго старца да й аддаў яму ўсе свае грошы. Падзякуваў той да й кажэ: «Бачу, што ты й сам бедны, а не пашкадаваў мне даць апошняе, дак за тое я дам табе, што я маю. От, мой саколе, што б ты ні рабіў ці не ўбачыў, да як скажэш — нехай так будзе, то яно гэ й зробіцца». Падзякаваў той парабак за добрае слово да й пашоў да гасподы.

Тым часам, пакуль ён гнаў плыты, гаспадар хучэй намовіўса з жонкаю да й пачалі та просьбаю, та гросьбаю прымушаць сваю дачку, каб яна йшла замуж за таго багача, што пачаў заляцацца. Што яна ні рабіла, як не ўбіваласа, чуць на себе рук не налажыла, нарэшце мусіла нібы згадзіцца, толькі веселле ўсе аткладвала, каб прыждаць свайго ненагляднаго да хаць яшчэ разік зірнуць яму ў вочы. Знаюць бацькі, што плыты хутко не пагоніш, што парабак яшчэ не хутко вернецца, дак яны й не рабілі яшчэ ладу. «Нехай,— думаюць,— дзеўчына больш пазнаёміцца з сваім жаніхом». Ходзіць той да дзеўчыны кожын дзень, носіць ёй уселякіе падарункі да ўсе наровіць, каб з ею пераначаваць, але дзеўчына й слухаць не хочэ. «Нехай,— кажэ,— тагды, як косу расплетуць». А сама й зальецца слёзкамі, лежыць у клеці да плачэ, аж разліваецца, а жаніх стаіць пад клецью кала дзверэй да просіцца, каб яна ўпусціла хаця ў клець. От раз ён гэ стаяў кала клеці, аж той парабчук неспадзепкі вернуўса да гасподы да хучэй і пабег у клець да свае дзеўчыны. Зірне ён, аж хтось стаіць; і падумаў ён, што гэто злодзей. «Ну,— думае,— стой».

Да й кажэ ціхенько: «Нехай будзе так». Як толькі ён гэто прамовіў, дак той багач і прыліп да клеці, бацэ прырос. Нарабіў парабчук крыку, збегліса людзі, пачалі таго багача атрываць ат клеці, да нічого не парадзяць. Даў Бог дзень, пашлі бацькі прасіць папа, каб прышоў з сьвятою вадою да пакрапіў таго жаніха, та мо яму атробіць. Прышоў поп зь дзяком туды. Пабдагатаў, паблагатаў поп, пакрапіў сьвятою вадою да й узяўса за таго багача, каб атарваць яго ат клеці, а парабчук ціхенько й шэпчэ: «Нехай так будзе»,— от і поп прырос. Дачуласа матулька, бежыць ратаваць папа да й сама прыстала к яму, бы прырасла. Сунуліса туды бацькі тае дзеўчыны да хростная матка багача, але ўсе там і засталіса. Дагадаліса людзі, што гэто ўдзеяно да й пабеглі па бабу-шаптуху, што ўсялякіе чары атрабляла. Усхапіласа баба, зьлезла зь печы да хучэй пашла туды. Кандыбала яна цераз грэбельку на загумечы на клаццы, пасьлізнуласа да й упала ў воду. От яна, каб не замачыцца, падняла андарак да сарочку аж да пояса да й прыдзе. Зірнуў на яе парабчук да шапнуў: «Нехай так будзе»,— дак баба й не мажэ апусьціць свой падол да так і кандыбае кала гумна. А ў гумне чалавек зсыпаў шуплям збожэ, зірнуў ён праз варота да як убачыў тую бабу, што й сарама ёй німа, дак выскачыў з гумна да й плясь шуплям бабу па азадку. «Нехай так будзе»,— шапнуў парабак, от шупель і прыстаў да бабы. Рагочуць людзі з тае бабы, да кажуць, што ось і невеста прышла к таму багатаму жаніху. Нацешыўса парабчук да й адрабіў тое. От поп і кажэ бацьком тае дзеўчыны, што гэто Бог пакараў за тое, што яны прымушалі сваю дачку йці замуж за нелюбаго, бо, кажэ, толькі там Бог, дзе любоў. Па немалум часе парабчук і тая дзеўчына пабраліса да й зрабілі лад. Было гучнае веселле, усе весяліліса да радуваліса, на маладых глядзячы, толькі адзін той багаты пукаўса ат злосьці.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 10. ЧОРТ ПЕРАРАБІЎ

Было гэто тагды, як яшчэ Бог толькі тварыў сьвет. Зтварыў Бог небо й землю, паставіў яснае сонейко, каб яно сьвеціло ўдзень да грэло землю й уселякае жыўёло да расьліну. Сьвеціць да грэе яно й радуе ўселякае створэне. Схаваўса чорт ат сонейка пад землю ў пекло да ціхенько й пазірае аттуль. Але ось утаміласо сонейко за дзень да й спусціласо за землю трохі аддыхаць, і стало цёмно на землі, хаць ты воко выкаль. Бачыць чорт, што на землі стало цёмно, вылез ён з пекла да й пашоў перарабляць тое, што Бог зрабіў. Ідзе ён праз лес, выварочвае дзераўлякі да грабе ат злосьці лапамі землю й павыгрэбаў ямы да панасыпаў горкі. Пабегла вада ў ямы, от і зрабіліса там выжары, пелі да такая тхланя, што й не пралезьці. Трапіў ён у дзераве слепат, паглядзеў, што пчолы збіраюць мёд на патрэбу людзям да воск на хвалу Божую, от ён наплеваў у дупле, дак аттуль і высыпалі шаршні да восы да й пачалі яго рэзаць, пачалі слепіцаю лезьці ў вочы. Схапіў ён жменю веця, ашмаргнуў лісьце да давай махаць, давай абганяцца ат шаршнёў і вос. Як марськане ён роскамі, дак і паразсекае шаршнёў і вос на дробные кускі, а з тых парабіліса мошкі, камары да ўселякі гнюс. Грызе ён чорта, аж на ём шкура пукаецца. Абганяўса ён, абганяўса, выскачыў на поле да давай хватаць да сыпацца песком. Падае песок на землю, а зь яго й прарастаюць уселякіе паганые зелья. Так насеяў ён гэстае пошкудзі па ўсёй землі, але нельга яму абараніцца ат гнюса, от і схаваўса ён у воду да й зрабіў сабе там лагво. Пагнаўса гнюс за чортам, лётае над вадою, але не мажэ яго аттуль выкурыць. Паседзеў чорт там да й запаганіў усю воду, пакуль людзі не пачалі свяціць яе да выганяць аттуль чорта. Убачыў Бог, што зрабіла паганая сіла, пашкадаваў, што сатварыў толькі адно сонейко, каторае не мажэ заўжды сьвеціць на небе, да й даў яму на помач месяц, каб ён сьвеціў уночы. Убачыў тое чорт да й думае сабе: пачакай жэ, я яго згрызу ці саўсім скіну зь неба. Палецеў чорт к месяцу да й пачаў зь ім барукацца да грызьці яго зубамі. Грызе, грызе, от ужэ здаецца астаўса толькі вузенькі агрызачак. Бачыць месяц, што яму

цяжко барукацца з чортам, от ён памаленьку ўсе атступае к сонейку, каб яно абараніло яго ат чорта. Тым часам чорт от ужэ здаецца пракаўтне й апошні агрызак месяца, як той падыдзе к самаму сонейку. Не вытрымае чорт сьвету сонейка да й пусьціцца наўцекача. Тым часам сонейко пахукае на месяц, нагрэе яго сваім бляскам, і той зноў памаленьку пачне ачуняць да абрастаць целам да йці на свае мейсцо, каб сьвеціць уночы. Так заўжды месяц дзьве недзелькі расьце да набіраецца сілы, а дзьве недзелькі барукаецца з чортом.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 11. СУСЕЦКАЯ СПРАВА

Была адзін рок вельмі цяжкая зіма. Першы снег выпаў скоро после Узьвіжаня да так і астаўса лежаць, а на Пакровы ўжэ стала сусім зіма. Да хвацілі, чуеце, такіе марозы, што хаць ты двананцаць лысых лічы. Не было ні аднае адлігі, трымае траскун, кожын дзень такая кудаса, што хаць з печы не лезь. На двор нельга паказаць нос. Тут ужэ блізко Благавешчанне, а горы роўно з харомамі. Не хапіло ў людзей гаўяду сена, бо лецячко было кароткае да такое гарачае, што ўсе выгарало. Сенажаці яшчэ перад Іванам пачарнелі бы земля. Мо яшчэ да Каляд стравілі не то, што сено, але ўсю заваляшчую салому. Ужэ на Уласа людзі пазьдзіралі стрэхі на корм, але нічого не парадзяць — гаўядо раве галоднае да хапае сьнег. От пачалі людзі секці тонкае веце, вазіць яго зь лесу да даваць гаўяду. От гэ біліса людзі, каб дачакаць цепла да выгнаць говядо на пашу. Былі тут і багатые людзі. Яны мелі много сена дома й у стажкох на балоце, але яны не хацелі прадаваць, як іх ні прасілі суседзі, бо, кажуць, і нам не хопіць да весны. От аслабелі ў аднаго чалавека каровы да ўжэ саўсім здыхаюць з голаду. «Пайду,— думае,— к багатаму суседу Нічыпару, папрашу хаць берэме сена. Ведамо, сусецкая справа — трэ памагаць у бедзе адзін другому». От прышоў ён да й просіць: «Нічыпар, братко, атступі

хаць ахапак сена, а то гаўядо дохне».— «Трэ было ўлетку завіхацца, а не ў ценьку прахладжацца,— кажэ той.— У мене й сабе не хопіць. Усяму сьвету не надаешса»,— замармытаў Нічыпар, насунуў на вочы шапку да й папёрса сабе ў гумно. Пастаяў той бедны чалавек, штось успаменуў, яшчэ раз сказаў: «Сусецкая справа»,— да й пацёгса да господы. Даў Бог вечар, от ён ціхенько запрог валоў, паехаў на балото, дзе была Нічыпара сенажаць, наклаў воз сена да й прыплішчыў дамоў. «Сусецкая справа,— кажэ ён сам сабе,— нехай Бог прабачыць».

Мо прайшло з тыдзень, прыходзяць к Нічыпару людзі прасіць сена бы згаварыўшыса. «Ото ж прыстаюць бы смала,— кажэ ён сам сабе,— атступі да атступі. Сусецкая справа. А самі што рабілі ўлетку? Чаму не накасілі больш?» Тут ён схаменуўса, што даўно не быў на балоце. «Трэ паглядзець свайго стажка. А то лепш забраць дамоў, а то яшчэ хто ўкрадзе... Атступі. Трэ, каб да Юр'я было й у дурня. Але ў мяне пеўне хопіць і да Міколы. А той стажок трэ забраць». І пайшоў ён запрагаць валоў.

Седзіць сабе Нічыпар разваліўшыса на санях да паганяе валоў, а тут страчае на дарозе, як людзі згрэбаюць повалач і складваюць у рэдзгіны, каб прынесьці дамоў хаць ахапачак. А Нічыпар едзе да толькі пасмейваецца сабе. «Ото ж пазайздросцяць суседзі,— думае ён,— як убачаць, што я везу зелененькае сенцэ, бы рута». От ён выехаў з лесу на чыстае поле. «Атсюль павінно быць блізко да мае сенажаці,— думае Нічыпар.— Але зімою мейсцовась так меняецца, што й не відаць. А мо заблудзіўса. Але, здаецца, не. Эгэ ж не. Ось і верба, а там куст лазы. Тут калодзісік, радам бабравіна. Онь і чаёк. Што за дзіво! Дзе ж мой стажок. Ой, кроўная гадзіна, куды ж ён дзеўса!?» От Нічыпар супыніў валы, злез з саней і пашоў шукаць тое мейсцо, дзе павінен быць стог сена. Не доўго ён шукаў, цераз двадцаць ці мо трыдцаць крокаў убачыў ён толькі кол, а сьцежар занесло снегам. «Я ж горкі да няшчасны,— закрычаў Нічыпар,— прапала ж мая галоўка! Яны ж укралі мае сено. Да бадай жэ цебе забралі немачы, да каб жэ ты выхвараў да выстагнаў!..» Мо з паўгадзіны лаяўса да

праклінаў Нічыпар таго, хто забраў яго сено. Нарэшце кажэ: «Пана клінуць, а ён таўсцее». Плюнуў тут Нічыпар сабе на бараду да й падашоў к сьцежару. Зірне ён, аж у анучцы к калу штось прыўязано. Адвезаў ён, аж там паперак. Забраў ён той паперак за пазуху да й папхаўса дамоў з пустымі санямі. «Куды ты, Нічыпар, езьдзіў, што нічого не везеш?» — пытаюць людзі. «Да от хтось, хварэць яго матары, украў мае сено на балоце». Тут Нічыпар дастаў з-за пазухі паперак да й дае чытаць. Нашоўса тут грамацей, той самы бедны чалавек, што прасіў у Нічыпара сена, разгарнуў ён паперак да й прачытаў: «Мая жонка Варка. Касіць сено было жарка. Я наклаў на воз да й павёз. Прывезьці была забава, бо гэто сусецкая справа». — «Эгэ ж, сусецкая справа»,— сказалі мужыкі да й пакаціліса ат смеху: «Нічыпар, гэто ж у цебе жонка Варка, дак от табе й зімою жарка».

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 12. СЬВЯТЫ ЧАЛАВЕК

Жыў даўней на землі сьвяты чалавек. Жыў ён не то што багато й не саўсім бедно, а так сабе, як Бог даў. Е хлеб, та есь, а немашака, та й так абойдзецца. Жыў ён у вёсцы на самум канцы. Хто ні йдзе, та к яму заходзіць на нач. Усіх то ён прымае, добрым словам прывітае, накорміць, напоіць, чым мае, часам квасам, а часам вадою, да не бедою. Паважаюць да кахаюць яго старцы ўбогіе да людзі падарожные, бо любіць увесь сьвет лагодны прывет. Прышоў к яму раз убогі старэнькі храменькі, пасілкаваўса, пераначаваў да й збіраецца ў дарогу. «Аддыхай, божы чалавечэ,— кажэ яму той сьвяты чалавек,— даў Бог недзельку, пойдзем у цэркву». Падзякуваў той старць да й астаўса. Пашлі яны разам у цэркву маліцца Богу, пакуль баба зготовіць абед. А цэркаў была за ракою. Ведамо, якіе на ўёсках масты: зімою Бог мосьціць, а ўлетку вада высыхае, та й бродзькі можна перайсці. Падышлі яны к рацэ да й спускаюцца з берага к вадзе. Пляснуў старац па вадзе сваею

кавенёю, от вада й расступілася да самаго дна. Перайшлі яны па сухому дну на другі бераг, от і пазнаў той сьвяты чалавек, што гэто не просты старац, а сьвяты ўгоднік Божы. От ён пакланіўса яму да самае землі да й кажэ: «Я бачу, што ты сьвяты ўгоднік Божы, не стою й таго, каб разам з табою йці ў Божую цэркву. Ідзі ты адзін, а я хаця пастаю ў дзверах».— «За тое, што ты такі ціхі перад Богам і перад людзямі, даў табе Бог моц»,— сказаў той старац і знік. Улез той сьвяты чалавек у цэркву адзін, памаліўса Богу да й хацеў іці да гасподы, толькі зірнуў ён у вадзін вугал, аж там стаіць два страшэнных чартоў; трымаюць яны валовую шкуру да запісваюць на ёй тых людзей, што ў цэркві не моляцца з шчырым сэрцам, а думаюць пра сваю гаспадарку й тым грэшаць Богу. Падышоў ён к чарцям, а тые як атскочаць ат яго, дак чуць не парвалі туюю шкуру. Перахрысціўса ён да й вышаў з цэркві. Ідзе ён кала людзей, здымае перад імі шапку да ківае галавою, як заўжды вітаўса, але тые яго не бачаць і йдуць сабе, быццам тут нікого немашака. Здзівіўса ён і пашоў к рацэ. Падышоў ён к вадзе й хацеў брысьці ўброд, але ногі йдуць па вадзе, бы па лёду. Прышоў ён дамоў саўсім сухі. Здзівіла1са жонка, чаму ён сухі й дзе ён быў, чаму не хадзіў у цэркву. Сказала яна аб том суседцы, а тая другой, другая трэйцюй. Так зараз даведалася ўся ўёска, што сьвяты чалавек перастаў хадзіць у недзельку ў цэркву. Прайшло так мо колькі недзель і пачалі людзі казаць, што, мабыць, гэто грэшны чалавек, калі мы ніколі не бачым, каб ён хадзіў у цэркву маліцца Богу. А ён як хадзіў, так і ходзіць, толькі ног не мочыць да й ніхто яго не бачыць. От прыходзіць гэтак ён у цэркву да й зноў бачыць, як чэрці запісваюць люцкіе грахі на валовуй шкуры. Сьпісалі яны ўсю валовую шкуру, а ўсіх грахоў не могуць зьмесьціць, от давай яны расьцягваць тую шкуру. Учапіліса яны за шкуру рукамі й зубамі да й цягнуць з усіх сіл той к сабе, а той к сабе. Як напьяўса адзін чорт, дак не вытрымаў і зрабіў пшык. Пачуў тое сьвяты чалавек да як зірнуў, як чэрці крыўляюцца, пнуцца ат натугі да аж прысядаюць да залупліваюць хвасты, дак такі яго апанаваў сьмех, што не вытрымаў да й усьміхнуўса сабе ў бораду. Мо гэто чарты зрабілі

знарок, каб спакусіць сьвятого чалавека. От толькі ён усьміхнуўса, як адзін чорт шамеляг да й запісаў яго на валовуй шкуры. «Ну,— думае сьвяты чалавек,— такі папаўса на зубы гэстуй погані». От вышаў ён з цэркві, пачаў сустракаць знаёмых людзей да вітацца з імі, тые здымаюць шапкі да й пытаюць аб здаровейку. «А мы цебе,— кажуць яны,— даўно не бачым у цэркві. Мы думалі, што ты захварэў». От падышоў ён к рацэ, пачаў пераходзіць цераз яе ўброцькі да й замачыўса немаль па самы пояс. Дагадаўса ён, што гэто саграшыў Богу тым сьмехам. Зірнула баба, што ён увесь забрындаўса, да й дагадаласа, што пеўне хадзіў у цэркаў. Шапнула яна аб том суседцы, тая другой, другая трэйцюй і хутко немаль уся ўёска загаварыла, што сьвяты чалавек дзесьвіцелно сьвяты, бо зноў ходзіць у цэркву. Ведамо, людзі заўжды толькі тагды лічаць чалавека сьвятым, як ён саграшыць, бо сэрцэ чалавека — пацёмкі, яго совесьці ніхто не бачыць, апрыч Бога.

Лявон Лебедзік

Чудзін

## 13. УПАРТАЯ ЖАНЧЫНА

Былі ў бацькі да ў маткі тры дачкі: дзьве ўдалые да старэнные, а трэйцяя хаць гожая як макаў цьвет, але такая ленівая да сварлівая, што мо такое й сьвет не бачыў. Набраліса зь ею бацькі клопату: ні ў людзі не аддаць, ні ў себе дзержаць. Ведамо, які гэто тавар, што як сьвежаго не прадаў, та лепш бы й не маў. Падрасьлі ўдалые дзеўчата, дак іх наперабой пачалі сватаць да й пабралі замуж. А тая ўпартая дачка асталаса седзець у бацькоў на карку. Але яшчэ гарэй усяго тое, што зь ею німа ніякаго зладу, што зхочэ, тое робіць, а не зхочэ, дак бы тая наравістая кабыла, што ні ўзад, ні ўперад. Нагараваліса зь ею бацько з маткаю, але нічого не парадзяць, бо, ведамо, свае дзіця не кацяня — за плот не выкінеш. Седзіць яна ў дзеўках, а ніхто й не думае пасылаць к ёй сватоў, бо ўсе добрэ даведаліса, якая гэто цаца. Толькі ось быў там адзін багаты да вельмі харошы

чалавек. Ён рано аўдавеў, але не жаніўся другі раз, бо вельмі моцно кахаў сваю жонку. Быў у яго адзін-адзінюшанькі сын, гэтак дзецюк гадоў п'ятнанцаці ці мо й больш. От і думае бацько: «Нехай ужэ падрасьце сын да жэніцца, та й будзе ў нас хаджайка, а я й так дабуду веку». Вырас сын, ужэ пара б яго й жаніць. Гожы хлопец; паслушны, старанны, да не хочэ маладым жаніцца. Яго равесьнікі толькі тое й робляць, што дражняцца з дзеўчатамі, а ён туды й не пазірае. А дзеўкі дужа любілі яго, хаць ён іх не чапаў. Пачалі бабы сакатаць, што за таго хлопца пойдзе самая лепшая дзеўка, абы толькі ён яе браў. Кепсько жыць без гаспадыні, бо праўду ж кажуць людзі, што гумно плачэ без гаспадара, а хата без гаспадыні. І пачаў той чалавек гаварыць сыну, каб ён наглядаў сабе дзеўку. «Я ўжэ даўно наглядзяў,— атказвае сын,— толькі баюса, што ты, бацько, не схочэш». А той думаў, што сын выбраў сабе харошую дзеўку да й кажэ: «Чаму ■ не схачу? Табе, сынок, с жонкаю жыць і век векаваць, а не мне. Выбірай, якая люба, а я цебе змушаць не буду». — «Ну, дак от, бацько, пасылай сватоў к той дзеўцы, што ўсе людзі цураюцца». Здзівіўса той чалавек, але німа чаго рабіць — згадзіўса на выбар сына, але ўсе ж думае атгаварыць сына, каб ён не рабіў глупства. «А ты ведаеш, якая яна наравістая?» — «Ведаю, затым і хочу яе ўзяць, бо наравістые сьветам ўладаюць, а пакорные да ціхіе ніколі шчасьця не маюць».— «А ці ж ты з ею саўладаеш?» — Людзі й медзьведзя вучаць».— «Медзьведзя вучаць, але ж вельмі мучаць». Німа чаго больш казаць, пашоў той чалавек у проведы. Прыходзіць ён к бацьку тае ўпартае дзеўкі да й кажэ: так і так, мой сын хочэ з ею пабрацца. «Што ты гаворыш, добры чалавечэ? За твайго дзецюка пойдзе самая лепшая дзеўка, а мая гультайка толькі такая ўпартая да наравістая, што з ею ён нічого не парадзіць. Ён малады хлопец, ад Бога грэх яму сьвет заўязваць».— «Калі ж ён сам таго хочэ».— «Мало, што блазны хочуць, а нам імі трэ кіраваць, бо Бог нас запытае, які мы дзецям далі способ». Пачула з-за печку тая дзеўка да й кажэ: «А я пайду за яго, бо ён гожы хлопец».— «Маўчы, дурная!» — крыкнуў на дачку бацько да й кажэ таму чалавеку: «От скажы ты свайму сыну, што калі ён

саўладае з маею наравістаю жарабіцаю, та мо саўладае й з гэстаю ўпартаю дзеўкаю, тагды нехай берэ». Пашоў той чалавек і ўсе расказаў сыну. «Добрэ,— кажэ сын,— я спраўлюса з тою жарабіцаю». От пайшоў ён к таму чалавеку, зірнуў на тую жарабіцу, адно ж яна стаіць у зрубе без варот да толькі храпе да капытамі грабе землю. Ніхто к ёй падступіцца не мажэ, а корм і воду толькі спускаюць цераз верх. От той хлапец закінуў жарабіцы на шыю петлю, зацёг вероўку да й запрог жарабіцу ў сані. Прывязаў ён на сані млынавы камень, сеў сам да й папёр жарабіцу па ралі. А дзело было па лету. Рэжуць палазы землю бы парошу, жарабіца несе, леціць бы маланка, а хлапец яшчэ пугаю паддае ёй ахвоты. Насіла яна, насіла па ралі, спацела, аж шум з яе кускамі падае, нарэшце стала такая мьякенькая, што хаць давай дзіцяці, дак і тое паедзе. «Ну, здолны ты хлопец,— кажэ той чалавек,— дак пеўне справісса й з маею дачкою». Пабраліса яны, справілі веселейко, але ось захварэў бацько маладого да праз тыдзень і памёр. Пагараваў сын, патужыў, але з Богам не паспорыш. Ён ведае, што робіць. Пахаваў ён бацька да й давай правіць гаспадарку адзін з маладою жонкаю. Клапаціцца ён цэлы дзень, робіць за двох, а прыдзе да хаты, дак там німа ні абеду, ні куска хлеба, сьмеце не вымецяно, у печы не паляно, каровы равуць, сьвіньне скрыгічуць, хаць беры да й уцекай. А жонка седзіць сабе да глядзіцца ў відэлко, ці гожая. Маўчыць ён да ўсе робіць сам. А ёй толькі тое й трэба — наесца гатоваго да й качаецца на палу ці прастарэкуе з языкатымі жанкамі. «Кепсько,— думае гаспадар,— гэ не будзе ніякаго ладу, бо, ведамо, гаспадар без гаспадыні не чалавек, а паўчалавека». І давай ён прывучаць да заахвочваць да работы гультаеватую жонку. Але чаго ён ні рабіў, нішто не памагае, бо жонка не цікавіцца гаспадаркаю, а ўсе наровіць, абы ёй наесьціса да палежаць. Даў Бог недзельку, от і кажэ гаспадар: «Хадзем к сябру ў госьці».— «Хадзем»,— адмаўляе жонка да й пачынае апратаць на себе лепшае плацьце. Сабраліса яны да й пашлі. Сябер жыў у суседнюй вёсцы мо за верстоў дзьве або тры. Трэба было ім іці праз лес. Уба-

чыла жонка ў лесі ягадкі да й пачала іх рваць. Рве да сыпле сабе ў рот. Атышліса яны ат дарогі ў гушчэчу, жонка й закружыласа да й не ведае, куды йці. От гаспадар пасадзіў яе на муравейнік да й кажэ: «Паседзі тут, а я пашукаю дарогі». Толькі маладзіца села на муравейнік, як мурашкі налезлі к ёй пад андарак да давай рэзаць за што папало. Яшчэ мо гаспадар атышоўса на паўганоў, як яна падняла крык, што блохі кусаюць. Вернуўса ён, залупіў жонцы андарак на голаў да й звезаў яго вероўкаю, а канцы вероўкі прывезаў к хвоі. Тупае жанчына па муравейніку да яшчэ гарэй дражніц мурашак, а тые секуць упартую бабу да паліваюць сваім спірытусам. Раве яна немым голасам. «Такі й сякі, атвяжы мене да ратуй, а то я жыва не буду!» — «А ці будзеш мене слухаць да гаспадарку даглядаць?» — «Хачу — буду, хачу — не»,— атказвае яна да круціць задам. «Ну, та нехай цебе тут мурашкі вучаць, як трэба дзело рабіць, каб на сьвеці жыць». А сам атышоўса да й збірае ягадкі. Круціласа яна, круціласа, але нарэшце не мажэ вытрымаць да й кажэ, што будзе й варыць, і печы, прасьці й ткаць, шыць і мыць да й гаспадарку даглядаць, а яго слухаць да шанаваць. От закляласа яна да забажыласа, што пакіне сваe гультайство да нораў. Толькі тагды атвезаў ён яе ат дзерава да аслабаніў голаў. Падвёў гэто ён яе к выжару, да й велеў улезьці ў воду. Стало жонка мяккая, хаць ты яе ў вухо ўлажы. От абмыла яна мурашак, да й пашлі яны да господы. С тае пары людзі не надзівяцца, што гэто стало з маладзіцаю, што яна й гной возіць і разьбівае, не то, што жне, але й косіць. Гаспадар яшчэ сьпіць, а яна ўжэ каровы падоіць, у печы выпаліць, стравы наварыць да й будзіць яго сьнедаць. Дачуўса аб том яе бацько, прышоў к дачцы ў госьці да й дзякуе зяцю, што наўчыў яго дачку, як Бог велеў, на сьвеці жыць.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 14. МУЖЫК, ЦЫГАН І ЯЎРЭЙ

Жыў сабе адзін мужык. Ён не тое, што б быў вельмі багаты чалавек, а так сабе сякі-такі гаспадар. Гараваў да працаваў круглы год, дак і меў кавалак хлеба да й асьмакі на беду. Не слухаў ён людзей, што тые кажуць: як Бог пашле напасьць, та грошы чорт дасьць. Не слухаў, а зьбіраў грошык да грошыка да й хаваў у стрэху. Панадзіўса к яму хадзіць цыган. Ведамо, у цыгана заўжды много часу, ён кожын дзень ходзіць у госьці. Дзе баба пачастуе кавенёю або мешалкаю, дзе гаспадар сперажэ пугаю або сьвісне цэпам, а яму хаць бы што — сьлепіцаю лезе ў вочы. «Дай, бацю, сало, каб цебе ліхо не знало. Дай, хаджаячка, круп, каб здарова была, як дуб». Напрыкрае добрым людзям, дак тые, каб аткаснуцца, й дадуць цыгану што-небуць, а не, дак ён і сам возьме. «У цебе, хаджаячка, много, а ў мене німа. Падзелімса, бо Бог дае на ўсіх долю». Ото ж прычапіўса, хварэць тваёй матары,— крычаць жанкі да й сунуць цыгану атчапного блінцоў ці аладак, а каўбасу да подмазку ён і сам схопіць. Прыходзіць раз цыган к таму чалавеку да й кажэ: «От, бацю, и табе прыўёў рой пчол; абірай да садзі ў вулей, нехай будуць палавічные». Зірнуў чалавек, аж сапраўды ў садочку зьвіўса рой пчол. Не знае таго чалавек, што той рой вышаў з яго вулья. От ababраў ён рой да й пасадзіў яго ў свой вулей. «Цепер мы сябры»,— кажэ цыган. «Але ж, сябры».— «Ну, дак частуй, бацю, сябра». Пачаставаў мужык цыгана раз-другі да й пытае: «А калі ж ты, сябрэ, мене пачастуеш?» — «Пачакай, пачастую, як вырастуць у мене грошы». Гамоняць яны тое, але й не бачаць, што тут ціхенько падышоў яўрэй, да й слухае, бо ўчуў, што яны гавораць пра грошы. «Ну, вазьмеце мене ў хаўрус».— «Чаму ж не,— кажэ цыган,— сябра поле, а твае насенне, а я буду зьбіраць. Што зародзіць, та падзелім пароўну».— «Рэхт»,— кажэ яўрэй. От прынёс ён цыгану да мужыку жменю асьмакоў. Пабаранаваў мужык у вагародзе да й пасеяў тые асьмакі, а цыган і кажэ: «Сябрэ, ці нема ў цебе больш?» Дастаў мужык з страхі свае асьмакі да й пасеяў там жэ ў вагародзе. Пашоў дож, прыплескало тые грошы да вымыло, дак яны йблі-

шчаць. Пазваў цыган яўрэя да й пайшлі ўсе яны разам зьбіраць тые грошы. Назьбіралі цэлую шапку, прынеслі ў хату да й пачалі дзеліць. Бачыць яўрэй, што яму дасталосо грошэй больш, як тры жмені, загарэліса ў яго вочы, от так стаіць і трасецца, бы асіна. «Ну, цепер зрабілі прахтыку, давайце сеяць больш». Рад яўрэй, аддаў тые грошы да прыдубіў яшчэ цэлы мешок. Пасеяў мужык тые грошы, а цыган сеў на агародзе вартаваць іх, каб, куры не паклевалі. Пойдуць людзі на работу, а цыган пілнуе да зьбірае сабе тые грошы. Так усе й пазьбіраў. Прыбегае яўрэй да й пытае: «Ну, сто, грошыкі ўзыслі?» — «Не, яшчэ не ўзышлі, бо вельмі засушыло. Нехай, ось пройдзе дож да прыгрэе сонейко, дак яны пойдуць расьці, бы на дрожджах». Чакаў, чакаў яўрэй, пакуль узыдуць грошы, да так і не дачакаўса. Дагадаўса й мужык, што абмануў яго цыган, надаваў яму ў карак да й выгнаў з вагарода. З тых часаў і німа ў мужыка сяброўства з цыганом.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 15. ДЗЕЎКІ Й ЧОРТ

Жыў сабе адзін чалавек. Ён рано заўдавеў і астаўса толькі з маленькаю дачкою. Прыгожая да здатная на ўселякую работу была сіротка, але ведамо, дзіця — не мажэ ўправіцца ў дамоўцы, не то, каб яшчэ дагледзяць гаспадарку. Думаў, думаў чалавек да й надумаўса жаніцца ўдругае. Запрабаваў ён пасватаць сабе дзеўку, але куды там — ніводная не хочэ йці за ўдаўца. Німа чаго рабіць, пачаў ён шукаць удаву. Але бездзетные ўдовы выбіраюць сабе хлопцаў да яшчэ жвавых да гожых. І ўзяў ён нарэшце адну ўдаву да яшчэ з дачкою. Па немалум часе пашла ў яго хаце калатня да сварка. Дачка жонкі была такая дзераза, такая языкатая да паганая, што просто беда. Німа таго дня, каб яна не скрыўдзіла яго дачухны. Да й жонка не ўзьлюбіла паччарыцу, пачала яе зневажаць да папікаць, што яна та то, та сё не так робіць, як трэба. Цісьне да пiліць

паччарыцу, есь яе, бы йржа жалезо, а сваю дачку песьціць да балуе. Пазірае той чалавек, шкода яму дачухны, аж серцэ кроўю абліваецца, але нічога не парадзіць з паганаю бабаю. От адзін раз паехаў ён дзесь далеко траляваць на рум дзераво да й замарудзіў там мо з тыдзень. Тым часам дома немашака на хлеб мукі. От і пасылае тая жанчына паччарыцу на вадзяны млын змалоць збожэ. Узваліла тая мешок на плечы да й паперла ў млын. Толькі яна засыпала збожэ ў кош, як ось і падбегае к ёй якісь панічок у капелюшыку. «Хадзі, красотка, к нам на йгрышчэ»,— просіць ён дзеўчыну. «Як жэ я пайду,— атказвае яна,— калі я босая».— «Я дам чаравікі»,— сказаў чорт. А гэто, бачыце, быў чорт і намерыўса ён загубіць дзеўку. Палецеў чорт да й прынёс дзеўцы гожые чаравікі. Абула яна чаравікі да ўсе пазірае на свае ногі. «Ну, хадзем на йгрышчэ».— «Ой, што ты кажэш? Як жэ я пайду ў чаравіках без панчох. Гэто ж мене дзеўкі засьмеюць, скажуць, якаясь прасталытка».— «Я дам панчохі». І пабег чорт па панчохі. Пакуль ён бегаў, дзеўка й змалола збожэ да й зсыпала муку ў мех. Прыносіць чорт панчохі да й падганяе дзеўку, каб яна хучэй пераабувалаcа. А яна пераабуваецца бы мокрае гарыць да ўсе пазірае, ці хутко дась Бог дзень. Яна дагадаласа, які гэто панічок, але бачыць, што папаласа, дак трэ хітраваць. «Ну, цепер добра, хадзем».— «Што, ты кпіш ці што? Як я пайду ў беседу, калі ў мене спадніца, бы заткало».— «Ну, гэто не беда! Духам прынесу табе спадніцу». І пабег чорт з млына. Тым часам засьпевалі пеўні. Рада тая дзеўчына. От узваліла яна на сьпіну муку да чуць не бегом паперла да гасподы. Зьдзівіласа мачаха, што паччарыца не загінула на заклятум млыне да яшчэ аб такую пору вернуласа дамоў. «Ну, што, гунсват, змалола збожэ?» — пытае яна. «Аджэ змалола»,— атказвае тая. Зірнула тут мачаха на паччарыцу да як убачыла на ёй такое гожае адзенне, дак аж рукамі сплеснула. «Дзе ты ўзела гэстае плаце!» — крыкнула яна. Тая й раcказала, што на млыне яе пазваў паніч на йгрышчэ танцаваць да за тое падараваў ёй опратку. Сердзіта мачаха, бы гадзюка, аж пражэцца, не мажэ дачакацца вечара. «Ото ж мая дачухна яшчэ не такіе дастане шаты»,— кажэ яна да й

пасылае сваю дачку ў той млын малоць збожэ. Даў Бог вечар, і пашла дзеўчына ў вадзяны закляты млын малоць муку. Толькі яна прыпхалася туды, як ось і падбегае к ёй той самы панічок і заве на йгрышчэ з сабою паскакаць. А яна кажэ: «Дай мне самае гожае плацьце да чаравікі, та пайду».— «Добрэ, дам»,— атказвае чорт да й пабег у карчму, дзе была багатая ландарка. От ён злупіў з яе опратку да й прынёс той дзеўцы. Апрануласа яна да хучэй пашла на йгрышча. Вывеў гэто яе чорт пад коло, дзе мітусіцца вада, і здалосо ёй, што гэто там скачуць паненткі, сунуласа яна туды да й загібла. Насілу на заўтрэ тая баба пазьбірала яе костачкі да шмацьце. А паччарыца выбрала сабе гожаго хлопца да й пабраліса яны. Мо й да тых час яны яшчэ жывуць, як усе добрые людзі, да хваляць Бога.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 16. СМАЧНО

Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён не то каб сказаць вельмі багаты, а так сабе заможны гаспадар. Так, як усе, жыў ён сцісло, а як дась Бог сьвято, та любіў з добрымі людзьмі смачно паесьці да выпіць так, каб іці, за плот дзержаўшыса. Адзін раз паехаў ён у место зь якімсь-то панам, каморнікам, ці што. Заехалі яны ў карчму. Пан улез у алькерык і велеў падаць сабе выпіць да закусіць. Ведамо, пан грошэй не шкадуе, выпіў гарэлкі, закусіў да й пачаў піць гарбату. А просты чалавек, ведамо, шкадуе траціць грошы да дастае сабе з торбачкі сухі хлеб да кіслые агуркі да й есь. Пабачыў пан, што той чалавек пазірае на яго, бы сабака з-пад стала, да й даў яму шклянку гарбаты. Узяў ён гарбату да й хацеў яе выпіць обмегам, бы чарку гарэлкі. Гарбата яшчэ была гарачая, й ён чуць не спёкса да так пырхнуў, што аж пану забрыскаў вочы, а шклянку кінуў далоў. «Нехай яна згарыць, гэстая гарбата,— кажэ ён, як трохі ачухаўса,— гэто добрэ паном, а нашаму брату гарапашніку яна шкодзіць». Усьміхнуўса пан да й даў

таму чалавеку даедаць аб'едкі якоесь вельмі смачнае рыбкі. Тая рыбка яму вельмі спадабаласа. Ён з'еў яе з костачкамі, а самую блешаную каробачку, у якой яна лежала, вымазаў хлебам да й вылізаў языком. «Ну,— думае ён,— пачакай жэ, ■ зраблю дзіво,— й пашоў ён да й купіў сабе каробачку тае смачнае рыбы.— Цераз тыдзень у нас хвэст, дак трэ пачаставаць папа, та мо ён не будзе лаяцца, як пайду ладзіць весельле. А ўжэ пара даць спосаб майму хлапчуку. Эгэ ж, пачастую папа. Пеўне ён яшчэ ніколі й не каштаваў такое смачнае рыбы. Ото ж здзіваяцца людзі!»

Прыўёс ён каробачку тае рыбы да й нікому й не паказаў, чакае сьвята. Ось падышло сьвято; набралі людзі гарэлкі, наварылі, напеклі да насмажылі ўселякае ўселячыны. Прыехаў поп з дзяком і пачалі служыць у цэркві. Паапраталі людзі лепшую адзежу да й пашлі пад цэркаў, хто памаліцца, паставіць сьвечку да даць папу саракоўку на абедню, а хто людзей паглядзець ці себе паказаць або сустрэць сяброў да знаёмых і пазваць іх к сабе на пачостку. Пашоў у цэркаў і той чалавек, але не маліцца, а толькі папрасіць папа, каб ён прышоў к яму на пачостку. Поп абецаў зайці просто з цэркві. От той чалавек пабег да господы, прынёс у хату тую блешанку, разсек яе сакераю да развернуў долатам, дак аттуль так гожэ запахла рыба, што ён аж пачаў аблізвацца. От пакрыла баба стол да й наставіла на ём уселякае ўселячыны, а ён на самум покуці, дзе седзіць ці поп, ці дурэнь, паставіў тую рыбу, а сам зноў пашоў у цэркаў. От стаіць ён у цэркві, шэпчэ малітвы, а сам усе думае пра тую рыбу, думае, якая яна смачная й як спадабаецца папу, як усе суседзі будуць яму завідуваць да дзівіцца, скуль ён дастаў такую смачную рыбу. Схаменуўса ён, пачаў хрысьціцца да атбіваць паклоны, але як ён ні хрысьціўса, як ні стукаўса йлбом аб гразкую да мокрую падлогу, а смачная рыба ніяк не выходзіць з галавы. Што ён ні рабіў, а не мог вытрымаць, каб не зьбегаць да господы. Тут ён нібыто ўспаменуў, што яшчэ не ўсе сказаў жонцы, што трэ прыгатаваць такому велікаму госьцю, а тым часам не вытрымаў, каб не зірнуць да не панюхаць вельмі смачнае рыбы. От ужэ

дзяк заўёў «харуімы», зрабіў колькось выкрутасаў, выцягнуў, бы журавель, доўгую шыю, стаў на пальчыкі й так увесь падняўса ўгору, баццэ хацеў палецець, каб прапець такім тоненькім галаском, як паюць на небе анёлы. Людзі пачалі хрысьціцца да кланяцца. Зірнуў той чалавек, што ўсе моляцца, што на яго не звернуць увагі, дак ён бокам, бокам паўз сьцену да й выплішчыўса ціхенько з цэркві. Тут ён падумаў, што яго ўжэ ніхто не прыкмеціць, але як на ліхо насустрэк чорт несе кума. Ён хацеў увільнуць ат кума да й павернуў на агароды, але там было вельмі гразко, так што ён мусіў рукамі чапляцца за платы, каб прайці. Затым ён замарудзіў. Тым часам кум, мабыць, дагадаўса, шалыгнуў шырокім крокам да й загарадзіў яму дарогу.

— Дабрыдзень, куме! — насілу вымавіў той, выняўшы з зубоў люльку й сплёўваючы, каб пачаць гаворку.

— Здароў быў, куме!

— Куды гэто ты прэсса цераз агароды?

— Хачу збегаць да гасподы. Штось асца сьліну гоніць,— схлусіў ён і пачаў плеваць.

«Брэшэ»,— падумаў той да і кажэ:

— От і ў мене штось кала сэрца завіло,— тут ён пачаў рукою круціць на грудзях.

— Хіба хадзем, куме, да заморым чарв'яка, бо гэто, мабыць, рабакі,— прыбавіў ён.

— Куды цепер іці? Будуць людзі сьмеяцца.

— Чаго ж нам, куме, йці ў карчму? Хадзем лепш ка мне.

— Чаго к табе? Та ўжэ ж хадзем лепш ка мне.— Тут ён спомніў пра рыбу й не мог вытрымаць, каб не пахваліцца перад кумам.

— А гарэлка е?

— Трохі е. Хадзем. Я штось табе пакажу.

— Хадзем.

От улезлі яны ў хату якраз тагды, як баба пекла блінцы. От яна накінулася на гаспадара, чаго ён пашоў з цэркві да й давай яго страміць да зневажаць. Лаецца баба на чом сьвет стаіць, а ён маўчыць да толькі чмыхае носам, ведамо, як вінаваты.

— Ось штось сьліну гоніць. Мабыць, асца,— кажа ён.

Туть баба яшчэ гарэй пачала крычаць і крычала да лаяла патуль, пакуль аж ахрыпла, от толькі тагды замоўкла. От гаспадар зняў з паліцы пляшку гарэлкі да й наліў добрую чарку.

— Дай жэ, Божэ, за год дачакаць да здаровенькім дар Божы спажываць,— сказаў гаспадар, перахрысьціўса й чуць-чуць хлебануў з чаркі, але выцяр рукавом мокрые вусы, даліў чарку й даў куму.

— Дай жэ, Божэ, каб усе было гожэ, каб здаровы былі да багаты да гаршком грошы мералі. Будзь здарова, кума! — От ён перахрысьціўса, абернуў у рот чарку да толькі плюнуў, што вельмі добрэ.

— Але ж і гарэлка ў кума добрая,— сказаў ён дзеля хвасону, падняў палу сьвіты да й выцер вусы й бораду.

— Закусі, куме, чым Бог паслаў.

— А што ж ты хацеў мне паказаць?

— Эгэ ж, а я чуць не запаметаваў. Ось гэтую рыбку. Ці бачыў ты, кум, такую, ці не?

— Не ведаю, ці бачыў. Ось закаштую,— й пачаў ён смакаваць тую рыбу.

— Ото ж і смачно, ото ж і смачно,— гаворыць ён да ўсе есь тую рыбу.

Бачыць гаспадар, што ўжэ хутко папу нічога не застанецца да й намекае куму, каб ён дагадаўса й больш не еў.

— Бо й дораго ж.

— Звесно, дораго, дак затое й смачно. Але от скажы, куме,— гаворыць ён, падставіўшы к сабе блешанку з рыбаю,— чаму яна такая смачная?

— Бо й дарагая ж, на яе ўсе ліхо! — чуць не крыкнуў гаспадар, як убачыў, што кум ужэ даедае тую рыбу.

— От затым то й смачно, што вельмі яна дарагая,— сказаў кум да й вымазаў начысто каробку.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 17. НЕ ТУТ, ДАК ТАМ

Жыў сабе адзін вельмі скупы чалавек. Ён быў такі скарэда, што не то, каб другім, але й сам сабе шкадаваў даволі наесьціса. От і прадражнілі яго скупердзягаю. Бало цыгае ён па полі бы бусел да зьбірае каласы па йржышчы. Убачаць яго дзеці да й крычаць: «Лядзі, лядзі, онь цыгае Скупердзяга». Ніхто не ведае, ат каго тое пашло, толькі ўсе пачалі гаварыць Скупердзяга да й Скупердзяга. Перш ён кідаўса на дзецей да лаяў іх, а потым і прывык. Дась Бог сьвято: зьберуцца людзі дзе-небудзь на вуліцы, закураць люлькі да й гамоняць сабе пра тое, пра сёе, шуткуюць да радзяцца, калі што сеяць ці зьбіраць, калі начынаць касіць або што другое. А Скупердзяга яшчэ да сонейка схопіць торбу да весло, пералезе цераз платы, каб ніхто не ўбачыў, да й суне на рэку лавіць рыбу. Камары ці авады рэжуць яго бы нажэм, мошкі вочы сьлепяць, а ён і не варухнецца, седзіць на беразі да й не дышэ, каб не спалохаць рыбіну. Пакуль людзі гамоняць да кураць люлькі, дак Скупердзяга нацягае поўну торбу акунёў да язёў. Убачаць людзі, як ён прэ дамоў рыбу, да й пачнуць на кпінкі прыставаць, каб даў ім закаштаваць тае рыбы, а ён бежыць сагнуўшыса й не пазірае на людзей, але хучэй суне да гасподы, бы воўк у лес. «Скупердзяга, дай хаць якого-нібудзь бабура або ментуза»,— чуе ён збоку, але прэ моўчкі й не азіраецца. «Скупердзяга дак скупердзяга й есь»,— сьмеюцца людзі, а ён хаць бы што, маўчыць бы пень. А добрэ ён умеў лавіць рыбу. Бало цэлае лецячко ловіць да сушыць, а сабе шкадуе й закаштаваць. От выдаўса добры год, налавіў да насушыў Скупердзяга рыбы цэлы воз, запрог кабылку да й паўёз у места прадаваць. «Куды ты, Скупердзяга?» — пытаюць людзі. «У места».— «Везеш на продаж рыбу?» — «Нехай сабе й так»,— кажа ён да сьцёбае кабылку пугаю, каб не слухаць, што там гавораць. «Прывезі нам абаранкаў, Скупердзяга!» — леціць за ім насьмешлівы голас, а ён сьцёбае кабылку да тузае лейцамі. «Усе дай да дай,—

мыркае ён сабе пад нос.— На гатовае кожын разявае халяву... А ты не выскаляй зубоў з маладзіцамі да йдзі сам сабе налаві. Мо трасцу схопіш, а не рыбу. Ну, старое падло, каб цебе ваўкі зарэзалі, цягніса, ваўкарэзіна, [redacted] то як сперажу, дак і ногі выпруціш»,— пужае ён кабылку, а тая целюхкае памаленьку церaз гаек кала ракі, дзе маскалі пабудавалі сабе на лето буданы з палатна да й дужаюцца сабе ці качаюцца па траве. «Здраствуй, хаджаін! Дай агню прыкурыць сабачую ножку»,— просіць Скупердзягу адзін маскаль. «Здрастуй, служывы!» — атказвае ён і супыняе кабылку. Абступілі яго маскале, закурылі сабачыя ножкі, гамоняць да распытоўваюць, куды ён едзе й што везе на прадане. Рад Скупердзяга, што такіе важные маскалі гавораць з ім за панібрата да й вушы разьвесіў. Тым часам адзін маскаль штось шапнуў другому. Той павернуўса на падборах да й пабег к рацэ. Там ён прывезаў к вероўцы долато да й пачаў яго швыраць у воду. «Што гэта ён робіць?» — пытае ў маскалёў Скупердзяга. «Ловіць рыбу»,— атказваюць яны. «Чым жэ ён ловіць?» — «Долатам». «Што за дзіво,— думае Скупердзяга,— здаецца, я добрэ ўмею лавіць рыбу, а ніколі не бачыў, як гэто ловяць рыбу долатам». «І добрэ берецца?» — пытае ён. «Вельмі добрэ. Ён сегодня много наловіць». Зацікавіўса Скупердзяга, злез з воза да й пашоў к рацэ глядзець, як маскаль долатам ловіць рыбу. Падходзіць ён туды, аж маскаль швырне долато ў рэку да й прыкажэ: «Берыса, рыба, малая й велікая!» Выцягне ён долато да зірне, што на ём нічого немашака, атойдзецца далей да й там швырне долато ў воду. Выцягне памаленьку вероўку — пусто, от ён швырне ў другое мейсцо да й кажэ: «Не тут, дак там, не тут, дак там!» Ведзе ён Скупердзягу паўз рэку ўсе далей да далей да злуе, што не берэцца рыба. «Не пачом! Не тут, дак там...» Кідаў, кідаў ён долато, пакуль надаело. «Не, мабыць, затым не берэцца, што вельмі горачо печэ сонцэ,— кажэ маскаль,— хіба ж лепш пакупаюса». Раздзеўса маскаль да й палез у воду. Купаецца маскаль да паказвае, як бабы плываюць.

Пабачыў Скупердзяга тую прахтыку да й вернуўса к возу. Зірне ён, аж німа маскалёў, німа й яго рыбы. Ён туды, ён сюды — німашака рыбы, баццэ яна ў воду плюхнула.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 18. НЕХАЙ ПАНІЧОМ ЛАГОДКІ

Жыў у нас ландар. Пакуль ён седзеў у карчомцы да шынкаваў гарэлку, дак шолудзі ніколі не зходзілі з яго мазгаўні. Але, не седзіцца яму ў карчомцы, бегае бы непрытомны та на ўёску, та ў двор, та да млына, та на рум. Бегаў ён, бегаў, круціўса бы ўюн у рэшаці, нарэшце прычапіўса шапарам у багатаго купца на руме. Пачаў ён там аблічаць вошчыкаў да круціць людзям плату за работу, дак тым вельмі спадабаўса купцу. От і зрабіў той яго самым старшым шапарам да й паслаў у Кралевец прадаваць лес. Зарабіў той много грошэй, наглядзеўса, якая карысь з лесу да й пачаў сам купаваць пушчы. Загубіць адзін лес, дак хучэй закупляе другі, а праз гадоў п'яць немаль зпляжыў лес ва ўсёй акрузі. Бачыць, што больш німа карысьці з лесу, от ён і ўзяў арандоваць велікі маёнтак у аднаго пана, каторы заўжды дзесь круціўса за граніцаю, ці мо ў Аршаве. Але, ведамо, сам ніколі гаспадаркі не ўёў, дак і не ўмее даглядаць земельку. Папробуваў адно лецячко гаспадараваць сам, аж трасца яму зрадзіла на полі, а не збожжэ; от ён на другі год ужэ наймае сабе акамона да й дае яму поўную ўладу рабіць, што зхочэ й як знае, а сам застаўса ў месьце весьці гандаль. Маёнтак быў вельмі добры. Акамон так паўёў дзело, што ў двары ўсяго много: узгадаваў ён гаўядо, развёў уселякіх птушак да сьвіней цэлую чэраду. Еж, што зхочэш, хаць расперажыса. Дачуўса «новы пан», што ў том двары вельмі добрэ жыць улетку, й захацеў ён прывезьці туды на лето сваю балабосту да бахуроў, але перш паехаў сам. Бахуры ўжэ былі нелапые хлопцы й вельмі хацелі пажыць лето

ў паньськум маёнтку, баццэ панічы. От прыехаў «новы пан», агледзяў двор і вельмі яму не спадабаласо, што акамон развёў там много сьвіней да ўселякаго птаства. Пашоў ён у вагород, аж там якурат жонка акамона нарвала цыбулі да й несе да станцаі. «Насто ты рвес цыбульку?» — пытае ён. «Ведамо, на што»,— атказвае тая.— От зтаўку да зраблю квас, та будзем палунуваць, бо больш німа чаго есьці». Пабег «пан» к акамону да й наваліўса на яго...

«Сто ты, сто ты робіс, насто пазваляес рваць цыбульку? Цаму ты не рэзес гусей, індыкаў? Насто табе сьвіне? Калі да ес хаць усе, а лагодкі нехай паніцом».— «Якіе лагодкі?» — пытае акамон. «Ведомо, якіе, цыбулька, рэцька да часнок. Ес усе, а нехай лагодкі маім паніцом».

Даніло Кулеш

Чудзін

## 19. ЦЕСЬЛЯ

Сабраўса адзін стары чалавек будаваць сабе хату. «Я ўжэ недоўго пажыву,— думае ён,— але збудую добрую хату. Нехай мене памінаюць унукі да праўнукі». Наняў ён цесьлю да й пачаў з ім выбіраць место. Аблюбавалі яны харошае место на ўзгорачку, дзе з даўніх часоў лежаў велікі камень. Цесьля аснаваў хату так, што камень якраз застаўса на покуці пад вуглом. От ужэ чуць не саўсім гатова хата, як ось прышоў к таму старому другі малады цесьля. Пачалі яны аглядаць хату. Пазайздросьціў той новы цесьля свайму таварышу, што ён вельмі добрэ збудаваў хату, да й пачаў дурыць старому голаў, пачаў яму гаварыць, што тое не добрэ, тое не гожэ, камень не на месьці, да так падбухтэрыў старого, што той і сам пачаў думаць: а мо й сапраўды хата кепсько пабудована. «Што тут рабіць? — думае ён.— Малады цесьля гожэ меле языком, але нічого яшчэ не будаваў да, мабыць, і не ўмее будаваць. А калі ён та-

кі гойстры да такі здатны, як сам себе хваліць, дак нехай памагае старому цесьлі, нехай вучыцца да робіць, як лепш». І наняў ён маладого цесьлю, каб ён памагаў старому. І пачаў тут малады цесьля перарабляць да псаваць та тое, та іньшае да ўжэ такоўськаго нарабіў, што брыдко й людзям паказаць. Бачыць ён, што кепсько да й кінуў тую будову. Тым часам стары чалавек памёр. Гаспадаром застаўса яго малады сын. З гэстым сынам ужэ даўно таварышаваў той малады цесьля. От ён і давай падбухтэрваць маладого гаспадара, што трэ хучэй дабудаваць хату, але што яна так кепсько будована, не мае жоднага хараства, што яе трэ хіба саўсім перарабіць. Слухаў той, слухаў, німа як плюнуць таварышу ў вочы, але каб атчапіцца, наняў яго разам з старым цесьляю дабудаваць тую хату. От малады цесьля перш зьвернуў дах да зрабіў новую стрэху з цацкамі да з пеўнікамі. Але пачалі людзі сьмеяцца да казаць, што гэто не хата, а якаясь будка. От і пачаў ён з року ў рок перарабляць у той хаці та адну сьцену, та другую, та вымаць падваліны, та прасекаць новые дзьверы, нарэшце вывернуў з-пад вугла той велікі камень. Пахіліласа хата на адзін бок да так і стаіць на сьмех добрым людзям. «Тут мало добраго матэрыялу,— кажэ вельмі разумны малады цесьля,— трэба навазіць лепшаго». От і пачаў ён выбіраць да вазіць лепшы матарыял. Навазіў ён лесу цэлую гурбу, роўно з хатаю. От выкіне з сьцяны бервіно, паложыць туды новае, паглядзіць — не гожэ, зноў вымае да закладае новае. Так і не дабудаваў ён хаты.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 20. ДВА КАМЕНІ

Лежыць на шляху вялізазны камень. Хто ні йдзе, та супыніцца кала яго, пасядзіць, супачыне, а то й пасілкуецца трохі. Мо са ўсяе акругі знали людзі той камень і шанавалі яго. Забудаваў сабе адзін чалавек

млын, але німа дзе ўзяць каменёў. Паехаў ён у места да й купіў там верхні камень, узваліў яго на воз, запрог пару валоў да й везе па шляху. Пад'ежджае ён к таму мейсцу, дзе лежаў той камень, толькі ось прыгрэло сонейко, напалі на валоў авады, сьлепні да здракі да як пачалі іх рэзаць, дак на тых аж шкура лопаецца. Матаюць валы хвастамі да круцяць галавамі, аж кульбакі да занозы трашчаць. Лежыць на возе камень да думае: «От які я важны да патрэбны людзям, што мене вязуць як пана. Вельмі я слаўны да высокі, не такі, як ось той, што валяецца онь на шляху. Набок з дарогі, бо расцісну як порхаўку!» Тут валы як закруцілі, дак і зачапілі за камень: вось зламаласа, воз пахіліўса, гардны камень шусь далоў да так рэзнуўса аб той камень, што аж печанцы ў яго трэснулі. Лежыць ён і не варухнецца да толькі злуе, што прышлосо легці разам з такім брыдкім каменям. Пабедаваў чалавек да й пацёгса з валамі да господы. Потым дагадаўса ён, што гэто так Бог даў, каб зьвернуць яго ўвагу на той камень. От пазваў ён майстра, агледзяў той да й выкаваў у млын сподні камень з таго вялізазнаго каменя, што дарам валяўса на шляху. Прыўёз той чалавек абудва камені да млына да й палажыў іх як трэ ў под. Лежыць сподні камень да толькі радуецца, што хаць нарэшце дачакаўса таго, што мажэ паслужыць людзям, мажэ малоць ім муку, каб яны з яе пеклі сабе дар Божы. А верхні камень скрыгічэ зубамі ат злосьці да лае сподняго таварыша: «Куды табе да мяне! Як захачу, дак я цебе задушу. Не ты, а я мелю муку да й мелю толькі тагды, як сам хачу. От пабачыш, як я замелю». Пры гэтум ён так закруціўса, так зашумеў, што аж распаўса на кускі. Пабедаваў мельнік да й выкінуў тые кускі ў гразь, як нінавошто не патрэбные. Купіў чалавек новы верхні камень, доўго малоў, але й той змалоўса. А сподні камень папаўса такі добры, што меле мо й да тых час.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 21. СТРАЛЕЦ І РЫБАК

Праўду людзі кажуць, што ў стралца дым густы, да абед пусты, а рыбак як памочыцца, та есьці й не хочэцца. Былі ў бацька два сыны. Вырасьлі яны як дубы, а бацьку ўсе палёгкі німа. Большы старэнны быў хлопец, але з самаго маленства толькі рабіў пасткі да ўселякіе лавушкі, а як падрос, дак дастаў сабе стрэлбу да й пачаў з ею пестувацца. Людзі йдуць на работу, а ён ускіне стрэлбу на плечо да й шмык у лес або ў балото. Цягаецца там увесь дзень, а прыдзе да гасподы з пустымі рукамі да галодны бы воўк. Перш сварыўса на яго бацько, але потым і замаўчаў, бо бачыць, што нічого не парадзіць, калі такая ў сына ахвота. Цягаецца стралец, аж у яго жылы рвуцца, а прыбытку німа ніякаго, бо ён пук, дзесяць грошэй з рук; дым густы, а абед пусты. А часамі зловіць зайца за яйца дак і таго хучэй несе пану, каб той даў пораху. А меншы сын прыдаўса такі гультай, што хаць вазьмі да й выгань вон. Не хочэ ён ні за што ўзяцца ў гаспадарцы, толькі дзень і ноч седзіць на рацэ да вудзіць рыбу. Наловіць ён шапку бабуроў ці плотак — якая там у хаджайству карысь? Пачаў і на яго бацько сварыцца, што толькі марнатравіць час, а не робіць дзела. Але й меншы сын не слухае бацька, бо, ведамо, ахвота гарэй неволі. Як яму рабіць дзело, калі яго цягне на рэку? Думаў, думаў стары, як тут атвучыць сыноў ат ліхого налогу, але нічого не мажэ прыдумаць. Толькі ось прыходзіць к яму якісь дзедок да й застаецца на нач. Жаліцца стары таму дзедку на сваіх сыноў, жаліцца, што нагадаваў дзецей, а не мае на старасьці падмогі. Выслухаў дзед да й парадзіў яму, што зрабіць. От на другі дзень сабраліса сыны ў хату, селі вечэраць да й пачалі расказваць, якіе з імі за дзень былі прыпадкі. Большы сын кажэ, што яшчэ з самаго рана натрапіў ён цэлую чэраду коз. Была там каза з казенятамі да стары барадаты казёл, але от толькі ён злажыўса, каб выстраліць, аж у казла ў ноздрах закруцілі восы. Казёл як чмыхне, як вылеціць з ноздраў цэлы рой вос да як пачне рэзаць казу з казенятамі, дак яны ўсе й сунулі гушчэчу. Пашоў ён, кажэ, сачыць па сьледу да й спаткаў лося да такого рагаля, што было б мяса на паўгода.

Прысеў гэто ён за пень да й чакае, пакуль лось падыдзе бліжэй. Садзіць рагаль проста на яго, садзіць, аж земля стогне да толькі рагамі алешнік ломіць. Падышоў ён моо ўжэ на паўгоні ці меньш, але ось прыгрэло сонейко, й закруцілі ў яго ў ноздрах шаршні. Трымаўса, трымаўса лось да як чмыхне, дак і вылецяў з ноздраў цэлы рой шаршнёў. От лось верць галавою да й сунуў у выжар купацца, каб абагнаць шаршнёў. Ён выскачыў з-пад куста да за ім, але куды там дагнаць гэстакую цыглатую махіну. Німа чаго рабіць, пашоў ён далей да й хацеў прайці праз алёс. Толькі ён праплішчыўса праз гушчэчу да вылез на прагаліну — зірне, аж там стаіць на задніх лапах велізазны, бы вол, медзьведзь, чмыхае да абганяецца перэднімі лапамі ат чмелёў. Дагадаўса ён, што гэто толькі што чмелёў рой вышаў з ноздраў медзьведзя, дагадаўса, што ў такі час медзьведзь вельмі драпежны да й пабаяўса страляць, а скарэй узлез на алешыну. Дак от, кажэ, й седзеў там моо гадзін п'яць, каб не сустрэцца з медзьведзям. А шкода, што не стральнуў,— добрая б была шкура. Пачаў разказваць і малодшы сын, як ён лавіў рыбу. От, кажэ, от-от хопіцца на кручок велізазная рыбіна, падцягну я яе к берагу, а яна віль хвастом да й адарвецца. Адну п ўжэ чуць не ўхваціў рукамі, толькі не ўтрымаўса да й шабулдых у воду. Насілу выкарапкаўса. Слухаў, слухаў бацько да й кажэ: «Мусіць, сынкі, зьверына ў лесі, а рыба ў рацэ да не ў руцэ. Стралец страляе, а гаспадарка гуляе. Рыбак рыбу вудзіць да век нудзіць. А гаспадар на сваём агародзе раўня ваеводзе. Я ўжэ стары, моо скоро памру. Пара думаць пра сваю душу, бо сьмерць не за гарамі да за плечамі. Жывеце, сынкі, як знаеце, а я пайду ў сьвет, пакланюся сьвятым угоднікам да памалюса Богу за сваю грэшную душу». Сказаўшы тое, пачаў стары зьбірацца ў дарогу. Па немалум часе пашоў стары ат цэркві да цэркві, ат прошчы да прошчы. Засталіса сыны без бацька, а гаспадарка без гаспадара, дак хутко ўвесь двор запусьцеў. Не пасьпелі стралец да рыбак азірнуцца, як німа чаго й у рот палажыць. От і пачалі яны спрачацца, хто вінават. Спрачаліса, спрачаліса, але праўды не даканаліса. Толькі ось прыходзіць к ім той самы дзедок, што заходзіў к іх бацьку, да й застаўса на

нач. Трэ пачаставаць падарожнаго, а тут нечым. Стралец кажэ брату: «Нехай бы ты наловіў рыбы, каб было чым прыняць божаго чалавека». А рыбак адмаўляе брату: «Нехай бы ты настраляў зьверыны, каб пачаставаць старца». «Дзякуй вам на добрум слове,— кажэ старац,— у мене е хлеб, што добрые людзі далі». От дастаў ён з торбы хлеб, сала, сыра да яец і пачаў частаваць стралца да рыбака. Як ні сорам было ім прымаць пачостку ат беднаго старца, але голад не свой брат, забудзеш і сорам. Накінуліса галодные стралец да рыбак, дак чуць не ўсю торбу апрасталі ў старца. Наеліса яны, дак і пытае іх старац, чаму яны такіе бедные. «Хіба,— кажэ,— вам Бог даў якое нешчасцье, ці што». Перш сорам было ім прызнавацца, а нарэшце-такі прызналіса, што ў іх прапала гаспадарка. «А як жэ вы ўперад жылі?» — пытае старац. «Бацько гаспадараваў»,— атказваюць яны. «А ён малады ці стары?» — «Стары».— «Дак от бачыце, ён стары да гаспадаркаю карміўса сам і карміў вас, а без гаспадаркі вы й маладые да здаровые не мажэце пражыць». Дагадаліса браты, што ні зьверыною, ні рыбаю без гаспадаркі нельга жыць да й узяліса яны за хаджайство. От хутко яны направілі гаспадарку, а тым часам вернуўса стары бацько. Зірнуў ён тудысюды да й пазнаў, што яго сыны набраліса розуму, што страляюць тагды, як зьвер набежыць, а рыбу ловяць, як яна сама ў кош лезе. От ён і кажэ: «Цепер я спакойно памру, бо бачу, што мае сыны ні стралцы, ні рыбакі, а гарапашнікі гаспадары, як і я сам».

Даніло Кулеш

Чудзін

## 22. ПАН І МУЖЫК

Быў адзін вельмі добры маёнтак. Землі як воко схваціць, а земля добрая, зраджайная, от здаецца, пасадзі дзіця, дак і тое вырасьце. А сенажаці мурожные да берагі — сена некуды дзеваць. Двор кала самае ракі. Будынак — палацы. Дабра, аж будоўля ломіцца. Кругом сад, бацэ ў раю. Такая пану жытка, што й памі-

рацць не трэ. Але што паны, яны заўжды ат дабра круцяцца. Так і той пан. Прыедзе бало ў двор, бегае бы шалёны да крычыць на камысара, лае дворню, а тые жаляцца на нашаго брата мужыка. А, ведамо, так заўжды, што калі што не так, дак вінават мужык. «А дацць яму сто гарачых»,— крычыць пан. От табе і ўся справа. Толькі тагды трохі супакоіцца пан, як прыдуцць к яму ў двор тые дзеўкі, каторых хочуць людзі брацць. Там была, бачыце, такая павядэнцца, што пакуль дзеўка не сходзіць к пану, датуль не можне рабіць весельля. От бало нагоняць к пану дзевок цэлую чэраду бы авец, а ён берэ ці к сабе, ці гасьцям. От пакруціцца пан з тыдзень ці больш да й зноў паедзе чорт ведае куды. Кажуць, ён усе ездзіў у Аршаву ці за граніцу. Яго лёкай раз падвыпіў, дак казаў, што ў пана быў такі другі маёнтак, але ён прайграў яго ў карты. Моо хлусіў, а моо й праўда. Толькі ось адзін раз вельмі доўго не было пана. Розно гадалі людзі. Другіе пашлі гаманіць, што ўжэ саўсім не будзе пана, што нас возьмуць у казну ці саўсім пусьцяць на волю. Толькі быў у нас адзін п'яньчужка, дак той праўду казаў, што балото без чорта не будзе — адзін загіне, дзесяць будзе. Дак тое на праўду й вышло. От якась перад Сёмухаю сагналі людзей у двор. Сышліса яны на дзедзінец, седзяць пакурваюць сабе люлькі да гамоняць аб том, аб сём. Ужэ сонейко паднялосо да й пачало каціцца долу, а яны ўсе седзяць да чакаюць вядамосьці, на што іх сагналі. Усхапіўса той п'яньчужка да й кажэ: «Хацць бы далі па чарцы гарэлкі чарвяка замарыць, а то штось кала серца от так і завіло». Пачалі людзі шуткавацць да сьмеяцца, от дзень і хучэй прайшоў. Зірнулі яны, аж ужэ й сонейко нізко, вечар блізко. Вышаў камысар да й велеў прыходзіць на заўтра ранеnько. «Ото ж дарам прапаў дзень, бацэ сьвіне зьелі»,— кажуць людзі да й цягнуцца хто ў карчму, а хто да гасподы, бо ўжэ духі падвело. Хадзілі так людзі без дайрацы моо колькі дзён, нарэшце ось і прыехаў асэсар і зь ім якісь незнаёмы пан. Пашлі яны ў пакоі да й пачалі сабе сілкавацца. Ведамо, паном часу много, а што людзі дарам петрэюць, дак ім клопату мало. Але ось ужэ перад самым вечарам вышаў к людзям асэсар з камысарам і новым панам, перачытаў якісь паперак

да й кажэ: «От вам новы пан. Слухайце яго да шануйце, та й ён не пакіне вас, а будзе вам як бацько». Тут падалі коней. Асэсар сеў да й паехаў, а новы пан забраў камысара да й пашоў з намі на поле. Толькі вышлі мы з варот, от і пачаў пан аглядаць поле да рахаваць, які гатунак грунту. А поле было ўзорано там яшчэ аб восень на зяб да так і засталосо не засеяна. Ведамо, за зіму раля зраўнялаcа, бацца й не горано. Ускочыў пан у сваіх ляксаваных ботах на кратавене да й праваліўса па самые костачкі. «От добрая земля»,— кажэ ён камысару. «Але, добрая»,— атказвае той. Пачаў пан пытаць старых людзей, якое тут лепш сеяць збожжэ, а тые кажуць, што як Бог дась, дак уселякае зародзіць. Схіліўса тут пан, узяў у жменю зямлі да й палажыў яе ў губу, нібыто смакуе, на якое збожжэ яе лепш абернуць. Пазіраюць людзі, што пан языком выбірае землю да па смаку пробуе, што на ёй добрэ зародзіць да толькі сьмеюцца з дурного пана. Яны думаюць, што пан толькі чмуціць, нібыто па смаку мажэ пазнаць добрую землю. От закаштаваў пан землі да й зноў пытае людзей, якое збожжэ тут лепш зародзіць. Маўчаць людзі да толькі пазіраюць адзін на другого. Але ось выскачыў той п'яньчужка да й кажэ: «Не, паночку, дарэмная хватыга! Толькі тагды ат землі пазнаць смак можэш, як на яе... (гною) паложыш».

Даніло Кулеш

Чудзін

## 23. БЕЗНОГІ БАГАТЫР

У неякум царстве, у неякум гасударстве жыў-быў каваль да каваліха. Спарадзіла каваліха, на яе ліха, гожаго хлапчука да безногаго. Расце хлапчук не на радась, а на горэ. Ведамо, калека зроду, якая радасьць бацьком. Гадуецца ён як пакідзішчэ. Управіцца каваліха кала печы да й бежыць у поле ці ў вагарод, а хлапчук валяецца па землі да смокче скарынку або жуе параную картоплю. Кінула яго раз каваліха на дзедзінцы, дак чуць яго сьвіне не зьелі. Не шкадуе каваліха, на яе ліха,

свайго дзіцяці, бо, кажэ, якая зь яго карысьць. Калека — не памога, а толькі абуза. Хаць бы яго Бог з сьвету прыбраў. А тут ён наперакор расьце да таўсьцее. Вырас ужэ хлапчук нелапы, але не ходзіць да толькі поўзае. Карміць яго кармі, а карысьці з яго ніякае німа. Яшчэ гарэй пачала яго праклінаць матка да наракаць на Бога, што даў ён сына не на ўцеху, як людзям, а на беду. Слухаў, слухаў каваль праклёны дурное бабы, але нічого не мажэ парадзіць. Шкода яму хлопца, але ат бабы жыткі німа. От нарэшце не вытрымаў ён, запрог кабылку, пасадзіў на воз сына да й паўёз яго ў лес. Заўёз ён далеко ат вёскі да й хацеў там пакінуць сына на страту, але ўбачыў у лесі маленькую хатку. Улез ён у хатку, аж там нікого німа. Зірнуў ён туды-сюды — у хаццы ўсе е, а гаспадыні німа. От ён унёс сына ў хатку да там і пакінуў, а сам сеў на воз да па кабылцы, да па кабылцы. Патарахцеў ён хучэй, не аглядаючыса, каб ніхто не дагнаў. Седзіць хлапчук адзін у хаццы да разглядае, што там е. Толькі ось прыходзіць якісь старэнькі дзедок і просіць напіцца. «Рад бы я даць табе напіцца,— кажэ хлапчук,— да не магу хадзіць».— «Прашкі,— кажэ дзедок,— зачарпні да перш закаштуй сам, ці харошая вада». А хлапчуку даўно піць хацеласо, хлебануў ён да й выдундзіў немаль поўны корчык. Як выпіў, дак атразу пачуў у сабе такую сілу, што здаецца ўсю землю паравернуў бы, каб толькі было аб што ўперціса нагамі. Напіўса дзедок да й кажэ: «Пі больш, бо табе трэ велікая сіла»,— да й зьнік, баццэ яго й не было. Падзівіўса хлапчук, думаў, што гэто яму прысьніласо, але бачыць, што ў яго здаровые ногі, што ён так ідзе, што пад сабою й землі не чуе. Напіўса ён яшчэ тае вады, дак і чуецца, што яму німа раўні на ўсём сьвеці. Хацеў ён яшчэ больш наліць вады да як узяўса за збан, дак і разгнёў яго, а вада вылілаcа. Схапіў ён ведро да й пабег да крыніцы. Шукаў ён яе, шукаў — німа, от бы ў землю правалілаcа. Варочаецца ён да хаткі, аж і тая прапала. Ён туды, ён сюды да так заплутаўса ў гушчэчы, што не ведае, куды йці. Пастаяў ён трохі да й пашоў просто. Ідзе ён, а сьпераду пападзецца тоўстая хвоя або дуб, як печ. От схопіць ён адною рукою дзераво, дак тое хрусьне бы саломіна. Ідзе ён да варочае дзераўлякі,

бацэ там віхар пралецеў. А ён ломіць лес дзеля таго, каб зрабіць метку да ўдругае туды не прыці. Доўго ён так ішоў, пакуль вышаў на дарогу. А там паабапал дарогі лежалі велізазные камені, бацэ валы. От і пачаў ён перакідаць тое каменьне на дарогу, бы картоплю. Толькі ось едуць багатыры. Пад'ехалі яны да й супыніліса, бо нельга ехаць далей — каменьне мешае. «Здароў, дзецюк,— кажуць багатыры,— што ты робіш?» — «Граю сабе»,— кажэ той хлапчук. От багатыры зьлезьлі з коней да хацелі апрастаць дарогу; узеліса яны за адзін камень, але не могуць яго й крэнуць. Падышоў тут хлопец да й згроб тое каменьне ў роў. «Паедзем з намі»,— кажуць багатыры. «Як жэ [redacted] паеду, калі ў мяне німа каня»,— атказвае хлопец. «Выбірай сабе каня з нашых». Пашоў хлапец выбіраць сабе каня, але толькі паложыць каню на сьпіну руку, дак той і ўпадзе на перэдніе каленкі. Перабраў ён так усіх коней, а сабе не выбраў ні годнаго. От пашоў ён з багатырамі, тые на конях, а ён пешкі. Толькі ось бачыць ён, што кала дарогі мужык скародзіць поле. Кабылка ў яго худая, маленькая, але жылістая. Палажыў ёй хлопец руку на сьпіну, а яна й не ўхмыліласа. От пачаў ён таргаваць тую кабылку, але мужык не хочэ аддаваць ні за якіе грошы. «Навошто мне грошы,— кажэ ён,— яшчэ хто заб'е, а без канякі як [redacted] ўпраўлюса з гаспадаркаю. Без канякі й чалавек не чалавек».— «Паменяй сваю кабылку на каня,— кажуць багатыры,— беры сабе на выбар, якого хочэш».— «Хто меняе, у таго хамут гуляе»,— кажэ мужык. Насілу багатыры ўламалі мужыка да за пару самых лепшых коней выменялі хлопцу тую кабылку. Сеў ён на кабылку, й паехалі яны далей. Толькі ось пад'ехалі яны к той вёсцы, дзе жыў хлопца бацько, да й сталі кала кузьні каваць коней. Не пазнаў каваль сына, так ён зьменіўса, да падкаваў і яго кабылку. От і просіць кавальчук, каб бацько выкаваў яму булаву. Сабраў каваль усе залезо да й выкаваў такую булаву, што ўтрох насілу яе варочаюць. Узяў кавальчук тую булаву, пакруціў яе адною рукою да як шыбануў угору, дак яна неведамо дзе й дзеласа. Стаяць багатыры да дзівяцца. Але ось па немалым часе й гудзе тая булава, бы гром грыміць, леціць уніз. Падставіў кавальчук калено.

Удырыласа булава аб калено да толькі скрывіласа. Прыбавіў каваль яшчэ з пуд залеза да й выкаваў мацнейшую булаву. Падзякуваў кавальчук, узяў тую булаву да паехаў з багатырамі ў сьвет. Прыехалі яны к аднаму цару й нанеліса на службу. Па немалым часе аб'явіўса там вельмі дужы зьмей і пачаў прылетаць да цягаць к сабе людзей. Багацько пахватаў ён людзей да й паеў іх. Нарэшце захацеласо яму царськаго мяса, от і схапіў ён царэўну да й зап'ёр к сабе ў лёху, але не есь, а трымае на закуску. Аб'явіў цар па ўсему царству, што дась таму паўцарства й аддась замуж царэўну, хто яе выбавіць ат зьмея, а яго заб'е. Много парываласо сілных багатыроў біцца з тым зьмеям, але ўсе яны там загубілі свае костачкі. Нарэшце вызваліса й тые багатыры, што прыехалі з кавальчуком. «Паедзем з намі,— кажуць яны кавальчуку.— Ты яшчэ малады, пара й табе шукаць славы. Паедзем, та мы цебе навучым, як біцца». Згадзіўса кавальчук, і паехалі яны разам. От едуць яны да едуць і пад'езджаюць, аж растанцы на дарозе й стаіць слуп, а на ём штось напісано. Быў з іх адзін пісьменны, от і пачаў ён чытаць. От і прачытаў ён, што хто паедзе направо, той дабудзе сабе славу, хто налево, знайдзе багатство, а хто просто, таго спаткае сьмерць. І пачалі тут багатыры выбіраць, куды хто ахвоч ехаць. Выбралі яны ўсе дарогу направо й паехалі шукаць славы, толькі адзін кавальчук кажэ, што ат смерці не атперці, дак лепш ехаць просто. Як ні адмаўлялі багатыры, а кавальчук упёрса да такі адзін паехаў просто. Праехаў ён трохі да й трапіў на тую самую хатку, куды яго заўёз бацько безногаго. Прывезаў ён кабылку да й улез у хатку. Зірнуў ён у кут, аж там у запечку седзіць вельмі старэнькая баба. «Здарова была, бабко!» — «Дзякуй табе, дзецючок. Куды Бог несе?» — пытае яна. «Паеду, бабко, просто». — «Не едзь, дзеткі, бо загінеш. Там зьмей з'есь».— «Не, бабко, паеду, хаць загіну».— «Шкода мне цебе, дзеткі. Ты быў у маёй хатцы, дак ты мне, баццэ родны ўнук. Дак от жэ слухай мене. Што ты ні сустрэнеш на дарозі, дак не забівай, та яно табе ў дарозі да ў бедзе паслужыць». Падзякуваў хлопец бабе да й паехаў далей. Толькі ён ат'ехаў ат хаткі, аж выскачыў заяц. Хацеў ён швырнуць у яго булавою, але той кажэ:

«Не бі мяне, и табе ў бедзе паслужу». Паехаў ён далей, а заяц бежыць за ім назіркам. Толькі ось выскачыў воўк. Ён за булаву. А воўк кажэ: «Не бі мене, буду табе патрэбен у бедзе». Апусьціў ён булаву да й паехаў далей. Бежыць воўк назіркам. От пад'ехаў ён к каменнуй гары. Німа як ехаць далей. Зьлез ён з кабылкі, пусьціў яе на пашу, а сам пашоў шукаць дарогі. Тым часам зьмей вылез з лёху жыраваць да якраз трапіў туды, дзе была кабылка. Бачыць воўк, што зьмей зьесь кабылку, от ён як напалохаў яе, дак яна й пусьціласа наўцекача сусіх ног да тым часам і ўцекла ат зьмея. Пажыраваў зьмей да й вернуўса к сабе ў лёху. От прыбег к хлопцу заяц да й паказаў яму тую шчыліну, дзе зьмей зачыніў царэўну. Пагрукаў хлопец булавою ў каменную сьцену, от там і паказаласа царэўна да й кажэ: «Уцекай, бо зьмей зьесь». А тут хлопец размахнуўса да як трэсьне булавою аб сьцену, дак яе й высадзіў. Кінуласа к яму царэўна на шыю да давай прасіць, каб даўёз яе к матцы да к бацьку. Тым часам зьмей высунуў голаў праз шчыліну да й хацеў зьесьці таго хлопца. Тут хлопец схваціў булаву да як рэзне па галаве зьмея, дак з яе й маскі пацеклі. От атрэзаў ён у зьмея язык да й палажыў яго сабе ў кайстру. Тым часам зьмей высунуў другую голаў. Хлопец і тую размажджыў да выразаў язык. Такім парадкам расквасіў ён зьмею ўсе дванаццаць галоў. Рада царэўна, што такі знайшоўса багатыр да й страціў ліхого зьмея. Спадабаўса ёй той хлопец і абецала яна, што пойдзе за яго замуж, як ён завезе яе к бацьку да к матцы. А што гэто праўда, дак яна разарвала хустачку да й дала хлопцу адну палавінку. Палажыў хлопец хустачку за пазуху да й лёг спаць, бо вельмі ўтаміўса, пакуль ухадзіў зьмея. Сьпіць хлопец багатырскім сном і не чуе, што беда блізко. Тым часам тые багатыры пад'ехалі туды, убачылі царэўну да й пачалі яе пытаць, як тое ўсе было. Расказала яна ўсе, як было, да й кажэ, што пойдзе замуж за таго хлопца. Пазавідувалі яны хлопцу, падбеглі к яму соннаму да й забілі яго. Потым пачалі яны спрачацца, каму павінна дастацца царэўна. Доўга спрачаліса яны, нарэшце пачалі біцца, пакуль пазабівалі адзін другого. Застаўса толькі адзін, самы дужы да спрытны. От ён прымусіў царэўну, каб

яна сказала бацьку да матцы, што гэты багатыр забіў зьмея й выбавіў яе з неволі. Німа ёй чаго рабіць, трэ згаджацца, бо яе каханага хлопца німа ў жывых. От той багатыр пасадзіў царэўну на свайго каня да й паўёз яе к цару. Тым часам заяц пабег да крыніцы, набраў там жывое вады ў рот, прынёс да й пырснуў хлопцу ў вочы. Ажыў той да й прахапіўса. Зірнуў ён, аж царэўны ўжэ німа. Дагадаўса ён, што тут было ліхо, да чуць не заплакаў ат жалю. Хацеў ён хучэй бегці к цару да расказаць там усю праўду, дак, ведамо, пешкі далеко не забежыш хутко. Тым часам воўк пабег па лесі да й трапіў яго кабылку. Напужаў ён яе да й прыгнаў туды. Сеў гэто хлопец на кабылку да й паехаў хучэй к таму цару. Прыезджае ён туды, аж там ужэ ўсе гатовяцца к весельлю. Пашоў ён к цару да й расказаў яму ўсю праўду. Не мае цар веры да й пытае ў дачкі. Але ведамо, тая кажэ толькі тое, што ёй велеў казаць той багатыр. От цар велеў за паклёп павесіць таго хлопца. Тут толькі пачалі яго пытаць, хто ён такі. «Я,— кажэ,— безногі багатыр, а больш я вам нічога не скажу». От ужэ ведуць таго безногаго багатыра вешаць. А тым часам царэўна пашла ў сад гуляць. Ідзе хлопец да й бачыць, што кала плоцья туляецца заяц. От ён выняў з-за пазухі тую хустачку да й кінуў зайцу. Схапіў заяц хустачку да й прымчаў царэўне. Зірнула тая да чуць не абамлела. «Чаго ты?» — пытае цар. Тут яна кінуласа цару-бацьку ў ногі, расказала ўсю праўду да й пачала прасіць, каб не вешалі таго хлопца, каторы збавіў яе ат зьмея. От цар велеў не вешаць таго хлопца, а прывесьці яго ў палацы. Прышоў ён з сваею кайстраю да й стаіць. Пачаў тут цар пытаць яго, як тое было. Расказаў ён усе, як было. А той багатыр кажэ, што гэто няпраўда. Тагды безногі багатыр выцяг з кайстры зьмеіные языкі да й пытае: «А гэта што?» Зьмешаўса той багатыр, а царэўна паказала бацьку абедзьве палавінкі хустачкі. Тагды ўсе паверылі. Таго ліхого багатыра павесілі, а безногі багатыр жаніўса з царэўнаю да й заўладаў палавінаю царства. Справілі гучнае вясельле. Я там быў і мёд піў, па барадзе цекло, а ў рот не папало.

Даніло Кулеш

Чудзін

# 24. МУЖЫК ДУРЭНЬ ЯК ВАРОНА, А ХІЦЕР ЯК ЧОРТ

Было тое даўно, як сьвет яшчэ не быў такі хітры, як цепер. Жыў сабе адзін мужык да такі дурны, бы варона. Пакуль стары бацько правіў, датуль яшчэ веласа секая-такая сьлімазарная гаспадарка. Але ось бацько занепаў, з тыдзень пакачаўса да й аддаў Богу душу. Застаўся дурэнь адзін. Німа ў яго дроў, от ён палез на хату, паскідаў з страхі дошкі да й навалачыў іх у хату цэлы ворах. Напрэ тых дошак поўную печ да й запаліць. Тырчаць дошкі з печы, так што й прайці нельга. «Чаму ты іх не пасек,— кажуць суседзі,— гэто ж ты яшчэ село спаліш». «Яны й самі згараць, на што іх сеч»,— атказвае дурэнь да пагравае сабе чэраво перад полам'ям. Даў Бог весну, прыгрэло сонейко, пачало зганяць сьнег, паліласа зверху вада да так, што дурному негдзе й схавацца ў хаці. От ён увалок у хату кадушку, палажыў яе бокам да й залез у яе. Сагнало з поля сьнег, пачалі людзі ладзіць сохі да бораны, пачалі гатовіцца абрабляць землю. Пашоў і той дурэнь рапараваць сабе соху. Бачыць ён, што ў сасе астаўса толькі адзін рагач, от ён узлез на дуб, сеў на галіну да й сечэ яе.— «Што ты робіш? — пытаюць людзі.— Гэто ж ты ўпадзеш».— «Аткуль вы знаеце,— атказвае дурэнь да й не кідае секці. Сек, сек ён, пакуль і грымануў на землю разам з галіною. Земля была яшчэ мяккая, от ён толькі трохі атсадзіў азадак. Пашлі людзі араць да сеяць. Сабраўса й дурань. Ён перш пасеяў, пабаранаваў да давай тагды араць. «Дурэнь, што ты робіш? Гэто ж трэ перш араць, а потым сеяць».— «Не кіям, а палкаю»,— кажэ дурэнь да й робіць, як сам хочэ. «Ты чорта хрысьці, а ён кажэ: у воду пусьці»,— гавораць людзі да й годзі вучыць дурного. Але, ведамо, дурню сам чорт памагае. Выдаласо вельмі сухое лето, дак у дурня на полі зрадзіло лепш як у людзей. Нажаў дурэнь хлеба паўнюсьсенько гумно, намалаціў збожжа цэлую клець. «Цяпер у цябе много хлеба,— кажуць жанкі,— дак чаму ты, дурны, не жэнісса?» — «Я чакаю, пакуль жонка сама мене ажэніць»,— атказвае дурэнь. Пасьмеяліса жанкі да й пашлі

расказваць, што дурэнь чакае, пакуль баба сама яго ажэніць. От была там адна маладая ўдава-бездзетуха да такая паганая баба, што яе гаспадар не вытрымаў да й засіліўса. Прышла тая баба к дурню да й кажэ: «Дурны ты, дурны, чаго ты жывеш бы цень? Давай пажэнімасо».— «Гі-гі-гі! А чаму не? Жаніса са мною»,— атказвае дурань. Пашла баба к папу, назьбірала людзей да й зрабіла лад. Толькі пабраліса яны, як і пачала баба піліць дурня да біць яго кавенёю. Церпіць дурэнь, думае, што так трэба, ведамо, на тое ж ён і гаспадар, каб было бабе на ком пачасаць рукі. Зьневажала яго, зьневажала баба, біла, біла, а ён хаця бы што,— маўчыць бы пень. Яшчэ гарэй злуе паганая баба да лупіць яго аберучкі та мешалкаю, та качаргою. Шкода стала дурному бабу, што яна саўсім атсадзіла сабе рукі, от і пабег ён ат яе наўцекача. А бабе толькі тое й трэба было. Пабачыла яна, што гаспадар уцекае, дык яна за ім.— Я-ж табе пакажу сякі-такі, які ты гаспадар, што з свае хаты ўцекаеш, я-ж табе пакажу.— Бежыць баба з-заду да перэсьціць яго па чом папало. Пабег ён цераз агарод да й пераскочыў цераз стары калодзесь, а баба разагналаса да шусь туды на самое дно. Як лецела яна, так і села чорту на карак. Не пасьпеў той агледзецца, як яна давай яго лупіць мешалкаю па чом папало. Круціўса, круціўса чорт, не ведае, што рабіць з паганаю бабаю, прысеў на кортачкі, прыгнуў між калень голаў, каб баба не пазьбівала рагоў, седзіць да аж пішчыць. Зірнуў дурэнь, што баба чорт ведае, куды дзеласа да й паглядзеў у стары калодзесь. Нахіліўса ён туды, тым часам баба здаволіласа муштраваць чорта, да глядзіць, як-бы аттуль вылезьці. Убачыў чорт, што дурэнь нахіліўса над калодзісям да й давай яго прасіць, каб адратаваў ат бабы.— Што хочэш дам,— кажэ чорт,— толькі аслабані ат паганае бабы.— Кінуў дурэнь чорту вероўку. Той схапіўса за яе да й палез, а баба знаў шамелях яму на карак. Вылез чорт і вынес на сабе й бабу да як суне, дак толькі хвост зацеляпаўса. Баіцца чорт варочацца ў стары калодзесь да й залез к пану ў пакоі. Грукае чорт у пакоях усюсеньку ноч, не дае па-

ном супакою. Пашла прачутка, што ў пана ў пакоях атубаваўса чорт да й не дае паном жыць. Якое толькі рады ні даваў пан: ён і прасіў ксендза да святіў пакоі свянцонаю вадою, курыў рознымі свянцонымі зёлкамі, прасіў знахароў,— але нічога не памагае,— седзіць чорт да кожную ноч спраўляе там ігрышчэ. Саўсім выракса пан пакояў. От дурэнь пашоў да пана да й кажэ, што ён умее, як чарцей выганяць. Рад пан. Абецаў ён заплаціць дурню многа грошэй, каб толькі ён выгнаў чарцей з пакояў. Застаўса дурэнь адзін у пакоях нанач, толькі ўзяў з сабою вожыка. От падышла глупась, пачалі збірацца чэрці, а дурэнь і кажэ: ой, уцекайце, бо сюды йдзе баба, та задась яна вам перцу.— Дзякуй табе,— кажа той чорт,— што ты перасьцерог. На-ж табе за тое гасьцінца.— І дае чорт дурню цэлую жменю грошэй. Схаваў дурэнь грошы за пазуху да й кажэ: — Чуешь, онь ідзе баба. А то тупаў да скробса вожык. Спужаўса чорт, падагнуў хвост, да й не ведае, як ат бабы ўцекці.— Заплаці мне, як ты абецаў,— кажэ дурэнь,— та я цебе схаваю.— Добрэ,— кажэ чорт,— там і там закопаны грошы, возьмі іх сабе, толькі схавай мене ат бабы.— Дастаў дурэнь з кішэні ражок з табакою, атчыніў яго да кажэ: — Лезь сюды. Палез чорт, насілу зьмесьціўса. Зачыніў дурэнь ражок да й палажыў у кішэню. Тым часам убачылі чэрці, што гаспадара нема, дак і сунулі, хто цераз комін, а хто цераз шчыліну да й чорт ведае, куды дзеліса. Заплаціў пан дурню цэлую копу грошэй да яшчэ даў гасьцінца. Пашоў дурэнь да й выкапаў там повен гаршчок срэбра бы лускі. Забраў ён грошы да гасподы да й захаваў пад печ. Толькі ось зноў зневажае яго баба. От ён атчыніў ражок, а чорт аттуль і выскачыў. Убачыў ён бабу да так спалохаўса, што й акаменеў. А баба спалохаласа чорта да й годзі зневажаць. З тых часаў пачалі яны добрэ жыць да грошы спажываць.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 25. ДЗЕВОЧЫ НАБОР

Вы хочэце, каб я вам сьплёў казку, а ■ от здаецца ўсе казаў, а якіе яшчэ знаю, дак вы гаворыце, што гэта так напісано ў ксёнжках. Я чалавек цёмны, неўмею ні чытаць, ні пісаць, а толькі змалку наўчыўса хлусіць тое, што сам чуў ат людзей. Дак от бачыце, як развažаць, та я й не хлушу, а толькі кажу тое, што сам чуў, бо то не хлусьня, што мне хлусілі. Але ось сегоднячы раскажу вам саўсім праўду, бо гэто было ўжэ за маёю памяццю, а мо й вы самі паметаеце. Эгэ ж, мусіць, паметаеце. Гэто было якурат посьле таго, як змокло суседнее село, бо я тагды жаніў сына. Ён, бачыце, узяў сабе жонку з суседняго села. Дак от паслухайце толькі, як гэто было. От гэто якась на Велікдзень, ці што. А мо й не. От вечным правам забыў. Старась, ужэ пачаў забываць. Бачыце, не паметаю, што я сегонячы абедаў, а мо й саўсім нічого не абедаў, бо які цепер ліха абед. От калі падсуне невехна якое-небудзь бульбы, та й за тое дзякуй, а калі не, та й так добрэ. Дак ось гэстую невехну мой сын узяў тагды так штучно, так штучно, што просто сьмех і людзям казаць. Дак што ж гэто я хацеў расказаць? Запаметаваў... Эгэ ж, от і ўспомніў. От гэтак седзімо мы на Юр'я з бабаю,— каб ёй на том сьвеці лёгенько ікнуласо,— седзімо мы на Юр'я. Яна яшчэ наварыла чырвоных яец, каб іці на могліцы, а бачыце, Юрэй быў якраз на Радуніцу. От седзімо мы, а нябошчыца й кажэ: «Ці не пара нам свайму Кузёмцы рабіць лад?» А ■ кажу, што ён яшчэ малады хлапчук, што яму яшчэ не запах хвартух, да й нам яшчэ напрыкрае цацкацца з невехнаю. А яна кажэ: «Ой, Данілко, баюса я, каб не было гарэй». Да й кажэ ціхенько: «Хіба ж ты не чуў, што кажуць людзі».— «А што? — пытаю я.— Мало чаго наплетуць людзі».— «Ой гэто, мабыць, праўда,— гаворыць яна,— баюса я, каб мы не засталіса без невехны».— «Што ты, бабо,— я ку,— хіба ш наш сын неўдаль ці што, што яму дзеўкі не знайдзецца. Гэстаго тавару шмат».— «Дак ты не чуў,— кажэ яна,— што людзі гаворацъ, бaццэ будзе на дзевак набор».— «Да што ты, перахрысціса, каму гэстые дзіравые гаршкі патрэбны? Ось у Сымона аж п'яць, дак пеўне ён рад, каб іх хаць разам забралі, але

німа такіх дурных людзей». От мы гэ пагаманілі да й пашоў я папаіць кабылу ці што да й высунуўса на вуліцу пабалакаць з добрымі людзьмі. От пачаў я закурваць люльку, аж чую, усе як у бубен б'юць, гамоняць, што Белы руські цар заваяваў якоесь чужое царство, але там усе чорные людзі, арапы ці што, а моо то й саўсім не людзі, а налпы ці якое ліхо. От кажуць, каб развесьці там белых людзей, цар велеў зрабіць на дзевак набор да й паслаць туды на прыплод. Але, мабыць, з гэстаго нічога не будзе, калі не нагоняць туды маскалёў,— шуткуюць дзецюкі. Але ш, кажуць, туды завуць ахвотнікаў і з нашаго брата. А Мікіта Гаравы й кажэ: «Я першы пайду ахвотнікам». Да пачалі тут дзецюкі шуткаваць да сьмеяцца, што Мікіта хочэ быць над бабамі, бы певун над курамі. Пагаманілі мы, мужчыны, да й годзі, а бабы пашлі ляскатаць, пашлі божкаць да так напалохалі дзевак, што тые ходзяць, чуць жывы. От тагды к нам заявіласа сама свацьця да давай сватаць за нашаго Кузёмку сваю дачку. Яна вельмі баяласа, каб яе не ўзялі ў маскале да не загналі к тым арапам. Не хацеў я, каб Кузёмка маў такую жонку, але небошчыца, мая баба,— сьветлы ёй рай,— пачала й так, і сяк гаварыць да й угаварыла. От тагды й зрабілі мы лад. Дак о то кажэце,— наш Кузёмка ўцёк з цэрквы, як веньчалі, да й схаваўса ў лозу. Насілу яго там трапілі да сілком прыцяглі ў цэркву. Толькі гэто мы зрабілі весельле, як ось і прыежджаюць к нам пісар з старшыною перапісваць дзевок. Седзіць пісар да ўсе пішэ, да ўсе пішэ, аж перо скрыпіць, бы зімою лапаць. Маткі ў слёзы, а дзеўкі ўсе й разбегліса ў лес да й пахаваліса ў лозу. Седзяць там і ні чхнуць. Пачалі гэто маткі хадзіць да пана пісара да да старшыны, пачалі насіць яйца, сало, палатно або што другое да прасіць, каб не запісвалі іх дзевок. Наладувалі пісар да старшына дабра два вазы да й паехалі сабе. А дзевак насілу з лазы дамоў залучылі. Дак от вам не казка, а праўда.

Даніло Кулеш

Чудзін

# 26. ЦІКАВАСЦЬ

Жыў сабе адзін чалавек і была ў яго вельмі гожая жонка, да такая паганая, такая языкатая, што беда. Ты ёй скажэш адно слово, а яна табе дзесяць да як пачне сыпаць, пачне верашчаць, дак і сьвет не міл, хаць беры да й тапіса. Бало маўчыць гаспадар, бы вады ў рот набраўшы, маўчыць, сцеражэцца паганае бабы, але не ўмоўчыць, бо, ведамо, у гаспадарцы ўсе трапляецца, трапляюцца розные прыгоды да й баба не ўцерпіць, слепіцаю ў вочы лезе, прыстае, чаму гаспадар маўчыць. Кажуць жэ, што ліхому не ўгодзіш: маўчыш — кепсько, загаворыш — яшчэ гарэй. Намучыўса той чалавек з паганаю бабаю, да нічого не парадзіш, трэ жыць, як набежыць, трэ церпець, калі хочэш гаспадараваць. Бо, ведамо, гаспадар без бабы не гаспадар, а пустого двара затычка. А тут якое ні е, а ўсе-такі слімазарнае хаджайство, свая хата, свой куток, асушак хлеба на стале, страва ў печы. Зірнеш на двор — там свінка скрыгічэ, курыца кудахчэ, кот мяўкае — дамоўка бы ў людзей. А што баба лапочэ, дак што яе слухаць, думае той чалавек, абы быў абед, каб лантух наледаваць. А тут яшчэ баба гожая, рум'яная, бы кроў з малаком. А вочы чорные, празрыстые. Як гляне, дак аж у серцэ заколе і зробіцца цёмно ў вачу. Што ні вымышляе тая ліхая баба, а мужык пагнецца трохі да такі яе слухае, робіць тое, што яна зхочэ. Але ось пачалі другіе зарыцца на тую бабу, пачалі к ей прыставаць та акамон, та правантовы пісар, та дзяк. Ведамо, баба гожая, у саку — заўжды коле вочы тым людзям, у каторых ат гультайства шкура пукаецца. Але куды там — баба, бы крамень, ні з якого боку яе не ўкусіш. Дала яна атпор не аднаму малайцу: акамона выхрысьціла качаргою, правантоваго пісара абліла памыямі, дзяку вырвала косу, а яму хаць бы што. От прыстаў бы смала: цягаецца, носіць гасьцінцы да гаворыць так гожэ, от бы ў ксёнжцы чытае. Больш усяго спадабаласо бабе, як дзяк пачне благатаць да спеваць бы ў цэркві. Спеваў, спеваў дзяк да й знюхаўса з тою жанчынаю, толькі гаспадар мешае: усе аціраецца кала дому. От і надумаласа баба, каб ат гаспадара аслабаніцца, да й пасылае яго ў сьвет, пры-

несці ёй цікавасць. «Надаела,— кажэ,— мне такая жытка, ніякае цікавасці я не бачу. Сегодня тое, што ўчорэ, заўтрэ тое, што сегодня. Дай мне такую цікавасць, якое я ніколі не бачыла, а то я пайду ў прочкі». Німа чаго рабіць, пашоў той чалавек у сьвет шукаць цікавасць. Ці доўго, ці мало ён хадзіў, толькі ўтаміўса, наклаў кале лесу агню, сеў і паграваецца сабе да падкладвае дровы. Толькі ось чуе: хтось крычыць у лесі. Ускочыў ён і пабег на той гук. Прыбегае да й бачыць, аж абернуўса цяжкі воз, а пад ім лежыць чалавек і не мажэ з-пад яго вылезці. Узяў гэто ён вагу, падважыў воз і аслабаніў таго чалавека. Дзякуе той, абецае, што паможэ ў прыгодзе. От паднелі яны воз, пад'ехалі к агню да й заначавалі. Пагрэліса яны кала агню, от той незнаёмы чалавек і пытае: «Куды ты, чалавечэ, йдзеш?» — «У сьвет»,— адмаўляе той. «Чаго ж ты йдзеш у сьвет?» — «Таго й таго,— кажэ ён.— От мая ліхая жонка паслала мене ў сьвет, каб я дастаў ёй цікавасць, якое яна яшчэ не бачыла. І кажэ, калі я не дастану такое цікавасці, та яна пойдзе ў прочкі. А што я буду рабіць у гаспадарцы без бабы?» — «Эй, братко, ведаеш што, хаць цікавасцей вельмі много на сьвеце, толькі трэба ўмеючы іх шукаць. Куды ні зірні — усюды цікавасць, да не кожын яе бачыць. Ось і я пакажу табе цікавасць». Сказаўшы тое, пашоў ён к возу, дастаў з яго горшчык, пеўня й прыгаршчы круп. Потым наліў у горшчык з біклагі вады, зарэзаў пеўня, аскуб яго, апаліў на агні, выпатрашыў, абмыў і палажыў у гаршчок, насыпаў туды круп і трохі солі да й прыставіў к агню. Па немалум часе крупнік зварыўса, тагды ён прынёс дзве ложкі, дастаў з варэнькі бохан хлеба й кажэ: «Садзіса, будам вечэраць». Павечэралі яны, а ён і кажэ: «Ці ж гэто не цікавасць?» Паглядзеў на яго наш гаспадар і кажэ, што ў гэтым ён не бачыць ніякае цікавасці, бо й яго баба гэтак само варыць крупнік. Тагды той падарожны сабраў косьці пеўня, палажыў іх назад у горшчык, і аттуль выскачыў жывы певень. «От гэто цікавасць!» — закрычаў наш мужык. «Хіба ж то меньшая цікавасць,— адмаўляе яму падарожны,— што з яйца выходзіць кураня?» — «Аджэ меньшая, бо й мая жонка садзіць курыцу на яйца, дак з іх выходзяць куранята». — «Ну, добрэ,— кажэ той

падарожны,— ты мене атратаваў ат смерці, дак за тое я дам табе гэсты горшчык і твая жонка сама зробіць тое, што я рабіў, от ёй і будзе цікавасць». Падзякуваў той чалавек, палажыў горшчык у кайстрачку да ва ўсю ноч пусціўса хучэй да господы, дарам, што ногі балелі. Бег ён да бег. Нахапіўса вечар, стало цёмно, хоць воко выкаль. Ідзе ён цераз поле, нагамі дарогу мацае, а кругом ціхо, баццэ ў вусе. Сумно яму аднаму серод поля, от і пачаў ён сьвістаць, да только сьвіснуў, як, чорт ведае аткуль, узелосо ўселякае нечысці: та яна скавычэ, бы совы, та перагукваецца, от не раўнуючы рыхтык поп з дзяком у цэркві, та верашчыць ці скігічэ ў расліне кала самае дарогі, та здалёк рагочэ, бы кабыла, як убачыць свае жараб'я, та плачэ, сеўшы на йгрушы, аж заліваецца. Годзі ён сьвістаць, страх яго апанаваў; хацеў бегці, да ногі падкасіліса, а тут валасы на галаве сталі торч, аж шапку падымаюць. Хацеў ён папратвіць шапку, падняў руку ўгору да лап рукою ў паветры за штось мяккае, бы пух. Яшчэ гарэй спужаўса ён і сунуў са ўсіх ног, сам не ведаючы куды. Бег, бег і толькі тагды ўтаймаваўса, як убачыў, што ўперадзе блісвуў агеньчык. От ён трохі атдыхаўса да й пачасаў просто на той агеньчык. А тут куп'ё да карчы. Блутаўса ён, блутаўса, нарэшце прыцёгса к хлопцам на начлег, дзе яны пасьцілі коней. Разгледзяўса ён кала агню, ажно гэто хлопцы з яго вёскі. От ён і пытае хлопцаў, ці не ведаюць яны, што ў яго робіцца дома, як там адна жонка спраўляецца з гаспадаркаю. «А якое ёй ліхо,— кажуць хлопцы,— як цебе не было, дак дзяк зрабіў там печкі й лаўкі». — «Кепськая справа,— думае сабе ён,— пачакай жэ, правучу я гэстаго даўгагрываго». От ляглі яны ўсе спаць кругом агню да й разам захраплі, а яму не спіцца. Усхапіўса ён чуць сьвет, узяў сваю кайстрачку да й сунуў да господы. Прыбегае ў вёску, аж яшчэ ўсе спяць. Падышоў да свае хаткі — агонь свеціцца, а нічого не чуваць. «Дай,— думае,— папілную, ці не выдзе хто з хаты». От зняў ён з себе кайстрачку, выняў з яе той горшчык, павесіў яго кала дзверэй на плот, а сам пашоў у гумно, лёг на салому да й цікуе, ці не выдзе хто з хаты. Праз недоўгі час выскачыла да ветру яго жонка, зірнула на плот да й убачыла незнаёмы горшчык. І падумаласо

ёй, што гэто хлопцы прыгатавалі горшчык, каб ім грукнуць у сцену і спужаць, як яна ляжэ спаць з дзяком. Схапіла яна той горшчык і хацела закінуць яго ў вагарод, дак куды там — рука к горшчыку й прырасла. Забыла яна й асцерогу да як закрычыць ат страху, аж дзяк спужаўса. Выскачыў ён і хацеў атарваць ат яе той горшчык, да толькі ўзяўса, як і яго рукі прыраслі. Збегліса тут на крык людзі, да хто хопіцца, дак і прырасце. Нарэшце падышоў і сам гаспадар. Атчапіў ён усіх, апрыч дзяка, да давай лупцаваць та жонку, та дзяка да прыказваць: «От гэто цікавасць, дак цікавасць». Датуль лупіў, пакуль здаволіўса, тагды атняў іх рукі.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 27. ПЕРШЫ БРОВАР

От так, як цепер, яшчэ за даўнейшые часы людзі забылі Бога й так грашылі, што Бог абазліўса да й задумаў загубіць людзей патопам. З усіх людзей аставаўса толькі адзін праўдзівы чалавек — Ной. Ён баяўса Бога й чыніў яго волю. Бог любіў Ноя за яго пакорнась і велеў яму збудаваць каўчэгу. Толькі Бог велеў Ною рабіць гэто ціхенько, каб ніхто не знаў і не зрабіў сабе гэстакіе каўчэгі. От Ной, як настане дзень, возьме сабе за пояс сакерку да й пойдзе ў лес будаваць каўчэгу. Зацікавіласа жонка Ноя да й пытае яго, куды гэто ён усе ходзіць. Але Ной чыніць Божую волю й нічого не гаворыць жонцы, а кожны дзень ходзіць сабе з сакеркаю ў лес. Не ўкрыласо гэто ат чорта. Дагадаўса ён, што праўдзівы Ной штось замышляе, але чаго ён ні рабіў, ніяк не мажэ даведацца. От і падкаціўса ён к Ноявуй жонцы да й намаўляе яе так і сяк выпытаць у Ноя, куды ён ходзіць і што ён там робіць. Папробувала жонка Ноя яшчэ раз папытаць яго, куды ён ходзіць і што робіць, але Ной саўсім замоўк і нічого не гаварыў. Жонка ў слёзы, давай упікаць Ноя, што ён ходзіць к другім жанчынам, што ўжэ даўно яе не любіць, а толькі пад-

маньвае. Слепіцаю баба лезе ў вочы, лаецца, крычыць, кідаецца біцца, але нічога не памагае — маўчыць Ной, бы рыба. А як ужэ вельмі заходзіцца жонка, та Ной возьме сакерку да й у лес. Шукай яго там. Бегае, бегае баба, лазіць, лазіць цераз каладзьё, утоміцца да й з плачам варочаецца да хаты. Думаў, думаў чорт, што тут зрабіць, выпятраў як сухар, нічога не мажэ парадзіць з зацятым чалавекам. Ужэ не так ён думае аб том, каб распазнаць, што робіць Ной, як аб том, каб заставіць яго гаварыць. Ведамо, калі чалавек много гаворыць, та й прагаворыцца. От і прыдумаў чорт яшчэ адзін спосаб, як зрабіць, каб чалавек много гаварыў. Падкаснуўса ён к Ноявуй жонцы яшчэ раз і просіць спрабаваць новы спосаб. А тую й прасіць не трэ, бо яе такая злосць узяла на Ноя, што яна гатова й чорту душу запрадаць, абы паставіць на сваём. Рад чорт, што баба ўсімі спосабамі гатова памагаць яму, рад, аж хвастом круціць, бы сабака, да капыт аб капыт пастуквае, бы гусар шпорамі. «Што ж ты прыдумаў,— пытае яна чорта,— каб зламаць упартасць майго гаспадара?» — «А ось што,— кажэ чорт, нахіліўшыса к самаму яе вуху.— Слухай да рабі, як я буду табе казаць. Бачыш, якая сіла ў хлебе. Хлеб усему галава. Як чалавек галодны, та ён маўчыць, а як наесца хлеба, та й язык у яго развяжэцца. Гэто такая е сіла ў хлебе, толькі трэба гэтую сілу згусціць». — «А як жэ яе згусціць?» — «Пачакай, не спешы на шыбеніцу ўперод бацька, бо хто спешыць, той людзей насмешыць. Гэстая сіла льецца ў цебе з носа, як ты месіш хлеб». От пачала жонка Ноя месіць хлеб, а чорт падставіў ёй пад нос пасудзіну, дак туды па капельцы нацекло якоесь вады чуць не поўная пасудзіна. «Што ж гэто такое?» — пытае баба. «Гарэлка,— атказвае чорт,— яна так называецца затым, што з гары падае, да й за тым, што хто яе много вып'е, та згарыць. Яна ў хлебе рэдкая, а ў жанчын густая, моцная. От затым, калі мужчына паседзіць кала жанчыны, та хутко ап'янее, як ат хмелю. От ты напой свайго гаспадара гарэлкаю, та ён як ап'янее, пачне гаварыць і скажэ табе, куды ён ходзіць і што там робіць». — «А гэто яму не зашкодзіць?» — пытае баба. «А хіба ж ты яму шкодзіш?» — атказвае

чорт, выскаліўшы зубы. Палецеў чорт па свайму дзелу, а жонка Ноя нагатовіла добрае стравы разам з гарэлкаю да й пачала частаваць свайго гаспадара, як ён вернуўса з работы. Сама села насупраціў да ўсе ўгаварвае: «Еж, мой голубе, еж, ты ж так утаміўса да прагаладаўса...» Наеўса Ной і чуецца, што ап'янеў: от так і чэшэцца язык, каб пагаварыць з жонкаю, тольві бачыць ён, што ззаду яе хтось хаваецца, бы цень. Дагадаўса ён, што гэто чорт прычапіўса да бабы, каб яе да й яго разам спакусіць. От ён павечэраў да хучэй моўчкі лёг спаць. Назаўтра яшчэ чуць сьвет узяў ён сакерку да й пашоў у лес. Падходзіць к каўчэзі, аж бачыць — мышы папраедалі дзіркі ў дне, і вада ў каўчэгу прасачылаcorrect. Зірнуў ён у тые дзіркі, аж бачыць — туды пазалазілі жабы, каб сабою заткнуць дзіркі. Дагадаўса Ной, што Бог яго перасцерагае, каб не піў гарэлкі да й нічого не казаў жонцы. Бачыць чорт, што нічого не зробіць з Ноям, от ён навучыў жонку Ноя й яго сыноў, як з хлеба гнаць гарэлку. Доўго Ной не піў гарэлкі, баяўса Бога, але ўсе-такі раз не ўтрымаўса. Было гэто тагды, як кончыўса патоп. Ной вышаў з каўчэгі да як паглядзеў на землю, як на ёй усе гожэ, як радасно свеціць сонейко, як яно атбіваецца ў расінках, дак яму так радосно зрабіласо на серцы, што ён пачаў спеваць і скакаць. Але старые ногі не хацелі служыць яму, а жонка кажэ: выпі да выпі, та памаладзееш. Выпіў ён да не доўго паскакаў і зваліўса ў канаву, а сын Ноя хаць і больш напіўса, але яшчэ дзержаўса на нагах. Убачыў ён п'янаго бацька й давай смеяцца з яго да паказваць братом, які бацько п'яніца. А чорту гэто й трэба. Рад ён, што такі спакусіў праўдзіваго Ноя. І пачаў чорт з тае пары памагаць людзям гнаць гарэлку. Навучыў іх, як будаваць бровар і як гнаць гарэлку, каб яна была моцная. Дак от хто выдумаў першы бровар.

Даніло Кулеш

Чудзін

# 28. ДУРНАЯ ЖОНКА

У аднаго беднаго гаспадара была вельмі дурная жонка. Як ён ні стараўса, як ні гараваў, нічого не мажэ зрабіць, каб завезці якое ні на ест слімазарнае хаджайство. Дагледзіць гаспадарку, та ў хаце нічого німа, бо ведамо, што гаспадарка плачэ без гаспадара, а хата без гаспадыні. А тут яго дурная жонка такая гаспадыня, што лепш, каб яе саўсім не было, бо яна не то што зробіць якое-небудзь дзело, а й то, што е, псуе. Не разаравецца гаспадар: та на гумне, та ў хаце, та ў хлеве — усюды трэ самому дагледзяць. От прышло жніво. Пашлі ўсе людзі жаць. Пашла ў поле й тая дурная жонка жаць жыто да забыла ўзяць серп. Смеюцца з яе людзі, шуткуюць, а яна хоць бы што — сама смеецца. Поле далеко ат вёскі, не варто йці па серп. Злітаваласа тут адна маладзіца да й дала дурной жонцы свой запасны серп. Нажала тая тры снапкі, паставіла іх да й легла ў ценьку аддыхаць. Жнуць людзі, бы метуць свае постаці, аж пот градам льецца да паюць песні, каб веселей было рабіць. А дурная жонка храпе на ўсе застаўкі. Ужэ сонейко нізко, пара каньчаць работу, а яна спіць сабе, бы медзьведзь у котле. Убачылі яе хлопцы-пастушкі пад снапамі да й захацелі пасмеяцца. От яны ўкралі на смалярні рэдкае смалы, спусьцілі з тае дурное жонкі сарочку да й вымазалі ўсе цело смалою, а зверху абсыпалі мелкімі вуглямі. Спіць баба, бы зарэзаная. Але ось падходзіць к ёй тая маладзіца па свой серп, зірнула да й ачом не верыць, насілу яе пазнала. Разкатурхала яна тую бабу. Насілу яна ачухаласа, зірнула на себе да й не ведае, ці гэто яна, ці не. От усхапіласа яна да й бежыць па полі. Убачылі людзі, спужаліса й думалі, што гэто ці чорт, ці ведзьма. А баба бежыць да ўсе пытае: «Ці гэто я, ці не?» Доўго яна бегала па полі, ужэ сцемнело, нарэшце пашла да гасподы. Прыходзіць яна ў вёску да й лічыць хаты па палцах на руках. А яе хата была дзісятая з аднаго канца. От налічыла яна дзесяць, падышла к вакну да й пытае: «Ці жонка дома?» А гаспадар, каб правучыць дурную жонку, адмаўляе, што дома. Памацала яна себе да й пытае: «Ці гэто я, ці не?» — Да й пабегла ў канец удругае лічыць хаты. Пералічыла яна дзесяць і зноў

пытае ў свайго гаспадара, ці дома жонка. Той зноў атказвае, што дома. «Мабыць, я не з таго канца прышла»,— думае яна да й пабегла ў другі канец шукаць свае хаты. Бегала яна, бегала та ў вадзін канец, та ў другі, нарэшце гаспадар сказаў, што жонкі німа дома. От яна ўбегла ў хату да й пытае гаспадара: «Ці гэто я, ці не?» А той як убачыў, дак і пакаціўса са сьмеху да й пытае: «Да дзе ж гэто цебе чэрці так аздобілі? Хіба ж ты на смалярні ў чон з смалою ўваліласа».— «Не ведаю, мо й уваліласа, але ці гэто я, ці не?» — пытае яна, пазіраючы на сваю аздобу. Запаліў гэто гаспадар у печы, нагрэў вады да насілу адмыў збольшаго сваю дурную жонку. Скоро падышоў саракавы дзень, як памёр бацько гаспадара, й трэба было спраўляць памінкі. От закупіў гаспадар, што трэба, да й велеў жонцы прыгатовіць усе, як робляць людзі на памінках, а сам заказаў абедню й запрасіў на памінкі папа, дзяка, родных і знаёмых. Пашоў гэто гаспадар у цэркаў, а яго дурная жонка смешала разам усе прыпасы да й зварыла ўсе ў вадном сагане. Прышоў наперад гаспадар з цэркві да як зірнуў, чаго жонка навычварала, дак аж рукамі сплеснуў. «Ой, мая ж горкая часіна,— заскавытаў ён,— што ж я буду цепер рабіць?! Як я буду вачамі сьвеціць перад гасцямі!» Пабег ён хучэй назад да давай перапрашаць гасцей, каб не гневаліса, што немашака пачосткі. Нахлусіў ім, што зрабіласо сякое-такое нешчасце. Ці паверылі тые, ці мо й не далі веры, але німа чаго рабіць, аблізаліса, як сабака перад яечняю, да й пасунуліса да гасподы. Прыкро гаспадару седзець дома да пазіраць на тое дабро, што жонка папсавала (змарнатравіла), от і пашоў ён капаць на абмежку хрэн, каб нашмараваць ім скарынку хлеба да з'есці, бо быў яшчэ натшча. Толькі ён убіў заступ, як штось зазвінело. Раскапаў ён, аж там повен горшчычак грошэй, от так бы луска й сыплюцца. Абернуў ён палою той горшчычак, прынёс у хату да й закапаў пад печ. «Што ты там зхаваў?» — пытае жонка. «Не чапай,— атказвае ён жонцы,— гэто злыдні. Я закапаў іх, каб у нашуй гаспадарцы ніякаго ліха не было». От жывуць яны сабе далей. Але ось пашоў гаспадар араць, а дурная жонка асталаса дома адна, аж прыходзіць у хату цыган, на

галаве саган, у руках пушка-жывужка да й даколо пазірае, што б украсці выбірае. «Дай мне, гаспадынька, кусок сала, каб свінка не прапала, лычко каўбас, і я пайду ат вас»,— прыгаворвае цыган да тохціць ён крупы ў саган. «Німа ў нас ні сала, ні каўбас, толькі ў падпечку злыдні седзяць ужэ тры дні»,— кажэ дурная баба. Дагадаўса цыган да палез пад печ і дастаў аттуль грошы. «Гэто ж злыдні»,— кажэ баба. «Добрэ,— кажэ цыган,— я вазьму гэтые злыдні да й утаплю ў воду, та вам ліха не будзе». Забраў цыган пад палу грошы да наўцекача, каб часам гаспадар не нахапіўса. Тым часам ось на вуліцы сабакі апанавалі таго цыгана. От і пачаў ён махаць кругом себе пушкаю-жывужкаю, махае, а грошы памаленьку сыплюцца да сыплюцца з гаршка да так усе й высыпаліса. Насілу ўцёк цыган ат сабак да хучэй пабег у лес. Але ось якраз па том следу цыгана йдзе той гаспадар. Прыглядаецца ён, аж гусьценько раскіданы грошы. От сабраў ён тые ўсе грошы за пазуху да й прыходзіць да госпады. А тут яго стракае жонка да й кажэ: «Быў цыган, на галаве саган, у руках пушка-жывужка. Прасіў сала й каўбас, а я кажу — німа ў нас. І забраў ён злыдні, што пад печкам седзелі тры дні». Але гаспадар прамаўчаў і больш жонцы нічого не казаў. З тае пары стало поўно на двары, сталі яны добрэ жыць.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 29. ПРАЎДА Й КРЫЎДА

Жылі два браты. Адзін быў вельмі праўдзівы чалавек і яго называлі Праўдаю, а другі завісны да ліхі, дак яго празвалі Крыўдаю. Праўда як ні стараўса, як ні гараваў, а ўсе ж жыў у велікуй нендзы й беднаце, бо кажуць людзі, што праўдаю жыць, дабра не нажыць. А Крыўда нічого сам не рабіў, а толькі галавою круціў да каго мог крыўдзіў, дак ён сабраў багатство і жыў сабе як пан. Німашака ў Праўды хлеба, німа за што рук зацяць і пашоў ён к брату прасіць, каб пазычыў мерку хлеба. А той, ведамо, крыўда да й кажэ: «Дай я выкалю

табе едно воко, каб ты не ўсю праўду бачыў, тагды пазычу». Німа чаго рабіць, голад не свой брат, а тут плачэ жонка да папікае праўдаю — і згадзіўса ён астацца без вока, абылеп не галадаць. Не на доўго хапіло тае меркі хлеба, й зноў ідзе той бедны к багатаму брату прасіць яшчэ хлеба. Толькі той згаджаецца на тых варунках, каб Праўда выкалаў сабе апошняе воко. Прасіў, прасіў Праўда, каб брат забраў што-небуць другое, а заставіў яму воко, бо без яго ён не ўбачыць праўды, але той зацяўса бы крамень і слухаць не хочэ. Шкода вока, а тут жывот падвело, хаць сам себе грызі. «Навошто мне воко, калі я, жонка й дзеткі паміраюць з голаду». Згадзіўса бедны брат і спрэсу астаўса слепым, затое жонка й дзеткі выжылі, дачакаўшы новаго зраджаю. Прышла рабочая пара, усе людзі йдуць на сенажаць касіць сено ці на поле жаць хлеб, толькі бедны Праўда седзіць дома без дзела. Пачала яго жонка ўпікаць да называць дармаедам, дак яму так горно зрабіласо, што ён не мог больш выцерпець да й пашоў жабраваць. Узяў ён сабе кіёчак, мацае ім дарогу да йдзе паціхеньку ўперад. Ішоў ён, ішоў, падышоў к дубу да й сеў супачыць. Седзіць ён ціхенько да Бога хваліць, што хаць жыў астаўса, не памёр з голаду, але чуе, што хтось на дубе гамоніць. Пачаў ён прыслухоўвацца, а ведамо, у слепого заўжды добрае чуце. Ось і чуе ён, што на дубе седзяць нечысцікі да й кажуць, дзе ў землі грошы захованы. Закмеціў ён тое мейсцо, паседзеў яшчэ трохі, атдыхаў да й пашоў туды, дзе былі захованы тые грошы. Прышоў ён да таго мейсца да й пачаў кіёчкам разграбаць песок. Капнуў ён два-тры разы да й абмацаў там цэлы кацёл грошэй. Налядаваў ён торбу грошэй, як панесці, да й пашоў да господы. Убачыла жонка тые грошы, годзі ўжэ ўпікаць свайму гаспадару да скарэй пабегла к багатому Крыўдзе пазычыць мерку, каб памераць тые грошы. Той пазычыў. Змералі яны грошы, жанчына й атносіць тую мерку назад. Узела завіснаго Крыўду цікавасць: якое-такое збожэ яны мералі, калі людзі яшчэ не намалацілі. Узяў ён тую мерку да й давай яе трасці, каб з-пад абручоў выкалаціць зерната, аж аттуль і пасыпаліса асьмакі. «Дак гэто ж яны мералі грошы»,— прамовіў сам да себе Крыўда да аж затросса

ат хцівасці. Не вытрываў ён і хучэй пабег к брату пытаць, аткуль ён узяў так много грошэй, што аж меркаю мерыў іх. Ведамо, праўдзівы брат і разказаў яму ўсю праўду, як тое было, як яму горно было слепому седзець дома, як ён пашоў жабраваць, як падышоў пад дуб, як пачуў, што нечысцікі кажуць, дзе схованы грошы, як пашоў туды да й выкапаў іх. От жыве Праўда па праўдзе да Бога хваліць, што яму й слепому жабраку паслаў спосаб да жыцця. А багаты Крыўда й мейсца сабе не находзіць, так яго распаляе зайздрасць. Церпеў ён, церпеў да й не ўцерпеў. Хочэцца яму найці грошэй яшчэ больш, як у брата. От ён выкалаў сабе вочы да й пашоў жабраваць. Але ніхто нічого не дае, бо ўсе яго пазналі да й ведаюць, што ён і так вельмі багаты. Насілу ён дацёгса галодны да таго дуба, сеў пад ім да й прыслухоўваецца, што гаворaць на дубе нечысцікі. Але ось адзін і кажэ, што, мабыць, хтось іх падслухаў, як яны казалі, дзе схованы грошы, да й забраў. А другі і кажэ: «Гэто, мабыць, той жабрак, што седзеў пад дубом, як мы гаманілі».— «Але ж, гэто ён. Да ось ён і цепер тут седзіць»,— сказаў адзін нечысціць, зірнуўшы ўніз. Кінуліса нечысцікі на таго хціваго багача да й разарвалі яго на кавалкі. Праўду кажуць, што крыўдаю сьвет пройдзеш, да назад не вернесса. От і асталаса с тае пары праўда на сьвеце без ачоў і нічого яна не бачыць.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 30. ПАЛЕШУКІ Й ПАЛЕВІКІ

Было ў бацька двананцаць сыноў да ўсе яны былі вельмі ўдалые хлопцы. Жылі яны ў цёмнум лесе, дзе вадзіласо много ўселякаго звер'я, пасцілі свае гаўядо да лавілі зверыну. Суседзі жылі далеко й рэдко рабілі ім шкоду, бо баяліса ўдалых хлопцаў, каб не нагрэлі ім па затылку. Жылі яны разам і слухалі старого бацька, а ён ужэ сівенькі бы лунь, седзеў сабе ў кажушку й па лету да камендуваў. І быў у іх лад і ўсім было добрэ. Яны ўсе

пажаніліса, й было ў іх много дзецей, але ўсе слухалі старого й кожын рабіў свае дзело. Толькі ось памёр стары бацько, й пачалі жанкі сварыцца паміж сабою, пачалі калаціцца да падбухтэрваць сваіх гаспадароў. І такая ў іх пашла калатня, што й жыткі німа. Ведамо, калі бабы чаго захочуць, та й сам чорт іх не пераставіць. А тут яны ў вадзін голас крычаць: дзеліцца да дзеліцца. Пачалі браты дзеліцца. Калаціліса, калаціліса яны, пакуль дзелілі гаўядо да ўсе дабро, а як пашлі дзеліць землю, дак так пачалі біцца, што чуць адзін другого не пазабівалі, да так і не падзелілі мо да тых час. Калоцяцца браты паміж сабою за землю, захватваюць чужые дзелянкі й ніколі ў іх німаш спакою. Толькі два малодшые браты жылі паміж сабою вельмі згодно: куды адзін, туды й другі. Не захацелі яны калаціцца з братамі, кінулі сваю бацькаўшчыну да й пашлі ў сьвет шукаць сабе землі. От занялі да й пагналі яны свой статак, зрабілі з двух дубоў з карэнямі велізные сані, запраглі двананцаць пар валоў, наклалі ўселякаго дабра да яшчэ пасадзілі жанок з дзецьмі да й паехалі па песку. Працяглі трохі валы да й сталі, не могуць цягці сані па песку. От большы брат давай падкладваць упоперак пад палазы круглые калодкі. Коцяцца калодкі, і сані паўзуць уперад. Надаело меньшаму брату падкладваць калодкі пад палазы, от ён і кажэ: «Давай, братко, зробім такую прыладу, каб калодкі цонгле круціліса пад палазамі». Да й зрабілі яны колы. Лёгко пацяглі валы, так што яшчэ й яны самі селі на воз. Едуць яны да едуць і пад'езджаюць к велікуй рацэ. Шукалі яны, шукалі, нідзе не знайшлі плыткаго мейсца, каб пераехаць у брод. А тут захадзіласа велікая бура. Лес раве бы звер. Вецер ломіць дзераўлякі, бы баба кастрыцу, да й кідае на землю й у рэку. Плыве па вадзе дзераво, бы плыты. Зірнуў на тое малодшы брат да й дагадаўса, як перабрацца цераз рэку. От давай яны з братам лавіць на рацэ дзераво да звязваць яго разам, навязалі да й зрабілі плыт. От суняласа бура, падагналі яны той плыт шчылно да берага ракі, запраглі валоў да й узвезлі воз на плыт. Стаяць яны на плыце да кіруюць доўгімі жардкамі, а плыт і сам плыве з вадою. Аднесло плыт далеко з вадою, але ось ён і прыстаў к другому берагу.

Пабачыло говядо, што валы паплылі па рацэ, да й вышло на другі бок, кінуласо яно ў воду да й пераплыло цераз рэку. Паехалі яны далей і забраліса ў такі лес, што й канца яму немашака. Не могуць далей ехаць — лес мешае. Пачалі яны церабіць дарогу да масціць грэблі. Але дзе там, чым далей, тым лес усе гусцее, а ў ём стаіць такая тхлань да нетра, што й выбрацца нельга. От і кажэ большы брат: «Астануса я тут, бо не магу выбрацца з лесу». І астаўса ён серод таго лесу. І назвалі яго й дзецей яго палешукамі. Малодшы ж брат працерэбліваў дарогу, масціў грэблі да клаў кладкі й ехаў усе далей. Мо й да тых час на Палесі яшчэ е тые прасекі да грэблі, што нарабіў той чалавек. Не доўго яны ехалі на сваіх колах, як убачылі, што лес пачаў радзець, пачалі трапляцца прагаліны, палянкі да паля, дак яны атаўбаваліса там і пачалі разрабляць поле, за тымто й назваліса яны палевікамі. Потым размножыліса як палешукі, так і палевікі, занелі пусты лес да й пачалі жыць адны кала другіх радам. Праз немалы час у палешукоў і палевікоў развелосо много гаўяда да й уселякаго звер'я ў іх лясох было больш, чым у том мейсцы, дзе атаўбаваліса тые дзесяць братоў. От яны пашкадавалі, што пусцілі сюды меньшых братоў і што далі ім много гаўяда, пашкадавалі да й уздумалі атабраць назад. Даведаліса палешукі й палевікі, што тые падходзяць к ім з разбоям, нарабілі ў лесе завалаў да накапалі глыбокіх ямаў да й зацеценілі іх мохам, а самі пахаваліса ў гушчэчы да й цікуюць, што будзе далей. Але ось падышлі тые разбойнікі да й пачалі падаць у ямы, а ў іх была вада. Адны патапіліса, а другіе заплуталіса ў засеках да й загінулі ў нетры без яды. От атагналі апошніх разбойнікаў палешукі й палевікі да й давай выхваляцца адны перад другімі. Палешукі кажуць, што гэто яны сваімі засекамі ў лесе загубілі разбойнікаў, а палевікі кажуць, што разбойнікі загінулі ў тых ямах, што палевікі выкапалі. Пашлі яны выхваляцца да спрачацца. Спрачаліса, спрачаліса да за чубы, да за калы... І пашла тут такая перапалка, што гарэй як ат разбойнікаў. Б'юцца палешукі з палевікамі, паляць

вёскі, нішчаць дабро да парываюцца спрэсу загубіць адны другіх, гарэй як самые лютые варагі. Доўго біліса яны, але не могуць адалець адны другіх, толькі што далей, та ўсе больш і больш слабеюць як тые, так і другіе. Дачуліса варагі, што палешукі й палевікі калоцяцца паміж сабою, што яны не бароняць свае рубежы, от яны зноў сабралі велікае войсько да й пашлі паліць вёскі да забіваць як палешукоў, так і палевікоў. Ачухаліса палешукі й палевікі, годзі калаціцца самі з сабою, давай біцца з ворагам. Біліса яны, біліса, мо ўжэ палавіна іх палягло, а нічого не могуць зрабіць, бо варагі лезуць усе новые й новые. Много палягло й варагоў у чыстом полі, много заблудзіласо ў лесе да ў балотах і там загінуло ат голаду, ат холаду ці патапіласо ў гразі, але яшчэ много асталосо. Лезуць яны як свіне ў вагарод, лезуць да забіраюць палешукоў і палевікоў у палон, забіраюць іх землю, гаўядо й усе дабро, а старых і малых забіваюць ці травяць сабакамі. Забілі яны ў калодкі ўсіх палешукоў і палевікоў да й велелі сабе служыць. Нічого не парадзіш. Служаць палешукі й палевікі тым варагом, бо не свая воля, служаць год, служаць два, а можэ, й больш. Працуюць яны на варагоў бы чорны вол і ніякае палёгкі не маюць, працуюць, гаруюць да праклінаюць сваю жытку. А варагі пануюць да здзекуюцца з простых людзей, а тые рады, што хаць засталіса жывымі. Бачаць паны, што простые людзі смірыліса, от і скінулі з іх калодкі. Рады простые людзі, дзякуюць Богу й за тое. І пачалі яны працаваць на паноў так шчыро, як самі сабе. А паном тое толькі й трэба. Працуюць простые людзі, а паны толькі камендуюць да падганяюць. І атучыліса паны ат уселякае работы, да так атучыліса, што без простых людзей не могуць і жыць, бы тая птушка, як яе выпусцяць з клеткі на волю. Бачаць тое простые людзі да толькі смеюцца з паноў. Яны смеюцца, а паны хаць бы што, балююць сабе да яшчэ больш прыбаўляюць работы. «Бо яны,— каа,— рагочуць бы жарабцы затым, што мало дзела». Яшчэ гарэй стало людзям, і пачалі яны рабіць паном зэмсту: та свіран спаляць ці гумно, та кароў загоняць у такую тхлань, што яны там і пагінуць, та свіней патопяць, але ат таго й самі не

маюць, чаго есці, бо, ведамо, жывуць на ардынар'і: пана чорт не берэ, ён у суседа дастане, а людзі падыхаюць да пухнуць з голаду. Што тут рабіць, што парадзіць? Ні з якого боку нельга пазбавіцца ат тых паноў. Але ось прыходзіць туды якісь старэнькі дзедок да й кажэ: «Людзі, людзі, вас много, а паноў жменя, і гэтая жменя здзекуецца да ездзіць у вас на карку. Ці гэто ж вы людзі, а не авечкі». Пагаманіў ён гэ ў вадном мейсцы да ў другом, от і схаменуліса людзі да й пачалі варушыцца. Знайшліса ўдалые хлопцы, сабралі сабе шайку добрых малайцоў да й пашлі перэсціць да месіць тых паноў. Бачаць тые, што гэто не перэліўкі, да й пусціліса наўцекача: хто ў лес, а хто ў чужые краі... От аслабанілі палешукі й палевікі свой край ат тых варагоў, але не ведаюць, як ім жыць, бо кожын хочэ быць большым, ніхто не хочэ гараваць, а кожын пнецца панаваць. І стала ў іх жытка гарэй як пад панамі. Што тут рабіць, розуму не прыложаць. З'явіліса тут яўрэі з уселякаю ўсячынаю да й пачалі яны крычаць як на кірмашы: «Мі купцы з места слаўнаго Брэста, маем тавары — па чарцы гары, розные зёлкі, стужкі да голкі; што хто захочэ, возьме за клоччэ. Возьмем мы смушкі, збожэ з кадушкі, дак вам за тое плацім мі ўдвое перцам, імберцам, гарэлкаю, чэрцам». Аступілі іх бабы, цягнуць з хаты да з клеці ўселякае дабро да беруць сабе голкі, каснікі, жуковіны, чэрвец да featrознае зелье. А мужыкі як наваліліса на гарэлку, дак гатовы й апошнюю сермягу з себе зняць, абы яшчэ кварту дастаць. От с тае пары атаўбаваліса яўрэі ў кожнуй вёсцы да й збудавалі сабе карчмы да кромкі. От жывуць сабе да і кажуць: «От цепер ві будзеце ўсе бы паны, бо мі так зробім, сто вам усім будзе весело й работа не будзе карцець». П'юць мужыкі да веселяцца, а пра работу й забылі. Тым часам агледзеліса паны да рум назад. Схаменуліса людзі, да ўжэ позно.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 31. ШЧОДРАЯ Й СКУПАЯ ЖАНЧЫНЫ

Паслухайце, што было даўней, як яшчэ Хрыстос і Божая Маці хадзілі па землі да вучылі людзей. Моо гэто было й недалеко атсюль, бо вось пад Тычынамі[1] й цепер яшчэ лежыць камень з следам Боскае Маткі. У кожную першую недзельку туды збіраюцца людзі, моляцца Богу й даюць на хвалу Боскую хто свечку, хто лён або воўну, хто грошы, а дзеўкі да маладзіцы прыносяць рушнікі або палатно. От ідзе раз Хрыстос з Божаю Маткаю праз адну вёску. Яны йдуць босые бы старцы й просяць пад вокнамі. Падышлі к адной хаце. Убачыла старцоў шчодрая жанчына да й кінуласа шукаць хлеба, каб хучэй даць ім. Зірнула яна на стол, аж там лежыць толькі невялічкі акрайчык. От яна й кажэ: «Пачакайце трохі, я збегаю ў стопку па хлеб». Пабегла яна з хаты на двор, аж бачыць, што свіня цягае на дзедзінцы палатно, што яна паслала беліць. Схапіла яна борджджэй тое палатно, забегла ў стопку, узела бохан хлеба да й прынесла ў хату. От аткроіла яна велікі акраяц да й дае старцам. А Хрыстос і кажэ: «Насіць табе не перанасіць»,— а сам і пашоў. От тая жанчына давай насіць у хату палатно й хлеб, насіла яна, насіла, ужэ запоўніла ўсю хату пад самую столь, а ўсе не мажэ перанасіць усяго палатна з дзедзінца й хлеба з стопкі, бо покуль яна вернецца, та там ужэ зноў е. Забегла к ёй адна суседка. Яна была вельмі завідушчая жанчына. Пабачыла яна, колькі палатна й хлеба ў тае шчодрае маладзіцы, да й пытае, аткуль яна ўзела. А тая й расказала, як тое было. «Пачакай жэ,— думае яна,— зраблю й я яшчэ лепш». Падзівіласа яна цуду да й пабегла дамоў. Але ось па немалум часе Хрыстос з Божаю Маткаю прыходзяць і к той жанчыне. А яна якраз саджала ў печ хлеб. Зірнула яна на старцоў да й кажэ: «Пачакайце, ось я спеку вам свежаго хлеба, бо той ужэ чорствы». А на стале лежыць велізны бохан хлеба, але жанчына пашкадавала добраго хлеба, а паскрабла ў дзежы да й

[1] У Слуцкум павеце мне знаёмы тры такіе прошчы, дзе лежыць велізны камень, а на ём ямачка, каторую людзі лічаць за след Багародзіцы. Гэто кала Вызны, пад Тычынамі і пад Узбіскім Борам.

пасадзіла ў печ поскрабак, каб яго аддаць старцом. От атсланіла тая жанчына печ, аж подскрабак вырас больш усіх бахапоў. Пашкадавала яна даваць той подскрабак, атрэзала ат яго акраец да бачыць, што ён вельмі гарачы, ведамо, толькі з печы, от і ўздумала яна перш абліць яго халоднаю вадою. Зірнула, аж у ведры німаш вады. От яна й пабегла ў калодзесь па воду. Прынесла яна вады, абліла акраец і падае. А Хрыстос і кажэ: «Насіць табе й не перанасіць»,— да й пашоў далей. От і пачала тая скупая жанчына насіць у хату воду. Нанасіла ўжэ па самые вокна, а ўсе перестаць не мажэ, пакуль не прышоў гаспадар да не атабраў ат яе ведро. Дак от як пакараў Хрыстос тую скупую жанчыну.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 32. ЯК ХРЫСТОС ВУЧЫЎ ЛЮДЗЕЙ

Перш людзі былі вельмі дурные; нічого не ўмелі рабіць. От Хрыстос хадзіў з Боскаю Маткаю па землі да й навучаў іх, як на сьвеце жыць, як абрабляць землю, каб кожная рэч ішла на патрэбу чалавеку. Ось як тое было. Ідзе гэтак Хрыстос цераз поле да й бачыць, што чалавек сукам калупае землю. От Хрыстос прыўёў таго чалавека ў сувараты, паказаў яму рагач да й зрабіў з яго соху. «Цепер,— кажэ,— залыгай пару валоў, прывежы да рагача да й ары». Пашоў Хрыстос далей, а чалавек злавіў пару валоў, звезаў ім хвасты да й зачапіў за рагач, а сам злыгаў валоў за рогі да й ведзе па полі. А дзень быў ясны; сонейко грэе, аж печэ. Напалі на валоў овады да здракі, от тые як закруцяць хвастамі да чмыхануць, дак чалавек толькі скачэ, бы скочка, а саха да землі й не дакранецца. Вырваліса валы да й пабеглі сабе ў кусты абціраць авадоў, а чалавек стаіць кала сахі да чуць не плачэ. Але ось жонка прынесла яму абед да й пытае, чаму ён нічого не ўзараў. А ён кажэ, што так і так, уздрачыліса валы да й пабеглі ў валёс. «Гэй, дурны ты,— кажэ яна,— я сама пацягну гэстую соху». Схапіла за рагач да й цягне. От чалавек запрог яе ў соху, сам

папірае да й арэ. Але ось надходзіць туды зноў Хрыстос да й бачыць, што чалавек арэ жанчынаю, от ён і пытае: «Што ты робіш, чалавечэ? На што ты мучыш жанчыну?» — «Мне не важко,— адмаўляе яна,— бо куды вам, мужчынам, да нас, жанок». Гэто сказала, каб пахваліцца, што вельмі дужая. От Хрыстос і кажэ: «З гэтых час будзеш ты рабіць, як чорны вол, і твая праца не будзе прыкметна. Ты будзеш хватацца не за свое дзело, але наробіш гэ, як сягонячы наарала». От і цепер жанчына працуе ад ранку аж да поўначы, але яе работы ніхто не бачыць. Заўжды яна бярэцца не за свае дзело, а наробіць, бы кот наплачэ. От паказаў Хрыстос чалавеку, як зрабіць моцнае ярмо, каб валы не зламалі яго, да як іх прызвычаіць да работы. Падзякуваў той чалавек да й пачаў добрэ араць і абрабляць поле. Зарадзіў у яго хлеб на полі як ні ў кого. Сабраў ён хлеб да й давай яго мяць нагамі, каб выцерці зернята. Толькі ось ідзе Хрыстос да й пытае, на што ён топчэ Божы дар. «Малачу»,— атказвае той. «Ці ж гэ малаціць?» І Хрыстос звезаў дзве палкі, зрабіў цэп да й навучыў чалавека, як малаціць. Падзякуваў чалавек, а Хрыстос пашоў далей. Але ось ішоў ён цераз лес і вельмі далеко не было ніякае вёскі. Ведамо, на Палесі рэдко пападаюцца вёскі. Прагаладаў Хрыстос і велеў, каб сухі бор і нізкае ўзмошэ й уселякая мейсцовасць у лесе радзіла ягады на патрэбу чалавеку. Зарадзіла ягада, што хаць грабі. Назбіраў Хрыстос ягад, але не так сам пасілкаваўса, як даў Боскуй Матцы, каб яна прагнала смагу. Пашлі яны далей, але ось прыходзяць у вёску да й просяць хлеба. Але тут жылі такіе скупые людзі, такіе безбожные, што й Бога не баяліса да й людзей не саромеліса. Не пазналі яны, што гэто не простые старцэ, да й пачалі ўпікаць, што дарам цягаюцца па сьвету, а не хочуць рабіць дзела. «Ось,— кажуць,— хлеб на полі перастаяўса, а рабіць некаму. От наняліса б жаць, дак і елі б хлеб». І нічого не далі тые паганые людзі. Пашоў Хрыстос далей. Ідуць яны цераз поле, а тут такое зрадзіло збожэ, што каласы начынаюцца ат самае землі. Пачаў тут Хрыстос зрываць каласы. Хацеў ён, каб спрэсу загубіць збожэ тых паганых людзей, але Боская Матка заступіласа за іх да й пачала прасіць Хрыста, каб ён змілуваўса. От Хрыстос

і кажэ: «С тых час не будзе такого зраджаю, тагды пазнаюць людзі, што Бог на небе». От з тае пары збожэ кепсько родзіць і дае толькі кароценькіе каласкі да й то часам саўсім пустые. Потым дагадаліса людзі, якіе гэто было старцэ, дагадаліса да нічого не парадзіш. Саграшылі Богу, дак трэ церпець, бо на тое боская воля. Яго й воля, яго й моц. Толькі ўжэ с тае пары заўжды даюць старцом па кавалку хлеба, нікому не аткажуць і нікого не ўпікнуць, а як прыдзе Спас да Зелная, дак і несуць у цэркву сьвеціць збожэ да маліцца Богу, каб паслаў лепшы зраджай.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 33. ВАЛАЧАШЧЫСА ПАРАБАК, ЦІ СЛУЖАЧЫ ХЛЕБ САБАЧЫ

Быў сабе адзін валачашчыса парабак. Ён не маў свае дамоўкі, а ўсе парабкаваў. Але дзе ён не застанецца, та ўсюды яму не добрэ, не мажэ ён ужыцца да й валачэцца далей, шукаць лепшаго прытулку. Наняўса ён у двары служыць пану. Думае сабе, што дзе ж лепш служыць, як не ў пана. Пан багаты, усяго ў яго много — будзе й на яго долю. Служыць ён пану верно, шчыро працуе, а пан усе частуе яго кожын дзень: «Гультай, пся крэў! Немаш тобе лозы!» Ведамо ж, праўду кажуць людзі, што служы пану верне, та ён табе пердне, бо ў пана ласка па парог. Пан дурны, работы не знае да толькі панукае. Яму не трэ добрэ рабіць, а як ён веліць. Кінуў той парабак пана — агідло яму глядзець, што ўсе робіцца не на карысь, а на паказ, і пашоў шукаць лепшае гаспадаркі. Доўго ён цягаўса без дзела да й зайшоў у карчму атдыхаць да людзей распытаць, ці не трэ каму парабка. А тые кажуць, што ў кождаго работы много, але якая з валачашчагоса парабка карысь, ведамо, чужы. І ніхто не хочэ яго браць. «От ідзі хіба ж к папу,— кажуць нарэшце,— бо ў папа якое дзело. Паблагатаў, паблагатаў, да й спажывай, што люд даў». Пашоў той парабак да й наняўса к папу. Але ведамо, поп, быў

ён вельмі скупы да завідны. Бачыць ён, што людзі завіхаюцца, стараюцца сабе больш зрабіць і што ў іх усяго многа, от і хочэцца яму, каб парабак згураваў людзей і нарабіў больш, як свой семенін. Стараўса, стараўса парабак, а папу ўсе мало; от і застаўляе той яго, каб уставаў до сьвета, як запае певень да забрэшэ сабака, да йшоў у гумно малаціць. «Людзі,— кажэ,— усе памалацілі, а ў нас стаіць у торпе. Гультай ты, а не парабак». Горно парабку. Ён стараецца лепш, як сабе, пнецца су сіх сіл, а папу не ўгодзіш. Да яшчэ не так папу, як пападзі, бо апрыч свае парабкоўськае работы трэ зрабіць усе за наймічку, бо ведамо, што ў папа заўжды дурная да гультаяватая наймічка, якое-небудзь пакідзішчэ, што нічого не робіць. «Людзі памалацілі,— гаворыць ён сам сабе,— памалацілі, бо не было чаго малаціць. Якая там лава. Як градка, а ў папа на паўпалетка. Налядаваў поўнае гумно, што й да Каляды не змалаціць». Але ўстае парабак досьветкі, пне жылы да малоціць. Нарэшце надаело яму чуць не дарам рабіць папу да яшчэ ўставаць так рано, й давай ён прыслухоўвацца, які гэто певень пае так рано й чаму з ім не абзываюцца другіе пеўні. Пацікаваў ён, аж гэто пае сам поп; запае ён пеўнем да раскатурхае сабаку, пачне яго біць да цкаваць ім нібыто воўка. Сабака й забрэшэ. На другі дзень парабак укінуў сабаку ў пусты калодзесь да спіць сабе, пакуль сонейко ўзышло, а пеўня не слухае. Пеў, пеў поп, аж яму горло апухло,— не ўстае парабак; шукаў ён, шукаў сабаку — німа. От поп плюнуў да й пашоў спаць. Назаўтра давай лаяць да сварыцца на парабка. А той кажэ, што ніхто яго не пабудзіў, затым ён і заспаўса. Бачыць поп, што з такім парабкам піва не зварыш, і хочэ ён, каб не плаціць, а каб парабак ці загіб, ці сам пакінуў службу. А ў папа было вельмі велізных да драпежных пяць вапрукоў. От і веліць ён парабку закалоць аднаго вапрука на каўбасы. Думае поп, што як парабак пачне калоць аднаго вапрука, та другіе кінуцца бараніць яго да й разарвуць парабка. «Што тут рабіць,— думае парабак,— нельга калоць аднаго вапрука». От ён папрасіў дзецюкоў да разам і закалолі яны ўсіх вапрукоў. Пасварыўса поп, але нічого не парадзіць, трэ рабіць каўбасы да ўжываць, бо

сало й мясо сапсуецца. «От е каўбасы, а німа хлеба»,— кажэ поп да й пасылае парабка ў пусты млын, дзе аблюбавалі сабе прытулак чэрці да ўселякая нечысь, каб ён там намалоў мукі з мекіны й рознае бузы. Паўёз парабак тую лабазу к чартом у млын малоць. Толькі ён пад'ехаў, як тут насустрэк выскачылі чэрці, памаглі яму знесьці мешкі, змалолі сваю самую лепшую пшаніцу да й насыпалі ў мешкі таму парабку за тое, што ён першы прыехаў к ім у млын малоць. Прывозіць парабак муку, а поп як убачыў, дак аж сплеснуў рукамі, бо ён дзіву даўса, што парабак не толькі не загіб у том млыне, але яшчэ й намалоў мукі. Спужаўса поп, заплаціў парабку ўсю ардынар'ю нават уперад да яшчэ атдаў і тую муку, абы ён ішоў сабе, куды зхочэ. Забраў парабак тое дабро да й пачаў сабе гаспадараваць, бо, кажэ, служачы хлеб сабачы.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 34. ЯК БРАТЫ ДЗЕЛІЛІСА

Было ў бацька два сыны. Адзін вельмі ўпраўны да скупы, а другі такі ціхі, што й вады не замуціць. Памёр стары бацько, от і пачалі браты дзеліцца. Але ж кажуць: хто дужшы, той і прутшы. Забраў сабе той упраўны брат немаль усе бацькаво дабро, а брату пакінуў толькі голые сцены да даў адну карову. От упраўны брат стаў багачом, а ціхі хутко саўсім абеднеў, так што німа чаго і ў рот палажыць ні сабе, ні жонцы з дробнымі дзеткамі. Німа чаго рабіць, парадзіўса з жонкаю да й паўёў на продаж апошнюю карову. Прышлосо яму весьці карову цераз лес. Бачыць ён, што людзі злавілі якогось злодзея да й цягнуць яго вешаць. Той просіцца так і сяк, клянецца на прамілы Бог, што ён невінен, што гэта на яго паклёп. Куды там, тые й слухаць не хочуць. Нагнулі берэзіну, прывезалі за верх вероўку да ўжэ й петлю зашмаргнулі. Шкода стало таму беднаму злодзея, от і атдаў ён тым людзям сваю карову, абы яны не вешалі

злодзея. Тые згадзіліса да й перарэзалі вероўку. Усхапіўса злодзей да так з петлёю на шыі бы заяц сунуў у лес. Вернуўса той бедны да гасподы без грошэй і без каровы да й расказвае жонцы, як тое было. Горно мацеры, што дзеці плачуць, есці хочуць, але як пачула яна, што гаспадар выбавіў ат смерці чалавека, дак яна абняла да пацалавала перш гаспадара, потым дзецей да хаць галодная, але радасная легла спаць. Спяць яны, дак ось жонцы прысніўса такі гожы сон, што яна аж прахапіласа да й забыла, што сніла, толькі й паметае, што вельмі пахло. Павела яна носам, аж сапраўды ў хаце штось добрэ пахне. Засвеціла яна агонь, аж той разбойнік ім дабра прыўёз повен воз да й злажыў у сенечках. Аттуль пах пашоў аж у хату. От пачалі яны спажываць тое дабро, накармілі дзецей да й далі ім яшчэ салодзенькіх пернікаў. Ведамо, дзеці, пабеглі яны на двор гуляць з дзецьмі багатаго дзяцькі. Убачылі багатые ў дзецей пернікі, пазавідувалі бедным да й хочэцца ім даведацца, скуль узелосо ў таго беднаго ўселякое дабро, што ён дзецей корміць пернікамі. Пачалі яны распытоўваць у дзецей, але тые малые, нічого не знаюць. Што тут рабіць, як разведаць, аткуль у беднаго брата ўзялосо дабро. От чэшча й кажэ: «От як сьцемнее, я пайду к ім у сенечкі да аттуль і падслухаю, што яны будуць гаманіць, та мо што й разузнаю». Як сказала баба, так зрабіла, забраласа ў сенячкі да там і прытаіласа. Толькі, ведамо, старая, пачала яна кашляць. Пачуў тое разбойнік да й падумаў, што гэто тые людзі зноў прышлі яго вешаць, выскачыў ён у сенячкі да якраз і аседлаў бабу — да давай яе перэсціць. А ў тае й духі выперло, бо колькі старой трэба. Агледзеўса ён, узяў тую бабу да й завалок к багатаму пад дзьверы. Пабожкалі багатые да й пахавалі тую бабу. От злодзей ночу пашоў на могліцы, выкапаў тую бабу, прынёс к багатаму пад вакно, пабраскаў у абалонку да й кажэ зменіўшы голас: «Аддай беднаму брату каровы й валы, бо я на том сьвеці не маю супакою». Спужаліса багачы, усюсеньку ночку перакалаціліса бы асіна. Назаўтра яшчэ раненька высунуўса багаты брат з хаты, зірнуў, аж цешча лежыць пад вакном. Пабег ён к папу да й кажэ: «Так і так, бацюшко, ночу прышла з могліц чэшча

да й казала, каб я аддаў брату кароў і валоў, а то яе на той сьвет не прымаюць, да от і лежыць пад вакном. Нехай бацюшко, калі ласка, яшчэ раз яе схавае». Пачуў тое поп да й велеў яму аддаць брату кароў і валоў, а чэшчу абецаў пахаваць. Аддаў багаты брат беднаму кароў і валоў і пахаваў бабу. Але на другую ноч зноў браскае баба ў абалонку да кажэ, што яшчэ не аддаў коней, свіней да авец і featureзнаго дабра. Назаўтра багаты аддаў брату ўсе, як мае быць, пахаваў зноў цешчу да й прыбіў яе асінавым калом, каб больш не хадзіла. З тае пары супакоілаcа баба. А бедны чалавек стаў жыць да пажываць да дабра нажываць, а злодзей пашоў сабе сваею дарогаю. Дак от як браты дзеліліса.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 35. ХІТРЫ МУЖЫК

Даўней яшчэ за паньшчынаю жыў адзін мужык. Быў ён хіцер, але прыкідваўса дурням. Рабіць ён нічого не рабіў, бо быў гультай да дзела, а толькі каго ашукае, дак з таго й жывіўса. Абарве дзе грошэй, так зараз да карчмы да й крычыць: «Эй, Шлёмка, гарэлкі да аселенец». От ён раз дзесь апарваў шмат асьмакоў. Усіх не прапіў, а ходзіць па вёсцы, саўгаецца п'яны ат плота да плота да выхваляецца: «Маю шмат асьмакоў да німа чаго купіць, бо ўсе галышы». Ведамо, мужыкі бедные, усе хаджайство што адна безхвостая кароўка да паршывая сьвінка. Добрэ, у каго дзьве-тры авечкі або каза. Што тут прадасі? Але ось ведзе чалавек старога каня прадаваць на шкуру. Сустракае яго Сымон — так дражнілі таго дуракаватаго мужыка. «Куды ведзеш каня?» — пытае Сымон. «Куды? Лупіць скуру».— «Прадай каня мне».— «А хібо ў цебе ест грошы?» — «Гэ, у мене толькі грошэй, што не то, каб што, але куплю пару коней і цябе».— «А аткуль ты ўзяў грошы?» — «Аткуль узяў, та ўзяў, а цебе не пытаў».— «А колькі ты дасі?» — «А колькі ты хочэш за каня?» — «Двадцать рублёў».— «Хіба ж з тваімі патрахамі. Гавары сэнс».— «Ну, давай

петнанцаць».— «Што петнанцаць за дыхліну. От шэсь рублёў дам, калі хочэш».— «Ну, давай дзесяць да й спажывай на здарове». Доўго яны цанаваліса, нарэшце Сымон купіў каня за сем рублёў. От прывёў ён каня ў сваю стайню. А стайня яго ўжэ даўно абернуласа, толькі яшчэ тырчыць адно шуло. Прывезаў Сымон каня да таго шула, падставіў пад хвост цаберык; а як конь туды нарабіў, дак Сымон накідаў у цаберык грошэй. Ідуць незнаёмыя да й бачаць, што Сымон нешто робіць пад хвастом у каня. А ведамо, людзі вельмі цікавые. Падходзяць яны бліжэй і пытаюць: «Што ты робіш, Сымонка?» — «Што раблю,— кажэ Сымон,— хіба ж вы слепые, што не бачыце, што раблю?» А сам тым часам вымае з цаберка колькісь залатовак. Убачылі тое незнаёмцы дак аж затрасліса, бы іх трасца калоціць. Паднелі тут яны такі гармідар, што Сымон аж спужаўса, ён думаў, што тут некага чорт ухапіў. От пакрычалі, пакрычалі незнаёмцы, пагергеталі самі праміж сабою да й кажуць Сымону: «Слухай, Шымонка. На сто табе такі конь? Ты нікуды не ездзіс, а каня есцэ трэба карміць да дагледаць. Ну, от лепш ужэ прадай нам».— «А што вы дасьце?» — «Сто, ну, хоцэс двадцаць рублі».— «От чаго захацеў. Да мне конь за адзін дзень вырабіць двадцаць рублёў, толькі я яго добрэ пакармлю».— «Ну, а колькі ты хоцэс?» — прыстаюць тыя бы смала. Сымон запрасіў чуць не тышчу. Спужаліса купцы, але ўчапіліса, бы клешч, і ўсе таргуюцца. Таргаваліса яны, таргаваліса, але нарэшце мусілі заплаціць Сымону трыста рублёў. Павелі яны каня, а Сымон узяў грошы да й пашоў хучэй у карчму. Датуль Сымон не вылазіў з карчмы, пакуль усіх грошэй не прапіў. Прайшло мо со дзьве недзелі, ачухаўса Сымон і пацёгса ў мястэчко. А купцы тым часам кормяць каня сенам да аўсом і ўсе калупаюць пад хвастом, але грошэй німаш.

От прышоў Сымон у местэчко раненько, яшчэ да ўсхода сонца. Местачковые людзі яшчэ спалі. Ведамо, у местэчку рано німа чаго рабіць, дак позно сьпяць. От Сымон прышоў на рынак, выкапаў там ямку, насыпаў туды жару, прысыпаў зверху трохі попелам да землёю, паставіў туды горшчык з варывам, сеў кале яго да й чакае. Горшчык кіпіць, аж з яго пара клубам валіць.

А Сымон седзіць сабе кале горшчыка да люлячу пакурвае. От ушчухаліса ландары, бегуць на рынак: хто крамкі атмыкае, хто людзей пераймае, каб уперш што выдурыць, хто на рынку раскладвае розные тавары. Бачаць тут, што ў Сымона горшчык без агню кіпіць і варыць страву. Ніколі яны такого дзіва не бачылі. Збіліса яны ў кучу, патраслі пэйсамі, пагергеталі да й кажуць Сымону: «Цуес, Сымонко, на сто табе горшчык?» — «А ў чом жэ я буду страву варыць?» — «Купі сабе другі, а гэты прадай нам, мы добрэ заплацім». Тут прыбеглі тые людзі, што купілі ў Сымона старога каня. От давай яны крычаць на Сымона, што ён абмануў іх, бо конь назаўтра здох і ніякіх грошэй не даў. «Адбером,— крычаць,— горшчык за тое, што ты нас падмануў». — «От жэ я вам лудатые бельма кіпетком высмалю, зачапеце толькі, хварэць вашуй матары!». Бачаць тыя, што грозьбаю з Сымонам нічого не парадзіш, давай яны прасіць яго, каб прадаў ім свой горшчык, суляць за яго п'яць рублёў. Але Сымон упёрса: от давай яму дзесяць рублёў, хаць што хочэш, таней не аддае. Шкода купцам грошэй, але не магуць Сымона абдурыць. «Ну, Сымонко, трасца тваёй матары, ты й так нас абшукаў, беры шэсьць рублі. Ну, што з табою рабіць, беры сем». — «Да хавай Божэ, й аднаго шэляга не скіну: плацеце дзесяць. Гэтакая начэніна. Да яна сто рублёў варта. Не трэба табе ні дроў, ні печы... вары сабе гугель хаць у сутачках». — «Ну, беры восім рублі». — «Не трэба мне вашых грошэй, я свае маю асьмакі». — «І сто з табою рабіць, Сымонко, вазьмі ўжэ дзесяць рублі да давай нам горшчык». — «Да ўжэш лічэце асьмакі, што з вамі робіць? Прысталі бы смала да азадку». От заплацілі тыя Сымону дзесяць рублёў і забралі гарачы горшчык. «Пачакайце трохі,— крычыць Сымон,— я забыўса, што ў горшчыку варацца тараны». Павыцягваў тут Сымон з горшчыка тараны, завінуў іх у капусны ліст, палажыў за пазуху да й пашоў у карчму. Тут ён зарас патрэбуваў гарэлкі, выпіў і давай таранамі закусваць. Патуль седзеў Сымон у карчме, пакуль не прапіў усе грошы. Тым часам аглядзеліса купцы, што Сымон іх абшукаў і пашлі к пану жаліцца на Сымона. Пасылае пан парабкоў па Сымона. Пашлі тые шукаць Сымона.

Доўго яны шукалі, нарэшце знайшлі ў карчме пад лаваю. Лежыць Сымон п'яны бы пласт. От яны вылілі на яго мо вёдзер з дзесяць халоднае вады. Тагды толькі Сымон трохі ачухаўса. Тым часам парабкі падхапілі яго да й цягнуць к пану на расправу. «Дайце пахмеліцца,— кажэ Сымон,— та я й сам пайду». Паставілі Сымону кварту, далі аселенец да лусту хлеба, прынеслі кіслых агуркоў. Частуюць Сымона, каб толькі ён ішоў да пана. Напіўса Сымон, наеўса, аж пояс распеоразаў да й пашоў да пана. От прывелі Сымона й давай на яго жаліцца. Выслухаў пан пакрыўджаных, распытаў Сымона, але той п'яны, нічого не атказвае. Думаў тут, думаў пан і не ведае, што тут рабіць з Сымонам, і аддаў яго пакрыўджаным, каб яны самі рабілі, што зхочуць. Павалаклі тут тыя Сымона на рынак. Збегласо сюды людзей цьмацьмушчая: немаль усе мястэчка, старые й малые. Крычаць, гергечуць і паднелі такі гармідар, як на Гамана. Крычалі яны, крычалі й парашылі Сымона ўтапіць ці павесіць. Перш яны замоўклі, але потым зноў пачалі крычаць. Адны кажуць — атарвецца, другіе кажуць — усплыве. Зноў пачалі крычаць, спорыць. Адны хочуць павесіць, другіе — утапіць. Доўго яны крычалі, аж ахрыплі, нарэшце пытаюць самого Сымона, як ён хочэ: ці каб павесілі, ці каб утапілі. «Э, хварэць вашуй матары,— кажэ Сымон,— рабіце, як лепш». От параіліса тыя да й згадзіліса праміж сабою, што трэ Сымона лепей утапіць. От пасадзілі яны яго ў мех, завезалі лычкам і занеслі к рацэ. Але тут уздумалі, што не спыталі рабіна. Кінулі яны мех з Сымонам на дарозе кала ракі да й пабеглі пытаць рабіна. Пакуль рабін седзеў над бубляю да мысляваў, выехаў пан з местэчка к суседу ў госьці. Едзе пан кала ракі да й бачыць, што лежыць мех, а ў ём хтось варушыцца. Як пачуў Сымон, што хтось едзе, што гэто, мабыць, пан, бо хурман паліць з біча, от ён давай крычаць: «Ратуйце, добрые людзі! Не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а за караля везуць». Учуў тое пан і захацеласо яму зрабіцца каралём. Велеў ён хурману супыніць коней, злез з качобрыка, падышоў к Сымону, развезаў мех да й кажэ: «Я ўмею чытаць і пісаць, з мене добры будзе кароль. Давай я ўлезу ў мех, а ты мене завежы». Улез гэто пан у мех. Сымон моцно яго

завезаў, а сам сеў на качобрык да й паехаў у маёнтак панаваць замяст пана. Тым часам пакрыўджаныя вернуліса ат рабіна да й укінулі пана ў раку. Толькі забулбатаў пан і пашоў на дно бы камень. А Сымон з тае пары зажыў панам. Бо кажуць жэ людзі, што калі шанцуе, та й у лапцях танцуе. Калі шчасьце, та й з меха вылезе.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 36. ЗАВОЦКІЕ КОНІ

Былі ў аднаго чалавека вельмі добрые коні. Куды ён ні паедзе, та ўсюдых абступяць людзі да ўсе пытаюць, дзе ён узяў такіе коні. Напрыкрыло яму кождаму спаведацца, от і пачаў ён шуткаваць да гаварыць на кпінкі. Чаго толькі ён не выдумоўваў, як не чмуціў да не смеяўса з людзей. От раз сабраўса ён у место на рынак, запрог свае коні, а каб не ехаць улегцы, ускінуў на воз з паўдзісятка гарбузоў. А той год гладкіе да велізазные зрадзілі ў яго гарбузы. Толькі ён супыніў на рынку коней, як ось атусюль збегліса цікаўныя, акружылі воз да й пытаюць:

— Чые гэто ў цебе коні?

— Чые? Ведомо чые. Мае.

— Але-с, вельмі добрые коні.

— Аджэ ж добрые, бо завоцкіе.

— Якіе завоцкіе? Што ты кажаш?

— Што ты чуеш. Завоцкіе, бо сам заўёў.

— Як заўёў?

— Да хварэць вашуй матары, не ведаеце, як коней заводзяць добрые людзі. Звесно, сеў, як курыца на яйца, да й высядзеў жарабят. От і коні да яшчэ якіе!

— Ну, а дзе ты ўзяў яйца?

Бачыць той чалавек, што й праўда думаюць, што коней выседжваюць на яйцах да й давай яшчэ больш шуткаваць. От ён ім і атказвае:

— Хіба ж вам вочы павылазілі, што не бачыце. А гэто ж на возе лежаць.

Зірнулі тыя на воз да й хапіліса мацаць тые гарбузы.

— Прэч, недаверкі, бо яшчэ папсуеце яйца, дак не выдуць жарабята! — Да й пачаў сербаць цікаўных пугаю, каб атагнаць іх ат воза. Разагнаў іх з большаго да хацеў іці па свайму дзелу, але ось адзін мужык прыстаў бы смала — прадай да прадай тые яйца.

— Чаму не прадаць? Купі. Я ж на тое й прыўёз, каб прадаць. А колькі ж ты дасі?

— А колькі хочаш?

— Колькі? Давай па двадцаць п'яць рублёў.

— Ну, што так дараго?

— Якое дараго? Ты зірні, якіе коні. Бачыш, завоцкіе.

— Ну, німа цаго казаць. Коні добрые, але й гросы добрые. Ну, а колькі ты ўступіс?

— Нічого не ўступлю. Гэто я прадаю, што самому некалі седзець, а трэ збожэ малаціць.

— Ну, уступі трохі, та я ўсе заберу.

— Хіба ж так. Ну, што з табою рабіць, беры ўжэ ўсе за сто рублёў.

Заплаціў купец грошы, забраў тые гарбузы да й пытае, як гэто трэба на іх седзець.

— Ты завезі іх у хмызнік,— вучыць той,— дзе много ялоўцу, пасечы з яго ветак, зрабі кубельцэ да й седзі, покуль выседзіш. Толькі скінь плюндры, бо нічого не будзе,— дабавіў той да й паехаў з рынка, каб у крамках закупіць усе, што трэ ў гаспадарцы.

От змовіўса купец з сваею жонкаю, каб яна насіла яму абед, а сам зрабіў, як яго вучыў той чалавек, да й седзіць на тых гарбузох. Седзеў ён, седзеў, ужэ весь выпетраў да й скочкі да мурашкі яго заелі, а нічого німа. Памацае ён тые гарбузы, паверне на другі бок да зноў седзіць. Прыходзіць жонка да й кажэ: «Ну, ты іх трохі пабаўтай. Мар'яна казала, што трэба баўтаць, толькі не много, бо будуць баўтуны». Пакалаціў муж гарбузы, сеў да мыслюе сабе, як ён будзе ездзіць на завоцкіх конях, як ён з іх зробіць добры гішэфт. Праседзеў ён мо недзель со тры, але ось і бачыць, што з-пад куста кала самаго яго выскачылі два зайчыкі да й паскакалі. Думае чалавек, што гэто вылупіліса жараб'ятка, павернуўса ён, каб бегці за імі, да й раздушыў гнілые гарбузы. Схапіўса тут, да так без плюндраў і пусціўса даганяць тых зайцоў. Бежыць да крычыць:

«Кося, кося, мае конікі, дам аброку!» Сустракае ён людзей да й просіць: «Ой, галубцікі, ой, родненькіе, лавеце маіх жараб'ят, бо ўцекуць. Гэто ж завоцкіе коні».— «Ашалеў,— кажуць людзі,— без парток бегае за зайцамі».

Даніло Кулеш

Чудзін

## 37. У БАБЫ ЧОРТАВА ГАЛАВА

Сатварыў Бог сьвет да й пашоў з Міколаю да Петром аглядаць, ці ўсе добрэ зроблено. Ідуць яны да радзяцца, што трэба знішчыць, што перарабіць, каб усе было добрэ. Вайходзяць яны ў адну ўёску да й чуюць якісь крык да праклён. «Схадзі,— кажэ Бог Міколе,— пабач, што там робіцца, да папраў, калі кепсько». Падходзіць Мікола да й бачыць, аж над карытам седзіць жанчына, шаруе песком да хвашчанкаю сваю морду да крычыць, кліне сваю долю, што колькі яна ні мые, а морда ўсе чырвоная. І пытае яе Мікола, чаго яна хочэ. «Я горкая да нешчасная,— з плачам жаліцца яна,— на што мене Бог на свет пусціў, калі не даў мне долі, не даў мне хараства».

— Якого ж ты хочэш хараства?

— Я й сама не ведаю. Ой мая бедная галоўка! Лепш бы мене матачка не радзіла ці малую задушыла, як мне жыць, як усе жывуць!

Паслухаў Мікола й зрабіў так, што жанчына меняецца кожную часіну, як на сонейку палыскуецца й меняецца гадзюка. Схілілася жанчына над карытам з вадою, зірнула на себе да й рада. От пачала яна чапляць на себе ўселякую ўселячыну, каб стаць інакшаю, як людзі. Пашлі яны далей, а па немалум часе чуюць, што зноў крычыць баба. На гэты раз Бог пасылае Петра, каб ён пабачыў, што там робіцца. Падходзіць ён, аж баба б'ецца з чортам. Баба схапіла вілы, а чорт ожаг. Лупіць баба чорта віламі па чом папало. Чорт круціўса, круціўса да й кажэ: «От велікая рэч, што ты б'ешса, бо ў цебе нельга пацэліць ожагам». Пры гэтум

ён пераскочыў за плот. «Меняймасо»,— кажэ баба. От паменяліса яны. Чорт даў бабе ожаг, а яна перакінула яму цераз плот вілы. І пачалі яны зноў біцца. Пырне чорт бабу віламі, дак яны й захраснуць у плоце, а баба што пырне, та зробіць у чорта дзірку. Зрашаціла яна чорта так, што мо не засталосо радзімаго месца. Але чорт не здаецца; кінуў ён вілы, пераскочыў назад цераз плот да й схапіў бабу за грудкі. Водзяцца яны бы п'яные, патаміліса абое, але не здаюцца, кожнае хочэ паставіць на сваём. Паглядзеў на тое Петро да й пашоў к Богу. От Бог пасылае яго, каб развёў бабу з чортам. Прышоў Петро, расцягаў іх, расцягаў, але нічого не парадзіць, бо так яны сплеліса, што й вадою не разліць. Прышоў Петро назад ні з чым. Але Бог зноў пасылае, каб ён іх развёў. Абазліўса Петро, што праз іх яго Бог турбуе на старасці, папробуваў іх разцягці, але ніяк не мажэ. От сцяў ім головы да й давай расцягаць. Але баба так сашчаміла рукі, што й без галавы, а чорта не пускае. Рашчаміў ён у бабы рукі, раскідаў іх да й пашоў к Богу. «А што, развёў?» — пытае Бог. «Не, Госпадзі, я ім сцяў голавы». «Не добрэ зрабіў,— кажэ Бог,— ідзі, прыстаў ім голавы, та яны ажывуць». Пашоў яшчэ раз Петро да са злосьці хучэй прыставіў ім голавы, толькі абмыліўса да голаў чорта прылажыў бабе. От з тых часаў і засталаса баба з хітраю чортаваю галавою. Мо затым яна й голаў закрывае, каб не відны былі рогі. А чорт так і застаўса з галавою бабы, бо так яму лаўчэй зводзіць добрых людзей.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 38. П'ЯНІЦА

Не дарам людзі кажуць — сaступі п'янаму з дарогі, та Бог веку прыбавіць. Мо затым добрые людзі заўжды п'янаго абходзяць, не чапаюць, нехай праспіцца. Бо п'яны гарэй чорта. Жыў тут колісь вельмі велікі п'яніца. Што з ім не рабіў пан, мо не раз спушчаў яму ўсю шкуру да абліваў пісухі гарэлкаю. А ён хаць бы што.

Яго лупяць на стайні, а ён кажэ: «Не бузуйце дарам Божаго дару, не разлівайце гарэлкі, а лепш дайце мне, та я вып'ю».— «Пасыпце яму на хвост солі»,— крычыць пан. А ён кажэ: «Дзякуй, паночку, й за тое». Німа чаго рабіць, кінуць яго палосуваць, а ён, калі не нап'ецца, дак ці што ўпечэ, ці паньськім коням хвасты паабрэзвае, ці воду з става выпусьціць, або ўдзерэ яшчэ якуюнебудзь штуку, што й смех людзям сказаць. Злаваў, злаваў пан, а нарэшце й атказнуўса ат ліхого. От напіўса той п'яніца да й пачаў іграць з чарцямі. Выдумоўваў ён уселякіе штукі да так хвацько забаўляў іх, што яны жыўцом забралі яго к сабе ў пекло. Але, мабыць, і ў пекле нельга пражыць без працы адною гульнёю. Прачухаўса трохі п'яніца да й крычыць на ўсе пекло: «Давайце гарэлкі, а то ўсе пекло разверну!» Німа чаго рабіць, далі чэрці яму гарэлкі мо два ці тры разы, да й шкода ім стало дарам бузаваць гарэлку, калі яна на землі так добрэ зводзіць людзей да ведзе іх у пекло. Толькі перасталі чэрці даваць яму гарэлку, дак ён так разбушаваўса, што аж пекло трашчыць. Разбегліса чэрці чорт ведае куды, а ён пачаў зрываць з катлоў замкі да выпушчаць з смалы грэшные душы. Выскачылі яны да й просяць, каб ён аслабаніў іх. «А гарэлкі дасце?» — «Ой, чаму не, толькі ты зрабі міласць, аслабані нашых балабостаў». Ведамо, праныры, яны й у пекле зарас дасталі пляшку гарэлкі. Глынуў ён трохі дзеля разону да й сарваў веко яшчэ з аднаго катла. Павылазілі аттуль грэшнікі да й паднелі такі гармідар, што аж пекло праваліласо. Выпіў п'яніца апошнюю гарэлку й трохі супакоіўса. Пачалі тут збірацца чэрці да як убачылі, чаго ён тут навычвараў, дак давай рахавацца, што тут рабіць. «Гэто ж ён,— кажуць,— усе душы павыпускае». Намовіліса яны да й выкінулі п'яніцу з пекла. Праспаўса ён у раўчуку пад плотам, прадзёр вочы, але бачыць — штось незнаёмы край. Усцёгса ён, але кала сэрца так печэ, што не можне й вытрымаць, трэ пахмеліцца. От і пашоў ён шукаць карчмы. Хадзіў, хадзіў — нідзе німа. «Дзе ж гэто я,— думае ён,— ні на землі, ні ў пекле, бо й там і там мусіць быць гарэлка». Ведамо, без гарэлкі на сьвеці не пражыць да й у пекло не па-

пасці. Падходзіць ён к браме й начынае стукаць у дзьверы. «Хто там?» — пытаюць аттуль. «Я».— «А хто ты такі?» — «Звесно хто. П'яніца. А ты хто?» — «Я святы Петро. Ідзі сабе, голубе, бо ў рай п'яніц не прымаюць».— «А, гэто той самы Петро, што ат Хрыста атрокса. Дак бачыш яго, як угібаў ат рая ключы, дак нікого й не пускае. Пачакай жэ, я й на цебе справу знайду». Німа чаго Петру казаць, заве ён Паўла, каб той пагаманіў з п'яніцаю. «Хто там?» — пытае Паўло. «Я».— «Хто ты такі?» — «П'яніца. А ты хто?» — «Я Паўло».— «А, гэто той самы Паўло, што ганяўса да лавіў Хрыста».— «Дак чаго табе трэ?» — «Атчыні дзьверы».— «Тут німа мейсца п'яніцам. Ідзі сабе далей».— «Дак от які ты? Хрыста ганяеш, а мене не пушчаеш. Я як вып'ю чарачку, дак заўжды скажу: дзякуй табе, Госпадзі». Німа чаго казаць, пашоў Паўло да й пазваў Івана Еваналіста. Прыходзіць той, а п'яніца грукае ў дзьверы, аж рай дрыжыць. «Хто там?» — пытае Еваналіст Іван. «Я».— «Хто ты такі?»— «П'яніца».— «Чаго табе трэ?» — «От пусці, калі стукаюць».— «Тут п'яніц не пушчаюць».— «А ты хто?» — «Я Еваналіст Іван».— «От і бачно, якая ў цебе праўда. Ты сам напісаў, што калі будзеш стукаць, та атчыняць, а калі станеш шукаць, та знайдзеш. Я от ужэ мо паўгадзіны грукаюса, а ты ўсе не атчыняеш. Сягонячы ўвесь дзень шукаю гарэлкі, а яе німаш і капелькі. Дак от як ты нашаго брата ашукоўваеш». Німа чаго рабіць, пусціў той п'яніцу ў рай да яшчэ й напаіў яго гарэлкаю, каб толькі маўчаў.

Даніло Кулеш

Чудзін

## 39. ХІТРЭЙ СЬВЕТУ НЕ БУДЗЕШ

Праўду кажуць старыя людзі: хітры не хітры, а хітрэй сьвету не будзеш. А як пачнеш вельмі хітраваць, та й перахітрыцца. Чула я ат аднаго старога чалавека, што тут дзесь недалечко жыла адна вельмі хітрая баба. Яна была такая хітрая, што мо хітрэй самого чорта. У яе была дачка адным адзініца. Але то кажэце, была яна

такая ж хітрая, як і матка. Жыве сабе хітрая баба, ліханька не знае. Людзі гаруюць, працуюць, зарабляюць кусок хлеба. А баба й так сабе цягне, што ні запарве. «Я,— кажэ,— мірськая і ўсе мірськое, дак мне можна й браць». А як трэба што аддаваць, та яна крычыць, галасуе, што Бог не велеў крыўдзіць бедную ўдаву з сіроткаю. Не чапалі яе добрые людзі. Кажуць: нехай ёй ліхо й беда. Ты яе палцам крэнеш, дак і не атчэпішса, бы ат ліхое скулы. Ужэ рыхтаваліса нашы дзецюкі правучыць старую ведзьму, каб яна не хітрыла да людзей не звадзіла, да толькі баяліса Бога. От падрасла дачка тае бабы да й стала ўжэ нелапая дзеўка, але, як і матка, нічого не хочэ рабіць, а толькі седзіць да прыхарошваецца. Ужэ трэба гатаваць ручнікі да лядаваць кубел, бо не за гарамі прыдуць і сваты, а дзеўка не то, каб што, але й латкі сабе не залапіць. А ведамо, у гаспадарцы трэ ўсе ўмець рабіць, бо кажуць жэ людзі: дай Божэ ўсе ўмець, да не ўсе рабіць. От хітрая баба пашла на кірмаш, накупіла там markznae жаночае рухамосьці, паказвае тое людзям да кажэ, што гэто нарабіла яе дачка. І пашла прачутка, што бабіна дачка такая здатная да работы, што ніхто таго не зробіць, што яна навычварала. От посьле Каляд і пачалі к ёй хадзіць сваты. Дак куды там, баба й слухаць не хочэ, а дзеўка кожнаму хлопцу дае рэкуз; немаль зрэкузавала ўсіх хлопцаў ва ўсёй акрузе. Сорам людзям, але нема чаго рабіць. Перабірала яна, перабірала, але за перабірачку дае Бог гарачку. Так трапіласо й з тою дзеўкаю: пахадзілі сваты да й кінулі. От прайшоў год, другі, а к ёй ніхто й носа не пакажэ. Бачыць баба, што перахітрыла, што дачка мажэ саўсім застацца ў дзеўках, от і пачала яна круціць да падбіваць жанок, каб тые падмаўлялі людзей браць яе дачку. Дачуліса аб том дзеўкі да й пачалі абходзіць бабіну дачку, бы ліхую, а хлопцы давай к ёй прыставаць нібыто кахаюць, але прыстаюць толькі, каб накпіць. Рада хітрая дзеўка, што яе хлопцы кахаюць і к кожнаму яна хіліцца, нібыто й сама кахае, а тым часам выбірае сабе хлопца самаго багатаго да ўдалога. Сьмеюцца хлопцы, а сватоў не засылаюць. Нарэшце дагадаласа хітрая дзеўка, што гэто кпінкі да й годзі карагодзіцца з хлопцамі, не хочэ з імі й гаварыць, не то, каб што. От

быў там адзін плюгавы хлопец. Ён яшчэ з маленства та пасьціў у папа сьвіне, та служыў у жыдоў, та дзесь цягаўса па сьвету да так разбэсьціўса, што яго добрые людзі й к сабе не прымалі. Пачаў той хлопец піць да красьці. Злавілі яго людзі, павучылі трохі да й пусьцілі. От і пачаў ён вельмі смолно прыставаць к той хітруй дзеўцы, але куды там, тая й слухаць не хочэ, дзе яна пойдзе за такого п'янчужку-валацугу. От той хлапец і пачаў хітраваць. Пашла раз тая хітрая дзеўка ў лес па ягады, а той хлапец за ею назіркам. Падышла яна к палянцы да й рве сабе маліны. На палянцы расьце просо, а каб яго не пілі птушкі, дак гаспадар зрабіў апудало: павесіў на жэрдку рваны лапсардак да дзіравы капелюш, бы рэшато, да й падап'ёр тоўстым дручком. Стаіць апудало, целепаецца ат ветру да пужае не то што птушак, але й людзей. Бачыць хлопец, што дзеўка заахвоцілаcа рваць маліны, от ён скінуў сваю вопратку, зняў з апудала лапсардак да капелюш, адзеўса разбойнікам, узяў той дручок да кінуўса з гушчэчы к той дзеўцы. Спужаласа яна да кажэ: «Рабі, што хочэш, толькі не губі душы». Тым часам ужэ быў змрок. Пастушкі гналі говядо да пачалі галёкаць. Кінуўса разбойнік наўцекача ў гушчэчу, скінуў там хуценько лахман да капелюш, апрануўса ў сваю вопратку да бегом к той дзеўцы, нібыто ратаваць яе ат разбойніка. Рада дзеўка, што засталаса жывою, дзякуе таму хлопцу да й згаджаецца з ім пабрацца. Пакруціла трохі баба, але нарэшце дагадаласа, што хітрэй сьвету не будзеш, да й аддала дачку за таго п'янчужку-валацугу.

Матруна Бохмачыха

Чудзін

## 40. ПЕРШАЕ ЯЕЧКО

Хадзіў дзед на ахвоту, меў ён много клапоту: сам утоміцца, аж слова не прамовіць, а зьверыны не наловіць. Баба дзеда лае, што ён дарам гуляе. Пашоў дзед у алёс да бабе курку прынёс. Рада баба, скачэ, а курка

кудахчэ. Села курка на вечко да й знесла яечко. Бегла мышка пад скрынку, цягла сабе скарынку, хвастом вільнула, яечко сапхнула. Вінавато вечко, што разбіласо яечко. Заплакала баба, аж завыла да з жалю ўсе гаршкі пабіла. Дзед як абазьліўса, дак і засіліўса. Баба рукі паламала да пад плотам і сканала. Пашлі бабы па воду, пабачылі тую прыгоду, пачалі сакатаць да людзейззываць. Збегліса людзі за ўсяе ўёскі, не пагасілі цёскі. Пакуль разважалі тое дзело, дак село й згарэло. Людзі пад небам начуюць да хаты будуюць, робляць, як птушкі, гнезьдзечко, каб курка знесла ім яечко. Курка знесла ім яечко другое, яно ж не такое, бо першае дарагое, другое ж ліхое.

Матруна Бохмачыха

Чудзін

## 41. АГОНЬ У СЕРЦУ, А РОЗУМ У ГАЛАВЕ

Даўно тое было, бо я яшчэ была блазніцаю, як нам гаварыла старэнькая баба ўселякіе казкі да байкі, а яна, кажэ, чула тые байкі ат свайго небожчыка дзеда, як яшчэ была дзеўкаю. Много яна казала казак, да такіх харошых, што толькі заслухацца. Але я пазабывала, бо, дзеткі, доўго жыву, мо хутко будзе дзевятдзісят гадкоў. Бачыце, як мене сагнуло ў сучок, а даўней была маладзіца, як кроў з малаком, а як гуляла дзеўкаю, дак каса аб лыткі біласа. От седзімо мы, бывало, чуць не ўсю ноч пры лучыне да прадом у двор талькі да такіе тоненькіе, каб сарачня пасам пралезла праз пярсцёнак. Седзімо мы, а баба сусліць зрэбе да кажэ казкі, каб мы не заснулі. От, дай, Божэ, памець, і ўспаменула адну казку. Дак слухайце, як тое было. Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён вельмі цікавы й хацеў усе знаць. Куды ні гляне, што ні ўбачыць, та ўсе пытае, што гэта такое, зачым яно да навошто? Казалі яму, казалі людзі, нарэшце ўбачылі, што й самі не знаюць да й кажуць яму: «Дзівачны ты чалавек, колькі не пытай, та дурням памрэш, бо ўсяго не пазнаеш». Не слухае ён людзей, кінуў гаспадарку да й пашоў у сьвет. «Пайду,— кажэ,—

к яснаму сонейку, яно ўсюды свеціць, усе бачыць, дак усе знае. Запытаю ў яго, чаму так робіцца на сьвеці». От ідзе ён да йдзе, бачыць — седзіць кала дарогі на камені чалавек да ўсе крычыць, пытае: «Дакуль я буду седзець?» І просіць ён, каб запытаў у сонейка, калі ён устане. Пашоў далей да й бачыць, што якісь чалавек падпірае тын. Зірнуў ён, але не ведае, што гэто ён робіць. Ідзе ён далей, аж дзве жанчыны пераліваюць у рацэ воду. Зацікавіўса ён, але не ведае, што яны гэто робяць, да й пашоў далей. Мо ўжэ саўсім блізко падышоў ён к сонейку, дзе яно з-за землі ўсходзіць на небо, да й бачыць, што чалавек пераграбае сьмеце. Пашоў ён далей да як зірнуў праз лес, дак аж вочы зажмурыў,— такі там бляск. Падышоў ён бліжэй, аж гэто сонейка палацы блішчаць у золаце, бы вагонь гарыць. Насілу вайшоў ён туды, чуць не аслеп ат бляску да й сустракае там сонейка матку. Тая й пытае: чаго ён прыйшоў? «Прышоў,— ён кажэ,— да сонейка, каб запытаць: зачым так робіцца на сьвеці?» А тая й атказвае, што сонейко поднялосо на небо аглядаць аттуль землю. «Пачакай, яно хутко вернецца». От ён наклаў сабе агеньчыку, седзіць, грэецца да смажыць сало на ражэньчыку. Наеўса сала с хлебам. Захацеласо яму піць. Пашоў ён к рацэ, каб напіцца. Толькі ён схіліўса к вадзе, аж аттуль выплыла вельмі гожая паненка да як зірнула на яго, дак ён і стаў бы ўкопаны. Стаіць, пазірае да й ачу не мажэ атарваць ат яе. Спадабаўса ён той паненцы, от яна й кажэ яму: «Не пі вады з ракі, бо тагды сонейко цебе зпаліць». Да й павела яго пад стары дуб, дзе была крыніца. Схіліўса ён да й пачаў піць тую чыстую да халодную воду. Колькі ён ні п'е, дак усе больш хочэцца й не мажэ ніяк напіцца. «Годзі ты піць,— кажэ тая паненка,— бо ўсе добрэ ў меру. От ты хочэш усе знаць, зачым яно гэ, а не йнак, а не ведаеш таго, што хутчэй выпіць усю воду, чым усе знаць. От ты трохі напіўса, тай будзеш жыў, трохі сьвету пабачыў, та й будзеш знаць пра патрэбу». Зірнуў ён, аж сонейко апускаецца з неба ў свае палацы. Трэ йці туды, але не мажэ ён атарваць ачу ат тае паненкі. А яна й кажэ: «От мой бацько вернуўса да гасподы. Лядзі, нічого не кажы яму, што ты пазнаў і што мене бачыў». Тут яна ўзнесласа ўгору да й

заблішчала аттуль гожаю зоркаю. Пашоў ён да сонейка ў палацы. Убачыло яно, што чалавек асьмеліўса прыці да яго, да як пачне смаліць яго да пякці, дак аж мур кругом трашчыць, а ён як напіўса халоднае вады, дак і ні панкі. Абазліласо сонейко, давай яшчэ гарэй пекці, а ён шапку насунуў на вочы да й падходзіць бліжэй. Бачыць яно, што нічого не парадзіць з упартым чалавекам, от і пытае яго, што яму трэ. Расказаў ён сонейку, чаго прышоў, а тое й кажэ: «Як будзеш усе знаць, та хутко памрэш»,— і бліснуло яму сонейко ў голаў. От і пачуў ён, што много знае, але галава гарыць, а ў серцы холадно бы лёд. Вышаў ён ат сонейка да й сустракае сонейка матку. От тая й кажэ: «Памрэш ты, чалавечэ, калі не согрэеш серца, бо без серца галава згарыць». Дагадаўса ён, як нагрэць серцэ, да й пашоў шукаць тую паненку да зваць яе з неба. Пачула яна, хутко пакацілаcа з неба яснаго зоркаю да й стала кала яго тою гожаю паненкаю. От і загарэласо ў яго ў серцы да й пачуў ён, што пакуль будзе там гарэць, патуль ён будзе знаць, чаму так усе робіцца на сьвеці. От пабраліса яны да й пашлі ў яго край. От падходзяць яны к таму мейсцу, дзе чалавек пераграбае смеце. «Ой, чалавечэ,— кажэ ён,— ты ў сьмеці шукаеш згубленые грошы да дарам траціш час. Ідзі ты рабіць дзело, та хучэй заробіш больш тых грошэй». Пазнаў той чалавек сваю амылку да й пашоў гараваць да працаваць — дак і нажыў гаспадарку й грошы на патрэбу. Ідуць яны далей, аж тые жанкі ўсе пераліваюць воду. І растлумачыў ён ім, што колькі б яны не пералівалі, та вада вадою будзе, як колькі б яны не гаварылі, та нічого не выгаварацъ. Ідуць далей, аж чалавек падпірае тын. От ён і кажэ яму: «Не падпірай у жыцю гнілое, бо яно ўсе роўно ўпадзе». Нарэшце падышлі яны к таму чалавеку, што ўсе седзіць на камені, да пашлі мімо яго. Атышліса трохі, от ён і кажэ здалека: «Патуль ты седзіш, пакуль другі тут сядзе, бо ў жыцю кожын займае свае мейсцо». От прышлі яны ў яго край, нашлі тую ўёску, дзе ён жыў, але там ужэ без гаспадара й хатка яго абернуласа да яе хлопцы расцягалі на вагонь. Нема чаго рабіць, трэ жыць, як набежыць. І пачаў ён будаваць сабе харомы да заводзіць гаспадарку. Па немалум часе абрабіліса яны да й

пачалі жыць да пажываць да дабра нажываць. І дзівіліса людзі, што яны жывуць і ніколі не тужаць. Пачалі яго пытаць, чаму яны так добрэ жывуць, а ён і кажэ: «Затым мы добрэ жывом, што ў нас вагонь у серцу, а розум у галаве».

Матруна Бохмачыха

Чудзін

## 43. НЕ ЛЮБІЦЬ

Стрэліса кала калодзіся дзве маладзіцы да й загаварылі.

— Агапа, хто гэто табе скрывавіў морду? Гаспадар ці што?

— Не, мая родная, гаспадар у мене такі ціхі, як целя. От ужэ чацьвортае лецячко, як мы пабраліса, а ён не то, каб што, але нават ніколі прыкраго слова не прамовіў. Я й так, я й сяк знарок зневажаю яго або кліну, а ён хаць бы што: маўчыць, бы вады ў рот набраўшы.

— Ціхі ў цебе гаспадар. Ён нікого й палцам не зачапіў. Бачно, што вы жывеце ў згодзе.

— Не, мая родная, не любіць мене гаспадар, от затым і не лае і не б'е, як іньшые мужыкі. Ліхая мая доля з маім гаспадаром. Які гэто мужык, калі ён жонку не б'е. Не мажэ наша сестра жыць без таго, каб ее мужык не ўшчуваў.

— Дак гэто ж і добрэ, калі гаспадар не б'ецца. От пажыла б ты з маім расколам. Зірні, што ён нарабіў. Бачыш — усе цело ў сінякох. Ой, мая родная, найдзе на яго якаясь хвароба, дак ён табе дыхнуць не дась: та б'е, та ўшчыпне, та лаецца, та зневажае на чом сьвет стаіць, хаць бежы тапіса.

— Бо ён цебе любіць, дак і чубіць, а мой ціхі, бы целя, мене не любіць, от затым і не чапае. Ой, каб ты ведала, мая родная, колькі я выплакала, колькі я слёзак выліла. Чаго толькі я не рабіла, каб ён, як другіе гаспадары, хаць разок мене добрэ пабіў або хаць палаяў. Дак

куды там — маўчыць зубы сцяўшы, а не то, штоб біць, дак ніколі нават палцам не зачапіў. Пачну я лаяць да зневажаць, а ён моўчкі насуне шапку да й папрэцца с хаты. Потым прыдзе й не гневаецца, баццэ я й не лаяла. Ён хорашо загаворыць да мене, а мне яшчэ гарэй горно, от так кале серца й заўе. Ой, нешчасная мая жытка. Лепей бы мене матачка пахавала, чым за такую куцьцю замуж атдавала.

— Ну, не плач, родная, не ўбівайса! Вы яшчэ маладые. Пажывеце, пасварыцеса, а мо ён яшчэ й паб'е цебе да й не раз, толькі ты рабі яму ўсе наперакор.

— Дзякуй табе, мая родная, мае сонейко, дзякуй табе за добрую раду. Буду рабіць так, як ты кажэш, да сьлепіцаю лезці ў вочы, мо дась Бог і паб'е.

— А хто ж гэто цебе цепер пабіў?

— Наш пісар, хварэць яго матары. Ён даўно ўсе ка мне чапляецца.

— За што ж ён цебе біў?

— Да з добраго раю.

— Мабыць, ты яму спадабаласа.

— А ліхіе яго ведаюць.

— Чаму ж ты не жалішса?

— Каму ж мне жаліцца на пісара?

— А земськаму?

— Хіба ж земськаму. Дак калі ж яго тут убачыш.

— А от толькі што прыехаў. Я сама бачыла. Хадзем у волась.

— Хадзем, але я баюса...

— Чаго ж ты пужаешса? Хіба ты баішса, каб і земські не біўса?

— Не, баюса, што пан за пана цягне.

— Хадзем, а там пабачым, хто за каго цягне.

— Хадзем.

Прыходзяць маладзіцы ў воласць к земськаму жаліцца на пісара. А ў пісара ўжэ й хмель з галавы выскачыў, як убачыў, што прыехаў земські, дарма, што быў п'яны, хаць выкруць.

— Вам што, маладзіцы? Падыдзеце бліжэй да кажэце, што вам трэба.

— Паночак дарагенькі, мене пісар пабіў.
— За што ж ён цебе біў?
— Ні за што, паночак. Проста з добраго раю.
— Хіба ж ён быў п'яны, што біў маладзіцу. Маладзіц трэ не біць, а любіць.
— Што ён п'яны, паночку, дак на тое ён пісар, але за што ж ён б'ецца?
— Ось я яго пазаву, нехай пакажэ, як ён цебе біў. Маладзіцы, маладзіцы, куды ж вы? Пачакайце.— А тые як сунуць у зборню да вон з воласці.
— Дзержы іх, дзержы! — крычыць смеючыса земські.
А тые шамелях цераз паркан да ў каноплі, толькі кумпякі замітусіліса.

Д. Кулага

Чудзін

## 44. УПАРТЫ ХАХОЛ

Жыў адзін чалавек. Ён быў хахол і, як усе хахлы, быў такі упарты, што з ім ніхто не мог зрабіць ніякаго ладу. Вазіў ён на продаж гаршкі. Зіма й лето накладзе гаршкоў і рознае палівы повен велізазны воз, запражэ пару сівых валоў да й плішчыць ат вёскі да ўёскі. Лето — яшчэ туды-сюды — з рана да пад вечар валы ціхенько плішчаць воз да толькі абмахваюцца хвастамі, але як прыгрэе сонейко да нападуць на валоў авады, здрок да ўселякі гнюс, от тые як закруцяць галавамі, падымуць хвасты да сунуць у кусты або ў балото, дак гаршкі толькі трашчаць, а воз скрыпіць, бы ў совеснаго чалавека. «О цэ бэ, о цэ бэ!» — крычыць упарты хахол да пыркае валоў асном, а тые й без таго пруць, аж воз разкідаецца. «Чаго цебе нечыстая сіла несе ў такую спёку? — пытаюць яго людзі.— Нехай бы ты пачакаў, пакуль спадзе гнюс». А ён хаць бы што, маўчыць да пакурвае сабе люльку. «Гэто ж яны табе ўсе гаршкі перарытаўкуць да й яром зломяць». — «Нехай таўкуць»,— атказвае ўпарты хахол да й пыркае валоў асном. Але

от прыдзе зіма, наваліць снегу на мокрую землю, размесяць на дарозе гразь да гліну, што й ног не выцягці, а ўпарты хахол везе гаршкі на колах; зробіцца колесо бы тачыло, валы насілу цягнуць, а ён такі прэцца, хаць у такую негаць добры гаспадар і сабаку не выганіць з хаты. Прыпхаўса ён раз у вёску. Сышліса бабы, абступілі воз, бы вараньё падло, выбіраюць да таргуюць гаршкі. Тая трымае за пазухаю яйца, тая насыпала ў прыпол круп ці якого збожа, тая прынесла палойку йлну або пучок шчаціны, дак куды там, заціяўса ўпарты хахол да й хаць бы што — плацеце яму грошы. А дзе ўзяць грошы, калі іх немашака мо ў ва ўсёй вёсцы. Сакаталі, сакаталі бабы, а ён маўчыць да курыць сабе люльку. Не прадаў ён ні годнага гаршка, а тут ужэ сонейко нізко, ведамо, зімою яно не ўспее падняцца над лесам, як ужэ пара зноў спускацца на супачынак. От хацеў ён тут паначаваць, самому пасілкавацца да супачыць да й валоў пакарміць. Але бабы абазліліса да й ніхто не прымае нанач. Валы галодные, аж снег хапаюць да ліжуць на вуліцы повалач. Нема чаго рабіць, упарты хахол не траціць гумару — пхнецца далей. Ад'ехаў ён мо з версту ці больш летнікам да й варочае на зімнік. Тут сустракаюцца людзі да й кажуць: «Не едзь, чалавечэ, зімнікам, бо ўправіш у балото воз, та яшчэ жыўёло загубіш». Не слухае ўпарты хахол, едзе далей. От прапхаўса ён ганоў з двоі, як пад возам затрашчаў лёд, колесо праваліласо. Пачаў ён пароць асном валоў, а тые як рвануць, воз абернуўса, гаршкі пасыпаліса бы гарох, а валы праламалі лёд да й увязлі ў гразі па самые рогі. Хацеў хахол выпрагці валоў, да й сам усунуўса ў палонку па самые вушы. Пачаў тут ён крычаць да зваць людзей на ратунак. Пачулі тые людзі, вернуліса да насілу выратавалі таго ўпартаго хахла да валоў, а воз і гаршкі так і загінулі. Дак от якіе хахлы ўпартые.

Савіцкі

Чудзін

## 45. РАЗУМНЫ Й ДУРЭНЬ

Былі ў бацька два сыны, адзін разумны, а другі дурны. Пакуль бацько ўздужаў, дак ён сам правіў гаспадаркаю, а сыны толькі рабілі дзело; а як бацько пастарэў да ўжэ не ўздужаў прыганяць сыноў да работы, та разумны сын пачаў агінацца, пачаў увільваць ат работы да ўсе цяжкае дзело ўзвальваць на дурня. А той, ведамо, як дурны, запрогса, бы чорны вол у соху, да й не бачыць прасьветлае гадзіны. Разумны та ў людзі, та ў карчму, та ў волась ці куды, а дурэнь, як устане з самаго рана, дак да познае ночы таўчэцца ў гаспадарцы да так робіць, што аж жылы ў яго трашчаць. Камендуе разумны брат дурням, дарам, што старэнькі бацько пазірае на тое падслепаватымі вачамі да толькі галавою круціць, нічого не парадзіць, бо ж кажуць людзі, што трэ тагды вучыць дзяцей, як яны кала лавы ходзяць, бо як вырастуць, та яны цебе навучаць да памучаць. Седзіць старэнькі бацько ў запечку да толькі ўздыхае. Рад ён і таму, што хаць невестка не гоніць яго з хаты, а то куды там яшчэ разумнаго сына ўшчуваць. І пачаў разумны сын цягнуць сабе з гаспадаркі дабро да заводзіць атарыцу. Ён цягне, а жонка памагае. Яшчэ за жывым бацькам нажыліса яны, сабралі грошы, справілі сабе вопратку, але не дзеліліса, бо шкода было аставацца без дурного рабоцька, што хадзіў цёмны да чорны, бы комін, а дзело рабіў за ўсіх. Але ось памёр стары бацько, й пачалі браты дзеліць спадкі. Разумны брат, як вельмі ўпраўны, забраў сабе ўсе, што лепшае, а дурню заставіў старэнькую хатку да кучу смецця. Узяў сабе разумны парабка, выбудаваў новую хату да й жыве бы пан, а дурэнь не ведае за што й узяцца. Даў яму брат адну кароўку, дак ён і тую не ведае, як дагледзяць: стаіць карова ў загарадцы, раве галодная да б'ецца, аж плот раскідае. Пачуў разумны, як раве карова, да й кажэ: «Нехай бы ты выгнаў яе на пашу». Заняў дурэнь карову, выгнаў яе на яравы палетак — тая й пасецца ў збожы, а ён сеў сабе на межы кала дарогі, зрабіў з саломіны дудачку да й грае так гожэ, што аж жаваранкі заціхлі ў небе да й слухаюць. Але ось пабачылі людзі, што дурэнь нарабіў шкоды, да й давай яго лупца-

ваць да вучыць розуму. Дак што ты з дурням зробіш — яны яго лупяць, а ён смяецца да кажэ: «Ото ж дзякуй вам, браткі, што вы трохі пабілі вошы да пачасалі мне плечы». Плюнулі тые людзі, выгналі з збожа карову да й пашлі кожын за сваім дзелам. Прыгнаў ён дамоў карову да й пашоў к брату пытацца, што яму рабіць. От разумны й дае яму злыгач прывезаць карову, каб яна не ламала плоту да не лезла ў вагарод. А дурэнь думаў, што брат даў яму злыгач везці карову на продаж. От ён залыгаў і паўёў. Ведзе ён да ведзе праз лес, аж чуе — рыпае дзерава, наваліўшыса на другое, й здалосо яму, што яно кажэ: «Прадай карову». От ён прывезаў к таму дзераву карову да й пытае: «А калі ж заплаціш грошы?» — «Рып, рып! Прыходзь заўтрэ». Пашоў дурэнь да гасподы да й хваліцца брату, што прадаў карову. «А дзе ж грошы?» — пытае той. «Велено прыці заўтрэ»,— кажэ дурэнь. Назаўтра яшчэ чуць сьвет пашоў дурэнь у лес па грошы. Прыходзіць туды, аж ат каровы асталіса толькі рожкі да ножкі, а за ноч яе ваўкі ўсю растрыбушылі да толькі шкуру вылушчылі. «Давай грошы!» — крычыць дурэнь на ўвесь лес, а дзерава маўчыць бы пень, бо на той час сьціх вецер. Заплакаў дурэнь ат жалю, так яму шкода, што дарам аддаў карову, да й пашоў жаліцца брату. А той й кажэ: «Прыведзі таго сюды, каму ты аддаў карову». Пабег дурэнь зноў у лес, аж бачыць, што кала таго дзерава стаіць мужык да абрэзвае шкуру. «Аддай за карову грошы!» — крычыць дурэнь. «Якіе грошы? — атказвае той. — Гэтош падло». Схапіў гэто дурэнь чалавека загрудкі, грымануў яго на землю да завезаў повадам за шыю так моцно, што аж у таго вочы з ылба выперло. Пацёг дурэнь чалавека ў вёску к разумнаму брату. Бачыць мужык, што ат дурня не выкруцішса, йдзе, толькі бокі пачухвае. Убачыў тое разумны брат да й наваліўса на мужыка, каб заплаціў грошы за карову. Круціўса, круціўса той, але мусіў аддаць грошы, бо яго кабылка там асталаса да й шкуру ён ужэ палажыў к сабе на воз. От дурэнь узяў грошы, разгроб кучу сметніку да й пасеяў іх, каб болш вырасло. Ходзіць дурэнь да кожны дзень палівае сметнік, а грошы не растуць. Пачалі з яго смеяцца людзі... Горно яму стало, што штоб ён ні зрабіў, дак усе кепсько, за ўсе яго людзі

лаюць, бэсцяць да завуць дурням. Моташно на сэрцы, хаць ты рукі налажы. От узяў ён злыгач да й пашоў у лес, каб там засіліцца. Ідзе ён цераз поле, а там дзеці пасуць авечкі да паюць песні. Падышоў ён бліжэй, каб паслухаць, як яны паюць да граюць, а тые, як убачылі яго, дак і пачалі крычаць: «Онь ідзе дурэнь, нехай ён нам пайграе». Абступілі яго дзеці да й пачалі тузаць атусюль, каб ён пайграў. Дастаў дурэнь з-за пазухі дудачку да й пачаў іграць. Заслухаліса дзеці, прыціхлі, бы кветкі, а вочкі ў іх свецяцца, баццэ зоркі. І забыў ён, куды йшоў, да давай іграць з дзецьмі да рабіць ім цацкі. Пачапляліса на яго дзеці да наперабой крычаць: «Дзяцько, дзяцько, павазі мене!» Яны забылі, што гэто дурэнь, а ён забыў усе на свеце, усю сваю плягу. От ужэ сонейко заходзіць, а дурэнь усе грае з дзецьмі. Толькі як сьцемнело, прыцёгса ён дамоў. Толькі ён улез у хату да пачаў шукаць, каб што-небудзь з'есці, бо вельмі агаладаў, аж прыходзіць к яму старэнькі дзедок да й кажэ: «От за тое, што ты забаўляў маіх дзетак, я прынёс табе есці». Да й пачаў ён выкладваць з торбы ўселякую ўсячыну. Наеўса дурэнь да й забыў падзякуваць, а той дзедок і кажэ: «Пашукай ты на сметніку, там твой бацько схаваў табе грошы»,— а сам і знік. Пашоў дурэнь на сметнік да як карпануў, дак і вывернуў гаршчок грошэй. І пачаў ён з тае пары добрэ жыць. І то сказаць, аткуль у яго й розум узяўся? Але, ведамо, багаты, дак і разумней ад усіх. Толькі дзетак ён не забываў і заўжды зь імі граў.

Іван Куцько

Чудзін

## 46. МЕДЗЬВЕДЗЬ

Даўно тое было. Але, мабыць, і тагды людзі гаравалі, працавалі, каб зарабіць крыху хлеба да ўзгадаваць дзетак. Ведамо, маркотно кожын дзень ат самых пеўнёў да аж да змроку цягнуць яром бы вол, што табе аж вочы выпірае. Зірнеш на Божы сьвет, дак дакола так гожэ: птушачкі весело паюць да радасно шчабечуць на зелё-

ных ветках. Не трэ ім клапаціцца, каб у добрую пору паарацЬ ці пасеяць; не трэ ім пасьпешаць, каб за пагоду пажаць да звезці з поля збожэ; нічого не трэ, бо Бог ім дае гатовы корм. А зірнеш, якая ў іх опратка, што колькі ты ні гаруй, такое ты й праз сон не ўбачыш. Зірнеш на большых птахаў, як яны смело ўздымаюцца ўгору пад самае небо, к яснаму сонейку да як яны кружацца да купаюцца ў паветры, дак так зробіцца зайздросно, так кала сэрца заўе, што от здаецца, пакінуў бы сваю слімазарную гаспадарку да чорную хатку, падняўса б угору да й палецеў бы над лесам зелёным, над жоўтымі горкамі, над цёмнымі ўёскамі туды далеко к яснаму сонейку, к дробненькім зорачкам, палецеў бы к Богу на скаргу, каб там горкімі слёзкамі выплакаць сваю ліхую долю, выплакаць тое горэ, што гнеце да точыць табе сэрцэ на землі цэлую жытку. Але Бог крылаў не даў, а велеў усю жытку лазіць у гразі чорным да цёмным і нема табе ніколі супачынку, нема радасці. От як палезе ў голаў думка, што мо шчаслівейшы ат цебе той камень, катораго таўкуць да перакідаюць на дарозі, дак кінеш дзело, кінеш думкі да й нап'ешса так, як мо й у небе не трапяць. Вып'еш адну-другую кварту, й пабежыць якаясь сіла па жылах, загудзе ў галаве, бы вагонь у печы, й здаецца табе, што от, каб упёрса ў штонебудзь, та б і землю перавернуў, такая ў табе чуецца моц. Вып'еш яшчэ, дак ногі самі так і ходзяць, так і тупаюць, баццэ ў таго паньськаго жарабца, рукі махаюць, бы крыла ў ветраку, й здаецца, што гэто не рукі, а крыла, што імі не дзело рабіць, а толькі летаць да кружыцца. І цесно стане табе ў чорнуй хацці, вылеціш на шырокі Божы сьвет да так табе зробіцца весело на сэрцы, што толькі паеш да паеш. І хочэцца табе, каб усе людзі з табою пелі да скакалі, бы на весельлі. Дак от што робіць гэстая жывая вада. І не дзіво, чаму наш брат гарапашнік робіць, робіць, як чорны вол, клапаціцца, клапаціцца, а як ужэ нельга больш вытрымаць, дак і лыкне жывое вады да й забудзе сваю горкую жытку. От, кажуць, быў у нас такі адзін чалавек, што ён не меў палогу да гарэлкі й не любіў яе піць кожын дзень, а толькі прымаў тагды, як душа з цела вылазіла да прагласа радасці да лепшаго жыцьця. Ужэ колькі раз

ён чуць не засіліўса, хацеў прадаць чорту душу, каб толькі ён даў гарэлкі, але, мабыць, дрэнная была ў яго душа, калі за яе й сам чорт не зхацеў даць кварту сваее вагары. Нема гарэлкі й нема за што купіць, дак ён валяецца бы калода да сьпіць, каб хаця прысніўса радасны сон, бо жытка гарэй ат пекла. Гэ спаў ён мо паўжыткі, аж бокі атлежаў. І кажуць яму людзі: «Чаго ты валяешса, абібок, гэто ж ат людзей смех і ат Бога грэх».— «За што ж мне грэх,— атказвае ён,— нехай таму грэх і смех, хто не дае мне гарэлкі, а без гэстае жывучкі я ні на што не гож». — «Да гэто ж ты апусьціўса, бы мокрая курыца».— «Мабыць, так Бог даў»,— мыркнуў ён да й сунуўса зноў у берлог. «Дзецюкі,— кажэ адзін чалавек,— давайце купімо яму гарэлкі, та мо ён сваімі штукамі й у нас крыху атгоніць плягу, а то от так кала сэрца і ўе, аж моташно».— «Добрэ»,— кажуць тые. От яны злажыліса, прынеслі дзьве пляшкі гарэлкі, далі таму чалавеку такі добрэ выпіць, а самі толькі душу падражнілі. Выпіў той мо з пляшку да й пачаў вычвараць розные штукі. Але ось ідуць якіясь старцэ. Пабачыў той п'яніца, апрануўса ў кажух, вывернуўшы яго ўверх шэрсцью, да й пабег пужаць тых убогіх. Але то былі не простые старцэ, а сам Бог з анёламі. Зірнуў Бог на таго чалавека да й абернуў яго ў медзьведзя. Пашлі старцэ далей, а ён папробуваў распрануцца, дак куды там — кажух і прырос. Сунуўса ён к людзям, але тые спалохаліса да й пахаваліса, хто куды трапіў. От і пацёгса ён у лес да там і да тых час жыве. Улетку цягаецца да пужае людзей, а ўзімку сьпіць да сьсе сваю лапу. От затым у медзьведзя чалавечыеногі і ён вельмі любіць гарэлку да салодзенькі медок.

Кажан

Чудзін

## 47. АЎСЯНАЯ ДВОРНЯ

Сышласа ўся дворня й жаліцца, што пан корміць іх толькі адным аўсом.

— Даніло, братко! Ты ўсім нам галава. Дай ты нам раду, што тут рабіць з панам? Заморыць ён нас гэстым аўсом.

— Эй, Сьцепане, не табе гэто казаць: ты бываў у сьвеце, многа бачыў, много чуў. А я нічого не знаю. Якую я тут дам раду!

— Праўду кажэ Даніло. Калі ты, Сьцепане, не парадзіш, та ўсе мы паздыхаем ат гэстаго аўса.

— Што я параджу, калі пан кажэ — бачыш, якіе дужые коні ат аўса. От такая дужая мая дворня, бо яна аўсяная.

— Ой, мы горкіе! Што тут рабіць, што пачаць? Гэсты аўёс ужэ нам кішкі пераеў.

— Да што кішкі... Онь у мене кірдзюк на языку.

— Добрэ табе казаць, калі ў цебе кішкі бы халява. Я бачыў, як ты еў ершы ў кума на радзінах. От, мае браткі, кідае ў горло адзін за другім сухіе ершы, бы ў прорву. Мо ат таго ў цебе й кірдзюк на языцэ.

— Талкуй, ат таго. Ершы я кідаю ўперад галавою... Не, гэто ат аўса. Ат гэстаго аўса мы скоро саўсім абернемса ў коней.

— Ой, ратуй, Сьцепанко, калі ў Бога верыш. Не хачу я быць кабылаю.

— Ну, чаго заскуліла? Хіба ж спалохаласа, што кабыла толькі адзін раз у гаду гуляе?

— А табе абы зубы вышчараць.

— Вышчарыш і ты, як абернешса ў кабылу.

— Ну, Сьцепане, чаго к маладзіцы прычапіўса? Бачыш, што й ёй ат аўса жыцьця нема. От лепей пакруці галавою да парадзь, што тут рабіць.

— Што я параджу? От хіба нам хурман Нічыпар парадзіць, што рабіць з паганым панам. Нічыпар мае дачынене да коней...

— Хіба ж мы ўжэ коні?

— Да чаго ты прыплёў тут коні?

— Онь нашы коні ніколі аўса й не бачаць.

— Аўёс, аўёс!.. Людзі заўжды з аўса гатовяць блінцы, робляць талакно.

— Онь салдатка Рыпіна з аўса варыць крупнік і не нахваліцца, як смачно.

— Я ку, што Нічыпар ездзіць з панамі на конях, дак ён лепшэй знае коней, лепшэй знае, што паны гаворацць і што думаюць...

— Да не плеці ты лапці, не чмуці. Мы самі з вусамі.

— Я не плету, а праўду кажу. Не мая праўда, Нічыпар?

— Ужэ ш праўда. Я чую, што паны гаворацъ, знаю, што яны думаюць: я бачу іх навылет.

— Ой, Нічыпарко, саколік, памажы ты нам у бедзе.

— А што вы мне дасьце? Калі паставіце гарнец гарэлкі, дак не ўбачыце аўса, як сваіх вушэй.

— Не толькі гарнец, а нават два, толькі памажы нам, Нічыпарко, атверні гэстую плягу.

— Ну, так хадзем-тко на дзедзінец, да рабеце тое, што я скажу.

— Камендуй, камендуй, Нічыпарко, будамо рабіць, што ты завеліш.

— Дак от пакуль я схаджу па гарапнік, вы ззавеце сюды ўсю дворню да й чакайце мене. Як я прыду да пачну смаліць гарапнікам, дак вы бегайце да ржэце, бы коні. К пану назезжаласо много гасьцей, я ўсе расталкую пану пры гасьцях. Пану будзе сорам ат гасьцей.

— Рабі, Нічыпарко, як добрэ. Ты лепей нас знаеш.

— Нічыпар, Нічыпар! Чэго там тэ галганы пазбіралысе на дзедзінец? Распэньдзь іх бічэм.

— Да я ўжэ разганяў, паночку, толькі ены ешчэ гарэй ржуць, от баццэ коні.

— А ты задай ім пад фэ.

— Гэй, каб вас так і сяк! Чаго пазбіраліса?

— І-га-га-га! І-га-га-га!

— Але цо то ест? Госьці бардзо зацікаўёны сон.

— Што? Бачыце, што людзі ў коней абернуліса.

— З чэго ш то?

— З чаго? Ведамо — з аўса.

— З якего овса?

— А пан жэ велеў усю дворню карміць усе аўсом. От кармілі, кармілі да й выкармілі на адзін бок.

— Цо ж тэрас робіць?

— Што? Ведамо, што рабіць. Трэ й дваровых карміць уселякаю страваю, а не аўсом, як коней. От нехай пан спытае ў паньськіх гасьцей, што яны скажуць, праўду я ку ці не.

— С тых час каж іх карміць вшысткім, цо ест і цо готуён до мэго стола.

С. Корчык

Чудзін

# 48. ЗДАТНЫ ПАЛЕШУК

Жыў сабе адзін вельмі здатны палешук. Много ён хадзіў па сьвету, мо на сем міль у акрузе, много ўселякаго дзіва бачыў. Дзіvіліса людзі, як яго галава зносіць, як яно там месьціцца. Разумны быў ён і да ўсяго здатны. Бало, калі ўжэ ніхто не зробіць, та бегуць к яму. Ён пакруціць галавою да калі нічого не зробіць, дак ужэ ніхто не парадзіць. А ведамо, у гаспадарцы заўжды мае быць прыгода, дак нічого й не парадзіш, калі немашака здатнаго чалавека, хаць седзі да й плач ці бежы к таму палешуку, чапкуй да прасі, каб памог. Але нема чаго казаць, ён быў добры чалавек, бало папросіш, дак ніколі не атказкэ, паможэ ў бедзе. От раз адзін чалавек пашоў араць на грэчку. Гэто было якась после Сёмухі. І напалі на валоў авады да здракі. Круціўса ён, круціўса, нічого не мажэ парадзіць, валы круцяць та на занозу, та на кульбаку. «Ну,— думае,— беда! Яшчэ задратую валоў, а тут трэ даараць, хаць ты лунь». Задаў ён валом дыхту да й арэ, але ось адзін вол як закруціць на кульбаку, дак тая трэсь і зламаласа. Што тут рабіць! Была ў яго сакерка, а ў суваратах якраз стаяў каржакаваты дуб, да, бачыце, авады да здракі так рэжуць вала, што ён круціцца бы ўюн у рэшаце,— нельга ўзяць меркі. Стаіць той чалавек, рукі сашчапіўшы, чуць не плачэ, не ведае, што рабіць. Аж ось на шчасце Бог паслаў таго здатнаго палешука. «Чаго ты,— ка,— сябрэ, бедуеш? Гэто ж можне зрабіць кульбаку». — «Да зрабіць можне,— атказвае той,— але як памераць».— «Гэ! Які ты дзіўны,— кажэ палешук,— от пабачыш, як я хутко памераю». От завезаў ён валу на карак злыгач, закінуў яго другі канец на тоўстае рало дуба, схапіліса яны абудва аберучкі за тую вероўку да й цягнуць вала на дуб, каб там памераць крывую галіну на кульбаку. Чуць не задушылі вала, але такі зрабілі кульбаку. «От жэ дзякуй табе, сябрэ, што навучыў мене да памог, як ратавацца ў бедзе, а то б я й глузду не прылажыў». Другі раз здатны палешук вельмі цікаво паказаў сваёй бабе, як мыць дзераўляные місы да каўшы, бо, ведамо, што ат туку на іх гразі на палац. Баба скрабе нажом

да шаруе хвашчанкаю, але нічого нельга зрабіць, бо сало ўедаецца ў дзераво наскрось. «Гэ, дурная баба,— кажэ ён,— ты ўсе кіпці папрыдзірала, ось я табе хіба пакажу, як чысціць уселякую пасудзіну». От узяў ён усе свае дзераўляные місы, каўшы да таўчэйкі да й паўкідаў у печ на жар да яшчэ й печ засланіў засланкаю. «Ось яны там агнём выгараць да не то, што будуць чыстые, бы шклянка, але нават кашэрные, хаць ты жыдом давай на сьвята». Па немалум часе атчыніла баба печ, аж там толькі вугалькі асталіса. Схапіла яна кавеню да давай перэсціць таго здатнаго палешука да прыгаворваць: «От жэ табе, хварэць тваёй матары, як у бабськае дзело мешацца! Ты б дагледаў свайго гумна, што там павуцене да гразь, што нельга й улезці, а не пазіраць на мае місы». Насілу палешук выбег з хаты да пачаў пачухваць патыліцу да спіну. Ачухаўса трохі ён да й пацёгса ў гумно. Зірнуў ён, аж праўду казала баба, што там гразь да павуцене так навісло пад страхою, што яе аж саўсім не зорко. «От жэ,— думае,— я высмалю гэстую пошкудзь да зраблю гумно бы ляльку». Выкрасаў ён агню, зрабіў з саломы зубленку да давай памаленьку апальваць пад страхою павуць. Страха была сухая, як порах. Толькі ён запаліў павуць, а полам'е як шыбане, як пабежыць, як займецца адразу ўся страха да пацеруха, дак ён насілу выбег з гумна да давай крычаць, зваць людзей на ратунак. Пакуль збегліса людзі, страха й праваліласа, а гумно гарыць бы сьвечка. Бачаць людзі, што ўжэ нельга нічого парадзіць, от яны й кажуць: «Ты чалавек здатны, хутко пабудуеш новае, яшчэ лепшае гумно, а гэтае нехай ідзе на хвалу Божую». Згарэло гумно да званьня. Пашоў той здатны палешук у лес пушчаць дзераво на гумно. Назсекаў ён дзераўляк да й давай іх вазіць у вёску: прывяжэ дзераўляку валу за хвост да й гоніць таго пугаю. Вол як рванецца, дак і адарве хвост. Паадрываў ён сваім валом хвасты, а ніводнаго дзераўлякі не прыўёз у вёску. Убачыла тое баба да як пачала яго дубасіць, пачала яго перыць мешалкаю, дак ён кінуў гаспадарку да й уцёк у лес. Бежыць да й чуе, што дзяцел крычыць: цэх, цэх! І здаецца яму, што гэто яму

грозіць баба. Ён далей прэ с усіх лапатак, а тут скрыпіць дзераво: «Рып, рып». А яму здаецца, што гэто баба кажэ: «Дам, дам!» Забіўса ён у балото да так і седзіць там да тых час.

Семён Корчык

Чудзін

## 49. АТКУЛЬ УЗЯЛІСА ГРЫБЫ

Гэто было яшчэ тагды, як сам Бог хадзіў па землі, бо даўней людзі яшчэ не грашылі, як цепер, і Бог любіў іх, навучаў і паказваў, як жыць на сьвеце, каб усім было добрэ. От раз ішоў Бог з сваімі святымі людзьмі па вёскам; ішлі яны як простые жабракі. З Богам былі Петро, Ілья, Барыс і Мікола. Добрые людзі прымалі іх, частавалі, чым Бог паслаў і яшчэ давалі на дарогу. Ведамо, часам вёскі вельмі далеко адна ат другое, а на дарозе нічого нема. А Петро заўжды любіў наладаваць свой трыбух. От раз яны доўго цягнуліса праз лес, а кругом і дымам не пахне. Прагаладаўса Петро, аж яму пад дыхавіцу закалоло. Пазірае ён паабапал дарогі, ці нема дзе якіх-небудзь ягад, але нема, бо справа была кале Міколы Вешняго. Толькі ось схаменуўса ён, як убачыў, што Барыс прэ за плечамі торбу кускоў хлеба. Барыс ішоў ззаду, ведамо, з клункам важко йці. От Петро супыніўса, нібыто дзеля таго, каб завязаць аборы на нагах. Барыс пашоў уперад. Тагды Петро хуценько дагнаў яго да й падкраўшыса на пальчыках украў з торбы кусок хлеба. Барыс і не пачуў, так той здолно залез у торбу. Ідзе сабе Петро да беззубым ротам жуе сухі хлеб. Набраў ён повен рот, а тым часам Бог знаў тое да й запытаў Петра, ці не ўтаміўса ён, ці не трэ яму атдыхаць. Не мажэ Петро адмаўляць Богу, бо ў роце хлеб мешае. От ён нібы кашляе да паціхеньку выплёўвае хлеб, каб Бог не закмеў. Але Бог і кажэ: «Не выплёўвай на землю — гэто ж Божы дар. Нехай з яго вырастуць грыбы на патрэбу людзям». От з тае пары й пашлі ў лесе расці грыбы, каторымі й цепер карыстаюць людзі.

Круглік

Чудзін

## 50. ДУРЭНЬ

Даўно тое было, мо яшчэ нашых прапрадзедаў не было на сьвеці. Жыў сабе адзін багаты чалавек; ён знаўса з ліхімі, затым у яго было много ўселякага дабра, а грошэй як трэсак. Ведамо, ат свае працы багат не будзеш, бо як ні працуй, як ні гаруй, а тут табе чорт дзірку знайдзе: не пасьпееш азірнуцца, як туды-сюды ўсе й разойдзецца. А той багаты чалавек толькі пахаджаў сабе да даглядаў парабкоў да наймічак, а гаспадарка расла бы грыбы. Людзі працуюць дзень і ноч, ніколі не бачаць прасьветлае часіны, а тут прыпадкі адзін па другом да нашчатку знішчаць ім гаспадарку. Та зьвер нападзе да зарэжэ самае лепшае гаўядо, та яно само змітрэнжыцца, та ўсходзіцца навальніца да градам у адзін момант загубіць усе збожжэ, та з добраго раю прычэпіцца хвароба да пачне цебе гнесьці да ламаць так, што аж жытка не міла. Зірнеш і дзівісса, чаму гэто багатаго чорт не берэ, чаму гэто ў яго гаўядо цэло, чаму гэто град дойдзе да яго рэза да й закруціць назад ці зьверне ўбок. Але зьвесно, чаму так, бо багатаму чэрці дзецей калышуць, чэрці памагаюць яму на гэтум сьвеці, дак за тое на том сьвеці возьмуць сабе яго душу на расплату. Так і той багач ніякаго ліха не знаў, жыў сабе ў дастатку да раскошы, пакуль-такі падышоў тэрмін і трэба было аддаць чарцям душу. Не хацеласо яму пакідаць багатство, доўго ён круціў та так, та сяк, але ж кажуць, круці не круці, а трэ ўмерці. Наскочылі на яго чэрці зненацку, як ён таго саўсім не чакаў, да раптам і задушылі. Не пасьпеў ён нават сказаць, дзе ў яго схованы грошы. Па сьмерці багатаго засталіса тры сыны, два разумные, а трэйці дурэнь. Пахавалі яны бацька да й кажуць: «У бацька было много грошэй, але ён не сказаў нам, дзе яны заховуны. Пеўне ён цепер нам скажэ, як мы справім памінкі». От справілі яны памінкі да й сгаварыліса тры ночы па чарзе начаваць на моглiцах кала магілы бацька й слухаць, што ён скажэ. Падышоў вечар. Прышлосо йці на могліцы большаму брату. Пабаяўса ён іці на могліцы да й просіць дурня, каб ён за яго там паначаваў. Згадзіўса дурэнь. Ведамо, дурному ўсе роўно, дзе ні начаваць. От лёг ён кала

сьвежае магілы да й захроп. Толькі ось праз сон чуе, што яго хтось будзіць. Прахапіўса ён да й пытае: «Хто тут?» — «Я, твой бацько»,— адмаўляе з магілы. Ноч была цёмная. Не вазнаў мерцьвец, каторы гэто сын, да й пытае: «Ты большы?» — «Эге ж»,— атказвае дурэнь. «Пакапай пад сьвіронкам, там я закапаў табе много грошэй»,— сказаў тое да й замоўк. Назаўтрэ яшчэ дось-вета прыходзіць дурэнь у вёску, аж тут кала самае аколіцы сустракае яго чорт да й кажэ: «Тые грошы заклятые, не дам табе, калі ты не абецаеш, што будзеш спажываць толькі ў сваёй вёсцы». Дурэнь на ўсе згаджаецца й выдае чорту роспіску, але падпісвае на ёй імя большаго брата. Улез дурэнь у хату, от братэ й пытаюць, што яму казаў бацько. А дурэнь атказвае, што бацько яго аблаяў, а аб грашох нічого не сказаў. На другі дзень трэ йці селедоршаму брату. Баяўса ён іці на могілцы да й пасылае дурня. Пашоў дурэнь і на другую ноч. У самую глупась зноў пытае бацько, ці гэто селедоршы сын, а дурэнь атказвае, што але ж селедоршы. «Табе я закапаў пад ігрушаю такі персьцёнак, што як будзеш яго насіць на руцэ,— кажэ мерцьвец,— та цебе пакахае першая красотка на сьвеці, хаць бы то была царэўна». Сказаў тое й замоўк. Толькі хацеў дурэнь іці да гасподы, як зноў прычапіўса да яго чорт. «Закляты,— кажэ,— той персьцёнак, я табе яго не дам». Мусіў дурэнь і гэстаму чорту даць роспіску, што апрыч свае ўёскі нікуды не панесе таго персьцёнка й сам не пойдзе. Зноў дурэнь падпісаўса, нібыто селедоршы брат. Зноў пытаюць яго братэ, што казаў бацько. На гэты раз дурэнь кажэ, што бацько агрэў яго папліскаю. На трэйцюю ноч пашоў дурэнь на могліцы сам за себе. На гэты раз мерцьвец пытае, ці гэто меньшы сын. «Але ж»,— атказвае дурэнь. «Табе я заставіў старую торбачку,— кажэ бацько,— ты ў ёй заўжды знайдзеш яду, каб пасілкавацца». Замаўчаў мерцьвец, а дурэнь пашоў да гасподы. Падслухоўваў чорт, што яму скажэ мерцьвец, але не сустракаў больш дурня, бо чорту такая торбачка не трэба. Прышоў дурэнь да гасподы, а браты пытаюць, што яму казаў бацько. «Бацько казаў,— адмаўляе той,— што мне дае ось гэстую старую торбачку». Пасьмеяліса

братэ з дурня да й кажуць у вадзін голас: «Беры, беры, як пойдзеш жабраваць, та прыгадзіцца».

Узяў сабе дурэнь тую торбачку, выкапаў грошы да персьцёнак і пашоў у сьвет, бо ведамо, з велікімі грашыма да з зачарованым персьцёнкам нема чаго жыць у цёмнуй вёсцы. Браты не спынялі яго, бо, ведамо, якая ў гаспадарцы з дурного карысць, толькі трэ дарма хлебам карміць да апранаць. Пашоў сабе дурэнь у место да й зажыў там панам. Ведамо, цяжко прывыкнуць гараваць да працаваць, і панаваць кожын мажэ. Хутко пашла прачутка па ўсёй акрузе, што зьявіўса такі багач, што мо такого й на сьвеці другого нема. Пачалі тут князі, графы да розные паны сватаць яму сваіх дачок да небог. Кожнаму хочэцца мець багатаго зяця. А тут ён як ускладзе на палац той персьцёнак, дак усе паненткі аж прагуцца. Але куды там, ён не хочэ на іх і пазіраць. І чым больш к яму прыстаюць паненткі, тым больш яму хочэцца ўзяць самую харашэйшую красавіцу на сьвеці. Дачуліса браты, што ў месьці жыве такі велікі багач, што нікому не атказвае, а без ліку дае грошы, от і пашлі яны туды, каб і ім пажывіцца ат дурного пана. Толькі яны вышлі з вёскі, як аткуль ні ўзяўса чорт да й схапіў іх жыўцом да й павалок у пекло. Яны бажыцца, яны хрысьціцца, што жодных роспісак не давалі. Чорт не слухае, валачэ. Прыцёг ён іх к старшому. Давай яны жаліцца яму на чорта. Разгледзяў той роспіскі да й аслабаніў іх, а чорту велеў за тое служыць ім тры гады. Нема чаго рабіць, падгіндзіў чорт хвост і паўёў іх да гасподы. «Мабыць, мужык хітрэй чорта,— кажэ ён,— калі й мене перахітрыў». Служыць чорт, працуе, аж на ём шкура лопаецца. Даволны браты, панукаюць чортам, а самі нічого не робляць, бо ён і без іх адзін управіцца. Абгультаіліса браты за тры гады так, што нават самі себе не могуць ахаяць,— напруцца да й валяюцца ў берлагу бы сьвіньне. Тым часам дурэнь ат дабра не ведае, куды дзецца. Спрыкрала яму такая жытка ў месьці гарэй, як у вёсцы, бо не чуе ў сабе таго слодычу, які чуў там. Тут панентак хаць гаць гаці, самі яму чапляюцца на карак, але ў яго з душы верне, а там бало на ўёсцы, як ушчыпне ён якую-небудзь дзеўчыну, дак ат слодычу аж у вачу зробіцца цёмно. Пакінуў ён место, паехаў

у вёску, дак і там нема яму жоднаго слодычу. Ходзіць дурэнь без дзела, сланяецца, бы ў воду апушчаны, сам не ведае, што з сабою рабіць, хаць беры да й засіліса. Нарэшце дачуўса ён, што е такая знахорка, каторая мажэ ў бедзе парадзіць. Пашоў ён да тае знахоркі. «Бабко, леб'ёдко, ты добрэ знаеш, добрэ памагаеш людзям,— просіць ён знахорку,— памажы й мне». «А чаго ты хочэш?» — «Нічого, бабко, я не хачу, бо ўсе маю». «Дак чаго ж ты, мой саколе, прышоў? Да мене прыходзяць людзі ў бедзе або хворые, дак я ім і памагаю. Ты здароў і ўсе маеш, ніякае беды ў цебе немашака. А зрабіць табе ліхо я не ўмею, бо нікому не раблю ліха. Мене матачка як канала навучыла толькі лечыць людзей да памагаць ім у бедзе. А ў цебе якая беда?» — «У мене, бабко, тое ліхо, што беды нема».— «Э, мой голубе, беда не за гарамі, а за плечамі».— «Ратуй, бабко, а то я засілюса».— «Што ты гаворыш. Перахрысьціса. Гэто, мабыць, ліхі падкаснуўса. Ось пачакай, я дам зельля, та можэ й паможэ». Наварыла знахорка якогось зельля да дала дурню піць. Выпіў ён раз-другі да й зноў прыходзіць да бабы. «Ну што, голубе, ці памагло?» — «Памагло, бабко, ой як памагло! Было ліхо да й пагоршало. То нічого не хацеласо, а цепер я жыць не буду, калі не дастану сабе самае лепшае красавіцы на сьвеці». — «Ой, мой саколе ясны, не турбуйса, бо гэто вельмі цяжко зрабіць. Самая лепшая на сьвеці красотка жыве за гарамі, за марамі ў тры-дзесятум царстве, да там яе пілнуе зьмей. Ты яго не адалееш».— «Нічого, бабко, пайду шукаць, хаць загіну». От баба наўчыла яго, як найці тую самую гожую дзеўчыну. «Як будзеш ісці,— вучыць яна,— та ніколі не рабі таго, што людзі лічаць ліхім, та ўсе табе будуць памагаць». Падзякуваў дурэнь і пашоў шукаць тае гожае дзеўчыны. Ідзе ён да йдзе, аж бачыць — кала дарогі стаіць карчомка. Зайшоў ён туды аддыхаць да пасілкавацца. Ведамо, у карчме заўжды людзей шмат. Сеў сабе ён у куточку да й прыслухоўваецца, што людзі гавораць. Толькі ось чуе ён, што ўсе ў вадзін голас жаляцца да бедуюць, але ніяк ён не разшалопае, чаго. Пачаў ён распытоўваць, от яму й кажуць, што зьявіўса паганы гад, схапіў ён у цара дачку, а яна была самая харашэйшая на сьвеці, а цепер летае ўсюды да хапае ў людзей гожых дзевак. Схопіць,

завалачэ к сабе да там і заставіць, веліць услугоўваць царэўне ці цешыць, каб яна не журбаваласа без айца да без маткі. Пахватаў ужэ збольш самых гожых дзевак. Дачуўса аб том дурэнь да й пашоў к цару. Прышоў пад царськіе палацы, але ніяк не мажэ даступіцца да цара, бо паны не пушчаюць. Ведамо, кала цара заўжды стаіць варта. От дурэнь насунуў сабе на палац персьцёнак да й пахаджае кала варты. Вышла тут дачка самаго старшого пагуляць да й убачыла дурня. Як убачыла, дак ён так спадабаўса ёй, што яна й вытрымаць не мажэ, каб яго не бачыць. От яна падышла да варты да й правела дурня ў палацы к цару. Пачаў тут цар пытаць дурня, чаго ён прышоў, а той адмаўляе, што берэцца вызваліць ад гада царэўну, калі цар дась людзям слабоду, каб паны з іх не зьдзекуваліса. Згаджаецца цар даць людзям не толькі слабоду, але й землю, каб толькі ён аслабаніў яго дачку. Але дурэнь упіраецца да й кажэ, што пакуль людзі не маюць слабоды, датуль ён не мажэ аслабаніць царэўны. Нема чаго рабіць, выдаў цар маніхвэст, што дае людзям слабоду й землю. Падзякуваў дурэнь цару, пакланіўса аж да землі, узяў маніхвэст за пазуху да й пашоў. Але, ведамо, не спадабаласо паном, што цар даў людзям слабоду, от яны й схавалі царські маніхвэст да яшчэ гарэй пачалі цісмуць хрысьцян. Ідзе дурэнь да й бачыць, аж ведуць мужыка да стайні лупцаваць. Заступіўса дурэнь за мужыка, падышоў к людзям да й паказаў царські маніхвэст. Загаманіў народ, кінуўса на паньськіх слуг да й атабраў таго мужыка. Падзякуваў той дурню да й пашоў з ім разам. Убачылі тое дзецюкі, дак і яны абраліса памагаць дурню. От гэ набралосо ў дурня малайцоў шмат. Ідуць яны, паказваюць маніхвэст да падбухтэрваюць людзей, а тые ўсе прыстаюць да дурня. Набралосо ў яго малайцоў моо цісяч дзесяць ці больш. От падходзяць яны туды, дзе зьмей зап'ёр царськую дачку. Напалі тут малайцы да давай ламаць да паліць гада палацы, але больш усіх завіхаецца сам дурэнь. Перабілі яны ўсе войсько зьмея да ўжэ падбіраюцца да яго самого. От ён і залез у такую землянку, каб ніхто не трапіў. Аслабаніў дурэнь царэўну да ўсіх дзевак, але не мажэ супакоіцца, бо не ведае, куды схаваўса паганы гад. От давай ён трасьці да

шукаць зьмея па ўсіх кутох.Ператрасьлі яны ўсе, аблазілі ўсюды, а зьмея нема, от бы ў зямлю праваліўса. От сабраў дурэнь усіх дзевак да й давай баляваць да гасьцеваць. Была тут адна дзеўка з чужого царства. Гэто была дачка вельмі велікае ведзьмы. Яна абваражыла зьмея да й рабіла ў яго, што сама хацела. Усе яе слухалі, апрыч аднае царэўны. От тая дзеўка вельмі незлюбіла царэўны да хацела яе загубіць, толькі не магла, бо зьмей аберагаў царэўну, як самую гожую на ўсём сьвеці. Тая дзеўка знала, дзе зьмей, але маўчала. Яна хацела, як усе будуць п'яные, загубіць дурня з яго малайцамі да разам і царэўну. От п'юць да веселяцца малайцы, а дзеўкі скачуць да паюць песьні. Пачала скакаць і тая дзеўка да так спадабаласа яна дурню, што ён і ачу не мажэ з яе зьвесьці. Зірне ён та на царэўну, та на яе, але яму здаецца, што не царэўна, а тая дзеўка самая гожая на сьвеці. Бо ведамо, як спадабаецца, та здаецца, што такое другое немашака й на сьвеці. А тут царэўна так закахаласа, так ёй спадабаўса дурэнь, меньш яна рада слабодзе, меньш рада пабачыць айца да матку, чым пазіраць на дурня. От убачыла царэўна, што дурэнь усе пазірае на тую ліхую дзеўку, да так засмуціласа, што й вытрымаць не мажэ. Зірнуў на яе дурэнь да й дагадаўса, што гэто яна ат любошчаў так змяніласа. Годзі ён піць, годзі забаўляцца, давай у дарогу зьбірацца. Тым часам тая паганая дзеўка сказала зьмею, што пара з малайцамі расправіцца, а сама падбегла к дурню да й кажэ: «Хучэй уцекаймо, бо зьмей блізко». Дурэнь надзеў на палац персьцёнак да й пытае: «А дзе той паганы гад?» Улюбіласа тая паганая дзеўка так, што не мажэ таіцца да й кажэ: «А онь там у пограбе». Кінуўса дурэнь хучэй да пограба да й наклаў у дзьверах агню. Разгарэўса агонь, от і велеў ён больш класьці веццье да мокрую салому, а сьверху памахваць, каб дым ішоў у пограб. Круціўса, круціўса там паганы гад да й затохса ат дыму. Бегае тая дзеўка кала агню да толькі рукі ломіць. Дагадаўса дурэнь, якая гэто прыяцелька, забраў хучэй царэўну, папрашчаўса з малайцамі да й паехаў к цару. Рады цар з царыцаю, што вернуласа царэўна, й абецаюць яе аддаць замуж за дурня. Тым часам абазліласа тая паганая дзеўка да й кінуласа за дурням сьледам. Бе-

жыць яна да па дарозі падмаўляе паноў, каб яны не здаваліса да ўмаўлялі цара, што дурэнь загубіць усе царство, як мужыкі будуць мець волнась. А паном толькі тое й трэ. Пашлі яны к цару да давай яго дурыць. Дурылі, дурылі, пакуль той і здаўса. Ведамо, як утапае, та сакерку обецае, а як вылезе, та й тапарышчэ адбірае, бо за добрае злым заплата. От так і той цар хутко зьменіў свае слово, атвернуўса ат дурня, а мужыкоў зноў аддаў паном. І стало людзям яшчэ гарэй, як было. Схапілі паны дурня да й выдалі таму чорту, катораго ён абшукаў. Бо ведамо, дурэнь ніколі не зробіць добрэ.

Круглік

Чудзін

## 51. ВАЛАСНЫ СУД

Да ўсяго быў Янко вельмі здатны. Бало на што ні зірне, та й зробіць сам да яшчэ штучней, як у людзей. За тое яго паважалі не то, што наш брат мужык, але нават і дваровые. Ужэ што вам казаць, які быў гарды паньські хурман Міна, да й той, як што-небуць парвецца, дак бежыць да Янка да, бы сабака, віляе хвастом. «Яначко, родненькі, выратуй з беды, парапаруй набедрыкі, бо як убачыць пан, та зьесь». Але што я кжаў хурман, калі раз сам пан паслаў па Янка, каб яму прыладзіў стрэлбу, ці што. Той толькі дзьмухнуў у рулю, дак стрэлба й стала, як мае быць. І велеў пан даць Янку шклянку гарбаты. Схапіў Янко шклянку да й хацеў бы гарэлку выпіць обмегам за паньскае здароўе. От ён абернуў шклянку ў сваю халяву да як пырхне, дак чуць пана не сьп'ёк тою гарбатаю. «Нехай яна, паночку, спрахне, гэстая гарбата! Усе печанцы гараць. Лепш нехай пан дась мне мужыцкаго трунку, бо куды мне, лапцюжніку, паньськая гарбата». Засмеяўса пан і велеў даць Янку добрую чарку гарэлкі. От з тых часаў і пачаў пан пасылаць Янка туды-сюды на работу, та ў двор, та ў хвальварак, та на бровар. Ведамо, у велікуй гаспадарцы заўжды зробіцца якая-небудзь прыгода. Саўсім занехаяў Янко сваю гас-

падарку — немаль кожын дзень седзіць у двары; калі на рабоце, а калі й так. А з гаспадаркаю ўпраўляецца Янкава маладая жонка. Яна абробіцца ў хаце да дагледзіць гаўяда й яшчэ нема куды час дзеваць. От яна выскачыць на вуліцу да й вышчарае зубы з дзяцюкамі або сакочэ з маладзіцамі. А тым часам Янка ўсе часцей і часцей пачалі зваць у двор та тое, та сёе рапараваць ці перарабляць. І так уславіўса ён, што бало пан кажэ: «Яначко, што зхочэ, усе зробіць». От дачуласа аб том пані да й пазвала яго к сабе, каб ён зрабіў ёй якуюсь рапарацю. Зрабіў Янко, што трэба, зладжыў свае нажэндзе да й хацеў іці да господы, але пані, мабыць, вельмі спадабаласа яго работа, от яна велела яму яшчэ застацца. Доўго Янко там рапараваў, аж увесь спацеў. Вышаў ён ат пані немаль змрокам да й прыходзіць да господы. От жонка й пытае яго, дзе ён так доўго забаўляўса. «Ведамо, дзе, у двары»,— атказвае ён да й маўчыць. Чуе жонка, што ат яго штось тронціць, бы ат пані, хочэцца ёй даведацца, што там такое ён рабіў, да не ведае, з якого боку падыці. От і пачала яна лашчыцца, а ён і ў той бок не пазірае. От яна й кажэ: «Ой, Яначко, я ж і забыласа, што каняка ў хлеве галодная зубамі звоніць. Нехай бы ты звадзіў яе на начлег».— «Я штось занепаў»,— кажэ ён. «Ну, дак хіба ж я сама паведу».— «Ну, чаго табе турбавацца? Каняка за ноч не здохне, а раненько я прыпну яе на прыгумечы». Уперласа маладзіца й хаць бы што — паведу да й паведу! От апранула яна кажушок, закруціла хустку да й павела каняку на лужок. Только яна выехала за ўёску, аж сустракае дзецюка. Той радзіць везці коней на паньськую канюшыну, што расце кала весковаго аўса. От папуталі яны коней, а самі ціхенько леглі на межы да й грэюцца адно кала другого. Качаюцца яны да цешацца на межы, а тым часам коні паскакалі з канюшыны да ў Янкаў аўёс. Аўёс быў толькі ў пучкох. Не так коні з'елі, як напсавалі. Тым часам прыбегаюць з двара па Янку, каб ён ішоў напрамілы Бог туды, бо там у калодзесь ускочыў паньські выжал і ніхто не ведае, як яго аттуль дастаць. Насілу ўскатурхалі Янка, так ён напрацаваўса ў пані, што спаў бы зарэзаны. Пралупіў ён вочы, узяў папліску да й пашоў. Толькі падышоў к свай-

му рэзу, аж бачыць — у яго аўсе пасуцца коні. Ён туды да й насунуўса на жонку з тым дзецюком. От ён ціхенько падышоў бліжэй да як закмеў, што яны робяць, дак давай іх перэсціць паплiскаю. Было яшчэ цёмно. Не пазнаў дзецюк Янка, усхапіўса да й схапіў яго загрудкі. Па немалум часе дзецюк падгібаў Янка пад себе да й давай его месіць каленкамі. Усхапіласа й жонка да давай памагаць дзецюку. Схапіла гэто яна за бораду да й цягне, каб перавернуць дагары, да тут і пазнала, што гэто гаспадар. Нарабіла яна крыку, збегліса людзі да й атбаранілі Янка. Насілу жонка прывела яго да господы, так яго пабіў той дзецюк. Прайшло мо недзель з пяток, пакуль ён вычухаўса. От сабраў ён сьветак да й пажаліўса на таго дзецюка ў валасны суд, што стравіў яго аўёс. От прышлі на суд. Выслухалі судзьі яго скаргу, дапрасілі таго дзецюка й сьветак да панятых, сказалі памірыцца да й вышлі ў другую станцаю на раду. Адзін кажэ, што Янко вінават, на што пускаў жонку на начлег. Другі кажэ, што яе дзецюк падмовіў пусціць коней у канюшыню. Трэйці кажэ, што Янко першы пачаў іх біць. Першы кажэ: «Ён біў, бо яны грэліса пад адным кажушком, дак ён іх і абагрэў паплiскаю». Другі кажэ, што іх двое, а ён адзін. Трэйцы кажэ, што яго моцно пабілі. Першы кажэ, што ён не жаліцца на пабоі, а жаліцца, што дзецюк стравіў аўёс, а што аўёс патаптала й яго каняка. Другі кажэ, што дзецюк вінават, бо не то, што грэўса з маладзіцаю да яшчэ й коней напасьціў у аўсе. Трэйці кажэ, што й сам рабін не разберэ гэстаго дзела, хіба трэба пазваць старшыну й пісара. От пазвалі яны старшыну й пісара, доўго яшчэ радзіліса, нарэшце стары судзья й пытае: «Ты як, Нічыпар?» — «Туды».—«А ты, Гаўрыло?» — «Туды».— «Ну, дак і я разам туды. А вы, пане старшыно, як?» — «Калі вы туды, дак і я туды».— «Мы ўсе туды, а як вы, пане пісар?» — «Там вас даволі й без мене»,— атказвае той.

Болбат

Чудзін

# 52. ХАРМАЗОНСКІЕ ГРОШЫ

Гэта было кала Зажэвіч ці што. Яшчэ майго сябра туды ганялі з хурманкамі к пану ў двор па трубы на бровар. Дак ён мне сам расказваў, што чуў там ат аднаго старого чалавека, каторы сам тое бачыў. Жыў, кажэ, у нас у Пагібельцы ці мо ў Убібацьках,— от добрэ не паметаю, не хачу хлусіць,— жыў, кажэ, адзін вельмі бедны чалавек. Працаваў ён як чорны вол, ні ў будзень, ні ў сьвято не меў ён супачынку, але от так яму не шанцавало, так нішчыласа яго гаспадарка, што нічого не парадзіць. Перш прапалі ўсе свіньне, потым кабыла качаючыса перэвернуласа ў яму да, скажы ты, пакуль ён агледзеўса, дак яна й ногі выпруціла. Нарэшце пастушкі пасцілі ў лесе гаўядо да трапілі на медзьведзіцу. Мусіць, быкі зачапілі медзьведзенятак ці што да й пачалі раўці, толькі ось выскачыла медзьведзіца, схапіла друк да й пассаджвала гаўяду клубы. Пастушкі, ведамо блазнота, кінуліса ўцекаць да й паўзлазілі на дзераво. Разбегласо гаўядо па лесі, а пару валоў і тры каровы таго чалавека засталіса хто без клуба, хто з перабітаю спінаю. Памучыласо тое гаўядо да ўсе й прапало. Асталаса ў таго чалавека толькі адна целіна да й тую ваўкі зарэзалі. Самі ведаеце, якая гаспадарка без гаўяда. Памучыўса, пабіўса трохі той чалавек, але нічого не парадзіць, бо ў соху жонку не запражэш. От і кажэ ён сваёй маладзіцы: «Чуеш, мая галубко, мабыць, за грахі нас Бог пакараў. Яго святая воля. А мы кіньмо гэстую слімазарную гаспадарку да хадзем у сьвет, та мо дзе натрапім сваю долю». А дзецей у іх не было, бо яшчэ недаўно толькі пабраліса. Кінулі яны хату, наклалі торбы да й пашлі. Прыдуць у вёску, стануць к людзям на работу, та тые накормяць да яшчэ дадуць на дарогу. От дзесь на Палесі за Старобінам зайшлі яны к аднаму вельмі багатаму гаспадару нанач да й засталіса ў яго на работу. А было гэта ўжэ пад канец лета, як людзі кажуць, што калі прайшоў багач, пакідай рагач да беры севеньку да й сей памаленьку. От той чалавек пасеяў багачу жыто, а яго жонка капала бульбу. Яшчэ сонейко высоко, а ён ужэ забаранаваў жыто, пусціў коней на пашу, а сам пашоў жонцы падкопваць картоплю. У гэты

час багатаго гаспадара не было дома, бо ён быў вельмі велікі ведзьмар, дак яго заўжды людзі прасілі к сабе, каб ён атрабіў, якое трапляецца ліхо. Ведамо, у гаспадарцы трапляецца не тое, та другое ліхо ці які прыпадак. Бо кажуць: хто мае статак, та мусіць мець і прыпадак. Захварэе хто, бегуць к ведзьмару, каб ён пашаптаў ці даў якого зелья. Прападзе ў лесі говядо, завуць ведзьмара, каб ён засек ат звера. Зробіць вораг у збожы куклу, зноў ідуць к ведзьмару, частуюць да плацяць яму, каб атрабіў да вырваў тую куклу. А калі нема й ніякаго прыпадку, дак і так годзяць ведзьмару, бо, ведамо, калі хочэш на сьвеце жыць, та й Бога хвалі да й чорта не гневі. От пачаў той бедны чалавек падкопваць картоплю да й капануў кала самае межы. Чуе, штось зазвінело. Пракапаў ён там больш да й дастаў аттуль гаршчок грошэй. Пачалі яны радзіцца, што тут рабіць, ці забраць гэтые грошы сабе, ці аддаць гаспадару. Жонка кажэ, што гэто нашы грошы, бо мы іх знайшлі, а чалавек кажэ, што мы капаем гаспадару й выкапалі грошы на яго землі, дак гэтые грошы трэ аддаць яму. Доўго яны спрачаліса да й не ўбачылі, як ззаду падышоў той ведзьмар да й кажэ: «Гэто грошы мае, бо я іх закляў». Забраў ён тые грошы разам з гаршком у хату, палічыў іх да й схаваў, а тым людзям даў толькі па адном рублю. Падзякувалі яны ведзьмару, пераначавалі да й пашлі далей. Доўго йшлі яны, от і захацеласо ім есці. А ведзьмар быў скупы чалавек і нічого не даў ім на дарогу. Але бачаць яны пры дарозе карчомка. Зайшлі яны туды, узелі хлеба, аселенца да агуркоў, пасілкаваліса да й даюць той рубель, што ведзьмар выдзеліў. Атрымалі рэшты. От яны й пашлі далей. Адышлі яны мо верстоў п'яць, мацнуў той чалавек у кішэні, аж там лежыць той самы рубель. Ён думаў, што гэто жонка палажыла яму ў кішэню свой рубель, і пашлі яны далей. Заходзяць нанач у другую карчму. Пасілкаваліса яны трохі нанач, пашлі ў бакоўку да й паклаліса спаць. Тым часам хапіўса той ландар, катораму яны далі хармазонскі рубель, аж нема грошэй. Ён туды, ён сюды, ён пытаць сваю балабосту, ці не брала яна,— нема таго рубля, от бы скрось землю праваліўса. Дагадаўса, што гэто, мабыць, хармазонскіе грошы, да й узела яго хці-

вась, як бы выдурыць той рубель сабе. Запрог гэто ён кабылку, сеў да й пусціўса даганяць тых людзей. Гоніць ён каняку ўчвал, аж з тае пена валіць да пытае ўсіх стрэчных, ці не йшлі тут тые людзі. От ужэ пачало світаць, як ён дабег да тае карчмы, да й чакае, пакуль устануць тые бедныя людзі. Ужэ сонейко паднялосо высоко, як яны прачухаліса. Усталі, памыліса да памаліліса Богу, а потым селі снедаць. Уецца кала іх той ландар, бацэ муха кала мёду, та распытоўвае, аткуль і куды яны йдуць, та што яны робляць да й заве к сабе, нібыто на работу. От паснедалі яны да й даюць таму ландару рубель за начлег і за снеданьне. Не вытрымаў той, схапіў рубель да й кажэ: «Прадай яго мне, я табе заплачу п'яць рублі». Здзівіўса той чалавек, нашто яму гэсты рубель, а жонка й шэпчэ: «Прадавай, у мене есьцека свой». І яна развезала хустачку да й дастала аттуль свае грошы. Дагадаўса тагды чалавек, што яго рубель хармазонскі, да й кажэ, што таней, як сто рублёў ён яго не атдась. Круціўса, круціўса ландар, нарэшце заплаціў грошы да й паехаў дамоў. Едзе і як мае сілы тузае лейчынамі да б'е кабылку, гоніць баржджэй, каб паказаць грошыкі сваёй балабосце. «Ё, ё! Каб цебе воўк зарэзаў, сто ты круціс хвастом»,— крычыць, а той рубель сашчаміў і трымае ў жмені. От прышлосо яму ехаць па грэбельцы да цераз брод. Пагнаў ён кабылку, а тая як тузане, дак яздок чуць з драбінак не выскачыў да й упусціў рубель у брод. А брод, ведамо, глыбокі да такі гразкі, што й ног не выцягці. Скінуў ландар боты да плюндры, падняў свой лапсардак да й палез у воду шукаць грошы. Месіў ён, месіў там гразь, аж ужэ цыцалі зрабіліса чорные ат руды, а грошэй нема. Лазіць ён па гразі да рве на сабе пейсы да бораду. Але ось ідуць па кладках кала броду людзі, смеюцца з ландара да й пытаюць, што ён робіць у гразі. «Ой, мае ві каханенькіе,— адмаўляе ён,— я згубіў тут гросікі, не простые гросікі, а хармазонскіе».— «Які ж ты дурны,— кажуць тые.— Калі гэто хармазонскіе грошы, та яны пашлі к таму, ат каго ты іх дастаў, дак табе й нема чаго шмараваць тут». Чуе той, што людзі кажуць сэнс, нема чаго рабіць, узлез на драбінкі да й паехаў дамоў, вымазаўшыса бы чорт. Тым часам тые людзі купілі сабе

добраго каня да колы, селі сабе бы паны на воз да й ездзяць ат вёскі да ўёскі. Ці доўго, ці мало яны ездзілі, а грошы ў іх усе растуць і растуць. Нарэшце прыехалі яны ў тую вёску, дзе жыў той ведзьмар, да й заехалі к яму нанач. Пазнаў іх ведзьмар да й пытае: скуль яны так разбагацелі, а той чалавек і расказаў яму ўсе, як было. «Ты,— ка,— даў нам тагды хармазонскіе грошы».— «А мне тые грошы не пашлі ў карысь. С тых часоў звелосо ў мене гаўядо, захварэла жонка да й сам я хаджу бы цень. Вазьміце сабе тые заклятые грошы, бо яны належаць вам». Аддаў ён гаршчочак з тымі грашыма, от яны й паехалі к сабе дамоў да й пачалі добрэ жыць, толькі тые грошы ўжэ больш к ім не варочаліса. Дак от якая была справа.

Болбат

Чудзін

## 53. БАГАТЫ Й БЕДНЫ

Жылі ў адной вёсцы помеж два мужыкі, адзін вельмі багаты, а другі такі бедны, што нема за што й рук зацяць. Багаты жыве, як пан, усяго ў яго много, а грашом і ліку нема. А ў беднаго ўсе яго багацье гэто тое лапікло, што на ём, да ў кішэні тры грошы валяюцца, каб іх можна было патрасьці, як пачуе першы раз зеўзюлю. Кожын год, як зеўзюля закукуе, трасе бедны свае грошыкі, але яны не прыбаўляюцца. Надаело яму насіць тые сьлімазарные грошы, але не ведае, каму іх аддаць, а кінуць на землю без дай рацы, баіцца граху. От раз пашоў багаты ў цэркву. А тут ось кала крыжа седзіць сьлепы й просіць міластыньку. Не пазірае багаты да йдзе міма, задраўшы ўверх галаў. Ззаду, апусьціўшы голаву да долу, йшоў бедны. Убачыў ён сьлепого да й даў яму грошык. І пачаў той маліцца да дзякуваць. Пачуў багаты й сорам яму стало, што бедны яго згураваў. Палез ён у каліту, але там нема дробных грошэй. «Пазыч мне дробных!» — кажэ ён беднаму. Той пазычыў яму апошніе два грошыкі. «Я табе заўтрэ аддам,— буркнуў багаты да й пашоў у цэркву на самы перод да й

стаў там на першум мейсцы. Стаіць ён да хрысьціцца, баццэ адганяе мухі. А бедны, ведамо, у сваём дзіравом лапіклу саромеецца людзей у цэркві, дак стаіць у куточку бабінца да шчыро моліцца Богу. На другі дзень пашоў бедны к багатаму па свае грошы, а той кажэ: «Нема дробных. Прыдзі заўтрэ». Пачасаў бедны патыліцу да й пашоў да господы. Ідзе ён кала старое дупленатае ліпы, аж якурат закукавала першы раз зеўзюля. Што тут рабіць, грошэй нема. Схапіў ён ліпу да давай яе калаціць. Калоціць ён да й чуе — штось там у серэдзіне забрашчало. «Мабыць, парахня ўпала»,— думае ён. На другі дзень зноў пашоў ён к багатаму па грошы. Раскрычаўса той: «Чаго ты лазіш! Якіе гэто грошы! Ты ўжэ напрыкраў мне гарэй горкае рэцькі. Кажу табе, што нема дробных. Давай рэшты з дзесяці рублёў ці прыходзь праз тыдзень». Куды там беднаму даць гэтулькі рэшты. У яго мо зроду не было толькі грошэй. От цераз тыдзень зноў ідзе ён к багатаму. Ужэ не так яму трэ тые грошыкі, як хочэцца напрыкрыць багатаму да ўпікнуць яму, што не аддае доўгу. Зірнуў багаты, што бедны падходзіць к хаце, да й лёг на лаву, нібыто памёр, а яго жонка грэе ў печы чагун вады да галосіць. Улез бедны ў хату. «Чаго ты прышоў?» — пытае яго жонка багача. «Па свае грошы»,— кажэ бедны. «Ой, голубе, прапалі твае грошы. Бачыш, гаспадар памёр».— «Боская воля,— кажэ бедны,— усе пад Богам ходзім. Дак от я хаць яго памыю». Схапіў гэто ён з печы чагун гарачае вады, наліў у ночвы да давай кіпетком мыць багатаго. Нема чаго рабіць, маўчыць той, зубы сашчапіўшы, хаць бедны яму кіпетком чуць шкуру не зняў. От сышліся людзі, палажылі багатаго ў труну да й вынеслі ў цэркаў. «Ну,— кажэ бедны,— скруціў ты мае грошы, дак я з таго не прападу, але ось яшчэ пастаўлю табе сьвечку да пачытаю псалтыр». І застаўса бедны ў цэркві чытаць псалтыр. Нахапілася ноч, пашлі людзі да господы, толькі адзін бедны папраўляе сьвечкі да чытае. Толькі ось прышлі ў цэркву зладзеі да й пазіраюць, ці нема чаго ўкрасьці. Але цэрква бедная, нічого нема. От стаяць яны да слухаюць, як бедны чытае. Тым часам усхадзілаcа такая бура, што цэрква аж трашчыць. Стаялі, стаялі зладзеі да й пачалі спрачацца, хто з іх сьмелейшы.

Адзін кажэ, што ён нікого й нічого не баіцца. А другі кажэ, што непраўда, мерцьвеца й ён баіцца. «Я баюса мерцьвеца? — кажэ той злодзей.— Нічутачкі не баюса. От хочэш, я сакераю адразу атсеку голаў гэстаму мерцьвецу». Спалохаўса бедны, не мажэ чытаць, так яму горло сьцісло, а багаты як учуў тое, дак годзі прыкідвацца мерцьвецом да як ускочыць з труны да пусьціцца наўцекача, дак зладзеі так спужаліса, што не могуць і дзверэй знайці. Кінулі яны й сакеры, кінулі свае клункі да й сунулі вон з цэркві. Узваліў на себе бедны зладзейськіе клункі, узяў сакеру да й пашоў да гасподы. Ідзе ён кала тае дупленатае ліпы, аж бачыць — яе зламала бура. І ўспамянуў ён, што ў той ліпе штось брашчало. От секанув ён раз-другі гнілы пень, дак аттуль грошы й пасыпаліса бы боб. Забраў ён тые грошы да й пачаў з тае пары добрэ жыць. А багаты так спалохаўса зладзеяў, што хварэў мо цэлы год. Насілу яго бабы атхадзілі. А пакуль ён хварэў, гаспадарка занепала, й стаў ён саўсім бедны, але ніхто таму не даваў веры й не памагаў яму.

Болбат

Чудзін

## 54. СЛЕПЫ, ГЛУХІ Й БЕЗНОГІ

У вёсцы былі слепы, глухі й безногі. Нахапіласа там вайна. Варагі падышлі к вёсцы. Зачулі людзі, што непрыяцель блізко, схапілі свае дабро да й пахаваліса: хто ў лес уцёк, а хто забіўса ў балото ці на берагі ў лозу, толькі засталіса ў вёсцы слепы, глухі да безногі. Слепы чуе, што статак стукаціць на вуліцы, калёсы грукацяць на масткох, людзі крычаць да кудысь бегуць, але нічого не бачыць і не ведае, куды йці. Так і застаўса ён на ўёсцы. Глухі седзіць сабе на загумечы ў халадку пад ліпаю да плёце лапці. Ён бачыць, што ў полі падняўса пыл да й думае, што гэто, мабыць, круціць віхар. І не чуў ён, што людзі пакінулі ўёску. Безногі чуе, што непрыяцель блізко, бачыць, што людзі ўцекаюць, хто куды, але, ведамо, без ног, седзіць бы пень да адганяецца ат мух. Тым часам нахапіўса вораг, ператрос усю ўёску,

забраў хлеб, забраў усе, што было, а ўёску падпаліў с усіх канцоў. Гарыць вёска бы сухое сено й нема каму ратаваць. Куды ні сунецца слепы, та ўсе наткнецца на вагонь. Пачаў ён крычаць, зваць людзей на ратунак, але ніхто не памагае, бо людзі кінулі ўёску, а непрыяцель, зрабіўшы свае ліхое дзело, не мае ўвагі на слепого, а хутчэй ідзе далей. Глухі мог бы памагці слепому, да не чуе, што той просіць ратунку. Безногі чуе й бачыць, што робіцца, да не мажэ хадзіць. От так і гінуць яны кожын сам па сабе й нема ім жоднаго ратунку. Ужэ атусюль печэ агонь слепого й безногаго бы ў печы, а ніхто іх не чуе. Але ось пачаў безногі паўзьці з агню на загумечэ. Падпоўз ён к глухому да й давай яго шчыпаць. Хапіўса глухі, зірнуў на пожар, але не ведае, што рабіць, не ведае, чаго хочэ безногі, й што ён мае сказаць. Лупае вачыма глухі бы сава, а на пожары немым голасам просіць слепы: «Ратуйце, хто ў Бога веруе! Гару!» Пачаў тут безногі паказваць глухому на мігі, што гіне чалавек. Зразумеў той мігі, усхапіў безногаго сабе на плечы да й папёр у пожар. Несе безногаго, а той ім кіруе. Пашлі яны на голас паміж агню да й вывелі аттуль слепого. От атышліса яны ат пожару, селі пад крыжом да й не ведаюць, што рабіць, седзяць да плачуць. Змокла ўёска, бы яе хто языком злізаў, толькі курацца ўшулы да дагараюць галавешкі. Нема ні яды, ні начлегу; кругом ні дамоўкі, ні людзей. І пачалі яны радзіцца, як тут далей жыць на свеці. І надумаліса яны не пакідаць адзін другого да самае сьмерці, а рабіць усе, бы адзін чалавек. От пашоў глухі да й прыўёз передок. Пераблуталі яны вецем аглоблі, пасадзілі на передок безногаго да й павезлі. Слепы й глухі везуць передок, а безногі седзіць да кіруе. І едуць яны, як мае быць: дзе яма, там пакажэ глухі, дзе выюць галодныя ваўкі, там перасцеражэ слепы, а дзе трэ ўбачыць стрэчнаго да запытаць у яго дарогі, там паможэ безногі. Прыцягліса яны так у якуюсь вёску. Астаўса безногі на сваём возе, а слепы й глухі пашлі шукаць еды да вады. Чуе слепы, што бурчыць вада, штурх ён глухого, а той і ўбачыў крыніцу пад дзеравам да й набраў вады. Бачыць глухі, што кала аднае хаты штось летае много варон да сарок. Падышлі яны туды, аж у клеццы поўно сыраў. Забралі яны сыры

да й хацелі вернуцца назад, аж ось слепы чуе, што ў хлеўчуку пішчаць да скрыгічуць парасята. Штурхануў ён глухого, а той і ўбачыў мо паўтузіна парасят. Так знайшлі яны хлеба, яец і другое жыўнасці да й засталіса там жыць, покі не вернуцца людзі. Нанач залезуць на гумне ў салому, каб не знайшоў ліхі чалавек, ці не напаў драпежны звер, а ўдзень вылезуць на сонейко да й грэюцца. Ведамо, слепы не бачыць, дак затое так добрэ чуе, што к ім не падкрадзецца ані звер, ані злодзей. Глухі не чуе, але ён бачыць, бы арол, і ветрыць носам, бы сабака. От закмецяць яны якую-небудзь мітрэнгу, схопяць безногаго да й схаваюцца ў пограб. Раз якась і там знайшлі іх якіесь абдзіранцы да й хацелі пабіць, але безногі як пачаў з імі жупіць, пачаў ім даводзіць, што з таго не будзе ім жоднае карысці, дак і тые не зачапілі калек. Так пражылі яны да тых часаў, пакуль скончыласа вайна й людзі вернуліса назад у свае дамоўкі. Знайшлі іх людзі да й дзівіліса, як гэто яны маглі, будучы калекамі, пераржыць такі ліхі час. «Нам усе было нішто,— атказваюць калекі,— бо мы былі ў згодзе, бы адзін чалавек».

Болбат

Чудзін

## 55. КАЛІ Б СТАРШЫНОЮ

Было тое ў Піліпаўку перад самымі Калядамі. Як водзіцца, поп ездзіў па малітве. От зайшоў ён у вадну хату, паблагатаў трохі да й сеў на лаву каля стала, каб крыху пагрэцца, бо на двары быў велікі траскун і поп такі добрэ прамёрз. У хаці апрыч жанчыны да падшпаркаў-дзецей нікого не было. Бачыць жанчына, што поп разсеўса кала стала, нема чаго рабіць, пачала шукаць пачосткі. Тым часам поп седзіць да круціць галавою: пазірае ён, ці нема ў хаці чаго-небудзь здатнаго, каб узяць сабе. Але нема нічого, бо трапіласа хата вельмі бедная. Цікаваў, цікаваў поп, аж яму цёмно ў вачу стало — нема нічого да й толькі. Але ось нарэшце закмеў даўгагрывы штосьць за балькаю.

— Што там тырчыць? — пытае ён у жанчыны.

— Нічого, бацюшко, а моо хлапчука якіе шматы.

Саскочыў поп з лавы да бегом туды, выхваціў з-за балькі жмак чорнаго паперу, што яго прусакі ўчарнілі, да й давай разглядаць. Кусочкі паперу былі спісаны ў мітуські і так замазаны, што поп насілу трохі разабраў тое пісаньне.

— Хто гэто у вас так пішэ? — пытае ён у жанчыны.

— Гэто, мабыць, хлапчук, што ходзіць у школу,— атказвае тая.

Тым часам бачаць мужчыны, што поп штось замарудзіўса ў хаці, от пачалі й яны туды зьбірацца. Перш улез у хату стараста, за старастаю пасунулі браччыкі, нарэшце папхаўса й гаспадар. А поп тым часам усе пазірае на тые паперы да ўсе мыркае сабе пад нос: «Ці бачыш яго... эгэ... ото ж...» Нарэшце закмеў ён гаспадара да й кажэ: «Добрэ, добрэ пішэ твой хлапчук. Учы, учы яго далей, адукуй, та ён папом будзе». Пачулі тое гаспадар і гаспадыня да бы змовіўшыса ў вадзін голас і атказваюць: «Эй, бацюшко, поп... От калі б старшыною!» Прыкусіў поп язык да й сунуў з хаты, бы яго сабакамі чваляць. А мужчыны крычаць наўздагон: «Праўда, праўда, бацюшко, што поп! От каб старшыною!»

Болбат

Чудзін

## 56. ШЧАСЛІВЫ ПАСТУХ

Быў адзін вельмі разумны пан. Маў ён велікі маёнтак, харошую паню да сьвет уселякаго дабра. Але як ні добрэ яму жылосо, дак усе хацеласо яшчэ лепшае жыткі. Кінуў ён маёнтак і пашоў у сьвет пытаць людей, ці не пакажуць яму шчасьліваго чалавека. Доўго хадзіў ён, мо абышоў тры царства, але нідзе не мажэ трапіць такого чалавека, каб ён быў усім даволан і нічого больш не хацеў. Сустракаў ён багатых людзей, але яны хацелі яшчэ больш разбагацець да так клапаціліса, што былі гарэй нешчасные, чым апошніе беднякі. Той багат, да

хворы; той здароў і багат, але нешчасны затым, што на яго ніхто не зварочвае ўвагі. Той славен, да людзі яго не кахаюць; таго кахаюць, да не баяцца. Дак от так, куды ён ні прыдзе, на каго ні зірне, кожын мае сваю плягу, што яго грызе. От ішоў ён праз лес да й натрапіў там старого пастуха. Ходзіць гаўядо да шчыпле траву, а пастух седзіць сабе на пеньку да грае на дудаццы да так гожэ, што аж лес разлегаецца. Падышоў к яму той пан да й пытае, ці даволан ён сваею жыткаю. «А то ж якого ражна мне трэ? Але ж, даволан»,— атказвае шчаслівы пастух. «Вазьмі мене к сабе»,— просіцца пан. «Заставайса, калі хочэш. Мне ўсе роўно, ці ты будзеш, ці не». Здзівіўса пан і падумаў, што першаго стракае такого чалавека, катораму ўсе роўно. От застаўса пан у таго шчасліваго пастуха падпасычам. Пасуць яны говядо да размаўляюць праміж сабою. Пан распытоўвае, а пастух вучыць яго вуму-розуму. Расказаў тут пан пастуху, чаго ён пашоў у сьвет, як ён доўго хадзіў і што трапляў. Выслухаў стары да й кажэ: «Не ўмеюць людзі жыць на сьвеці, от затым яны й нешчасные. Што людзі лічаць шчасьцем? Здароўе, багацье, славу, почасьці або ўласьʼ? Ці ж гэто шчасьце? Зірні, [redacted] ўвесь дзень гуляю ў Божум раю, хто ж мажэ быць здаравей ат мене? На мне ўсе мае багацье, й нічого больш мне не трэ, й ніхто ў мене гэтаго не атберэ. Я самы багаты чалавек на сьвеці. Бачыш, якая мае быць мне слава ат майго гаўяда, бо ні адно яно са мною не зраўняецца. А хто мае такую славу? Паглядзі, як мене шануе мой Лыско й якую ўладзу я тут маю над гаўядам. А ці ж не ўсе роўно, хто цебе слухае, ці говядо, ці людзі?» Пры гэтум лёг сабе шчаслівы пастух на мураву да й зайграў на сваёй дудаццы. Доўго йграў ён, а пан усе слухаў да ўсе думаў. Зірнуў ён на пастуха й убачыў у яго ў вачу такое шчасьце, такую радась, чаго ён не бачыў ні ў каго. І пазнаў ён, што толькі той шчаслівы чалавек, хто даволан тым, што ён е й што мае. Падзякуваў ён шчасьліваму пастуху за навуку да й вернуўса дамоў. От з тае пары мо й да тых час ён шчасьліво жыве на сьвеці да радуецца, пазіраючы на Божы сьвет.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

# 57. ЦІКАВАЯ ЖОНКА

Не ўсе роўно, дзе б тое ні было, толькі ось была ў аднаго чалавека вельмі цікавая жонка. Усе то ёй раскажы, ўсе ёй пакажы, от такая цікавая, такая цікавая, бы ўсе жанкі. А ведамо, усе казаць, та варагоў нажываць; але нічого не парадзіш, трэ ўсе расказаць жонцы, бо калі яна чаго не ведае, та аж шкура на ёй лопаецца, ходзіць бы непрытомная ці хварэе, што не наберэсса ні варажбітоў, ні дахтуроў. А ведамо, скажы жонцы, та яна куме, кума суседцы, суседка дзянне, а там усе як у бубен б'юць. От раз штось зрабіласо таму чалавеку. Быў, баццэ, саўсім здароў, а назаўтрэ й дух вон. Памёр чалавек з добраго раю да й толькі. Плачэ жонка, аж разліваецца ат слёз, не ведае, што рабіць. Збегліса бабы, сышліса людзі, пагаманілі, да нічого не парадзіш, трэ пакойніка хаваць. От памылі яго, адзелі ў чыстае плацце, палажылі на лаву да й пачалі рабіць дамавіну. Лежыць той чалавек дзень, два, тры бы жывы. Перш баяліса людзі яго хаваць, думалі, што ён толькі абмёр, але як тут дзержаць мерцьвеца ў хаці? На чацьворты дзень пазвалі папа, каб ён пахаваў. Пачаў поп сьпеваць, пачалі бабы плакаць. Ну, зрабілі ўсе, як трэ, да й налажылі на дамавіну веко. Толькі ось раптам той мерцьвец прахапіўса, скінуў веко да й сеў у дамавіне. «Ото ж я моцно спаў»,— кажэ ён. А людзі спужаліса, да ўсе ўрассыпную. Сам поп з хаты выскачыў да давай крычаць, баццэ яго рэжуць. Але ось памаленьку агледзеліса людзі да й вернуліса ў хату. Устаў чалавек да давай шукаць яды. Ведамо, на памінкі ўжэ ўсе было прыгатоўлено, от ён выкінуў дамавіну вон, пазваў папа да добрых людзей і селі яны за стол баляваць. Выпілі па адной-другой чарцы гарэлкі, закусілі салодкімі патапцамі да кануном, разгаварыліса да й пачалі распытоўваць таго чалавека, што ён убачыў на том сьвеці. Ведамо, кожнаму цікаво знаць, што робіцца там, аткуль ніхто не варочаецца. Расказвае той чалавек усе, што там бачыў, толькі кажэ, што аднаго не мажэ сказаць, бо яму велелі не казаць, калі ж ён не паслухае да скажэ, та тагды ж памрэ. Паслухалі таго людзі да й кінулі

дапытоўвацца, ведаюць, што нікому не хочэцца паміраць.

От разышліса людзі да й узяліса кожын за свае дзело. Але от прыстала к таму чалавеку жонка бы смала, скажы да скажы ўсе, што там бачыў і чуў на том сьвеці. Адмаўляецца чалавек, кажэ, што памрэ, як скажэ. Куды там, цікавая жонка й слухаць не хочэ, сьлепіцаю лезе ў вочы да кажэ, што ён яе не любіць, што кахае другую, якую-небудзь патаскушку, калі не хочэ ёй сказаць нават аднаго слаўца. «Ты много не гавары,— кажэ яна,— а толькі намекні, я сама дагадаюса». Круціўса, круціўса той чалавек, але ніяк не мажэ атмаўчацца, бо, ведамо, як баба прыстане, та ўжэ ты ніяк ат яе не аткаснесса ні крыжом, ні кадзілам, гарэй, як ат чорта. Што тут рабіць? Не сказаць бабе, та не будзе жыткі, бо яна пачне піліць да есьці, бы йржа жалезо. Сказаць, та трэ папрашчацца з жыткаю, а тут так на сьвеці гожэ, так радасно сьвеціць сонейко, што хочэцца хаць крыху яшчэ пажыць, пакрасавацца. І давай ён прасіць жонку, каб яна не прыставала, каб дала яму яшчэ хаць трохі пажыць на сьвеці. Замоўкла яна мо на дзень ці два, ходзіць бы цёмная хмара, а там зноў пачала прыставаць да так, што хаць жывы лезь у землю. Не выцерпеў ён нарэшце да й кажэ: «Ну, давай мне на сьмерць чыстае плацце, та ўжэ скажу». Прынесла яна плацце, узлажыў ён яго да й лёг на лаву паміраць. А жонка стаіць над ім крукам, вочы блішчаць, бы спонкі, стаіць і аж дрыжыць, такая яе берэ цікавасьць. Толькі ён хацеў раскрыць рот і сказаць ёй, што яго наўчылі на том сьвеці разумець мову жыўёла, як тут якрас певень і кажэ: «Я сем жон маю да ўсіх сунімаю, а ты ёй патвараеш да паміраеш». Пачуў ён тое, усхапіўса з лавы да як пачаў яе цягаць за косы да пачаў лупіць па чом папало, дак годзі яна з тых часаў лезці гаспадару ў вочы. Закляласа яна да забажыласа, што да сьмерці не будзе таго пытаць. Але не ведамо, ці выцерпела яна, ці не[1].

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

[1] Аменьнік у В. Н. Дабровольского. Смоленскій Этногр. Сборнік, ч. I. СПб., 1891, стр. 354—355.

## 58. П'ЯТНІЦА

Гэто цяпер сталі людзі хітрые да вельмі разумные. Усе яны знаюць, навошто яно й зачым гэ, а не йнак. А даўней людзі былі простые, працавалі да гаравалі, дак Бог ім усе даваў. Радасно яны сустракалі сонейко, як яно падымаецца з-за землі да аглядае, ці ўсе на сваём мейсцы, ці накормлено да расою напояно, ці сагрэто да памыто. Радасно браліса за дзело, шчыро працавалі, як Бог велеў, на ўсіх долю да сабе на карысь. Радасно ж і праваджалі яснае сонейко на супакой да й самі, пасілкаваўшыса, чым Бог паслаў, лажыліса аддыхаць. «Дзякуваць Богу, нарабіўса за дзенёчак, насыціўса, а цепер і аддыхаю. Нічого мне больш не трэ». Гэ казалі даўней людзі, дак і добрэ жылосо ім на сьвеце. А як пашлі вельмі разумные да пачалі вымышляць, пачалі й Бога вучыць, дак настала такая жытка, што хаць ты жыўцом лезь у землю, або засіліса да прадай чорту душу. Колькі ты ні працуй, колькі не старайса, як ні збірай дабро, а на яго чорт мех шые. Запхнеш адну дзірку, а тут табе дзесяць, усіх не наталіш, бо ж кажуць, што адзін рабоч, да не багат. От была адна маладзіца. Яна не слухала старых людзей, бо, ведамо, маладая, дак вельмі разумная. Яна й сьвята не сьвяткавала, й п'ятніцы не шанавала. Жанкі, бывало, яшчэ сонейко не схаваецца за лесам, а ўжэ зложаць свае ручайкі да верацёны, вынесуць у камору або на гору кудзелі да прасніцы да й сустракаюць нядзельку або другое сьвято. А яна прадзе мо да поўначы перад сьвятам і з поўначы па сьвяту, а ў п'ятніцу ўсе робіць, бы ў будзень. Быў раз у чацьвер сьвяты Мікола. Усхапілася яна на заўтрэ ў п'ятніцу з першымі пеўнямі, села за прасніцу, схапіла верацёно да давай пасукаць, давай круціць, так што тое аж гудзе. Але ось чуе яна, што хтось бразнуў у вакно. Зірнула яна туды, аж пад вакном стаіць старэнькая баба да такая старэнькая, што чуць-чуць на нагах трымаецца. І пытае яна тую маладзіцу, чаму яна так рано прадзе да яшчэ ў сьвятую п'ятніцу. Змешалася маладзіца, не ведае, што казаць. «Гэта ж сьвято»,— кажэ старэнькая баба. «Эй, бабко, грэх ленавацца, а рабіць не грэх»,— кажэ маладзіца. «А хто ж табе гэто

сказаў?» — «Ніхто. Я сама ведаю».— «Дак наш табе ось гэстые верацёны, а на іх напрадзі ты мне сягонячы да вечара. Я зайду». Сунула баба праз вакно мо з копу верацён, а сама й знікла, от бы ў землю праваліласся. Спужалася маладзіца, не ведае, што рабіць. Зірнула на тые верацёны да й думае, што трэ цэлы тыдзень, каб іх напрасьці. Не паслухаць жэ бабу страшно, бо бачно, што гэсто не простая баба, а ці сьвятая, ці ліхая. А ведамо, людзі кажуць, што Бога хвалі да й чорта не гневі, бо як прыдзецца, та атрыгнецца. Седзіць маладзіца, чуць не плачэ. Але ось і ўходзіць у хату сівенькі-прасівенькі дзедок. Зірнула на яго маладзіца да й пачала ўспамінаць, дзе б гэто яна бачыла яго. Яе не здзівіло тое, што дзедок не браскаў ні ў вакно, ні ў дзверы, а яны былі на засоўцы да й завалены калом. «Дзень добры!» — кажэ дзедок. «Здаровенек быў!» — «Памагай Бог!» — «Дзякуй за добрае слово. Садзіса да супачынь».— «Дзякуй!» Не садзіцца дзедок да ўсе пазірае на тые верацёны, а потым і пытае: «Навошто табе, дзеткі, так багацько верацён?» — «Гэто не мае, дзеду». І расказала тут маладзіца, як перад ім падходзіла к вакну якаясь бабка й што яна заставіла гэстые верацёны да велела ў вадзін дзень усе напрасьці. «Што мне рабіць, дзеду, з гэстаю бабаю?» — пытае нарэшце маладзіца. «А ты паслухай мене. Наві з клубка на гэстые верацёны пакрысе пражы да скажы, што напрала». Сказаў тое сівенькі дзедок да знік. Толькі тагды ўспомніла маладзіца, што ўчорэ бачыла яго ў цэркві, як перад яго вобразам ставіла сьвечку. «Дзякуй жэ табе, сьвяты Мікола Чудатворац, што наўчыў мене, як выбавіцца з беды»,— памалілася маладзіца да й абецала яшчэ паставіць Міколе сьвечку. От наматала яна з клубка гатовае пражы на ўсе верацёны да й чакае тае бабы. Толькі сьцемнело, як ось і браскае яна ў вакно. Атчыніла маладзіца вакно, а баба й пытае: «А што, напрала мае верацёны?» — «Напрала»,— кажэ маладзіца да й падае тые ручайкі. «Ну, шчасьце твае, што ты дагадалася, як зрабіць, а тоб я скруціла цебе, як вероўку».— «За што ж мене караць?» — пытае маладзіца. «За тое, што ты сьвятое п'ятніцы не паважаеш да яшчэ досьветкі прадзеш». Знікла тая баба, зніклі й ручайкі, а маладзіца стаіць кала акна й не ведае, ці гэто

было сапраўды, ці ў ва сьне. Дачакала яна сьвятое нядзелькі, выпаліла ранେнько ў печы да згатовіла абед, а потым хучэй пабегла ў цэркву да й паставіла Міколе тоўстую сьвечку. Выходзіць яна з цэркві, абернуласа, перахрысьціласа да й зірнула яшчэ разок на сьвятого Мікалая. А ён як убачыў яе, дак ківае галавою да трасе сіваю барадою. «Ну,— думае,— ублагатварыла сьвятого Мікалая, дак і п'ятніцы не баюса». Расказала яна аб том жанкам, от з тых часаў людзі ў п'ятніцу не прадуць і не ўюць, каб не прагневіць сьвятое п'ятніцы [1].

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 59. НЕДАПАД

Што ж мне вам расказаць? От здаецца, я ўжэ ўсе расказаў, што знаю. А мо што й забыў. Ведамо, жыву на сьвеці мо ўжэ восьмы дзісятак. Дак от хібаш раскажу вам гэтакае ж здарэне з адным кухарам, як ён не мог прыдумаць аднае патравы. Толькі гэто не казка, але саўсім праўда. А як устарэе, та мо будзе й казка. Бо тое, што я колісь бачыў і чуў, дак вам здаецца байкаю, адно ж яно было праўдаю. Бо даўней былі не такіе людзі, як цепер, да й сьвет быў іньшы. Бываляшніе паны не нашым роўня: такіе пушные да грозные, што ты й не падступіса, баццэ наравістая кабыла. Каб іх часам не палічылі людзьмі, дак яны не гаварылі, як Бог даў, як гавораць усе людзі, а гугнявілі, шапелявілі, балбаталі ці заікаліса да цягнулі кожнае слово ці выпушчалі праз зубы да лічылі, што яно даражэй золата. Кажуць жэ, што паньскае слово грэе. Яно як нагрэе, та й голы ў мароз пабежыш наўцекача. А прыдзе бало пану ў голаў якое-небудзь ліхо, дак давай яму, хаць радзі, даставай і тагды, хаць бы на надвор'і з неба сыпаласо каменьне. Эгэ ж, упартые да пушные былі даўней паны. Дак от яшчэ пры паньшчыне жыў такі пан, што не знаходзіў

[1] Адменьнік. П. В. Шейнъ. Белорусскія народныя песни. СПб., 1874, стр. 425.

сабе роўні й хацеў, каб у яго ўсе было не па-люцку. Апавесьціў ён па ўсёй акрузе, што дась много грошэй такому кухару, каторы цэлы год кожын дзень будзе гатовіць яму новую страву. Але хто возьмецца, да не дацягне да тэрміну ці не прыдумае новае стравы, таму пан нічого не заплаціць, а толькі дась сто бізуноў. Ніхто не бярэцца, не хочэ й грошэй абы не закаштаваць бізуноў. А ў таго пана быў такі хурман, што бало як смаляне, дак аж пара пойдзе. Але жыў там адзін п'яньчушка. Ён хаць піў, як у халяву ліў, але да ўсяго быў вельмі здатны да такі штукар, так ён вычвараў, што ніхто таго не зробіць. Бало нема за што выпіць, бо ўжэ апошняе лайно прапіў, а напавер жыды не даюць, дак ён і пачне рабіць уселякіе штукі, пачне такое вычвараць, што сьмех і добрым людзям казаць, дак падзівяцца людзі да дадуць яму кватэру або дзьве, а натрапіць на якога дурного пана, дак той сыпане й жменю грошай. От дачуўса той п'яньчушка да й пашоў наймацца к таму пану за кухара. Наняўса ён да й пачаў кожын дзень прыдумоўваць усе новую да новую страву. Прыдумае да згатовіць якую-небудзь новую патраўку да й закарбуе сабе на кіёчку. І чаго толькі ён не гатовіў, якім толькі брудам не карміў паноў. Але, ведамо, паны не сабакі — усе зьедзяць да яшчэ абліжуцца. Рабіў ён каўбасы з давальдрэку, вужовую яечню, верашчаку з мышыных хвастоў, кашачых вантроб да жабячых клюшаняк; п'ёк печэню з пацукоў да чарапах, гатовіў галярэту з жабурэня або з шаршнёвае чарвы, рабіў чарвяковае масло да вашыную затаўку. Кожын дзень усе новае да новае гатовіць ён пану, а той есь да толькі хваліць. Як ужэ вельмі хітрае прыдумае кухар, дак пан атусюль назьбірае гасьцей, частуе ён іх да хваліца, што такіх патравак нідзе нема, апрыч у яго. От так выдумоўваў, выдумоўваў той п'яньчушка да ўсе карбаваў кій, нарэшце ўжэ нічого не мажэ прыдумаць. От узяў ён кій да й пачаў лічыць зарубкі, налічыў трысто, копу й п'яць. «Ну,— думае,— от і год». Хацеў ён ужэ йці к пану на пеньсью да яшчэ запытаў людзей, ці ўжэ год, ці не. А тые кажуць, што на яго нешчасьцье выдаўса прыбышовы год. Аблаяў п'яньчушка Касьяна, што той яму зрабіў здраду, але нема чаго рабіць, трэ цягці да канца. Але колькі ён ні думаў,

як ні круціў галавою, от хаць ты што — нічого не прыдумае. А тут к пану атусюль наз'езджаласо паноў, паняў да паненак бы гною, хаць ты гаць гаці. Пахаджаюць яны да чакаюць, што такое смачнае прыдумае штукар-кухар. Бегаў, бегаў п'яньчушка з палумісакам у руцэ, нічого не прыдумае да й пабег ён яшчэ раз у поград, ці нема там чаго такого, каб зь яго згатовіць новую патраўку, ці якую-небуць страву. А тут ужэ й сонейко пачало падымацца ўгору, пара гатовіць сьнедане. Выбег ён на дзедзінец. От ужэ пастух сабраўса выганяць на пашу гаўядо. Паднялосо тое, пацягаецца да ўгнойвае двор. Зірнуў п'яньчушка, штось прыдумаў да й падставіў карове палумісак. «Не ўпало далоў,— сказаў ён сам сабе,— дак гэто будзе недапад. Навару да насмажу сягоднячы паном так смачно, што яны палцы пааблізваюць». Пабег ён барджджэй гатовіць недапад — тую апошнюю страву. От згатовіў ён. Пачаў лёкай да пакаёўкі захаджацца кала стала. Пытае лёкай, якая ў яго чарговая патрава. «Недапад,— адмаўляе кухар,— гэто такі смак, што мо ты яшчэ ніколі такого не каштаваў. Скажы паном, каб яны, як будуць есьці, трымалі моцно языкі, а то праглынуць». Прышла пара, пачалі паны абедаць, але не ядзяць да ўсе чакаюць, пакуль прынесуць тую смачную чарговую патраву. Нарэшце лёкай прынёс недапад. Накінуліса на яго паны, бы сабакі на косьці або сьвіньне на мякіну. Лопаюць яны да мнуць, аж за вушамі трашчыць. «Ну,— кажуць,— яшчэ такого смачнаго ніколі не было». Чмыхае пан ат гонару да толькі носам водзіць, бы крутагалоў. «А пазваць сюды кухара!» — кажэ ён. Усунуўса п'яньчушка да й стаў пры парозе бы слуп, чакое, што скажэ пан. «З чаго ты згатовіў гэты недапад? — пытае пан.— Скажы, та дам гасьцінца тры дукаты».— «Не можне, паночку,— кажэ кухар,— бо сапсуецца. Не можне казаць, пакуль пан не разьлічыць мене, бо ўжэ мне коньчыўса тэрмін». От пан заплаціў п'яньчушцы як абецаў много грошэй да яшчэ даў гасьцінца тры дукаты. Насыпалі тут яму яшчэ паньськіе госьці грошэй поўну шапку, от толькі тагды сказаў ён пану да тут і ўсім гасьцям, з чаго згатовіў недапад, а сам і сунуў наўцекача да просто ў карчму. Пачулі паны — да пачне іх

нудзіць да вярнуць з душы, дак насілу вычухаліса. А што было з панямі да паненкамі, дак аж брыдко казаць. От якое было здарэне.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 60. СЬВЯТОЕ ПАДРЫГВАНЬНЕ

Пашлі нашы людзі ў заработкі дзесь вельмі далеко да й папалі там расколаў. Ведамо, у будзённые дні жылі несабе ў лесі, пушчалі дзераво, да рабілі клёпку, а ў недзельку пашлі ў вёску паглядзець, як там жывуць людзі. Прышлі яны раненько да й паглядваюць сюды-туды. Вёска як вёска. Шырокая вуліца, паабапал хаты, а на канцы стаіць вялізазная хата з крыжам на даху. Пачалі туды зьбірацца тамашные людзі да й кажуць, што гэто цэрква. Прышоў якісь сівы дзед, атчыніў цэркву, вынес аттуль залезную штабу, павесіў яе на гвозд да й давай па ёй лупіць малатком. Зьвініць штаба, аж глушыць, а людзі здымаюць шапкі да хрысьцяцца. Дагадаліса нашы дзяцюкі, што гэто ў іх такі звон. Улезлі яны ў цэркву. У цэркві ўсе як трэ: канастас, пратэсы, абразы. Прышоў поп да й кажэ: «Дзелайце тое, што я буду дзелаць». От пачаў ён хрысьцііцца да атбіваць паклоны. Хрысьцяцца й людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Запеў поп. Падхвацілі тое й людзі да й паюць, баццэ ў лесі пастухі галёкаюць. Нарэшце ўзяў поп чарапок з жарам, насыпаў туды ладуну да й пачаў кадзіць. Кадзіў ён, кадзіў, аж анучы на нагах закурыліса. Валіць дым ат папа, баццэ з коміна. Пазіраюць людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Тым часам поп кінуў з рук чарапок да давай тупаць, тушыць агонь. Убачылі тое людзі да як пачалі ўсе тупаць, дак аж цэрква трасецца. Але ось перабіраў, перабіраў нагамі поп, нарэшце не вытрымаў, мабыць, яму такі добрэ прыпекло, от ён пакаціўса долу да давай дрыгаць нагамі. Зірнулі людзі да ўсе раптам грым на памост да давай дрыгаць нагамі. Паскідаў поп з ног лапці да анучы, забраў іх у ахапку да тым і кончыў службу. Пачалі людзі расходзіцца

з цэркві, от наш чалавек і пытае тамашнаго старого, што гэто ў іх за сьвято й што гэто яны рабілі ў цэркві. А той і кажэ: «Содня сьвятого Дрыгуна, от мы й рабілі сьвятое падрыгваньне». Падзівіліса нашы людзі да й думаюць: што край, та абычай, што сяло, то нораў, а што галава, та розум.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 61. ВОКО НА ПАЛЦЫ

Быў адзін мужык да такі здаровы, як дуб. Ніякае ліхо к яму не прыставало, ніякая хвароба не магла падступіцца. «Якая-такая хвароба,— кажэ ён,— я жоднае не знаю. От нехай прыдзе, дак яшчэ пабачым, хто каго зломіць». Выхваляўса ён, выхваляўса, а нарэшце й к яму ліхо падкаціласо. Быў здароў, а тут раптам пачаў качацца жыватом. От так з добраго раю схапіло раптам, што ён аж раве немым голасам. Перш думалі, што гэто прыстрэк, што на другі дзень само пройдзе. Але раве ён дзень, раве другі, а палёгкі нема. Ужэ пачарнеў ён бы земля. Пазьбіраліся бабы, пачалі яны шаптаць, кінулі на чэраво гаршчок, паілі яго ўселякімі зельямі — от нічого не памагае. Памірае чалавек да й толькі. Бачыць жонка, што гэто не перэліўкі да й пачала яна прасіць моцнаго ведзьмара, каб ён атрабіў, бо гэто, мабыць, было ўдзеяно. Прышоў ведзьмар, агледзяў ён усю хату, вылазіў пад лавамі, пад палом, зірнуў у падпечак да й кажэ, што ўдзеяно. Пачала тут жанчына яго прасіць да благаць, каб ён злітуваўса да атрабіў. «Не бойцеса, атраблю»,— кажэ ведзьмар. От узяў ён з семі калодзісяў вады, наліў яе ў пляшку, насыпаў туды попелу, напхаў вуглёў да й яшчэ якоесь плягі да й пачаў шаптаць. Шаптаў, шаптаў ён, пеўне, з гадзіну да й даў тую воду хвораму піць. Напіўса той, але яшчэ гарэй пачаў раўці. Пашоў ведзьмар да гасподы, а хвораму так падперло пад грудзі, што й дыхаць нельга. Раве ён так, што аж па вуліцы чуваць. Дзівяцца людзі, што гэто сталасо з тым здаравенным чалавекам. Памірае такі здараўяка й ніхто нічого не мажэ парадзіць. Толькі ось

на яго шчасьце якурат едзе дохтур. Параўняўса ён з тою хатаю, дзе быў хворы, пачуў, што там хтось раве да й пытае, што гэто такое. Расказалі людзі дохтару ўсе, як было. От ён схапіўса з воза, улез у хату да й пачаў лечыць таго чалавека. Нарэшце даў яму якогось зелья да й паехаў у двор к хворуй паненцы. Дак от кажэце, назаўтрэ бы рукамі зняў. Здароў чалавек, бы нічого й не было. Прашкі людзі баюць, што дохтурэ не памагаюць. Той дохтур добрэ памог да яшчэ як! От дачуўса той чалавек, што дохтур яшчэ госьціць у пана, да й пашоў яму падзякуваць. От узяў ён за пазуху дзісятак яец да й прышоў у двор. Тым часам дохтур разам з панамі вышаў у сад і селі яны там у ценьку пад ліпаю піць гарбату. Седзяць сабе паны да паненкі, п'юць, закусваюць марцыпанамі да гамоняць з дохтурам. Зняў той чалавек шапку, падышоў бліжэй да целюх дохтару ў ногі. «Чаго табе, чалавечэ?» — пытае дохтур. «Дзякуй табе, паночку, што мене адратаваў». Тут дохтур пазнаў таго чалавека да й кажэ: «А, гэто ты так учорэ крычаў. Ну, добрэ. Цепер сьцеражыса, та будзеш здароў».— «Я здароў, паночку, дзякуваць Богу да й табе. Ось я прынёс табе гасьцінца». І пачаў ён даставаць з-за пазухі яйца. «Не трэ, не трэ,— замахаў дохтур рукамі,— лепш аддай сваім дзецям». Тым часам зацікавіласа пані да й пачала пытаць дохтура, што такое было з тым чалавекам. От дохтур пачаў расказваць пані, што ў таго чалавека было ў серэдзіне, з чаго ён так крычаў, што ён пачуў аж на вуліцы. Зачуў той чалавек, што дохтур расказвае пані, што было ў ём у серэдзіне, да й просіць яго, каб ён паказаў свае рукі. Зьдзівіўса дохтур да й кажэ: «На, паглядзі, калі такі цікавы». — «Рукі як рукі,— кажэ мужык,— от каб табе да яшчэ воко на палцы, дак яшчэ не такім быў бы ты дохтурам».— «Чаму?» — пытаюць усе. «А зьвесно, калі пан дохтур цепер ведае, што робіцца ў чалавека ў серэдзіне, так тагды ўлажыў бы палац з вокам у адно месца да й пабачыў бы ўсе, што там дзеецца». Толькі гэто мужык прамовіў, як усхапіўса пан да й хацеў яго біць, але не было часу, бо як пачала пані да паненкі блеваць да рыгаць, дак адзін дохтур не мог іх ратаваць, а пазваў і пана.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 62. ХТО МЕНЯЕ, У ТАГО ХАМУТ ГУЛЯЕ

Жыў тут недалека кала Семежава, а мо й за Семежавам адзін багаты чалавек. Ён не то, каб быў вельмі багаты, а так сабе, добры, заможны гаспадар. Гараваў, працаваў, а жыў сьцісло, дак і меў сабе нелапую гаспадарку да й асьмакоў на патрэбу. А ведамо, у нашум стане, калі е хлеб, ведзецца гаўядо да пра ліхую беду лежыць дзе-небудзь у шчыліне які зломаны грош, дак ужэ й лічаць багатым чалавекам. А якое там ліхо багацье! Праўда, у таго чалавека веліса добрые коні. От ужэ перад сьмерцью выгадаваў ён такого каня, што просто як лялька, глядзі й не нагледзісса. Паехаў ён на том кані да Капыля на кірмаш, дак адбою не было ат людзей, агарнулі яны каня су сіх бакоў да й стаяць, дзівяцца, бо зроду не бачылі такого каня. Дак не толькі людзі, а то кажы, што й паны да яўрэі паразяўлялі пыскі да й дзівяцца, як гэто мужык езьдзіць на гэстаком кані, як ён не растрасе яго драбінак. Пачалі тут яны смолно прыставаць к таму чалавеку — прадай да прадай свайго каня, беры якіе хочэш грошы. «Хіба ж я пайду да господы пешкі,— атказвае той чалавек,— гэто ж людзі засьмеюць, а баба й вочы выберэ». Насілу ён атчапіўса ат іх да хучэй купіў солі, тараноў да бабе абаранкаў ці яшчэ што, падабраў вожкі, зьвёў з гары, сеў на воз да як палецеў, дак бы маланка. Але не доўго красаваўса. Гэто было на Роха, а перад Багатнікам ён цягаў з балота атаву да вельмі спацеў, а тут пад грудком была крыніца, а ў ёй вада чыстая, бы сьлеза, але халодная, баццэ лёд. От ён як напіўса тае вады, дак і занепаў. Жонка туды-сюды, давай шукаць людзей. Што яны ні рабілі, якіх зельёў не давалі, нічого не памагло. На п'яты дзень ён і аддаў Богу душу. Засталаса жонка да сын, ужэ нелапы хлопец, гэтак гадоў дваццаць, а мо й больш. Але, ведамо, малады, дак яшчэ дурны. Які з яго гаспадар. За бацькаваю галавою, дак і ён быў разумны, а як бацько памёр, дак ён не ведае, што й рабіць. А матка, ведамо, жанчына, кала печы ўмее захаджацца, а не правіць гаспадаркаю. От затым па сьмерці старого якась разам пашла гаспадарка на ўпадак: та воўк зарэзаў самую лепшую карову, та сено

зазімавало на балоці, дак не было чым карміць гаўядо, так што яно яшчэ да Каляд выпетрало бы шчэпкі да павычэсвало ўсю шэрсьць, та збожжэ зтухло ў засеку, дак ніхто яго не хацеў купаваць. А малады гаспадар усе думаў, што ён вельмі багаты, дак і не рупіўса даглядаць гаспадарку да зарабляць грошы. Толькі вясною, як прышлосо плаціць падаткі, агледзяўса ён, што грошэй нема да й прадаць нечаго. Астаўса адзін той вельмі гожы конь, да й той ужэ не такі гладкі, як быў за жыцьце бацька. Нема чаго рабіць, трэ прадаваць каня. Але як у гаспадарцы жыць без канякі. От і надумаўса хлопец паменяць каня да ўзяць сабе велікі прыдатак, та будзе й конь і грошы. Парадзіўса ён з суседам, а той і кажэ: «Не, голубе, не меняй, бо хто меняе, та ў таго хамут гуляе. Лепш прадай каня, вазьмі добрые грошы, а на грош купіш сабе каняку, якая спадабаецца». Не паслухаў малады гаспадар, паўёў каня на кірмаш і выменяў сабе велізазнаго каня да й узяў яшчэ сто рублёў прыдатку. Рад хлопец, паказвае людзям каня. Зірнулі тые ў зубы, аж таму каню ўжэ пад трыццаць гадоў. Наступілі яму на ногу, дак ён чуць не ўпаў. «Абшукалі цебе канаводы, хварэць іх матары,— кажуць людзі,— гэто ж саўсім дыхліна, хаць ты выкінь за плот». Цераз тыдзень паўёў хлопец меняць таго каня да й выменяў сабе маладого. Рад ён, хаць і даў піддзісят рублеў прыдатку. Зноў паказвае новаго каня людзям. Абышлі тые кругом, паглядзелі ў зубы, памацалі акарак, наступілі на ногу, нарэшце давай махаць перад ачу — хаць бы што, конь стаіць і не ўхмыляецца. «Дак гэто ж ён сьлепы»,— кажуць людзі ў вадзін голас. Пусьцілі яго на дзедзінцы да рэзнулі пугаю, дак ён просто й сунуўса ў сьцену. Нема чаго рабіць, зноў паўёў хлопец меняць і таго каня. Так датуль ён меняў, покі выменяў такую каняку, што не прыехаў на ёй і да гасподы, бо яна ўпала пасерод дарогі да й ногі выпруціла. Зняў ён хамут, палажыў яго на драбінкі да так саматугам і прывалок іх дамоў. І застаўса ён без канякі. А хамут мо й да тых час дарам гуляе.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 63. КНЯЗЬ РАДЗІВІЛ КАХАНКО

Жыў даўней у Нясьвіжу адзін князь Радзівіл. У яго было много маёнткаў па ўсёй Случызне. Усе паны яму служылі, бо ён быў над панамі пан. А зь людзямі ён хорашо абходзіўса. Бало з кім не загаворыць, та за кожным словам кажэ: каханку, каханку. От за тое й прадражнілі яго Каханко. Добры быў князь Каханко, толькі ён вельмі любіў шуткаваць да вычвараць розные штукі. Ось раз аб'явілі ўсюды, што князь Каханко зьбірае к сабе атусюль усіх краўцоў. Сабраліса краўцэ да й пашлі на тэрмін да Нясьвіжа. Назьбіраласо іх там такая сіла, што загрузілі ўсе места. Седзяць яны на землі кала палацу, седзяць дзень, седзяць два, чакаюць, покуль выдзе князь Каханко да дась ім гасьцінец. Только ось на трэйці дзень чуюць яны, аж равуць мядзьведзі. Пачалі яны азірацца та ў той, та ў другі бок, аж бачаць — едзе князь Каханко шасьцерыком на медзьведзях, аж пыл курыць, падкаціў просто к палацам. От і кажуць яму слугі, што яго ўжэ трэці дзень чакаюць краўцэ. «А, та добрэ, каханку, о, та я зарас»,— кажэ ён да й паказаўса праз вакно. Падышлі краўцэ пад вакно, стаяць без шапак да чакаюць, што скажэ князь. «Вы краўцы? — пытае князь.— А, та добрэ. Краўцы вельмі патрэбны людзям. Дак от што я вам параджу. Вы як будзеце шыць, та заўязвайце вузел. Гаспадар будзе вам дзякуваць і дабром вас памінаць». Пры гэтых словах ён павернуўса да й пашоў сабе. Пацягліса краўцэ назад, бы мыла зьеўшы. А князь Каханко зноў кудысь паехаў. А езьдзіў ён не па-люцку: аб лету на санях, а ўзімку на колах. Шмат розных небыліц расказвалі людзі пра князя. Быццам бы выстраліў ён на паляванні ў чалавека, які аказаўся непадалёку, што за невялікую плату прымушаў мужыкоў залазіць на дрэвы і куваць, бы зязюля, а потым шротам страляў па іх. А пасля ўсчаў па іх пальбу соллю. Забіць не заб'е, а толькі солі насыпле за шкуру. Крычаць людзі немым голасам, а ён смаліць да смаліць. Пазвальваліса тыя далоў да толькі чухаюць азадкі. Заплаціў ён ім па тры рубле да й кажэ: «Гэто вам навука, не за свае дзело не брацца. Зеўзюля дарма кукуе да людзям грошы гатуе». Гэто ён намекнуў на тое,

што людзі кажуць: як пачуеш першы раз зеўзюлю, та трэ пакалаціць грошы, каб яны ўвесь год вадзіліса ў кішэні.

Дак от які то быў князь Каханко гучны да штучны. Дачуласа аб ём царыца Кацерына. Яна аб'езджала свае царство да й захацела пабачыць яго. Паслала яна к яму сваіх янаралаў сказаць, што заедзе к яму да толькі чакае, пакуль паправяць дарогі, бо яны вельмі трасуць. А гэто было па лету. От князь Каханко велеў высыпаць дарогу цукрам да й паслаў па царыцу свой шасьцерык медзьведзей, каторые былі запрэжаны ў сані. Пабаяласа царыца Кацерына ехаць на медзьведзях. От тагды князь Каханко прыехаў к ёй на сустрэк верхом на лосю. Як пабачыла тое царыца Кацерына, дак і села на сані да й паехала на медзьведзях па цукру, бы па сьнегу, аж да самых палацаў. Бачыць ён, што царыцы спадабаліса тые медзьведзі, от ён і падараваў іх ёй. За тое яна даравала яму залатую табакерку з д'ямантам. Сьвеціць ён уночы, бы вагонь гарыць. Носіць князь Каханко тую табакерку заўжды пры сабе ў кішэні, а як выме яе поўначы, дак яна й сьвеціць замест ліхтарні. Пазьбіраліса паны мо атусюль да дзівуюцца на тую табакерку, бо такое й зроду не бачылі. Дачуўса аб том кароль да й велеў, каб князь Каханко прыўёз яму тую табакерку на паказ. Велеў князь Каханко запрагці ў сані восім медзьведзей, сеў да й паехаў да караля. Прыезджае ён да Аршавы ці што, да й садзіць просто да караля ў палацы. Як убачылі там медзьведзей дурные ляхі да як спалохаюцца да пабегуць, дак кароль адзін і астаўса. Паказаў князь Каханко яму табакерку, а той і з рук не выпушчае, так яна яму спадабаласа. І пачаў кароль прасіць, каб ён уступіў яму тую табакерку. «Беры,— кажэ,— што хочэш, толькі аддай».— «Добрэ,— кажэ,— вашае каралеўськае вялічаство, аддам я гэстую табакерку, толькі вы мне дайце толькі землі, колькі я аб'еду за тыдзень». Кароль згадзіўса на тое. От князь Каханко сеў на сваіх медзьведзей да й памчаўса. Аб'ехаў ён за тыдзень немаль усе каралеўство да й заўладаў усею там землёю зь людзямі да с усімі маёнткамі. От чаму ў князя Радзівіла так много землі.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 64. ДЗЕЎЧЫНА

Гэто толькі цепер так народу намножыласо, што як толькі іх земля паднімае. А даўней людзей было мало, а землі колькі хочэш. Землю мало абраблялі, а больш жывіліса людзі кала лесу. Лясы былі такіе, што й канца ім не было. Людзі селіліса дзе-негдзе кала рэк да на ўзгорачках, разчышчалі кала хатак трохі земельку да карпалі яе як-небудзь. А кругом шумеў Божы гай да стаяў з веку такі густы да цёмны, што й носа не ваб'еш. Людзі хадзілі ў лес шукаць сьлепата да забіраць салодзенькі медок. Ідзе чалавек у лес да ўсе залысвае дзераўлякі ці заўязвае куклы, каб зрабіць прыкмету, кудою вернуцца назад, бо без прыкметы ў такой нетры адразу заблудзіш і прападзеш у лесіні за панюх табакі. Адны толькі разбойнікі не баяліса цёмнаго лесу, але й тые больш рабілі сабе курані ці буданы дзе-небудзь недалеко ат вёскі. Яшчэ я быў падшпаркам гэтак гадоў можэ дзесяці. От раз мы пасьцілі гаўядо. Грыбоў было вельмі шмат, дак гаўядо й разбегласо па лесе. Бегалі мы, бегалі да й загубілі целіцу. Пабеглі гэто мы, шукаючы целіцу, цераз балоццэ на астравок да як пралезьлі праз густы ельнік, дак і бачым, аж там стаіць маленькая хатка, а больш нічого. Улезьлі мы ў хатку, аж там нікого нема, толькі бачно, што там хтось жыў. Спалохаліса мы да наўцекача. Расказалі мы большым, от тые агледзялі да й кажуць, што там жылі разбойнікі, але, мабыць, іх палавілі ці дзе загіблі ўжэ даўно, бо страва ў гаршкох зацьвіла, а кала парога зарасло зельем. Тагды яшчэ быў у жыцю мой дзед. От і прычапіліса мы к яму, каб ён расказаў нам пра разбойнікаў. Мой дзед вельмі добрэ расказваў казкі, толькі не любіў, калі яго не слухаюць. Бало пачне ён расказваць, а як толькі хто загаворыць або ўстане закурыць люльку, дак і кіне расказваць. Дак от які быў мой дзед. Эгэ ж. Дак от прычапіліса мы к дзеду, каб ён расказаў нам пра разбойнікаў. Перш не хацеў дзед расказваць нам, падшпаркам, думаў, што мы, ведамо, дзеці, не будам слухаць, але як мы забажыліса да закляліса, што будам слухаць, дак ён згадзіўса, закурыў люльку да й пачаў расказваць. Гаварыў ён паволно; скажэ два-тры слова, сплюне да й зноў скажэ

колькі слоў, пакуль закашляе. Дзед кашляе, а мы седзімо й не варухномса, а ўсе слухаем — так ён цікаво расказваў. Я так не ўмею да й забыўса, бо тое было вельмі даўно. Бачыце, я ўжэ зрабіўса сівы, а тагды от гэ, бы й вы лазіў на дзераўлякі да спорваў кубельца. Птушачкі пішчаць, б'юцца пад ногі, а мы, паганые хлопцы, ловім да мучым бедных птушанятак. Дак от слухайце да не мешайце, та я мо й успамяну да й раскажу вам адно здарэне, якое было тут недалеко. Дзед нават казаў, дзе тое было, але я забыўса. От з галавы выскачыло да й толькі. Але ўсе роўно. Тут недалеко пасерод пушчы была маленькая ўёска, гэтак мо дымоў п'яць ці шэсь. Жылі сабе там людзі, на лес глядзячы, ніхто іх не чапаў, ніхто ім ніякае беды не рабіў, бо мо кругом на сарачню або копу верстоў не было ні ўёскі, ні жоднае селібы. Жылі там людзі волно, як птушкі. Толькі ось раз пабеглі хлапчукі ў гушчэчу да й падгледзялі, што там хаваюцца разбойнікі. Сказалі яны аб том бацьком. Тые давай сачыць і дазналіса, што гэто там жывуць ліхіе людзі. Падгледзялі яны, што тые ліхіе людзі нічого не робяць, не гадуюць і гаўяда, а ўсе маюць, бо ці крадуць у людзей, ці грабяць у дварох да на дарогах. От і думаюць сабе тые людзі, трэ даць гасла паном да началству. Тым часам разбойнікі закмецілі, што людзі з вёскі высачылі іх, але сьмело жывуць там на мейсцы, бо думаюць, што людзі не зробляць ім школы, бо нема за што рабіць ліха, калі яны ніколі ў вёсцы не рабілі нічого кепськаго. Але зрабілі памылку, бо людзі заўжды робляць ліхо другому ні за што, а так сабе. Жывуць разбойнікі ціхо й не чакаюць ліха. А тут паны да началство сагналі людзей са ўсее акругі, прыгналі маскалёў да казакоў. Акружылі тые ўвесь оступ да давай калаціць. Бачаць разбойнікі, што хочуць іх палавіць, от яны й схаваліса ў землянку да там і седзяць ціхенько, баццэ іх і нема. Бегаюць маскале да казакі па ўсяму лесу, поруцца ў кустох, а ў лом да каладзьё, дзе была землянка, й не паглядзелі. Перапаролі яны немаль увесь лес — нема разбойнікаў, баццэ яны ў землю праваліліса ці схаваліса ў воду. А яны вылезлі сабе з землянкі да пазіраюць праз лом, пазіраюць да матаюць на вус, што маскалёў да казакоў водзяць па

лесу тые людзі, што жывуць у маленькой вёсцы. «Пагадзеце ж, хварэць вашуй матары,— думаюць разбойнікі,— мы ж вам адрыгномса, нехай толькі пойдуць атсюль маскале да казакі». Так і было. Пахадзілі, пахадзілі маскале да казакі дармо па лесі, палазілі па гушчэчы да й пашлі сабе далей, куды ім трэ. Абслухаліса разбойнікі, вылезлі з землянкі да й кінуліса на ўёску. Яшчэ мо маскале да казакі атышліса верстоў п'яць або шэсь, як разбойнікі спалілі тую ўёску, а людзей усіх перабілі, апрыч малое дзевачкі, што тагды ў лесі пасьціла гаўядо. Варочаюцца разбойнікі к сабе ў лес да й сустракаюць тую дзевачку. А яна была хаць і малая, але такая гожая, што от глядзеў бы заўжды да й не наглядзісса. Ідуць разбойнікі к ёй, а яна седзіць сабе на пеньку, плеце венок з кветак да пае песьні. Яна пае, а гаўядо вушы развесіло, слухае, стаіць бы ўкопанае. Нават птушкі пазлеталіса, седзяць кругом на дзераве да слухаюць, як пае дзеўчына. Паслухалі разбойнікі да й не магуць варухнуцца, баццэ яна закалдавала іх сваёю песьняю. Замоўкла дзеўчына да й пачала гнаць гаўядо дамоў. Пагнала яна гаўядо, а разбойнікі йдуць за ею, бо не магуць от яе атарваць (ачоў) ачу. Прыгнала яна гаўядо на тое мейсцо, дзе была ўёска, да толькі сьплеснула рукамі. Нема ўёскі, толькі яшчэ дагараюць галавешкі. Падышла яна туды, дзе была хатка, аж там валяюцца забітые бацько з маткаю. Пачала яна плакаць да ўбівацца. Плачэ яна да прычытае. «Ой, матачка ж мая зеўзюлечка, на каго ж ты мене пакінула? Ці ж цебе зьвер задраў, ці цебе ліхі чалавек забіў? Ой, бацюхно родненькі, саколе мой ясны, чаму ж ты маўчыш, нічого не адмаўляеш, мене сірату не прыгалубіш? На каго ж ты мене пакінуў без ладу, без спосабу? Ой, матачка родненькая, хто ж мне галоўку памые, хто ж мне кудзеркі разчэшэ, хто ж мне коску заплеце?..» Так плакала да прычытала тая дзевачка, а разбойнікі стаялі да слухалі. І мо першы раз закалоло ім у серцы; мо першы раз пакаяліса яны, што пабілі тых людзей. Выплакаласа дзеўчына да баццэ акаменела, седзіць кала халоднае маткі да пазірае бы непрытомная. От разбойнікі пахавалі тых людзей, забралі дзеўчыну, занялі гаўядо да й пагналі ў лес. Доўго прадзіраліса яны

праз гушчэчу, нарэшце атаўбаваліса на прагаліне, дзе ў іх была другая хатка. Тут яны паслалі пасьцель да й палажылі тую дзевачку спаць, а самі селі ціхенько кала хаткі да так моўчкі й праседзелі цалюсьсенькую ноч. Прахапілася дзевачка, азірнуласа да як успаменула пра матку да бацька, дак і зноў давай плакаць да прычытаць. Але як яна ні плакала, як ні ўбіваласа, мусіла прывыкаць к жыццы ў разбойнікаў. А разбойнікі з тых часаў саўсім пераменіліса. Годзі яны красьці да разбіваць. Давай яны лавіць зьверыну да рыбу, давай пасьці да даглядаць тое гаўядо. Нарэшце пачалі яны рабіць будоўлю да як умелі карпаць землю, каб зарабіць сабе хлеб. Расьце тая дзеўчына да ўсе харашэе й стала яна такая гожая, што мо такое нема на ўсём сьвеці. Слухаюць яе ўсе разбойнікі, робляць усе, што яна скажэ, робяць затым, што не могуць не рабіць, не могуць не слухаць яе. От здаецца, каб яна сказала лезьці ў вагонь, та б і ў вагні было б ім не горачо, а так добрэ, як у (раю) небе. Толькі недоўго мелі разбойнікі такое шчасьцье, каб пазіраць на тую дзеўчыну. Раз пашла яна ў лес да й не вернуласа. Як ні шукалі разбойнікі, не маглі яе знайці. Баццэ зайшло ім сонейко й сталі яны хадзіць не ўдзень, а ўночы, так ім маркотно было без дзеўчыны. А яна тым часам вышла к рацэ. Там людзі лавілі рыбу да як убачылі такую гожую дзеўчыну, дак забылі ўсе на сьвеці, толькі пазіраюць на яе. І здаецца ім, што варто мучыцца ўвесь век, каб толькі хаць раз зірнуць у тые вочкі, што бы сонейко паляць серцэ, паляць, шчыпаюць, але такі даюць слодыч, якого больш нема на сьвеці. Пазірае дзеўчына, а людзям здаецца, што на сьвеці ўсе так гожэ, так радасно сьвеціць сонейко, так добрэ жыць, што лепшаго нічого й не трэ. От пакінулі рыбакі свае нажэндзе, пасадзілі дзеўчыну ў човен да й павезлі яе ў вёску. Зірнулі людзі на дзеўчыну да й дзякуюць Богу, што прыўёў іх хаць раз у жыцю пазнаць слодыч шчасьця, пазнаць, што на сьвеці ўсего мілей небескі погляд гожае дзеўчыны. Дачуўса царэвіч, што там такая гожая дзеўчына, прыехаў туды, узяў яе к бацьку да маццы, каб там зрабіць лад. Але дзеўчына дарогаю занепала да й памерла. Налажылі тагды жалобу на ўсе царство.

Прайшло много часу, а такое дзеўчыны больш нема, бо, мабыць, небескі погляд дзеўчыны Бог судзіў бачыць толькі адзін раз у жыцю.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 65. ВЕДЗЬМАР

Жыла адна маскоўка да вельмі распусная баба. Чаго толькі яна не вычварала. Не доўго яна пажыла з сваім гаспадаром, як яго забрылі да й здалі ў маскалі. Здалі яго й загналі так далеко, што можэ больш як дваццаць гадоў не было аб ём ніякае чуткі. Ужэ думала маскоўка, што яго й на свеце немашака, што мо яго й косці пагнілі. Тым часам прыдбала яна сабе дачку. І ў маленстве была яна гожая дзевачка, а як падрасла, дак стала такою харошаю, што толькі ў касцы сказаць. Хаць і казалі людзі, што яблычко ат яблынькі далеко не коціцца, што дачка будзе такая ж распусніца, як і матка, але за тою дзеўчынаю ўвіваліса немаль усе хлопцы з цэлае акругі, такая яна была гожая да ўдалая. Але яна нікого к сабе не подпускала. Дзівіліса людзі да й пачалі гаварыць, што гэто мабыць якісь вырадак, а не дзеўка. Толькі ось з'явіўса там на ўёсцы якісь вельмі ўдалы й гожы хлопец і наняўса ў ландара парабкам. Ніхто не ведаў, хто ён такі й аткуль ён прышоў. Толькі пашла памоўка, што ён ніколі не хрысціцца й не ходзіць у цэркаў. Але другіе казалі, што парабку й некалі хадзіць у цэркаў, калі тамака й папоў парабак ніколі не бывае. Пагаманілі да й замоўклі. Толькі ось і зпазналаса дачка маскоўкі з тым парабкам. Але ведамо, нема як ім пабрацца, бо ні ў яго, ні ў яе нічагусенько немашака; ён служыць парабкам, а ў яе матцы толькі адна, як кол, старэнькая хатка, што от-от асунецца. Нельга ім брацца, але ведамо, маладось, яны так любяцца, што й жыць не могуць ні аднаго дня, як не пабачаць адно другого. Толькі ось дачуўса аб том малады пан, а ён ужэ даўно дабіраўса да тае дзеўчыны. Была памоўка, што перш той пан вельмі ўчашчаў да маскоўкі, як яе дачка

была яшчэ маленькая. Бабы сакаталі нават, што мо й дзевачка яго. Ніхто таго добрэ не знаў, але ж кажуць, што на бабськіе языкі прывязі немаш. Пачаў тут пан смолно прыставаць да тае дзеўчыны та грозьбаю, та просьбаю, але тая кажэ: «Ці цебе атручу, ці сама засілюса, а з табою жыць не буду». Што ні рабіў пан, нічого не парадзіць з упартаю дзеўкаю й думае ён, што гэто яе падбухтэрвае каханак — той удалы парабчук. От і давай пан дабірацца да таго хлапчука. Тут якраз падышлі асеньніе свята. Сабралосо ў тую карчму, дзе служыў удалы хлопец, вельмі много яўрэяў са ўсее акругі. Ведамо, баяцца, каб іх чорт не ўхапіў і заўжды наймаюць сабе хрышчонаго чалавека на сьвята, каб ён абараняў іх ат чарцей. Сабраліса да й мыслююць, што цепер ім нема чаго баяцца чарцей, бо ў іх е хрышчоны чалавек. А яны не ведалі таго, што той парабак не то, што не хрышчоны, але й сам з ліхімі знаецца. Дак от настала страшная ноч, ці, як кажуць, хапун. Дрыжаць яўрэі, бы бараноў хвост, баяцца, каб каго чорт не ўхапіў. «Цуес, дзецюцок,— просяць яны таго парабчука,— ты ўзэ нікуды ад нас не адхозь і ез сабе гугель і розные прыпраўкі да беры лагодкі, толькі пільнуй нас». — «Не зважайце, калі не суджано, та чорт не ўхопіць»,— кажэ парабак да есь сабе ўселякіе прысмакі. Толькі ось прыбегае к яму маскоўка да й кажэ: «Ой, мой голубе, ці нема ў цебе крыху гарэлкі? Дай хаця капельку». — «Да што табе так захацеласо гарэлкі? Хібо на маладое ці што»,— пашуткаваў парабчук. «Ой, злыдзень, як табе не грэх смеяцца з беднае ўдавы». Яна, бачыце, ужэ даўно лічыла себе ўдавою, бо аб гаспадару не было ніякае чуткі. «Тут кроў вочы залівае, а ён яшчэ смеецца».— «А што ж мне плакаць, што гарная маскоўка зажадала гарэлкі?» — зноў пашуткаваў парабчук да ушчыпнуў маскоўку за кумп'як. «Аткасніса, паршывец, бо я табе й бельма павымаю,— закрычала жанчына, нібыто абазліўшыса на парабчука.— Дак дасі гарэлкі?» — пытае яна зноў. «Скажы, каго хочэш частаваць, та дам». — «Саўсім не ля пачосткі, а трэ гарэлка ў зельё». — «Хіба хочэш любіснік варыць да хлопцаў паіць, каб цебе кахалі». — «Маўчы, хварэць тваёй матары! Бо бачу, што ты й без любісніку ўмурзаўса па самые

вушы». — «А хаць і так, да не ў цебе». — «Ой, глядзі, ліхо табе будзе з тваім каханем, бо точаць на цебе зубы». — «Хто?» — «Ведамо, хто — пан і ландар». — «Чаго ж ландар?» — «Пакаёўка шапнула мне сягоднячы, што пан прызваў к сабе ландара да й велеў яму найці спосаб, каб цебе ці атдаць у маскалі, ці згнаіць у вастрозе». — «Пачакай, я ж ім, хварэць да стагнаць іх матары, я ж ім пакажу, як мене чапаць»,— захадзіўса тут той парабчук. «Дак прыходзь,— шапнула маскоўка,— да толькі, каб ніхто не бачыў, бо пан нас жыўцом з'есь». І яна кінуласа бегці да гасподы. «А гарэлка»,— крычыць хлапчук. «Выпі сам за яе здаровейко». І маскоўкі только хустка мігнуласа за абозняю. Дагадаўса парабчук, хто гэто яна, ухмыліўса сабе пад нос да й пашоў прыслугоўваць гасцям, толькі ось сустракае яго ландар да й кажэ: «Ой, добры ты, гарны хлопец, толькі кепско робіш, што йдзеш проціў вады!» — «Якое вады? Я ж нанасіў вады на цэлы тыдзень». — «Ну, не аб том я гавару. Я гавару, што калі чалавек ідзе з ветрам, та яму лёгко йці, а калі проціў ветру, та вецер яго валяе». — «Што ты плецеш? Кажы просто».— «Ты знаеш, што ганчар не ландар, што хлапец маладзец, а паніч свіны лыч, да ўсе ж паніч панічом, яму ўсе непачом, а хлопец як ні пніса, а з панічом не барыса. Ты добры хлопец. Наплюй ты на гэтую дзеўку да й разатры».— «Чаго ты прыстаў? Якую дзеўку?» — «Ну,— сказаў ландар і падняў уверх плечы, аж пейсы затрасліса,— калі так, калі ты мене паслухаес, та й табе будзе добрэ, і ёй будзе добрэ». Плюнуў парабчук і пашоў па свайму дзелу. «Ну, пачакайце, хварэць вашуй матары,— мырчыць ён сабе пад нос,— дамса я вам у знак...» З гэтымі словамі пабег ён у двор да й усмаліў паньськіе пакоі. Ат пакояў заняласа ахвіцына, ат ахвіцыны пекарня, ат пекарні канюшня, вазоўня, абора, свіран да гумно разам з адрынаю. Пакуль збегліса людзі, дак і тушыць нема чаго: зчысціло двор, бы языком злізало. Сам пан ці бо паніч насілу выскачыў з агню без парток. Дагадаўса ён, чыя гэто работа, але немашака светак. Але праўду кажуць людзі, што пан і тагды праў, як светак чорт маў. Дак і той пан велеў схапіць таго парабка, каб пасадзіць у вастрог. От сабраў ключвойт сваіх пахолкаў,

да яшчэ й пан паслаў сваю дворню на памогу, каб схапіць парабка. Акружылі гэто яны карчму су сіх бакоў да й пачалі калаціць да шукаць парабка. А ён тым часам адзеўса ў чужую вопратку, прычапіў бараду й пейсы, вымазаўса сажаю да й вышаў з карчмы, так што яго ніхто й не пазнаў. Ускочыў гэто ён на ключвойтаваго каня да й духам прыскакаў да лазні, дзе атаўбаваўса пан. Зірнуў ён, аш у двары нікого немашака, атчыніў ён лазню да давай перыць, да давай перэсціць пана ключвойтавым канчуком. Лупіць пана да прыгаворвае: «От гэто ж табе к дзеўкам прыставаць да людзям жыць не даваць». Перш пан крычаў, а потым і замаўчаў. Збіў ён пана на горкае яблыко, садраў з яго персцёнак з печаткаю да й кінуў чуць жывого. Ператраслі ўсю карчму, а парабка й след прастыў. Шукай ветра ў полі, а чалавека ў лесі. Тым часам парабчук прадаў таго каня да на тые грошы справіў сабе вопратку, назбіраў розных зельёў да й ходзіць сабе па сьвету да лечыць людзей. Дзе зелье не памагае, там ён пашэпчэ, пахукае, та й паможэ, а не паможэ, та й так будзе гожэ. Куды ні прыдзе та заўжды знайдзе много хворых. От прышоў ён і ў тую вёску, дзе жыў той пан. Ніхто не пазнаў яго, й хворые наперабой запрашалі к сабе. Пачуў аб том пан, што на ўёсцы такі слаўны знахар, і папрасіў яго к сабе, бо яшчэ да тых часоў не ачухаўса ат тае пачосткі, якую яму даў парабак. Прышоў той знахар к пану, агледзяў яго, дастаў з торбачкі якоесь зелье, разтоўк яго з салам да й добрэ вышмараваў ім пана з галавы да ног. Заплаціў яму пан добрые грошы. От знахор узяў грошы да велеў пану тры дні не змываць таго зелья, а сам і пашоў далей да й знік, бы ў воду кануў. На другі дзень пан зароў ровам, бо з яго злезла ўся шкура й цело пакрылaсо струпамі, як у шалудзька. Што ён ні рабіў, к якім дахтуром не ездзіў, ніхто не памагае. Так і згніў той малады пан, бы разлезлы грыб. Тым часам дачка маскоўкі жджэ-пажджэ свайго каханка, не мажэ яго даждацца, а тут чуе, што пад серцэм штось трапечэцца. Доўго маўчала яна, а нарэшце прызналася матцы. Тая наўчыла, як зрабіць, каб людзі не даведаліса. От нібы хварэе тая дзеўка да й нікуды ачоў не кажэ. Толькі ось і радзіўса ў яе хлапчук з доўгім хвастом і з капытамі на

нагах. Дагадаліса тагды матка й дачка, што той гарны хлопец быў не хто другі, як абарацень; затым ад яго й радзіласо такое плюгаўство. І задумала маскоўка страціць тое дзіця. Але дачка пашкадавала яго забіваць. Ведамо, кожнуй маццы шкода свайго дзіцяці. От атнесла яна тое дзіця ў глухі лес і там палажыла яго, а сама хуценько пашла да гасподы да й сустракае свайго каханка. Спужаласа яна й усе кахане разлецеласо як дым. Перахрысціласа яна да давай Бог ногі. Чуе яна, аж той яе каханак зарагатаў, бы жарабец, да па лесу й разсыпаўса. Прышла яна дамоў ні жывая, ні змарлая, але як памешаная. Тым часам аб тую пору вернуўса з маскалёў гаспадар яе маткі. Убачыў ён такою гожаю тую дзеўчыну й шкода яму стало яе. От і давай ён распытоўваць у свае жонкі, з чаго б гэто так зрабіласо з тою дзеўчынаю. Нема чаго рабіць, мусіла жонка расказаць яму ўсе, як было. «От,— кажэ,— яна занесла ў лес на страту тое дзіця, дак цепер з жалю й стала непрытомнаю». Пачуўшы тое, маскаль хуценько пашоў у лес, знайшоў тое дзіця да й прынёс яго дамоў. Убачыла матка свае дзіцятко й хутко выздаравела. Расце дзіця, як грыб, і вырас хутко гожы хлопец. Гуляе ён з дзецьмі, толькі ніколі голы нікому не паказваецца, а ногі хавае ў лапці. Узрос той хлопец і не было яму роўні. Такі ён быў здолны да спрытны да ўсяго. Бало, за што не возьмецца, та ўсе зробіць, усему дась раду. Толькі паміж людзей седзіць сабе да слухае, а сам маўчыць, а калі ўжэ прамовіць слово, дак яно такое моцнае да шчырае, што аж пах ідзе. От пачаў ён збірацца ў велікую дарогу, хадзіць па сьвету да розуму набірацца. Узяў ён кіёчак да пустую торбачку й пашоў сабе вандраваць па сьвету. Куды ні прыдзе, усе разгледзіць, разцікуе да й далей. Дзе ўбачыць, што людзі не ведаюць, як ім жыць, от ён і раскажэ ім, як жывуць у другіх мейсцах. Бачыць шатан, што той чалавек навучае людзей, як на сьвеце жыць, што ён перасцерагае, каб людзі сцерагліса ліхого, дак і давай ён спакушаць яго. Доўго хадзіў шатан разам з тым чалавекам, але нічого не мог зрабіць. Перш скінуўса ён вельмі гожаю дзеўкаю да й пачаў яго залучаць к сабе. Але той чалавек і ў той бок не глядзіць. «Што мне,— кажэ,— дзеўка?

У жанчыны волас доўгі, да вум кароткі». Паказаў яму шатан много грошэй, каб ён пазарыўса на іх. Паглядзеў той на грошы да й кажэ: «Мабыць, грошы чорт выдумаў, бо з-за іх уся беда на сьвеце. Бачно, што ліхі сабраў усе ліхое да й злепіў грошы. А хто ведае, што я ў пустом мейсцы чуць не памёр без яды, хаць і меў грошы ў кішэні». Тагды шатан скінуўса вельмі добрым чалавекам да й пачаў намаўляць яго на ўсе добрае да й кажэ: «От ты самы разумнейшы чалавек, а шляешса без дзела. Чаму б табе не вучыць людзей, каб яны ўсе роўно былі шчаслівые. Зрабі гэ і ты будзеш самым слаўным чалавекам на ўсём сьвеце». Спадабаласо гэто таму чалавеку, от ён і пытае шатана: «Што ля таго трэба, каб усе людзі былі роўные да ўсе роўно былі шчаслівымі».— «А я цебе наўчу да й сам буду табе памагаць, толькі ты дай мне роспіску, што будзеш мене слухаць і тут і там».— «Згода»,— кажэ той чалавек. От шатан дастаў паперак і напісаў карталюшку да й дае падпісаць. А той кажэ, што не ўмее. «Ну, гэто не беда. Прарэж руку да сваёю кроўую й зрабі знак, які хочэш». Той чалавек так і зрабіў, пракалоў нажом шкуру на сваёй руцэ да кроўую намазаў сваю метку. Тагды шатан даў яму сваю моц і зрабіў яго вялікім ведзьмаром, якіх яшчэ не было на сьвеце. От і пашоў ведзьмар усе перарабляць так, як ён сам думаў, што так найлепш, а шатан яму памагае й духам усе робіць, што ведзьмар хочэ. От і пашлі яны раўняць людзей: аднаго падрэжуць, астатак прыложаць другому. Зраўнялі яны ўсіх людзей пад адну мерку, толькі зірнуць, аж самі не падходзяць пад тую мерку. От шатан і кажэ: «Трэ й нам з усімі зраўняцца». А ведзьмар адмаўляе: «А хто ж будзе людзей вучыць да раўняць, як мы будзем такіе, як і яны». І асталіса яны такімі, як і былі, да й пашлі пытаць людзей, шчаслівые яны ці не. От ідуць яны да разглядваюць, як жывуць людзі да й бачаць, што куды яны ні прыдуць, людзі тое толькі й робляць, што падрэзваюць адных да надтачваюць другіх. І пытаюць яны ў людзей, ці яны шчаслівы, ці не. А людзі й кажуць: «Той шчаслівы, хто лічыць себе шчаслівым, а мы не можэм себе лічыць, бо за нас лічыце нас вы, а не мы самі». Дагадаўса тагды ведзьмар, што хацеў шчасця толькі сабе, а ўсіх людзей зрабіў нешчас-

нымі, пазнаў ён тое да й годзі слухаць шатана, але той паказаў роспіску, схапіў яго крукам пад рабро да й пацёг у пекла. Да тых час, а мо й навекі вечныя будзе той ведзьмар седзець у смале. А людзі як жылі, так і зноў пачалі жыць.

Стары дзед Савіцкі

Бохаво

## 67. МАРЦЫПАНЫ

Добрае было лето: пованчы йшоў цёплы дожджык, а ўдзень лагодно прыгравало сонейко, й такое было паветрэ, што паведзі языком — здаецца бы мёд. Зрадзіло ўсе, як ніколі: цыбуля ў вагародзе бы лаза, у жыце с канём схаваешса, а пшаніца дак аж сплеласа, хаць ты борану прыстаў. Такі даў Бог зражай, што нема куды й дзеваць. Пазбіралі людзі збольшаго с поля, наледавалі поўны гумна, намалацілі хлеба на дзесяць гадоў, насыпалі поўны засекі да ешчэ ў ва ўсе кадушкі да кадаўбы. «Ну,— кажуць,— даў Бог дабра, толькі каб было каму спажываць». Ведамо, калі людзям добрэ, та яны баяцца, дрыжаць, каб не было якое беды. Нашаму брату, гарапашніку, заўжды е якое-небудзь ліхо. Праўду ж кажуць, што чорт ліхо збудзе, адно згіне, дзесяць будзе. От як трохі добрэ, та ўжэ й чакай бы вол доўбні гарэйшаго ліха. Ніхто так, як бабы. Яны ўжэ голасам галосяць, баяцца тае беды, якое яшчэ й не бачно. Бо самы страшны той страх, якого мы яшчэ не бачылі. Дак от галасілі-галасілі бабы, дрыжалі-дрыжалі людзі ат страху, а беды ніякае немаш; от і давай яны спажываць дабро да вазіць у местэчко на продаж. Кожын дзень, як дась Бог ранак, дак ключом цягнуцца поўныя хуры хлеба ў местэчко. Туды едуць ціхо, толькі вазы скрыпяць, а як варочаюцца назад, так тагды ўсюды чуваць весёлы гоман да песьні. Бачно, што людзі варочаюцца с кірмашу. Адны трохі выпілі, та набраліса разону, другіе чуюць у магалейцы. А што ні гавары, грошы много даюць разону. Як нема асьмакоў, та от так кала серца й завівае, а як чуеш у кішэні, та й на серцу веселей.

Грошы не музыка, а як яны зайграюць, та й скакаць хочэцца. Затым то с кармашу варочаюцца людзі веселые: паюць песьні да смеюцца, рагочуць бы падшпаркі. От гэ было весело на серцу Паўлюку, як ён прадаў у местэчку цэлы воз пшаніцы да набраў грошэй поўну кішэню. «Дай,— думае Паўлюк,— куплю тое смачнае, што паны едзяць, да й сам з'ем». От заходзіць ён у крамку, але бачыць, што там не ландарка таргуе, а якісь пан ці мо паніч. А ў крамцы такі пах, што нюхаў бы дзень й ноч. Пакруціў Паўлюк носам, думае, што не туды папаў, і хацеў сунуцца з крамкі, але ось пан пытае, што трэ. «Мне трэ купіць марцыпанаў»,— кажэ Паўлюк. «Добрэ,— кажэ аптакар,— пачакай трохі». Бачыце, Паўлюк зайшоў у апцеку. От заплаціў Паўлюк аптэкару тры рублі, а той падаў яму штось, завінуўшы ў папер. Паўлюк думаў, што за тры рублe аптакар дась яму марцыпанаў цэлае берэмя, адно ж той даў толькі, што й у жмені схаваецца. Пакруціў-пакруціў Паўлюк марцыпаны перад ачу, паглядзеў на сваю велізазную кайстру, у каторую думаў схаваць марцыпаны, панюхаў свой тавар — чуе, што добрэ пахне, да й пасунуўса к возу. От напаіў ён кабылу, падабраў раскіданы мурог, усхапіўса на драбінкі да й патарахцеў да госпады. От выехаў ён за местэчко да ўсе сцёбае, паганяе кабылу: вельмі хочэцца худчэй прыехаць да госпады да папробуваць марцыпаны. От тарахціць ён да ўсе сплёўвае, бо сліна от так і чэчэ,— вельмі хочэцца папробуваць марцыпаны. От дастаў ён з кішэні марцыпаны, панюхаў, сплюнуў сліну да й зноў палажыў смачны гасцінец у кішэню. Яшчэ гарэй пачаў сцёбаць кабылу да гікаць на ўсе горло. Тая толькі хвастом круціць да пасцыквае, а шпаркасці ніякае немаш. От церпеў-церпеў Паўлюк да удругае дастаў марцыпаны. Перш ён панюхаў іх, а потым давай памаленьку лізаць. Лізаў-лізаў, аж пачала пена з роту падаць, бы с кабылы, як яна доўго й хутко прабежыць. Запеніўса Паўлюк марцыпанамі да й не бачыць, што суседзі ззаду нагналі. От параўняліса яны, а адзін сусед да й пытае:

— Паўлюк, што ты есі?

— Марцыпаны,— атмаўляе той і апцірае рукавом пену.

— Якіе табе марцыпаны, гэто ж мыло.

— Было б і табе міло, каб даў тры рублe,— атказвае Паўлюк да жумрыць мыло, аж за вушамі трашчыць, бо не то міло, што міло, а то міло, што дораго.

Калеснік

Перэвалака

## 68. ДАБРО Й ЛІХО

Праўду кажуць людзі, што ніколі не згадаеш, дзе ліхо, дзе дабро спаткаеш. От так і ходзіш усю жытку бы ў пацёмках, ходзіш і не ведаеш, што цебе сустрэне. Адзін кажэ, што дабро зьяе бы сонцэ, што мы любім яго сьвет, але жмурым вочы, бо яго нельга вытрымаць. Другі кажэ, што дабру людзі вочы выкалалі, дак яно цепер і не ходзіць па сьвету, а седзіць сабе на небе да цешыцца, што яму добрэ. Дак затое ліхо бы цень ходзіць за чалавекам да цікуе, каб яго ўкусіць. А што праўда, што крыўда — багі яго ведаюць, бо часам лепшэй праўда спаліць, чым ліхо пахваліць. От раскажу вам, якое колісь было здарэньне. Жыў сабе адзін бедны чалавек. Быў ён такі ціхі, што й вады не замуціць. Працаваў за двох, а гараваў за трох. Мо ліхо ніколі яго не пакідало, а ён ціхенько робіць свае дзело да ўсе церпіць. Мо за тое й прадражнілі яго Ціхонам. Жыве сабе Ціхон у сваёй старэнькуй хатаццы да маўчыць, зубы сцяўшы, хаць часамі нема за што рук зацяць. Дзівяцца людзі, як гэто Ціхон такі бедны, такі нешчаслівы, а маўчыць бы трава, ні лаецца, ні праклінае свае долі, ні завідуе людзям. Тые пытаюць: «Як ты жывеш, Ціхон? Гэто ж у цебе нічого нема!» — «От жыву, як Бог даў»,— аткажэ ён да й маўчыць. Але людзі любілі Ціхона, бо ведалі, што ён добры чалавек, толькі лічылі, што яму не даў Бог добрае долі. А ведамо, калі е добры чалавек, та чорт ні на крок не атступіцца ат яго, дзень і ноч цікуе, каб як яго спакусіць. От бегаў, бегаў чорт за Ціхонам мо колькі гадоў, ужэ збегаўса бы хорт, а нічого не можэ парадзіць,— маўчыць Ціхон да жыве, як Бог веліць. От чорт і думае, чым бы спакусіць Ціхона. «Ось я заберу ў яго апошняе,—

думае чорт,— от тагды ён будзе наракаць на Бога». Была ў Ціхона адна кароўка да й тая безхвостая. От чорт загнаў яе ў балото, дак яна там і заліласа. Пабачыў тое Ціхон, перахрысціўса да й кажэ: «Божая воля». Атскочыў чорт ад Ціхона мо на цэлые гоны да й не ведае, што рабіць. Палецеў ён у пекло, а там чэрці з яго смеюцца да кепкуюць, што Ціхона не мажэ спакусіць. Уцёк чорт з пекла да й агінаецца ў раю, хочэ там разнюхаць, чаму бываюць праўдзівые людзі. Толькі ось убачыў яго Бог да й пытае, ці знае ён праўдзіваго Ціхона. Схлусіў чорт і кажэ, што не знае, бо яму вельмі сорам было прызнацца. І просіць ён Бога, каб пазволіў яму зрабіць над Ціхонам прахтыку, які ён праўдзівы чалавек. Бог пазволіў. Палецеў чорт на землю да й пад'юдзіў зладзеяў, каб яны абакралі цэркву. Залезлі тыя ноччу ў цэркву да й забралі там грошы, але пабаяліса несці к сабе, каб часам не знайшлі, а захавалі іх у дупленатую вербу, што схіліласа над плотам Ціхона. Толькі адзін злодзей узяў сабе срэбны крыж да й замураваў яго ў комін у карчме. Агледзеліса людзі, пачалі шукаць зладзеяў — нема, бы ў воду канулі. Тым часам чорт падняў такі віхар, што аж хаты пазварочвало да паламало дзераўлякі. Зламало й тую вербу. Пашоў Ціхон секці тую вербу на дрова да зірне, аж там у дуплі грошы. Палічыў ён тые грошы да й пашоў пытаць у папа, ці не яны ўкрадзены ў цэркві. Зірнуў поп да й пазнаў тые грошы да й кажэ Ціхону: «Давай падзелімасо, та я нікому не скажу, што ты ўкраў». — «Я не краў,— кажэ Ціхон,— а грошы гэто Божые, трэ аддаць у цэркву». Абазліўса поп да й сказаў людзям, што гэто Ціхон абакраў цэркву, але совесь замучыла, дак прынёс назад грошы. Схапілі Ціхона, звезалі яму рукі, забілі ў калодкі ногі да й пасадзілі ў вастрог. «Ну,— думае чорт,— яшчэ гарэй я нарабіў. Цепер Ціхон саўсім святы. А я ж думаў, што ён возьме грошы сабе да разбагацее, дак тагды неважко яго спакусіць». Тым часам тая бура раскідала старую карчму да й абернула комін. А ў карчмара была вясковая дзеўка за наймічку. Убачыла яна ў коміне крыж да думала, што гэто цуд, пабегла яна скарэй у цэркву да й сказала людзям. От велеў поп забраць пратэсы да абразы, й пашлі яны ў тую карчму.

Зірнуць яны, аж гэто той крыж, што зладзеі ўкралі ў цэркві. От тагды схапілі тых зладзеяў да й пасадзілі ў вастрог, а Ціхона аслабанілі. Толькі, ведамо, зладзеяў, падмазалі яны каго трэба да й аслабаніліса з астрогу. Сердзіты яны на Ціхона, што ён знайшоў тые грошы; от узелі яны да й падпалілі Ціхонавую хатку. А Ціхона не было дома, бо ён пачуў, што якісь чалавек за ракою гукае, просіцца на прамілы Бог, каб яго перавезлі цераз рэку. Ведамо, кожын глядзіць свайго дзела — ніхто й не варухнуўса, каб перавезці таго чалавека. Шкода яго стало Ціхону, от ён сеў на човен да й папхаўса. Рака была шырокая, пакуль ён перапхаўса на другі бок да пасадзіў таго чалавека, зірне на ўёску, аж яго хатка гарыць бы свечка. «Воля божая»,— думае ён да ціхенько грабе веслом, каб не затапіць дзіравы човен. Пакуль яны перапхаліса, дак ат Ціхонавае хаткі толькі вуглі да галавешачкі засталіса. А людзі стаяць кала пожару да кажуць: «Што яе тушыць, калі яна ўжэ так згніла, што засталаса адна парахня». От падышоў Ціхон з тым чалавекам к пожару да й кажэ: «Ну, братко, нема чым цебе частаваць, нема дзе й сапачыць табе з дарогі, хіба ось цебе возьмуць к сабе добрые людзі. Прымеце, браткі, падарожнаго чалавека»,— кажэ ён людзям. Павелі яны таго чалавека к сабе на начлег, а Ціхон так адзін і застаўса без вечэры кала вогнішча. Атышліса людзі ат пожару, а той чалавек і кажэ пра Ціхона: «От, браткі, божы чалавек. Хата ў яго гарыць, а ён ціхенько мене перавозіць цераз рэку, каб не замачыць. Мо немашака такого добраго чалавека на свеце». — «Але ж,— згаджаюцца людзі,— добры, праўдзівы чалавек Ціхон, толькі ліхую яму даў Бог долю. А ты ж скуль, чалавечэ?» — «Здалёка, мае лебедзікі»,— кажэ ён. Пачалі тут людзі прызірацца да й пазналі, што гэто той канакрад, што мо ў ва ўсёй акрузе крадзе коней. Колькі раз яго лавілі да саджалі ў вастрог, а ён хаць бы што. Заплаціць там каму трэ да й зноў цягае коні. Пазналі яго людзі да й звезалі, бо ён яшчэ недаўно ўкраў тут пару коней. За ім гналіса да не маглі злавіць, бо ён ускочыў на каня, падлажыў яму пад хвост вераўчыну з вузламі да як пачаў шмаргаць, дак конь так хутко пабег, што ніхто не дагнаў. «Э, ён вельмі хваліць Ціхона,— кажуць

людзі,— мабыць яны ў хаўрусе крадуць коні. Да бачно, праўду казаў поп, што Ціхон абакраў цэркву. Бачыце ж зладзеяў пусцілі, нашлі, што яны не вінаваты». От і пачалі Ціхона зноў цягаць, цягаць за тое, што яго пахваліў злодзей. Добрэ яшчэ, што знайшоўса адзін чалавек, што ён з Ціхонам усю тою ночку, як абакралі цэркву, разам лавіў рыбу. От ён стаў сведкаю да й памог Ціхону аслабаніцца. Вернуўса Ціхон на свае папелішчэ да й стаў пераграбаць попел, каб тут на старом мейсцы збудаваць сабе новую хатку. Пераграбаў ён попел да й знайшоў там много грошэй. Хацеў ён аддаць іх на цэркаў, але Бог яму велеў самому спажываць. І стаў з тых часаў Ціхон добрэ жыць да Бога хваліць. Дак, бачыце, ніколі не згадаеш, што дабро, а што ліхо, бо часамі лепш вораг спаліць, чым злодзей хваліць. Цягаўса, цягаўса за Ціхонам чорт, нарэшце плюнуў да й палецеў у пекло, бо так задурыўса, што й сам не разберэ, што ліхо, а што дабро.

Калеснік

Перэвалака

## 69. ПЛАТОН-КАЗАК

У двананцатом гаду падняўса на белаго руськаго цара француз Напальён. Нагнаў ён сюды войська бы цёмная хмара да й пачаў паліць вёскі, гарады, да забіваць людзей. Пахаваліса людзі, хто пасьпеў у лес ці за балото, загналі туды ўвесь свой статак, а дабро закапалі ў землю. Знішчылі французы ўвесь край, змарнавалі ўсе дабро, так што й самі пачалі падыхаць з голаду. Пераелі паганые сабак да катоў, палавілі мышэй да пацукоў, пастралялі ўсіх варон да й паелі ўселякую погань. Сам цар Напальён ходзіць сабе на балоце да ловіць жабы або чарапахі, каб пасілкавацца, бо голад не свой брат, кожнаго як засмокчэ, дак гатоў сам сабе руку адгрызці. Соваюцца галодные французы бы сонные мухі да збіраюць чарвякоў, жукоў да ўселякіх слізнякоў, каб хаць гэстаю пошкудзьзю набіць сабе лантух. От і пачалі людзі

памаленьку вылазіць з лесу да дабіваць тых гадаў. Зберуцца яны дзе-небудзь грэцца ў хату, а тут бы з землі вынырне Платон-казак да й запаліць атусюль тую хату. Пекуцца французы бы картопля ў прыску, пекуцца, а вылезці з хаты не могуць, бо дзьверы калом падперты. Гуляе Платон-казак та тут, та там і ніяк яго не могуць злавіць французы. Абецаў Напальён велікі гасцінец таму, хто зловіць Платона-казака ці хаць скажэ, дзе ён. Але ніхто не мажэ таго сказаць, бо Платон-казак летае бы арол, плывае бы шчупак, бегае бы хорт. От перэадзеўса ён за купца да й прыехаў к Напальёну, нібыто прадаваць хлеб. Прымае яго Напальён да й пытае: «Ой ты слаўны купец-маладзец, ты ўсюды па сьвету бываеш, усе бачыш, усе знаеш, мо Платона дзе стракаеш?» — «Ну, нема таіць чаго, добрэ знаю я яго». Цар тут разам схаменуўса, на Платона азірнуўса. Дак казак той не дурак, паказаў яму канчак. Замахнуўшыса з плеча, рэзнуў трэйко згарача, аж зваліласа карона; сам ускочыў у стрымёна да й крычыць: «Лаві Платона». От такі то быў казак, што французам даўса ў знак. Ён па полю раз'езджае, страх на варм'ю наганяе, паліць яняралаў хаты да берэ ат іх гарматы; забегае на дарозі, топіць войсько у Берозі. От адзін стаў Напальён, хаць прыўёў да нас мільён. От і едзе той казак па полю, смело даў каняцы волю. Жыто поруч каласіцца, крыж за горкаю ласніцца. Сонцо грэе, аж печэ, толькі пот с ылба цечэ. От ён шапачку здымае, Бога шчыро праслаўляе, што памог француза рацы з края роднаго прагнаць. Толькі ў жыце зашумело, раптам сэрцэ бы згарэло. Толькі ён перахрысціўса да й на карак да каня схіліўса. Казакоў падбегло двое. «Мабыць, место тут ліхое». Перш француза тут забілі, а Раманава местэчко на жалобу запалілі. Бы свеча дамы палаюць — то Платона памінаюць. Слёзанькі з вачэй цекуць, песню ж казакі паюць, як велікі той казак згінуў дарам небарак.

Калеснік

Перэвалака

# 70. ЦЫГАН

Валачыўса па свету цыган. Сам ён не ведаў, дзе ён радзіўса, дзе ён хрысціўса. Валачыўса ён да ўсе распытоўваў у людзей, ці была ў яго матка, ці не, а пра бацька й не пытаўса, бо ўперод дазнаўса, што ў ва ўсіх цыганоў немашака бацькоў. І пачаў той цыган усіх жанчын называць маткамі, [redacted] кожнаго мушчыну — бацькам. Куды ні прыдзе цыган, та й просіць: «Дай мне, матулька, кусочак сала, каб табе жытка лепшая стала, дай яечак да лычко каўбас, та й будзе з нас». Сустрэне гаспадара, дак і кажэ: «Дабрыдзень, бацю, вам! Ці рады вы нам? Чаго, бацю, зажурыўса, што так рано ажаніўса? Не журыся, не турбуй, дробных дзетачак гадуй. Дзеткі падрастуць,— стракача дадуць, а ты, бацю, не гаруй да гадуй, гадуй». Часам тая «матулька» замест сала да каўбас дась цыгану на квас, а тут гаспадар падаспее да «сыночка» абагрэе цэпам ці якою кацюбою. Дак ат «ласкі» не прапасці. Ён наровіць, штоб украсці. Так валочыцца цыган бес клапоту, баццэ пан. Раз яго пачаставалі — чуць касцей не паламалі. З клеці кінулі за плот. Дак цыган жывуч бы кот: трохі доле атлежаўса да [redacted] у лес папхаўса. Там сустрэў дзяўчыну маладую да прыгожую такую, што не бачыў свет мо праз сотню лет. Блiснуў тут цыган вачамі, баццэ з'еў бы з патрахамі. Толькі дзеўка тая — ведзьма хітрая старая, цыгана к сабе наймае, мех чырвонцаў абецае, як ён дзень работу паробіць да поту. Дак не так ён золата жадае, як на дзеўку пазірае. І служыць гатоў без платы, бо яго не выганіш і з хаты, дзе дзеўчына маладая вочкамі бліскае. От згадзіліса на плату да й пашоў цыган у хату. Дзеўка ў ступу воду налівае да яго пытае, ці таўкці ваду ўмее, ці да вечара паспее ступу высушыць да дна, бо хаць капелька адна вады зробіць много тут беды. Той цыган калі наняўса, дак ён баццэ запрадаўса, стаў аберучкі таўкці, баццэ крупы ля куці. Толькі, ведамо, вада — брыські скачуць, аж беда. Кінуў на дзеўчыну вокам — мабыць, закахаўса ненарокам. Дзе дзеўчына, сам не знае да дакола пазірае, аж на доле кала ступы грошэй купы. От цыган у мех зграбае да хуценько ўцекае. Сонцо паліць, сонцо грэе, ветрык жарам вее. К вёсцы цягнецца

цыган. «Буду,— думае,— я пан. Што схачу — куплю за грошы, больш не будуць грызці вошы». Сонцо паліць, сонцо грэе, ветрык жарам вее. Смага томіць, смага паліць, аж яго да долу валіць. «Бацю, дай вадзіцы да халоднае з крыніцы»,— просіць той цыган. «Не вялікі пан,— кажуць разам мужыкі,— вонь цягніса да ракі. Коней красці, дак умееш, та й напіцца там паспееш».— «Бацю, дай вадзіцы, заплачу».— «Хармазонськіх грошэй не хачу». От нажыў цыган беды, што з грашыма без вады да без яды! Ходзіць з мехам за плечамі, толькі лупае вачамі. Цяжко грошы валачыць, як на іх і хлеба не купіць, лепей і не жыць. Скінуў мех цыган на пень, сеў і плачэ цэлы дзень. Толькі вось чарцюк падходзіць і такую рэч заводзіць: «Много ты па свету шляўса, а вума, бра, не набраўса. Маеш золата мешок, баццэ жоўценькі песок, да не ўмееш як спажыць, дак хадзі ка мне служыць, навучу на свеце жыць. Толькі ты зрабі работу, пакасі дзенёк да поту». Тут цыган з землі схапіўса, кінуў грошы да й пусціўса бегці па шырокум полі да шукаць свае ён долі, каб нікому не служыць да без дзела век пражыць.

Тычына

Пешчанка

## 71. ЦЫГАН-МУЗЫКА

Быў адзін цыган да якісь шалапаваты, не ўмеў ён красці, бо баяўса прапасці, не ўмеў коней лечыць, а хацеў так сабе жыць. Нічого ён не дбаў, толькі на скрыпачцы йграў. Была ў яго скрыпачка маленькая да дарагенькая. Аткуль ён яе дастаў, дак і сам не знаў. Тая скрыпка так іграе, так выразно вымаўляе, што здаецца душа з целам растаецца. Іграў цыган у паноў, іграў у жыдоў, іграў на весельлі да на ігрышчах, дзе людзі прасілі, дзе грошы плацілі. Што цыган захочэ, скрыпка плачэ ці рагочэ. От здаецца, скуль і голас той берэцца. Грае цыган, грае да нарэшце заспевае. «Хвацько,— кажуць,— ён іграе, бо такую скрыпку мае, што гаворыць і спевае». Дак ніхто не знаў пра то, як цыган часамі

граў над ставам за вербамі, як ён душу атвадзіў, што без мілае нудзіў. От седзіць цыган на змроку. Стаў шырокі збоку. Вербы ветачкі спусцілі. Зоркі гожэ засьвецілі. Заіграў ён ціхо, ціхо, аж спалохаласо ліхо. Жабы крумкаць перасталі. Лісцікі з вербы ўпалі. Не лісточкі, а дукаты. Чуе голас: «Будзь багаты. Колькі хочэш забірай, толькі скрыпку мне прадай». І выходзіць з става гідкая праява: чорцік невелічкі, жвавы, нос гарбаты, лоб каравы; над вушамі, мабыць, рожкі, з капытамі ножкі; між нагамі хвост сагнуўса. Той музыка схаменуўса. «Скрыпку,— кажэ,— я прадам, толькі перш пайграю сам». — «Згода». Чорт на знак вільнуў хвастом да й сагнуўса пад кустом. От музыка смыкам цягне, аж даліна зьвягне, палцамі перабірае, аж на сэрцы грае. Лес прыціх, прыціхлі кветкі, засмуціліса палеткі. Небо плачэ, слёзы круціць да ў кулак трубіць. От цыган суняўса да й з ігрою папрашчаўса. Скрыпку ён патрос бы грушу да з грудзей і выняў душу. Чорт грашмі яго абсыпаў, скрыпку ўзяў да чуць зарыпаў. Рад, што й так іграе. От цыган у мех збірае грошы, мех кладзе на плечы, каб схавацца ат пусьцечы. Прашкі! Ат ліхое сілы не схаваешса, мой мілы. Чорт тры дні смыком цягае, скрыпка свішчэ, да не грае. «Не, хаць скрыпка добрэ грае, да душы яна не мае, сэрца не шчыпае,— дагадаўса чорцік жвавы.— Я купіў не ля забавы». Чорт схапіў яе пад паху да й даў маху, хутко поле й лес прайшоў, покі цыгана найшоў. «Бачыш, скрыпка без душы. На ж іграй і мне служы». От з тых час цыган іграе, толькі чорта пацешае, бо ў ігры нема душы, хаць на Бога ты брашы.

Тычына

Пешчанка

## 72. БОГ ВЕДАЕ, ШТО РОБІЦЬ

Жылі сабе двое маладых. Яны толькі яшчэ недаўно пабраліса, як гаспадар пашоў у лес пушчаць дзерава да зненацку паслізнуўса кала пня да й папаў пад калоду. Дзерава так прыцісло яго, што й дух вон. Засталаса маладзіца ўдавою да яшчэ й тоўстая. Што тут рабіць, як

тут адной жыць, як упраўляцца з гаспадаркаю? Была яна вельмі гожая да ўдалая жанчына, але, ведамо, тоўстая — ніхто не паквапіцца хутко ўзяць замуж. От упраўляецца яна адна з гаспадаркаю да чакае пары. Па немалум часе падышла пара, й радзіўса ў яе гожы хлапчук. Сышліса бабы, даюць ёй ратунак да бабяць дзіця. А ведамо, як чалавек родзіцца, Бог пасылае яму аняла. От Бог прызваў аднаго аняла да й пасылае, каб ён пашоў да тае маладзіцы да й узяў у яе душу, а сам застаўса з дзіцем. Прылецеў анял к той жанчыне, зірнуў на маленькае дзіцятко й шкода яму стало рабіць яго так рано сіратою. «Не добрэ робіць Бог,— падумаў ён,— як будзе жыць гэстае дзіця без айца й без маткі». І не паслухаў ён Бога, хацеласо яму зрабіць лепш. І заставіў ён тую жанчыну ў жыцю. Прагневаўса Бог на таго аняла, атабраў у яго крыла да й велеў служыць людзям, а к таму дзіцяці прыставіў другого аняла. От той першы анял астаўса ў той вёсцы й наняўса к папу парабкам. Выздаравела тая маладзіца да стала яшчэ харашэй, як была. Пачалі к ёй сватацца харошые да багатые жаніхі лепш як к дзеўцы, дарам што ўдава. Круціць яна хвастом да толькі падманьвае та аднаго, та другого. І набралосо ў яе такім парадкам жаніхоў мо цэлы тузін. Абрабляюць яны ёй поле, даглядаюць гаспадарку да адзін перад другім услугоўваюць да носяць ёй розные падарункі. А яна ціхенько знюхаласа з суседам да адбівае яго ат маладое жонкі да ат дробных дзетак. Жыве маладая ўдава, бы сыр у масле качаецца, да песьціць свайго хлапчука. А той падрос і нікого не слухае. І пачалі тые жаніхі адзін перад другім насіць таму хлапчуку розные падарункі, каб хаць тым спадабацца той удаве. Песьціць матка да песьцяць яе жаніхі, от яны так распесьцілі таго хлапчука, што ён стаў ні к чорту не варт. Як толькі ён трохі падрос, так давай лазіць у чужые сады да агароды. Матка замест таго, каб ушчуваць, дак яшчэ гарэй песьціць свайго сынка да гладзіць яго па галоўцы. І вырас з яго такі ўрвіс да злодзей, што толькі ў сьвеце пашукаць. Залез ён раз к папу ў іcьцёпку да й пакраў там каўбасы да палендвіцы. Наклаў ён дабра поўную кайстру да чуць плішчыць на загумечэ, дзе яго чакалі таварышы, такіе ж зладзей-

чукі, як і ён. Тым часам той анял у гумне малаціў да й закмеў злодзея. Выскачыў гэто ён з гумна з цэпам да й замахнуўса, каб папужаць. Кінуў зладзейчук торбу, выхапіў канчаты нож да й кінуўса на паповаго парабка, але як пырнуў ён нажэм, так і застаўса на месьце бы ўкопаны. Падышоў тут поп да давай яго страміць да лаяць. От атпусьціў анял злодзея й дараваў яму тое на першы раз, толькі заказаў, каб больш ён нічого не краў. Абазліўса зладзейчук да й падпаліў ночу папоўськіе харомы, а сам і пабег у поле. Збегліса людзі на пожар да насілу патушылі, чуць уся ўёска не згарэла. От даў Бог сьвет, і пашоў папоўські парабак сачыць, хто гэто падпаліў харомы. Бачыць ён на расе сьлед. Пашоў ён па таму сьледу да й высачыў таго зладзейчука, але нікому не сказаў. Толькі тагды дагадаўса анял, што саграшыў Богу, як пашкадаваў таго дзіцяці да яго маткі. Дагадаўса, што Бог знаў, што рабіў, калі велеў узяць душу ў тае жанчыны, каб яна сама не грашыла да й сына не пестувала да не бэсьціла. От пачаў ён хадзіць у цэркаў, пачаў каяцца да прасіць Бога, каб дараваў яму грахі. Прыдзе той анял у цэркаў да й моліцца, пакуль пачнуць пець харувімы, а потым хуценько вылазіць з цэркві. Дзівяцца людзі, чаму гэто папоў парабак ніколі не дастаіць да канца. Сказалі яны аб том папу. Пазваў поп парабка к сабе да й пытае яго, чаму ён стаіць у цэркві толькі да харуімськае песьні, а потым хуценько выходзіць з цэркві. А парабак адмаўляе, што так Бог велеў. Нема чаго яму казаць, бо ён сам заўжды гаворыць людзям, што тое ці сёе Бог велеў. Але зацікавіўса-такі поп, што б гэто за ён такі быў гэсты парабак і чаму ён не такі, як усе людзі. От велеў ён старасьце наглядаць за тым парабкам, што ён робіць, як выдзе з цэркві. От якраз быў там хвэст. Сышлосо й з'ехаласо много людзей да цэркві, сьцегліса туды са ўсяе акругі старцы й убогіе. Напхаласо людзей поўна цэрква да й не месьцяцца, стаяць на цьвінтару. Яшчэ з самаго рана ўлез у цэркву й папоў парабак, памаліўса Богу, а як засьпевалі харуімы, от ён раптам праціснуўса праз людзей да й вышаў на цьвінтар. Пашоў з ім і стараста. Зірнуў парабак уверх на крыж, нахапаў камення да давай шыбаць угору на цэркву да на крыж. Падзівіўса стараста, але

маўчыць, чакае, што будзе далей. Падходзіць парабак к старцом, а там іх цэлая чарада; паселі ў два рады да на розные галасы просяць да паюць Лазара. Але гарэй усіх ва ўсе горло крычыць адзін стары дзед: «Падайце міластыньку, добрые людзі, беднаму старому. Вам Бог заплаціць на том сьвеці прасьветлым раям». Зірнуў на яго папоў парабак, схапіў ламачыну да давай перэсьціць таго старца. Кінуліса туды людзі да й засланілі сабою старога, а парабку кажуць, што не можне чапаць Божаго чалавека. Атышоўса трохі парабак да й сустракае якогось маладого, здаравеннаго хлопца да й дае яму ўсе свае грошы. Лядзіць стараста да толькі дзівуецца, чаму ён так робіць, чаму дае таму, хто мажэ сабе зарабіць грошы, а б'е старога жабрака. Тым часам парабак вышаў за плот у поле, зірнуў уверх на сонейко да стаў такі весёлы да радасны, бáццэ й не ведама што. Вернуўса стараста к папу да й расказаў усе, што рабіў той парабак. «Мабыць, ён, бацюшко, якісь шалапаваты ці не ў сваём вуме»,— кажэ стараста. «Не, гэто не тое»,— сказаў поп і велеў пазваць к сабе парабка. Той прышоў. «Скажы мне,— запытаў поп парабка,— на што ты шыбаў каменем у крыж на цэркві?» — «А як жэ, бацюшко, не шыбаць, калі там кала крыжа ўецца цэлая чарада чарцей, баццэ мошкі мак таўкуць. Я як сьвіснуў каменем, дак мо з тузін палажыў на мейсцы, а рэшта разлецеласа чорт ведае куды». — «А за што ты біў таго старого жабрака, што прасіў у людзей міласьцінкі?» — «Бацюшко, як жэ яго не біць, калі ён у сваём лайне зашыў цэлую кучу грошэй, а яшчэ просіць больш? Навошто яму гэстые грошы, калі ён сам не спажывае й людзям не дае, бы той сабака на сене, што сам не есь й кароў не падпускае». — «Пачакай, я разведаю, ці гэто праўда»,— сказаў поп і пазваў таго старца. «У цебе зашыты ў лайне грошы?» — пытае поп старца. Той мнецца да м'ямліць: «Зашыты, бацюшко». — «Пакажы». — «Зашыты, бацюшко». — «Распары». — «Немашака нажа». Пот схапіў з яго лайно да й давай разрываць рукамі латкі да разгрызаць зубамі. Разгрыз, а срэбло аттуль так і пасыпаласо. Накрычаў тут поп на старца да й прагнаў яго, а грошы пазбіраў да й сунуў у кішэню. «А чаму ж ты таму маладому да здароваму

хлопцу даў грошы?» — пытае ён далей парабка. «Я яму затым даў, што ён ужэ даўно без работы валочыцца па сьвету й не мае чаго есьці». — «Ну, а чаму ты ніколі не дастаіш у цэркві да канца службы?» — «Я ўжэ гаварыў бацюшку, што так Бог велеў». — «Ты казаў, але ж я ўсе-такі не магу ўразумець, хто ты такі й чаму ты не слухаеш таго, што нам Бог веліць?» Памаўчаў трохі той парабак, паглядзеў у вакно, да як убачыў, што на двары зляцеліса анёлы да пачалі пець харуімськіе песні, дак і дагадаўса, што Бог прасьціў яму. Потым і кажэ: «Я Божы анял. Мене Бог паслаў узяць душу ў тае ўдавы, што распесьціла свайго сына, узяць тагды, як ён толькі радзіўса. Я пашкадаваў дзіцяці, хацеў зрабіць лепш ат Бога, а тым часам зрабіў амылку. Каб яго матка памерла, як ён быў маленькі, та й яна не грашыла б Богу, да й ён не распесьціўса б, а быў бы, як усе людзі. Бог ведае, што робіць. Я не паслухаў Бога і нёс кару, а цепер Бог мне дараваў грахі». Пры гэстых славах папоўські парабак стаў анёлам і замахнуў крыламі да й палецеў к сваёй брацьці. Пачулі поп з старастаю, што ў небе паюць да хваляць Бога святые анёлы, арханёлы да харуімы, але не бачаць іх. От яны й кажуць: «Велікі Бог, велікая яго мілась. Ён знае, што робіць»[1].

Рэдкі

В. Рожан

## 73. КАМЕНЕ

Можэ бачылі часамі па дуброўцы паўз дарогу чэраду каменя. Бачылі, да, бадай, не чулі, скуль яны ўзяліса. Дак паслухайце старого. Ён вам скажэ не на кпінкі. Ён вам скажэ тое дзіво, што даўней было на сьвеці. Там растуць дубы ажно пад небо. Адны вырасьлі, згнілі ўсеродку ці перун разбіў ім бокі, што зваліліса да долу. Замяст тых растуць другіе. Таўшчыня бы печ, вышыня — злетае шапка. А ў землі лежаць калоды і з-пад берага крутого па рацэ на дне глыбоко, пачарнеўшы бы

[1] Адменьнік у В. Н. Добровольскаго. Смоленскій Этнографическій Сборник, ч. I. СПб., 1891, стр. 323—325.

вуголье, не гніюць з тых часаў даўніх. От дуб'ё ў землі, пні дуб'я наверсе, а між іх лежыць ад веку чарада каменя, бы валоў на пашы. Хто да скуль прыцiс такую ценжар і па беразе раскінуў, бы картоплю ў вагародзе? Як вада цечэ ў рэццы праз лесы, балота, так прайшлі дзенькі да ночы, зімы й леты, так праходзяць век за векам і ніколі не вертаюць. Як зьменяецца расліна, так зьменяюцца й людзі: родзяцца, жывуць, клапоцяць, потым паміраюць. Замяст іх раджаюцца другіе. Пакрасуюцца на сьвеці, прагаруюць жыцьце да й праходзяць па калейцы, баццэ чэргу атбываюць. Так усе зьменяецца ад веку. Толькі ціхенько ў дуброўцы чарада каменя сьпіць паміж дубамі да чакае цуду ці таго, як Бог пазволіць стаць і ёй на чэргу, атбываць калейку, баццэ ўсе на сьвеці. Дак якое ж то камене і за што яно ат веку не меняецца як людзі? То не простае камене і лежыць тут на пакуту, што зрабіло перад Богам грэх вeлікі. Як цепер, мо спраку веку тут жылі якіясь людзі. Секлі лес, рабілі поле да лавілі ў рэццы рыбу, а праворные мужчыны звера білі ў лесі. Як цепер мо гаравалі, працавалі, даставалі, як умелі дробным дзеткам жыўнасьць. Раз прышоў туды дзедок старэнькі, занепаў ён у дарозі да й пачаў прасіцца нанач. Не пускаюць тые людзі. Дзед пакінуў вёску, сеў у лесі пад дубочкам да й чакае сьмерці. Толькі ось адна дзеўчына ціхенько прыносіць дзеду хлеба сьвежаго паўбулкі да вады гаршчочак. Дзед падзякуваў дзеўчыне, хлебам ён пасілкаваўса да й запіў вадою. «Прашчавай, галубко! — дзед сказаў дзеўчыне.— Тут жывуць ліхіе людзі. Бог іх хутко пакарае, бо яны забылі Бога да й жывуць гарэй гаўяда. Дзе твой бацько?» — «Я не знаю бацька»,— дзеўка адмаўляе. «Старшы брат твой бацько, а сестра — браціха. Сьвет велікі, ён без края. Усюды сьвеціць сонцо, а пад ім е людзі. Там цебе сустрэне шчасьце, баццэ пчолку квешка. Уцекай хутчэй ты з вёскі, каб не стрэло ліхо. Уцекай, не азірайса». Плачэ бедная дзеўчына, а дзедок бы дым расплыўса. Што рабіць, сама не знае, стала кала дуба, рукі белые ламае. Як ёй кінуць родны вугал?! Там сестра да матка на вечэру мо чакаюць. Брат вернуўса з лесу, налавіўшы зьвера. Як пакінуць хатку, дзе яна аткрыла вочы! Добрэ йці ў чужые людзі, як у пары

мілы, што ведзе за ручку, бы дзіцятко матка. Добрэ шчасьце за гарамі, як яго сустрэнеш, цяжко ж у дарозе дзеўцы без падмогі. Плачэ бедная дзеўчына, жаласно галосіць, аж па лесі вецер голас яе носіць. Азірнуласа на ўёску, не паслухала старого, аж нема там хатак, дзе яны стаялі, толькі рад каменя, бы валы на пашы. Крыкнула дзеўчына да й закукавала. Што за дзіво! — замяст ручак — крыла. От з тых часоў мо праз векі рад лежыць каменя, а зеўзюленька над імі жаласно кукуе да радні шукае. Не паслухала старого, азірнуласа на ўёску дзеўка, дак зеўзюлей стала да й праз цэло жыцце не стракае шчасьця, бо не ўе сабе гнязьдзечка — мілае дамоўкі, толькі плачэ да кукуе на высокум дубе. А каменя чуюць, што зеўзюля плачэ, да сказаць не могуць, бо акаменелі.

Рэдкі

В. Рожан

## 74. ВОЎЧАЕ КОТЛО

Лес — божы гай. Бог даў яго людзям на патрэбу. Даўней ніхто табе не бараніў, хадзі па ўсёй пушчы да й карыстай усім, што табе любо. І людзі карысталі: лавілі ўселякаго звера, бралі ў дупленатых дзераўляках ат сьлепата мёд і воск, наглядалі да секлі сабе здатнае дзераво, пасьцілі гаўядо да выраблялі сенажаці ці выпальвалі да расчышчалі лес на поле. Кожын абрабляў землю, дзе хацеў. Бо людзі Божые й зямля Божая. Землю Бог аддаў людзям, каб яны працавалі да зараблялі сабе жыўнасць. А ведамо, дзе больш жыўнасці, як не ў лесі. Тут табе грыбы й ягады, весною птушкі нанесуць яец, хаць ты у кош грабі, а ўселякае жыўёлы так багацько, што хаць у хлеў заганяй; не трэ ні пасьці, ні карміць, а толькі лаві ці страляй. Добрэ тагды жылосо людзям, покі не прышлі варагі да не забралі землю сабе. Яны не то што землю да лес, але й балото да ўселякую нетру захапілі, памералі да панасыпалі капцы. Куды ні сунса, та межа; усе, кажуць, чужое. А дзе ж нашэ? Хіба ж мы не Божые людзі, што нам Бог не даў земелькі? Прашкі, Бог даў землю й лес на ўсіх долю.

Але што ты зробіш. Усюды пастаўлялі стражнікоў; яны табе й дыхаць не даюць. Ось быў адзін стражнік. Дась бог сьвято. Ведамо, у сьвято сьвятое й дзело. Пойдуць нашы бабы ў лес па грыбы ці рваць ягады, дак ось аткуль ні возьмецца той стражнік да не то, што атберэ грыбы ці ягады, але й хусткі пазьдзірае да яшчэ назьдзекуецца. Ужэ не раз зьбіраліса нашы дзецюкі атсадзіць яму печанцы, да ніякім правам не могуць яго злавіць, бо ён, злодзей, вельмі хітры. Перш ён жыў адзін. Людзі думалі, што затым ён такі паганы, што адзін, але ашукаліся, бо ён як ажаніўса, дак стаў яшчэ гарэй. Але то кажы, й жонку сабе падабраў такую ж ліхую, як і сам. Напладзілі яны дзяцей. Усе хлопцы, бы разбойнікі, толькі адна дзеўчына да й тая самая меньшая. Хутко яны выраслі, на лес глядзячы, да так пашлі вычварацьs, што не можна людзям сказаць, просто воўчае котло, да й годзі. А грэх казаць, здатные былі хлопцы, але здатные на ўсе ліхое. Яшчэ бацько здароў як дуб, адзін мажэ ўправіцца, а чаго ім усім стражнікаваць? І пашоў адзін сын стражніка ў сьвет шукаць сабе шчасьця. Зайшоў ён дзесь у велікае место да й наняўса служыць у багатаго купца. Паслужыў ён там мо колько гадоў і нажыў грошэй, мо больш, як у купца, да й пачаў сам таргаваць. Натаргаваў ён много грошэй да й пачаў скупаць у паноў лес. Купіць пушчу, спляжыць дзераво, загоніць яго да Кралеўца, прадась там, заробіць многа грошэй да й зноў купуе другую пушчу. От купіў ён і тую пушчу, дзе бацько стражнікаваў. Прыехаў ён туды да й атубаваўся ў бацькоў, нібы то купец, але не сказаў ім, хто ён такі. Яму хацеласо пабачыць, як жывуць бацькі да браты да як памінаюць аб ён. От жыве ён у бацькоў, баццэ чужаніца, да прыглядваецца й прыслухоўваецца. Пражыў ён так мо недзелю або дзьве. Не пазналі яны, што гэто сын, бо думалі, што той ужэ даўно загіб ці згніў у вастрозе: яны добрэ ведалі, які ён быў раскол да злодзей. Толькі пазнала яго адна вясковая дзеўка. Ён колісь вельмі кала яе ўвіваўса. Мабыць, моцно яе кахаў і нават хацеў ажаніцца, але бацькі не пазволілі брацца з мужычкаю. Яна потым служыла ў двары пакаёўкаю да там і бачыла ў пана таго купца. Ці пазнаў ён яе, ці не, а мо й пазнаў, да не хацеў прызнавацца, бо, ведамо, разбагацеў, дак

куды там яму мужычка, хаць яна й пакаёўка. Ён ужэ на паненак пазірае. Там жэ ў двары служыла й дачка стражніка. От тая дзеўка й шапнула ёй, што ў яе бацька жыве не хто другі, а яе большы брат. Тым часам стражнік намовіўся з жонкаю да з сынамі забіць багатаго купца да забраць яго грошы. От выдаўса такі ліхі дзень, што, як кажуць людзі, нават сабаку не выганіш з хаты, такая там кудаса. Цалюсьсенькі дзень круціць да меце кудаса, што й сьвету Божаго не відаць, а к ночы захадзілася яшчэ гарэй, баццэ велікі грэшнік засіліўса. От яшчэ змрокам у стражніка павечэралі да й палеглі спаць. Раве бура ў коміне да сьвішчэ за вугламі. Штось не сьпіць малады купец да ўсе варочаецца на лаве. Потым ён задрамаў. Толькі стражнік закмеў, што купец сьпіць, узяў сакеру да й секануў яго аберучку, але ўпоцемку не папаў, а толькі ўдарыў тапарышчэм. Прахапіўса купец, забыў з прасоня, дзе ён, да думаў, што на яго напалі разбойнікі, выхапіў ён з-пад галавы немецкі пісталет да давай паліць. Тым часам матка кінуласа на яго з нажэм да й усадзіла ў горло. Страляе ён куды папало, а тут на яго накінуліса бацькі й браты да й рэжуць у пацемках адзін другого. Тым часам як пачула ат пакаёўкі стражніка дачка, што дома яе брат, а не чужы купец, дак насілу дачакала вечара, не паглядзела на ліхое надвор'е да хучэй пабегла к бацьком, баццэ прачувала тое ліхо. Прыбегае яна пад хату, зірне ў вакно, аж цёмно. Пачала яна стукаць у дзьверы — ніхто не атчыняе. Абмацала гэто яна ў страсе ключ да й атсунула засаўку. Убегла ў хату да й спаткнулася ў пацёмку на матку, бо тая лежала кала самаго парога. Звала, звала дзеўчына, але ніхто не абзываецца. Спалохаласа яна да давай дзьмухаць агонь. Уздула яна лучыну да як зірне, аж уся хата й плывае ў крыві. Памацала яна, аж бацько, матка й усе браты яшчэ цёплые, але лежаць покатам доле, толькі купец не зваліўся з лавы да так і лежыць, аткінуўшы голаў, а ў горле тырчыць канчаты нож, каторым матка крышыла буракі. Кінулася яна з хаты на ўёску зваць людзей. Сышліса людзі, паглядзелі да й кажуць: «Ото ж воўчае котло, такая яму й сьмерць».

Рэдкі

В. Рожан

# 75. КАНАКРАД

У неякум царстве, у неякум гасударстве, а мо ў том, дзе мы жывом, быў такі паганы канакрад, што от ніякім правам не ўпілнуеш, хаць ты зубамі дзержы. Крадзе ён коней гарэй цагана, крадзе от просто з рук, а ніяк не зловіш. А потым выхваляецца да яшчэ пачне кпіць да сьмеяцца. «Ото,—каа,— глусцы, ты ў іх з-пад носа беры, а яны хаць бы што». Нема чаго рабіць, трэ церпець, бо ліхого не пераможэш. От церпелі, церпелі людзі, нарэшце дагадаліса лепш ліху гадзіць, абы было ціхо ліхо. От змовіліса людзі да й пачалі кожын год плаціць таму канакраду арэнду, каб ён толькі не краў коней. Бо, ведамо, без канякі якая табе ліхо гаспадарка, пустого хлева затычка. І то кажы, як пачалі плаціць тую арэнду, дак ні ў кого коні не прападаюць, а як часамі й прападуць, дак зноў знайдуцца. Ліхо яго ведае, што ён рабіў. Людзі казалі, што ён, мабыць, з ліхімі знаўса. Толькі от раз трапіласо такое здарэньне, што ў нас мо людзі ніколі не забудуць. Гэто было якась улетку. Быў якісь сьвяток, але які, от запамятаваў вечным правам. Ну, але ўсе роўно. Сьвяток дак сьвяток. Была вельмі вялікая суша, а тут яшчэ ўсхапіўса такі вецер, што аж будынкі верне. Пазрываў ён да папсаваў стрэхі. От адзін чалавек пайшоў у лес драць луб, каб наладзіць стрэху на сьвіронку, да й замарудзіў там да самаго змроку. От толькі вышаў ён з лесу на дарогу да й сустракае сябра.

— Дабрывечар, сябрэ!

— Дабрывечар!

— Адкуль Бог несе?

— Да з гасподы, а от ты скуль пхаешса?

— З лесу, сябрэ. Хацеў знайці трохі лубкоў, да нема. Суседзі павыдзіралі, на яго ўссе ліхо. А ты куды праці ночы?

— Да от трэ схадзіць у мястэчко, купіць солі. Халадком лепш.

— Што ж ты пхнешся пешкі? Блізкі сьвет цягціса. Хіба шкадуеш кабылы?

— Эгэ ж, сябрэ, от на старасьці давелосо пешкі хадзіць.

— Дзе ш твая кабыла? Хіба прадаў?

— Дзе там прадаў... укралі, братко, от з-пад самаго носа.

— Да што ты кажэш? Дзе ўкралі?

— Выпусьціў толькі на пругмень папасьціса да зарудзіў у хаці от як люльку закурыць, потым зірнуў на пругмень, аж кабылы й нема. Я туды-сюды — нема, от бы ў землю праваліласа.

— Хіба ж ты не плаціў страхоўкі?

— Усе гады плаціў таму гаду па п'яць злотых, а селята зыскаўса дамоў Семко да й не велеў плаціць. «Гэто,— кажэ,— грабеж, беззаконьне!.. Не плаці, бацько, дармо паганаму канакраду».

— Эй, сябрэ, нашоў каго слухаць. Кепсько, калі яйца курэй вучаць. Мо там па пісьменнаму й гэ, але ты чуў, што людзі кажуць: Бога хвалі, да й чорта не дражні. Выбачай, твой сын разумны хлопец, пісьменны, але ў нашум мужыцком дзеле яшчэ нічого не знае, бо, ведамо, блазан.

— Так, братко, так. Ён хаць прачытае, што на карчме напісано, а от што я буду рабіць без канякі?

— Папытай шчасьця, пагамані з гэстым гадам.

— Гаманіў.

— І што ж ён кажэ?

— А тое кажэ, што трээ,— каа,— было плаціць страхоўку, а цяпер і за п'яцьдзесят рублёў мо нельга знайсці кабылу.

— Наплюй яму ў вочы, сябрэ. Гэто толькі зьдзекуецца гад. Чаго там шукаць, калі ён знаецца са ўсею гэстаю хеўраю, калі не сам украў. Але пеўне ён. Задавіць мало гада! Трэ перш жыўцом шкуру злупіць, каб дзісятаму заказаў, як красьці коні. Ото кажы, й хуртовіны на яго нема...

— Да не дачакане яго,— прыдзе й на яго голаў пагібель... Знаеш, сябрэ, як убачыў я, што нема канякі, дак такая мене апанавала жалась, так завіло кала серца, што хаць жывы лезь у дамавіну ці запрадай чорту душу. І што мне рабіць, што мне пачаць, мая бедная галоўка! Грашоў, бачыш, нема заплаціць гаду. Дзе тут узяць гэстакую прорву асьмакоў, а тут і падаткі не за гарамі...

— От што, сябрэ, ты слухай мене. Купі сьвечку, пастаў яе ў цэркві перад Юр'ям, памаліса перш Богу, а потым зламі тую сьвечку да й паверні агнём уніз, дак гэсты гад ці прыбежыць перапрашаць да верне кабылу, ці выпруціцца бы ражон.

— Грэх гэтае рабіць, сябрэ, але нехай Бог выбачае, бо нам без канякі не можне жыць.

— Гэ, сябрэ, кажэш грэх! Грэх у мех, а спасеньне ў торбу. Хто скажэ — грэх, лупі ў морду. Ці ж за такого гада грэх?

— Ой, баюса я, братко, баюса граху, баюса, каб на том сьвеці не смажылі чэрці ў гарачуй смале. Але гэто, мабыць, чорт от так і пад'юджвае, от так і шэпчэ ў вушы — задаві гэстаго гада, та Бог веку прыбавіць. От я, братко, перахрышчуса, дак нечысь і аткаснецца.

— Дак што ж ты яму даруеш?

— Бачыш, ён хаць канакрад, але ўсе ж чалавек, усе ж Божае стварэнне. Толькі не вытрымаю я, такі пастаўлю сьвечку, як ты кажэш, дай то баюса, каб не было грэх.

— Зірні, сябрэ, што гэто там, баццэ пожар, ці што?

— Але ж, здаецца, пожар. Чуеш, крычаць людзі.

— Бежэм, братко, мо сапраўды якое ліхо.

— Бежэм ратаваць.

Бегуць мужыкі, засапліса, чуць духі пераводзяць. От прабеглі яны трохі, выскачылі за гаёк да зірнуць, аж праўда пожар: от так дым і валіць, полам'е шыбае аж пад небо.

— Людзі, людзі, сябрэ, гэто ж гарыць канакрад. От такі не схаваўса. Пакараў Бог за люцкіе слёзы.

— Ой Божухно, бацюхно! Ото ж нешчасце! А ў яго ж куча дзяцей.

— Ну, нашоў каго шкадаваць! Які воўк, такіе й ваўчанята.

— Грэх табе будзе, сябрэ! Дзеці — Божые янгелята. Чаго яны будуць пакутаваць за бацькоў?

Падбегаюць мужыкі бліжэй да й бачаць, адно ж там зьбегліса людзі, але стаяць кала агню насупіўшыса, а пожару не тушаць.

— Чаго вы стаіце, хварэць вашуй матары,— крычыць той мужык, у якого ўкралі кабылу,— чаму не тушыце пожар? Бачыце, які вецер усхадзіўса?

— Ну, чаго, сябрэ, лаешса? Нехай гад гіне.

— А ў хаці нікого няма? — пытае ўсе той мужык.

— Чаму нема? Сам ён ось вадзіўса загрудкі з нейкім, мабыць, такім канакрадам, як і сам, вадзіўса да распраўляўса нажом. Але ў таго нож яшчэ даўжэйшы. От і выпруціліса яны тут абудва. А дзеці, мабыць, у хаці.

Зірнуў той мужык да й бачыць, што канакрад і зубы вышчарыў да й валяецца бы падло, пераскочыў ён цераз яго, не ўсьпелі людзі й ахнуць, як ён сунуў у самы агонь.

— Прапаў чалавек ні за панюх табакі,— кажуць людзі. А тым часам мужык выскачыў з агню, акрыўшыса колдраю да й вынес з хаты малое дзіця канакрада. Пакуль людзі стаялі да цешыліса, што загіб канакрад, дак усхадзіўса такі віхар, што заняласа ўся вёска да й змокла. От бы языком злізало. Асталаса толькі будоўля таго чалавека, што баяўса граху. Дак гэто, мабыць, так Бог даў.

Рэдкі

В. Рожан

## 76. ЛЮБОШЧЫ

У неякум царстве, у неякум гасударстве за даўнейшы час, як яшчэ не было нас, жыў сабе адзін кароль да ведзьма-караліха, на яе ліха. Не было ў іх дзецей. І пачаў кароль турбавацца, што нема каму пакінуць свайго царства. Пачаў ён турбавацца да пачаў думаць, каб прагнаць ці страціць тую караліху, а ўзяць сабе другую жонку, дак мо ат тае будзе сын. Пранюхала аб том караліха да й надумаласа абшукаць таго караля, толькі б ёй застацца каралiхаю. От і кажэ яна каралю, што нарэшце стала тоўстаю. Абрадуваўся кароль, беражэ ён жонку, бы воко, да чакае, пакуль прыдзе той час, што яна обрадзініцца. Тым часам сама намовіласа з бабамі, каб яны дасталі ёй чужого маленькага хлопчыка. Не доўго бабам трэ было клапаціцца, ведамо, гэтаго дабра многа, абы было каму гадаваць, а раджаць не штука. Дай й кожная матка не вораг свайго дзіцятка, рада, каб

сынок быў каралём. От нагледзялі бабы тоўстых жанок да дзевак і чакаюць, пакуль яны обрадзіняцца. Толькі от ліхо — якая ні абрадзініцца, дак усе прыводзіць дзеўку. Спалохаліса бабы, не ведаюць, што рабіць, бо ўжэ падходзіць пара, а хлопчыка нема. Толькі ось ідуць яны раз кала сажалкі да й бачаць, што на вадзе штось плывае. Узелі яны ламачыну да й давай яго падганяць к берагу. Толькі як таўкнуць, дак тое яшчэ далей атходзіць ад берага. Хацелі яны ўжэ плюнуць да йці па свайму дзелу, аж чуюць, што там запішчало дзіця. Схаменуліса бабы ды ўжэ хацелі лезці ў воду. Папробавалі яны, аж глыбоко. Хацелі яны пазваць людзей, да пабаяліса, каб аб том не дайшла чутка да караля. Толькі ось ідзе якаясь вельмі бедная дзеўка. А гэто была матка таго дзіцяці. Яна ціхенько седзела ў кустох да пазірала, што будзе з яе міленькім сыночкам, катораго сама не магла гадаваць, каб людзі не сьмеяліса да не зьдзекуваліса. От падходзіць яна к бабам да й кажэ, што дастане з вады начоўкі. Пакуль бабы радзіліса, што ім зрабіць, тая дзеўчына шабулдых у воду ва ўсём як стаяла, чуць не ўтапіласа, але такі дастала начоўкі на бераг. Раскідалі бабы пелёнкі, аж там лежыць маленькі хлапчучок да такі гожы, такі зграбны, што й у казцы не сказаць. Забралі бабы таго хлапчука да й панесьлі яго ціхенько ў палацы да караліхі. Пабачыла тая дзеўка, што яе дзіця панесьлі ў палацы, абрадаваласа, пастаяла яшчэ, паглядзела, перахрысьціласа да й пашла да гасподы з радасьцью, бы на сьвет нарадзіласа. От і аб'явіла караліха, што ў яе радзіўса сын. Рад кароль. Велеў зрабіць пір на ўвесь мір. Расьце сабе той хлапчук за каралевіча, але ўсе цягне к простым людзям. І вельмі яму спадабаласо хадзіць да аднае беднае жанчыны, каторая яго любіла да ласкала больш як матка ведзьма-караліха. Ён не знаў, што то не простая жанчына, а яго родная матка. А яна добрэ ведала да плакала ат радасьці, пестуючы яго. Вырас каралевіч і стаў харашэйшы ат усіх людзей. Пачалі бацькі сватаць яму гожую царэўну, але ён не хочэ й слухаць, бо яму вельмі спадабаласа адна вельмі гожая дзеўка, толькі яна была дачка купца. Ведамо, хаць купец і багаты, але ўсе ж просты чалавек. Дзе гэто відано, каб каралевіч да браў за себе

простую дзеўку. Як ні прыставалі кароль з караліхаю, каб царэвіч жаніўса з царэўнаю, ён сказаў, што рукі на сабе наложыць, а іх не паслухае. Абазліласа ведзьма-караліха, на яе ліха, да й пачала разнюхоўваць, чаму гэто каралевіч не слухае ні яе, ні караля. Знайшліса ліхіе людзі да й сказалі, што каралевіч любіць другую простую дзеўку, толькі не маглі дазнацца якую. Уз'еласа ведзьма-караліха да й заклела каралевіча так, што у яго від зрабіўса, бы сьвіны лыч. Убачыў тое кароль, абазліўса на сына да й пасадзіў яго на востраў пасерод мора. Тым часам каралевіч яшчэ перад гэтым узяў у караліхі люсьцерко, а ў караля палку. Гэто не простые былі рэчы. Глянуў ён у люсьцерко ў той час, як думаў аб сваёй дзеўчыне, дак і ўбачыў яе, як жывую. Стукнуў ён палкаю аб землю, дак перад ім бы вырас з землі добры маладзец да й пытае, што яму трэба. Велеў яму каралевіч зрабіць сабе хатку да даць есьці. Духам зьявіласа хатка хаць маленькая, але гожая, баццэ з землі вырас стол, а на ём уселякіе патравы да напіткі, бы ў каралеўськіх палацах. Ходзіць сабе каралевіч кала мора, зьбірае кветкі да так жаласно пае, што аж птушкі заціхлі да слухаюць яго песьню. Знудзіцца каралевіч, выме свае люсьцерко, пазірае, што робіць яго дзеўчына, да толькі ломіць рукі. Успаменуў ён аб той добруй жанчыне, што яго пестувала, глянуў у люсьцерко да й бачыць, што тая плачэ, аж залівaецца. І захацеласо яму пазнаць, чаго яна плачэ, хто яе закрыўдзіў. От пазваў ён малайца да й кажэ яму: «Прывезі сюды ка мне тую й тую жанчыну».— «Не велено,— кажэ той.— Сюды можэ прыехаць толькі той, хто сам хочэ». Засмуціўса каралевіч да й пашоў садзіць да даглядаць кветкі, каб не так было нудно да цяжко на серцы. Тым часам бацько тае дзеўкі, што любіў каралевіч, зьбіраецца ехаць у чужыя землі па заморскія тавары. От і пытае ён сваіх дачок, якого гасьцінца ім прывезьці. Большая просіць, каб бацько прыўёз ёй самую гожую адзежу. Селедоршая просіць прывезьці ёй такія гусьлі, каб яны самі гралі, а меньшая, каторую любіў каралевіч, просіць прывезьці ёй заморськую кветку рожы. Яна загадала, што калі рожа не заўяне, та каралевіч яшчэ жыў і думае пра яе. Сеў купец на караб да й паплыў у заморськія землі.

Ці доўго, ці мало ён там быў, толькі накупіў шмат розных дарагіх заморськіх тавараў, накупіў гасьцінцаў сваім дачухнам да й паплыў назад. Толькі ось узхадзілася шура-бура, разламала яго караб да й затапіла са ўсім дабром. Учапіўса купец за якуюсь дошку да й паплыў. Доўго яго насіло па мору, доўго пекло на сонейку, пакуль нарэшце выкінуло на бераг. Насілу падняўса ён на ногі, але не мажэ хадзіць, сеў на камень да й седзіць, бы акаменеўшы. Доўго ён так седзеў, нарэшце апомніўса й вельмі яму захацеласо есьці. Падняўса ён да й пашоў паўз бераг шукаць людзей. Абышоў ён кругом да й дагадаўса, што яго выкінуло на астравок, дзе нікого нема. А гэто быў той астравок, куды саслалі каралевіча. Пашоў купец шукаць, ці нема грыбоў або ягад, каб хаць трохі пасілкавацца. І цяжко яму стало, як уздумаў, што прапалі ўсе тавары, але больш усяго шкода, што прапалі тые гасьцінцы, што ён в'ёз сваім дачухнам. Тут ён убачыў кветкі рожы яшчэ харашэйшыя ат тых заморськіх. Забыў ён і голад да й думае: «Ото ж нарву кветак рожы сваёй любімуй дачушцы, а больш ужэ як сабе хочэ, мо дастану й у сваём краю, як даберуса да гасподы». Толькі ён хацеў сарваць кветку рожы, як ось усхапіўса якісь страшэнны чалавек з сьвіным лычом замяст твару. Спалохаўса купец, дрыжыць бы асіна. «Не лякайса,— кажэ той,— толькі скажы, хто ты такі, аткуль узяўса й нашто табе мая рожа?» Расказаў купец усе як было, расказаў шчырую праўду да й прыбавіў, што рожу хацеў сарваць сваёй любімай дачухне, каб яе хаць чым-небудзь парадуваць, а то яна чагосьці ўсе плачэ да ходзіць вельмі смутная. Дагадаўса каралевіч, што дзеўчына па ём плачэ, да й пазваў купца ў сваю хатку. Ён адразу пазнаў купца, а той яго не мог пазнаць, бо ніколі не бачыў такім страшэнным да плюгавым. От пакарміў каралевіч купца да й кажэ: «Я дам табе кветак, колькі хочаш, атпраўлю цябе да гасподы, толькі ты павінен прыслаць сюды сваю меньшую дачку. А калі яна не зхочэ прыехаць сюды ка мне ў госьці ахвотно, та вы ўсе да й я прападом». Нема чаго рабіць, згадзіўса купец на тое. От каралевіч прызваў малайца да й веліць яму дастаць розных тавараў, якіх толькі купец зхочэ, дастаць на гасьцінец дзеўкам самую гожую адзежу, такія

гусьлі, што самі граюць, і адвезьці купца да гасподы, а кветак рожы назрываў цэлае берэме, сплёў з іх вянок да й кажэ: «А от гэстыя кветкі аддай сваёй меньшуй дачухне ат мене». Забраў купец усе дабро да й паплыў да гасподы. Рады дома, што ён вернуўса, але як ён усе расказаў, дак жонка й большыя дзеўкі пачалі галасіць і ўгаварваць меньшую дзеўку, каб яна не ехала. А тая як зірнула, што рожа так гожэ цьвіце, бацэ толькі што з агародчыка, дак рада, сьмеецца да ў далоні ляскае. Яна думае сабе, што гэто, мабыць, ужэ такая яе судзьба, такая доля, што трэ перш пагараваць, панудзіць, каб потым, як убачыць каралевіча, глядзець яму ў вочы да радувацца. Знае яна, што ёй так суджано, што каралевіч жыў й што яна ўбачыць яго, от затым яна сьмело хочэ ехаць ў госьці к таму страшэннаму чалавеку. «А мо ён і не такая пачвера,— думае яна сабе,— трэ паглядзець. А мо гэто так суджано». От падышоў тэрмін. Як ні ўмаўлялі яе бацькі да сёстры, нікого не слухае. «Ото ж паеду,— кажэ яна,— да й толькі. Не хачу я, каб праз мене да нам усім было кепсько, каб мы ўсе загінулі. А мо гэ лепш, мо гэ суджано, мо ўжэ так мне на раду назначано. А што суджано, таго ні абойдзеш, ні ад'едзеш». Нічого не парадзяць бацькі, мусілі яны згадзіцца, як ні цяжко было ім атпраўляць свае каханае дзіця неведамо куды да яшчэ да такое пачверы, што й на чалавека не паходзіць. От выладавалі бацькі сваю меньшую дачку ў дарогу, паплакалі, бы праводзілі на могліцы. Села яна на караб, каторы ўжэ даўно чакаў яе, да й паплыла на той востраў. Тым часам родная матка каралевіча даведаласа, чаму гэто яе каханы сынок больш не прыходзіць к ёй, даведаласа, што грозны кароль да ведзьма-караліха, на яе ўсе ліха, дзесь схавалі ненаглядного сыночка ці можэ й саўсім страцілі. Ведамо, матчыно сэрцэ заўжды баліць па свайму дзіцяці. Плакала яна, плакала, гаравала-гаравала, але больш не магла вытрымаць да й пашла ў сьвет шукаць каралевіча. За ею якась увезаўса сабачка, каторы так лашчыўса да любіў каралевіча, як ён прыходзіў да маткі. Праўду кажуць, што сабака знае, хто свой, хто друг, а хто вораг. Добраго чалавека сабакі не чапаюць, а ліхого гатовы загрызьці. Дак от гэ й той сабачка, як

прыдзе каралевіч, дак скачэ на яго, ліжэ яму рукі, лезе цалаваць, вішчыць да круціць хвастом з радасьці. За тое не толькі цыган або жыд не магуць прайці ці праехаць аж па вуліцы, але й нават ліхі сусед без кія не сьмелі падыці блізко к двару. Чуць хто пакажэцца, як ось аткуль ні возьмецца той сабачка, коціцца бы куля, брэшэ, аж ахрыпне, да сьлепіцаю лезе, пакуль тая жанчына не абароніць сама да не скажэ: «Пашоў вон!» От ідзе яна, а сабачка бежыць уперадзе да паказвае ёй дарогу. Утоміцца, ляжэ аддыхаць, а сабачка не сьпіць, ветрыць носам да настаўляе вушы та ў вадзін, та ў другі бок — прыслухоўваецца, ці не крадзецца які-небудзь вораг. От так хадзіла яна, хадзіла з сваім сабачкаю па сьвету, распытоўвала добрых людзей, ці не бачылі, ці не чулі яны аб яе дарагенькум сынку. Ужэ ножкі прытупіліса, а ўсе ў вадзін голас кажуць, што бачыць не бачылі й ведаць не ведаюць, дзе яе сын. Абхадзіла яна ўсе каралеўство — нідзе нема. Нарэшце парадзіла ёй адна старэнькая баба, каб яна папробувала пайці ў чужыя землі, у чужыя царства, к чужым людзям. «Мо ён,— кажэ,— там». Падзякувала тая жанчына добруй бабе да й хацела йці ў чужыя землі, толькі даведаласа, што яны дзесь за глыбокімі да шырокімі марамі, што туды нельга йці, а трэ плысьці на караблёх. Падышла яна к мору, хацела сесьці на караб, дак яе туды не пускаюць. «Куды ты,— кажуць,— баба, лезеш? Тут езьдзяць толькі князі, графы да жыды». Заплакала яна да й пашла да другого карабля. Давай там прасіць, давай благаць, кланяецца ў ногі да ловіць цалаваць рукі. Нарэшце знайшліса добрыя людзі, згаджаюцца яе пусьціць на караб, але сабачку не прымаюць. «Куды,— кажуць,— гэстая пошкудзь, яшчэ караб загадзіць». Шкода ёй расставацца з сабачкам, з такім верным слугою, заплакала яна да й пашла далей. Сабачка, бацэ знаў, што пра яго гаварылі тые людзі, кідаецца з радасьці к ёй на шыю да ліжэ языком. От ідзе яна да йдзе з сваім сабачкам да й падходзіць к таму караблю, на каторум мусіла плысьці дачка купца. Падышла яна да й просіцца, каб прынялі яе на караб. «Хадзі, хадзі, бабко,— кажуць тые,— нам велено браць усіх, хто толькі сам хочэ». Пашла яна на караб, а сабачка бы маланка

толькі замітусіўса сьпераду. Караб велізазны, бы харомы. Залезла яна ў самы вугал да й седзіць ціхенько, а ў нагах лёг сабачка да толькі вушкі наставіў. Па немалум часе села на караб і купецкая дачка, але яна не бачыла тае жанчыны. Прайшла мо гадзіна ці больш, як караб плыў па мору да й суняўса кала берагу. Падходзіць к жанчыне якісь чалавек да й кажэ: «Выходзь, бабка, ужэ прыехалі». Забрала яна свой клуначак, вышла на бераг да й пашла, куды вочы глядзяць ці куды ведзе сабачка. От злезла й купецкая дачка да й пашла к хатцы каралевіча. Убачыў яе каралевіч да так абрадуваўса, што аж не мажэ выгаварыць ні слова. Жыве там купецкая дачка ў раскошы: піць, есьці ўсего много, чаго толькі душа хочэ. Уселякае дарагое самае гожае адзежы толькі, што хопіць на ўсе жыцьце. Нічого яна не робіць, толькі гуляе сабе паміж кветак да плеце венкі. Сплеце з рожы венок, узложыць яго на голаў, зірне ў люсцерко да й зальецца горкімі слёзкамі. «На што мне,— кажэ,— мае хараство, калі некаму яго паказаць, калі тут апрыч гэстае пачверы з сьвіным лычом нікагусьсенько нема». Што ні рабіў каралевіч, якіх гасьцінцаў ён не даваў, нічого не памагае, ніяк не мажэ яе павернуць да себе. Ведамо, пачвера з сьвіным лычом, а не чалавек. На яго толькі зірнуць, дак з душы верне, а не то, каб што. Засмуціўса каралевіч, ні п'е, ні есь, кінуў даглядаць і свае кветкі да ўвесь дзень ходзіць па лесе ці па беражку мора да ні то плачэ, ні то пае песьні, але такіе жаласные песьні, што хто ні ўчуе, дак серцэ бы хто кібдзюрамі скрабе, а слёзкі так і цекуць з вачоў бы ў бабра. Пашла раз купецкая дачка гуляць на бераг мора, зачула, што хтось пае, да й заслухаласа; слухае, плачэ, а сама й не варухнецца да так і прастаяла, покі сонейко зайшло за воду й зрабіласо саўсім цёмно. Ужэ даўно ат песьні па лесу заціх апошні пошчак, а яна стаіць, бы закаменела. Тым часам каралевіч вернуўса да гасподы, зірнуў туды-сюды, аж нема яго каханае дзеўчыны. От ён і пабег яе шукаць. Бегаў ён бегаў, нарэшце трапіў яе на беразе мора да й паўёў да хаты. Цёмно, дарогі нема. Што ні ступіць дзеўчына, та й падае. Бачыць каралевіч, што яна саўсім паб'ецца, схапіў яе на берэме да й панёс. Несе лёгенько, бы перцо,

да так лагодно размаўляе, што дзеўчына нават забыла пра яго сьвіны лыч. І здаецца ёй, што гэто гаворыць хтось другі, той заморські каралевіч, аб каторум яна думала колісь у доўгіе ночкі, як лежала на мягкіх перынах роднае матачкі, што гэто ён, яе каханы каралевіч, цудам нашоў яе да й несе на сваіх сілных руках да шэпчэ ёй салодкіе слаўца да прыціскае да сваіх багатырскіх грудзей. І так добрэ ёй, так радасно б'ецца серцэ, што от здаецца, усю б жытку пралежала б на руках свайго міленькаго да ўсе б слухала яго мілую мову, яго дарагі галасок. Унёс ён яе ў хату да й просіць вечэраць. Але яна падзякувала да так, не засьвеціўшы агню, й легла на пасьцель, каб не атагнаць тых салодкіх думак, каб лежаць і ўсе думаць і думаць да чуць голас свайго міленькаго каралевіча. Не спала яна ўсю ночку, а ўсе гарэла бы ў вагні. Але от даў Бог дзень, думкі разлецеліса бы дым. Успомніла яна, што каралевіча нема, дак бы голкамі закалоло ў серцэ, а слёзкі так і паліліса. Не хочэ яна ні есьці, ні піць да так, уткнуўшыса галавою ў падушку, й праплакала ўвесь дзень. А як надышоў вечар, яна зноў пашла на бераг мора. Зноў пачула, што хтось пае, толькі гэто так гожэ, так радасно, што й ёй лёгко стало на серцы. Зноў заслухаласа яна, пакуль сьцемнело; зноў прышоў па яе каралевіч і зноў на берэмі панёс да гасподы. Зноў ёй было так радасно на серцы, так соладко кружыласа галава, што яна ўсю ночку прадумала пра свайго міленькаго. Але на трэйці дзень яна сустрэла ў вагародчыку пачверу з сьвіным лычом, як ён зрываў ёй кветкі рожы, зірнула на яго да й загаласіла. Пачаў той угаворваць, дак куды там — яна яшчэ гарэй плачэ да рве на сабе валасы. Нарэшце прагнала яго, каб і на вочы не паказваўса, а сама пабегла на бераг мора, каб паслухаць таго цудоўнага сьпеву. Але ніхто не сьпеваў, толькі шаптаўса лес да раўло морэ, узьбегаючы на бераг. Доўго седзела яна там і так ёй стало цяжко на серцу, так моташно, што дарам прападае маладая жытка, што німа ніякае надзеі, каб злучыцца з сваім міленькім каралевічам, што нарэшце не вытрымала да й кінуласа ў морэ. Тым часам аткуль ні ўзяўса сабачка тае жанчыны, раптам шамелях ён у воду да й цягне яе да берага. Убачыла тое тая жанчы-

на да й выцягла ўтопленіцу на бераг. От туда-сюды патрасла жанчына ўтопленіцу, дак тая й ачнуласа да як зірнула, што кала яе знаёмая жанчына, дак трохі й легчэй стало на серцы. Пагаварылі яны трохі самі з сабою да й пашлі разам да хаты. Пакуль яны йшлі, дак і расказалі адна другой усе, як было, і як яны дасталіса сюды. Прыходзяць яны да хаты, аж там беда. Засмуціўса каралевіч, як купецкая дачка прагнала яго з вачэй, засмуціўса так, як ніколі. Ён усе думаў, што дзеўчына палюбіць яго за добрае серцэ, за ласку да за лагодные словы, а тут убачыў, што нема надзеі. Дастаў ён цудоўнае люсцерко, каб пабачыць сваю мілую дзеўчыну, аж тут яна якрас кінулася ў морэ да й патанула і так цяжко яму стало, так закалоло яму ў серцы, што ён упаў на землю да й згубіў прытомнасьць, лежыць, баццэ не жыў. Узьбегаліса тут слугі, не ведаюць, што рабіць. У гэты самы час і падышлі купецкая дачка з тою жанчынаю туды. Ведамо, сабачка заўжды бежыць спераду. От і на гэты раз падбег ён да каралевіча да як нюхнуў яго да як пачне віжджаць, віляць хвастом да лізаць каралевіча рукі да сьвіны лыч, дак жанчына й дагадаласа, што гэто яе сын, толькі што ён, мабыць, закляты. «Ой, закляты гэто чалавек»,— кажэ яна. Шкода стало дзеўцы гэтаго нешчаснаго чалавека, схіліласа яна к яму да давай яго гладзіць, давай ласкаць да шаптаць мілыя слаўцы. Ачнуўса каралевіч да бачыць, што кала яго стаяць на каленях дзеўчына й тая добрая жанчына, каторую ён так любіў, і лёгко яму стало на душы. Падняўса ён, падзякуваў ім за ласку да давай іх частаваць. А сабачка ат яго й не атходзіць да ўсе лашчыцца. Прасядзелі яны за сталом чуць не да вечара. Стала жанчына прыладжваць сабе мейсцо, дзе пачачаваць, а дзеўчына з пачвараю з сьвіным лычом пашлі гуляць. Вечар быў гожы: цёпло, ціхо, бы ў вусі. Сонейко даўно зайшло, толькі яшчэ чырванелі хмаркі. І пачаў пачвара з сьвіным лычом пець песьні, пачаў пець так гожэ, што от голас лезе аж у самую душу й разам хочэцца плакаць і сьмеяцца. І думаецца дзеўчыне, што от так слухала б усе жыцьце й нічого б больш не хацела. От ужэ сьцемнело; заблішчалі на небе ясныя зоркі да толькі мігаюць мілымі вочкамі да бацэ шэпчуць: гожы сьвет, добрэ на

ём жыць да любіць. Любі, дак усе адалееш. А ён усе пае да пае да з такімі любошчамі, што затапіў у дзеўчыны й голаў, і серцэ. Сама не ведамо зачым схапіла яна страшэннаго чалавека за голаў да й пацалавала. У той момант абернуўса ён у гожаго каралевіча, схапіў яе на берэме да й панёс да гасподы, дзе ўжэ яго чакала родная матка. Радасьці не было канца. І сталі яны жыць да пажываць да бедных людзей не забываць.

Рэдкі

В. Рожан

## 77. ГУСЛІ

Жыў колісь круглы сірата Іваньчык. Яшчэ маленькі астаўса ён без айца й без маткі. Узела яго к сабе хрышчоная маці, падгадавала трохі да й аддала ў людзі пасці гусі. Пасе ён гусі да разглядвае Божы сьвет, а кругом так гожэ, так радасно. Яснае сонейко свеціць і хукае, бы на дзіцятко родная матка. Ветрык ціхенько калышэ зялёнае веце на вербах. Рака блішчыць праз рэдкіе кусты алешніку, бы тое люстэрко, што дзяцько купіў сваёй дачцэ Ганне, а ў затоне атбіваюцца тоўстые, старые дубы, курэнь дзеда Ахрэма кала перавозу, стог леташняго сена з плотам кругом і нават каровы суседняе вёскі, што пасуцца на беразе. Толькі ўсе гэто дагары нагамі. Задумаўса пастушок Іваньчык, чаму гэто ў вадзе адбіваецца ўсе дагары нагамі, задумаўса, але не на доўго, бо ў той самы момант гусак выцягнуў шыю, крыкнуў і перасцерог гусей, што вораг блізко. Зірнуў Іваньчык на небо, аж там хутко плыве велізазны шуляк да пазірае на яго гусенята. Закрычаў Іваньчык і памахаў хварасцінаю. Схаваўса шуляк за высокім лесам, а Іваньчык усе стаіць да пазірае на небо, да так пазірае, што забыўса й рот закрыць. І захацеласо яму летаць па небу, як той шуляк, замахаў ён рукамі да й пабег па зялёнуй траве, па кветках, што так гожэ раслі на поплаве. Доўго бегаў Іваньчык, растапырыўшы рукі, бегаў, кружыўса, бы птушкі ў небе, нарэшце ўтаміўса й лёг на траву дагары вачамі й ўсе глядзеў на небо, як там

цудоўне гожэ ціхенько плылі лёгкіе белые хмуркі, бы гусіны пух, як яны сустракаліса з ясным сонейкам, цалавалі яго й плылі далей. Разглядаў Іваньчык, як гожэ й прамудро зроблен Божы сьвет. Серцэ яго радасно біласо ў грудзях, вочкі блішчалі, бы два д'яманты, яму так было лёгко, так весело тут на поплаве, на зялёнуй траўцы, пасерод свежых розных калёраў кветак, што ён нават забыў той час, калі трэба было йці дадому абедаць, бо дзянна была сердзітая жанчына, вела свой парадак і не любіла, калі хто пазніўса на абед. Усхапіўса ён, зірнуў на сонейко, аж яно ўжэ схіляецца к заходу. «Ужэ паабедалі»,— думае пастушок і гуляе да вечара не еўшы. Так той Іваньчык перш пасьціў гусі, потым памагаў аўчару, а нарэшце, як вырас, пачаў пасьціць гаўядо. Тут ён навучыўса размаўляць з гаўядам, разумеў мову ўселякае жыўёлы й нават расліны. Яму здаваласо, што птушкі паюць яго песьні, што мушкі да полуднічкі жаласно гудуць, дак гэто яны плачуць над яго горкаю, пастуховаю доляю, што гаўядо пазірае на яго да й хочэ яму сказаць: «Бедны пастух! Ніколі не быць табе гаспадаром... Кінь гэты край да йдзі ў сьвет шукаць шчасьця». Яму здаваласо, што лес ківае яму вецем, што траўка й кветкі яму шэпчуць ціхенько: «Йдзі ў сьвет». Паслухаў іх наш Іваньчык і пашоў у сьвет шукаць шчасьця. Хадзіў, хадзіў, але куды ні прыдзе, усюды гарэй як там, дзе быў уперад. Кіне ён тое мейсцо да йдзе далей. Дахадзіўса нарэшце да таго, што й сьвет не міл. От падышоў ён к рацэ да й хацеў утапіцца. Толькі ён ступіў на воду, аж тая зрабіласа цьвордая, бы лёд. І пашоў наш Іваньчык па вадзе, бы па суху. Сустракае яго якісь панічык да й кажэ: «Найміса ка мне на службу».— «А чаму ж не,— адмаўляе наш Іваньчык,— якому чорту ні служыць — усе роўно».— «А пачом ты знаеш, што я чорт?» — «Сьпевай песню павам, а чорт бачан па халявам».— «Бачу, што з цебе будзе добры слуга,— кажэ чорт,— я ж табе заплачу затое харошыя грошы».— «Дзе грошы, там і вошы»,— адмаўляе наш Іваньчык. «А чаго ж ты хочэш?» — «Ты таго не маеш, хаць мене служыць наймаеш. Да што там таргавацца, лепш хучэй за дзело брацца. Буду служыць хаць у пеклe, абы было пекне». Згадзіліса яны на том. Зняў чорт

свой капелюшык і махнуў ім трэйко. Тагды наш Іваньчык сапраўды ўбачыў у чорта рогі й паабапал плеч чорные крыла, бы ў кажана. Зняў і наш Іваньчык сваю рваную кучомку, памахаў ею трэйко й вырaслі ў яго крыла, бы ў шуляка. От узняліса яны да й палецелі, да толькі не ўгору, не к яснаму сонейку, а чорт ведае куды, палецелі ў якуюсь пропасць усе ўніз і ўніз. Доўго лецелі яны, агарнула іх кругом цемень, хаць ты воко выкаль. Але ось па немалум часе спераду штось заблішчало. Хутко яно разраслосо, бы сухім летам у лесе пожар. Падлетаюць яны бліжэй, аж там стаяць велізазные катлы, а ў іх гарыць смала. Полам'е шыбае, а смала кіпіць, аж булбаткі падскакваюць. Дагадаўса наш Іваньчык, што гэто пекло. Але нема чаго рабіць, калі наняўса, та як запрадаўса, трэ служыць. Азірнуўса ён, а тут як шыбануло полам'е, дак яго крыла й згарэлі. Астаўса там Іваньчык. І велеў яму чорт доўгаю залезнаю качаргою у катлох смалу памешваць. Павернуў ён качаргою, аж там у смале мучацца грэшные душы. Варочае ён качаргою да разглядвае тые грэшные душы. Каго толькі там не было. Перш-наперш вынырнула лысая галава ксендза, а поруч з ею кіпелі ў смале доўгія кудлы папа. Павернуў ён качаргою, дак разам выскачылі з смалы маладзенькая паненка, абняўшыса з старым панам, старая пані, хурман з бізуном, лёкай з пляшкаю ў горле, камысар з ксёнжкаю пад пахаю, пакаёўка, кухар, акамон, цівун і много другіх дваровых людзей. Павернуў ён яшчэ раз качаргою, дак тут ужэ былі: сам ландар з Соркаю, рабін з Бібляю, цодык з Тораю, маламед з ксёнжкаю, каваль, шавец, кравец, крамар і крамарка, шапар, нават анучнік і той высунуў з смалы сваю голаў і патрос пейсамі, але яны зліпліса й гарэлі, бы зубленка. Пашоў Іваньчык да другого катла, павернуў у ём качаргою, дак тут ужэ паказаліса нашы браты хрысьціяне й усе больш самые набожные людзі, да такіе, якіх лічылі пры жыцю чуць не сьвятымі. Пабачыў тое наш Іваньчык да й думае сабе: «Не, мабыць, кожнаму чалавеку прыдзецца закаштаваць гарачае смалы». Хацеў ён іці далей, да зірк, аж тут і яго хростная маці. Убачыла яна яго да й кажэ: «Ой, мой сыночак, пакінула я цебе маленькаго, дак за тое тут мучуса».— «Не спра-

ведлівы суд, мая матачка,— адмовіў ёй Іваньчык,— несправедлівы затым, што я толькі тагды й быў шчаслівы, як ты мене атдала пасці гусі». Толькі ён гэтае прамовіў, як яго хростная матка вышла з катла ўся ў белум убрані, бы сьнег, і стала поруч з ім. «Дзякуй табе, мой сыночак,— кажэ яна,— што аслабаніў мяне ат гэстае мукі. Уцекай ты атсюль, бо чэрці яшчэ жыўцом укінуць цебе ў смалу. Я памагу табе, як атсюль выбрацца». От і павела яна свайго сынка з пекла вон. Доўго яны йшлі паміж катлоў з гарачаю смалою, якое мукі яны там не бачылі, якіх енкаў не наслухаліса, нарэшце падышлі к краю пекла. Хростная маці разам і знікла, а наш Іваньчык пакруціў трэйко сваею кучомкаю, дак і выраслі ў яго крыла. От узняўса ён і палецеў усе ўгору да ўгору. Леціць, аж вецер свішчыць, хмуркі мінаюць, толькі мігаюць. Далецеў ён да землі, вельмі ўтаміўса да лёг сапачыць. Але ось прышоў Хрыстос, а можэ гэто яму прысніласо, да й даў яму гуслі. «На,— кажэ,— у гэстых гуслях усе тває шчасце». Да й знік. Устаў Іваньчык, узяў тые гуслі да й зноў пашоў у сьвет. Не доўго ён хадзіў да й наняўса ў пахцера пасьціць каровы. От выганіць ён каровы на пашу, сядзе сабе на купіну да як пачне йграць на гуслях, дак і пусьціцца ўсе скакаць. Скачуць каровы ўвесь дзень, а малако з цыцак цырцыр! і выліваецца. Прыгоніць ён каровы дамоў, пачнуць іх даіць, а малака німаш. Дзівуецца пахцяр, якое б гэто ліхо зрабіласо, да нічого не прыдумае. Пашоў ён к рабіну на раду, расказаў сваю беду. Той чытаў, чытаў Біблю да й кажэ: «Гэто еляк ссе тває каровы». І радзіць рабін пахцяру ўзяць ат усіх кароў патроху таго, што дарам выліваецца, наліць у кашэрны гаршчок, у пятніцу зварыць, а ў шабас ужываць разам з гугелям, а што астанецца, дак тым вышмараваць у кароў вым'е. Падзякуваў пахцяр рабіну, зрабіў рыхтык так, як ён радзіў, але нічого не памагае. Каровы не то што не даюць малака, але й самі пачалі худзець, пятрэць, от бы на іх якая хвароба прышла. Ходзіць пахцяр бы шалёны, не ведае, што рабіць, што парадзіць. Сустракае яго адзін п'янчужка, што называўса кавалём, а тым часам заўжды седзеў у карчме. Той і радзіць знайсці такого знахара, каб ён пазнаў, хто гэто прырабіў, што каровы не даюць малака.

«А хто ж будзе лепшы знахар ат цебе?» А гэты п'янчужка сапраўды знахараваў. «Цуес,— прыстае к яму пахцяр,— я ведаю, сто ты добры цалавек, ведаю, сто ты лепс ат усіх знаесса. Зробі ласку. Я ўзэ дам табе кварту гарэлкі».—«Што кварта,—упіраецца той п'янчужка.—Дасі тры кварты, дак усе скажу, як мае быць». Таргаваўса, таргаваўса пахцяр, але мусіў згадзіцца на трох квартах. «Але ж ты мне цепер дай кварту, та пагляджу на зоры, хто гэто удзеяў». Даў пахцяр яму кварту гарэлкі, от ён выпіў да й пацёгса на пашу цікаваць, як гэто наш Іваньчык пасе каровы. Падходзіць ён, аж пастух іграе на гуслях, а каровы скачуць, аж з іх пена валіць. Дагадаўса той п'янчужка, чаму каровы не даюць малака, да й павернуў, каб іці да карчмы, толькі ось яму так захацеласо скакаць, што от так самі ногі й ходзяць. Але, ведамо, якіе скокі п'янаго. Паскакаў ён, покуль іграў Іваньчык, да й сунуўса ў канаву. На другі дзень прышоў ён к пахцяру да й кажэ: «Ну, ведаю, хто гэто ўдзеяў. Давай гарэлку, та скажу». Даў пахцяр яму дзьве кварты гарэлкі да аселенец на закуску. От той п'янчужка й кажэ, што ва ўсём вінен пастух. Не мае гаспадар веры. «Ну, дак спраканайса сам,— кажэ п'янчужка,— схадзі на пашу да паглядзі, як твае каровы пасуцца». Схадзіў той да як пачуў тую ігру, дак сам падняў лапсардак да як пусціўса скакаць, дак аж пейсы трасуцца. Скачэ да думае, што каб тое ўбачыла Сорка, та падумала б, што ён ашалеў. Скакаў пахцяр разам з сваімі каровамі датуль, пакуль Іваньчык здаволіўса да й палажыў тые гуслі. Нема чаго рабіць, заскаржыў той пахцяр на Іваньчыка ў суд. Разабраў суд справу да за такое ведзьмарство прысудзіў Іваньчыка павесіць. От схапілі яго й ведуць на шыбеніцу. Ідзе ён і трымае гуслі пад пахаю. А тут сабралосо людзей, як на кірмашы, каб паглядзець, як будуць вешаць ведзьмара. Бабы галосяць, дзецюкі шуткуюць, а іньшые кажуць, што калі гэсто ведзьмар, та яго не павесяць. От ужэ кат падаўёў Іваньчыка к шыбеніцы да й хацеў накласці яму на шыю вероўку, але той выняў з-пад пахі гуслі да як зайграе, дак усе й пусціліса скакаць, бацэ гарох на гарачуй скаварадзе. Скачэ кат, абняўшы шыбеніцу, скачэ судзья з паперам у руках, скачэ поп з крыжам перад носам,

скачуць мужыкі й бабы, аж пот з іх валіць, скачэ ўсе места, бы мошкі мак таўкуць. Іграў, іграў Іваньчык да ўсе далей атходзіў ат шыбеніцы, нарэшце саўсім знік. Схаменуліса ўсе, разінулі рот да й стаяць, як дурні, а нашаго Іваньчыка й след прастыў. Пачалі яго шукаць, каб злавіць, але ж кажуць, што нелёгко злавіць вецер у полі, да яшчэ гарэй злавіць таго музыку, каторы прымушае ўсіх скакаць. Пашоў наш Іваньчык у трыдзесятае царство к Беламу Руськаму цару да й пачаў яго цешыць сваімі гуслямі. Як зберуцца заморськіе госьці да цары да пачнуць выхваляцца кожын сваімі штукамі, дак Белы Руські цар і веліць Іваньчыку зайграць на гуслях. Іваньчык іграе, а ўсе скачуць. Паскачуць пад гуслі таго Іваньчыка да й годзі выхваляцца, бо заўжды мусяць скакаць пад гуслі Белаго цара. Дак от якіе то былі гуслі.

Рэдкі

В. Рожан

## 78. ЯК ЧОРТ ТАПІЎ ПАНОЎ

Жыў сабе адзін чалавек і была ў яго дужа гожая жонка. Дак от на яе ліхо, кожная гожая жанчына заўжды круціць хвастом, заўжды кала яе труцца мужчыны, бы сабакі кала сукі. Толькі чалавек з хаты, дак госці к жонцы ў хату як піць даць збіраюцца. Сабраўса раз той чалавек у велікую дарогу, насыпаў у мех коням аўса, напхаў велізазную дзеругу самаго лепшаго мурожнаго сена, палажыў у торбу цэлы бохан хлеба да кусок сала, насыпаў у мешэчак круп да солі, кінуў на воз чагунец, нібыто збіраецца ў дарогу на цэлы тыдзень. От наказаў ён жонцы, каб яна шчылно даглядала гаспадарку да й паехаў паціхеньку, нібыто аберагае коні, каб яны не патаміліса ў велікуй дарозе. Папхаўса ён, а жонка думае, што цепер не хутко вернецца да господы. Сказала яна суседцы, а тая другой, другая трэйцюй. Праз часіну ўся вёска даведаласа, што той чалавек паехаў у велікую дарогу. І пачалі збірацца к той гожуй маладзіцы яе каханкі. Яшчэ на змроку прыбег к ёй вель-

мі гарачы малады панічык. Толькі ён ускочыў у хату, як хтось стукае ў дзверы. Куды тут дзевацца... І ўлез ён у печ. Атчыніла маладзіца дзверы, аж там другі пан. Чуць толькі яна ўпусціла яго, як зноў хтось стукае ў дзверы. Пашла яна атчыняць, а пан шамелях у печ. Чуе, што там хтось е, але нема чаго рабіць, лежыць моўчкі, бы тхор. Улез у хату малады купец і пачаў захажацца кала маладзіцы. Толькі раптам хтось зноў стукае ў дзверы. Спужаліса яны, не ведаюць, што рабіць. Маладзіца дагадаласа, што гэто, мабыць, вернуўса гаспадар. «Лезь хучэй у печ,— камендуе яна купцу,— бо як цебе тут застане мой гаспадар, то паломіць табе ногі да адрэжэ вушы ці яшчэ што-небудзь». Пакуль яна атчыняла дзверы, купец і ўплішчыўса ў печ, дармо, што там ужэ лежало двое. Ціснуць яны адзін другого, да нічого не парадзіш, бо ў страха вочы велікіе. Тым часам ехаў, ехаў той чалавек да й сустрэў свайго таварыша, з каторым коліась яшчэ хлапчуком пасціў коні. З гэстым таварышам яны вельмі добрэ жылі: немаль датуль таварышавалі, пакуль ён і ажаніўса. У вадзін рок яны пабраліса, а таго таварыша забралі ў маскалі. Цепер ён атслужыўса ў маскалёх і вертаўса да господы. Маскаль вельмі прыстаў у дарозе й не здолеў далей іці. От наш чалавек пасадзіў яго на воз да й паўёз да господы. Такім разам неўзначай вернуўса да господы той гаспадар да яшчэ з маскалём. Чуць яны ўлезлі ў хату, а гаспадар і кажэ жонцы, каб яна хутчэй запаліла ў печы да гатовіла вечэраць дарагенькаму госьцю. Маладзіца тым часам усе агінаецца. От гаспадар сам схапіўса з лавы, напёр у печ сухіх дроў да й запаліў. Круціліса ў печы, круціліса тые малайцы да й задохліса з дыму. От гаспадар пасылае жонку ў карчму купіць кварту гарэлкі на пачостку свайму таварышу. А тут маскаль кажэ, што лепш ён пойдзе па гарэлку, бо поцемку жанчыну яшчэ што-небудзь спужае. Пашоў маскаль у карчму па гарэлку, да, ведамо, пакуль растурхаў серод ночы ландара да купіў гарэлкі, дак трохі й замарудзіў. Пакуль яго не было ў хаце, жонка кінуласа ў ногі гаспадару, прызналаса яму ва ўсём да й кажэ: «Што ж ты нарабіў! Гэто ж людзі ў печы, ты ж іх, мабыць, спаліў. Прапалі мы цяпер». Да давай галасіць, аж рукі ломіць да валасы

на сабе рве перапалоханая маладзіца. «Ціхо, дурная баба!» — сыкнуў на яе гаспадар. От узяў ён ведро вады да шабуўх у печ. Разгроб гэто ён галавешкі да давай выцягваць з печы малайцоў, выцягне аднаго, запрэ да й паставіць у сенцах. Выцяг гэто ён апошняго, запёр яго на двор да й паставіў кала каморы. Тым часам варочаецца з карчмы маскаль. Бачыць ён, што хтось стаіць кала хаджайськае каморы й падумаласо яму, што гэто, мабыць, злодзей. От ён падышоў ціхенько да як цюкне яго пляжкаю па мазгаўні, дак той і сунуўса на землю. Улез маскаль у хату да й расказвае таварышу, якая яму прыгода трапіласа. «Ну, нехай чэшэ патыліцу,— кажэ гаспадар,— а ты, бабо, падавай на стол». От выпілі яны пляшку гарэлкі, закусілі, чым Бог паслаў, і збіраюцца лажыцца спаць. Вышаў гэто маскаль да ветру да зірнуў у той бок, дзе ён пачаставаў злодзея, аж бачыць, што той лежыць і не варухнецца. Падышоў ён, памацаў, аж злодзей ужэ й ахалодаў. Прыбег маскаль у хату белы як палатно да й кажэ, якое нешчасце зрабіласо. Пагаварылі яны паміж сабою, парадзіліса, што тут рабіць і намеркаваліса, пакуль цёмно, зацягці мерцьвеца да й укінуць у воду. От схапіў маскаль таго мерцьвеца да й папёр. Сустракаюць яго вартаўнікі. «Ты хто?» — пытаюць яны. «Чорт»,— адказвае маскаль. «Каго несеш?» — «Пана».— «Куды?» — «Тапіць».— «Несі, несі хучэй»,— кажуць вартаўнікі й пашлі ў другі бок. Укінуў маскаль мерцьвеца ў воду да йдзе дамоў. Тым часам гаспадар выцяг з сенец другого мерцьвеца да й палажыў яго на двары каля парога. Прышоў салдат (маскаль) да й бачыць, што мерцьвец зноў вернуўса на старое мейсцо, от ён схапіў яго й зноў папёр тапіць. Але зноў сустракае вартаўнікоў, дак тые бачаць, што чорт прэ пана тапіць, от яны завернуліса й пашлі ў другі бок. Укінуў маскаль мерцьвеца ў воду да й папхнуў яго на дно пастырчаком. Прыходзіць да гасподы, аж гаспадар прыгатовіў яму трэйцяго мерцьвеца да яшчэ абліў яго вадою. «А,— кажэ маскаль,— ты зноў вылез з вады, дак я ж к табе прывежу камень». І зноў папёр ён трэйцяго мерцьвеца, прывезаў да яго цяжкі камень і ўкінуў у воду. Ідзе ён да дому да й сустракае вартаўнікоў. У той час едзе сабе верхам якісь пан. От вартаўнікі й

крычаць маскалю: «Чорт, чорт, бачыш, той пан вылез з вады да на каню ўцекае». Пусціўса гэто маскаль за тым панам, звалок яго з седла, запёр к рацэ да й укінуў у воду. «Ото ж, дзякуй Богу,— думаюць вартаўнікі,— адным панам меньш».

Рэдкі

В. Рожан

## 79. УСЕ І Ў ГАЛАВЕ НЕ ЗМЕСЦІЦЦА

Жылі багатые людзі, было ў іх уселякаго дабра, толькі ат іх ніхто не меў дабра. Быў у іх адным-адзін сын. Не хацеласо яму спажываць бацькаўськае дабро, а цягло яго ў сьвет, каб усе знаць, што там робіцца. Ужэ колькі раз парываўса ён кінуць старых бацька й матку да й вандраваць па сьвету, толькі не хацеў, каб яны па старасці аб ём гаравалі. Але ось памірае матка. Бацько й кажэ: «От твая матка памерла, [redacted] скоро й я памру, дак ты як пахаваеш мяне, так прыдзе к табе першы старац, ты й дай яму цэлы бохан хлеба да ось гэты горшчык грошэй». І даў ён сыну невелічкі горшчык, завязаны анучкаю. Скоро бацько памёр і заставіў сыну много ўселякаго дабра. От пахаваў ён бацька радам з маткаю, справіў памінкі да й збіраецца йці ў сьвет. Але ось заходзіць к яму старац, сівенькі дзедок. А гэто быў сам Бог. Даў гэто той чалавек старцу цэлы бохан хлеба, [redacted] аб грашох і запамятаваў. Падзякуваў старац да [redacted] пашоў. Ходзіць той чалавек да ўсе чагось шукае, а чаго — й сам не ведае. Хапіўса да й успаменуў, што не даў старцу грошэй. От пабег ён даганяць таго старца. Нагнаў яго да й атдае горшчык грошэй. А дзедок сівенькі да й пытае: «Ці ты ведаеш, што ў гэстум горшчыку?» — «Не, не ведаю».— «А як жэ ты хочэш знаць усе на свеце, калі не ведаеш і таго, што ў цебе перад вачамі? Усе ў галаве не змесціцца»,— дабавіў дзедок. Здзівіўса той чалавек, аткуль гэто старац знае яго думкі, здзівіўса да й дагадаўса, што, мабыць, гэто не просты старац. От ён і просіць яго паказаць дарогу ў сьвет, каб там навучыцца хаць таму, як жывуць людзі. «Ідзі ка мне служыць,— кажэ сівенькі дзедок,— та много навучышса». Здзівіўса

ён, але пашоў. «Пачакай трохі тут, я прышлю табе каня, ён цебе давезе. Толькі ты не пужайса, што ён трохі дзіўны». Сказаў гэто да й знік. Стаіць той чалавек, чакае, аж чуе, штось гудзе, бы дзесь падае град. Азірнуўса ён, а тут і стаў перад ім конь з залатымі крыламі. Скочыў ён на таго каня да й панёсса як віхар. Атдзеліўса конь ат землі да й палецеў усе вышэ да й вышэ. От ужэ бачыць ён, што ў вёсцы людзі ходзяць на вуліцы маленькіе, бы мухі, а высокі лес здаецца яму мурожнаю травою на сенажаці. Скоро ўбачыў ён усю землю са ўсімі марамі, гарамі да палямі, убачыў усе царства, гарады й вёскі. Але скоро й земля зрабілася маленькаю, як блінец, а потым і саўсім знікла. Падняў яго конь пад самае сонейко да й заўёз на небо; злез ён з каня, каб атдыхаць, бо вельмі ўтаміўса, а той і знік. Супачыў трохі той чалавек да пашоў аглядаць, што там робіцца. Аж бачыць — стаіць велізная хата, а ў ёй хтось крычыць: «Ой, цесно!» Вайшоў ён у тую хату, аж там толькі адзін чалавек і ён крычыць, што яму цесно. Падзівіўса ён і не знае, што б гэто было такое. Да й пашоў далей. Ідзе ён цераз поплаў, а там густая харошая трава да кветкі, хаць касі. На том поплаву пасуцца авечкі да такіе худые, што чуць косці не разсыплюцца. Падзівіўса ён да пашоў цераз гаёк. Выходзіць на поле, дзе немаш ніводнае травінкі, але бачыць, што там пасуцца такіе тлустые авечкі, што чуць ходзяць ат лою. Дзіўно яму стало, але не ведае, што гэто такое. Пашоў ён у другі гаёк, бачыць, аж там чалавек ловіць птушачку, а яна ўсе пералетае з аднаго гнездзечка ў другое, і ніяк нельга яе злавіць. «Закрый,— кажэ ён,— адною рукою гнездзечко». Той закрыў, а тут замест двух стало чатыры гнездзечка, дак яшчэ трудней злавіць тую птушачку. Пашоў ён далей да й падходзіць к варотам рая. Бачыць праз частакол, што там цьвітуць розныя кветкі, летаюць да паюць птушкі, стаяць гожыя палацы, што аж зяхацяць ат золата, а тут кала самых варот валяецца якоесь падло, чэрві ў ём аж кішаць і ад яго йдзе такі смурод, што аж нос верне. Плюнуў ён на тое падло да й пашоў у рай. Сустракае яго анял да й паўёў к Богу. Прышлі яны к Богу, анял закрыў свой твар крыламі да й вочы панурыў. А ён зірнуў на Бога да й бачыць перад сабою

таго самаго сівенькаго дзедка, што прыходзіў к яму старцам. От Бог і кажэ: «Прайшла твае жыткі першая палавіна. Ты быў вельмі цікавы, хацеў усе знаць, але ўсе і ў галаве не змесціцца, даволі й таго, што ■ табе растлумачу. Слухай. Той чалавек, што крычыць у хаце, нібыто яму цесно, за жыцце павыганяў з хаты ўсіх братоў. Авечкі тлустые й худые, гэто добрые й грэшные душы людзей, птушачку ловіць чалавек — гэто ён ловіць сваю душу. Ты хацеў яму памагці, да зрабіў яшчэ гарэй. Ты плюнуў на падло да й саграшыў, бо то твой бацько-ведзьмар і матка-ведзьма. Ось паглядзі, што ў том горшчыку, што ты мне даў». Развезаў Бог горшчык, аж там кроў, слёзы й пот людзей. «От што людзі называюць грашамі, то яно золато, што твой бацько й матка сабралі ў людзей. Яны хацелі пакаяцца й атдалі мне ўсе, што за жытку награбілі ў бедных людзей. Цяпер ты много знаеш, але не ўсе, бо ўсе і ў галаве не змесціцца». І папрасіў той чалавек, каб Бог пазволіў яму паглядзець грэшных душ. Бог пазволіў. Вышаў ён з рая да й пачаў абходзіць тые катлы з смалою, дзе мучыліса грэшные душы, але не мог доўго глядзець, бо яму было вельмі шкода тых людзей. Бо чым яны вінаваты, што іх такімі Бог сатварыў і так ім на раду назначыў. «Не,— думае ён,— Бог даруе ім грахі, бо ён добры, міласерды, дак не схочэ, каб тое, што ён зрабіў, дасталасо ліхім». Толькі ён гэто падумаў, як паатчыняліса катлы да й вышлі аттуль грэшные душы да й пашлі хваліць Бога. Радасно яму стало на серцы. Аглядзеўса ён, аж трое рвуць тоненькае дзераўцо, да не могуць яго вырваць. А гэто была яго жытка. Не знаў ён таго, рвануў тое дзераўцо да разам і вырваў. Тут упаў да й памёр, бо не можна чалавеку ўсе знаць.

Рэдкі

В. Рожан

## 80. ДВА БРАТЫ, БЕДА ДА ДОЛЯ

Ці блізко, ці далеко жылі колісь два родные браты. Былі яны аднае маткі, аднаго бацькі, да нероўную даў ім Бог долю. Аднаму доля спрыяе, дак яму вецер дзецей

калышэ, дожджык мые, а сонцэ грэе, а другого доля ледашчыца па свеце гуляе, аб дзетках не дбае. Іх вецер халодзіць, дожджык не дагодзіць, сонейко смаліць, аж ліхо іх валіць. Адзін брат багаты, за што ні вазмецца, усе добрэ ймецца. Другі брат без долі, не мае карысці ніколі. Што зробіць старэнно, усе гіне штодзенно. Звер рэжэ целушкі, шчур кадушкі, не грэе як трэба штось печка, будоўлю спаліла спрэс свечка. Беда за бедою, хлеб з лебедою, не страва — вадзіца. Ой, доля, ледашчыца. Нарэшце на Ушэсця хвароба кароўку сустрэла. Жанчына ёй зёлак сагрэла. «Ой, горэ, ты ж дзеткам пажыва!..» Кароўка не ходзіць, чуць жыва. Сплеснула жанчына рукамі. «Дзетак загубім мы самі».— «Берэш ты кароўку, берыш і вероўку». І бедны дарэзаў кароўку. З каровы ён шкуру здымае да ў жалю ўздыхае. Падходзіць старая жабрачка, пытае, ці будзе падачка. «Усе роўно прыдзецца памерці...» Атрэзаў наш бедны паўчверці, дае ён той бабе паўчверці, а баба не здоляе перці. «Да хто ты, старая?» — ён бабу пытае. «Беда я, саколік. Ці е ў цебе волік?» Схапіў ён тут бабу пад клешні бы жабу да ў выжар глыбокі заціснуў пад бокі. Прайшла знаць часіна ліхая; прыгода дамоўку мінае. Падняўса наш бедны на ногі — засеяў абмежкі да логі. Зрадзіла пшаніца й другая пашніца. Не мае мітрэнгі і статак; у хаце з'явіўса дастатак. Дак хто ж з нас не знае, што ў шчасцю нас кожын пытае: як вашэ здарове, мае вы панове? Так брат той багаты заходзіць да беднаго хаты, нібыто здароўе пытае да сочыць, аткуль ён то мае, што ў хаці да ў сенцах у скрыні, у ваборах да ў свірні, у вадрыні. «Зайшоў я, браточак, да хаты да й бачу, што стаў ты багаты. Не тойса, скажы мне, як брату, як мог ты збагаціць сам хату?» — «У выжары, браце, у балоце е доля, што ходзіць у злоце». І просіць багаты паволі: «Звадзі мене, братко, да долі». Брат бедны шукаць там не радзіць, бо, кажэ ён, можэ завадзіць. Не слухаў яго той багаты да хуценько вышаў ён з хаты. Дак чуць ён беду там з балота даўёў сабе хутко да плота, яна на галодные зубы схапіла багатаго ў губы, схапіла ў дамоўцы багацье да й знішчыла самае шмацьце. Дак гэтак за хцівасць багаты застаўса пад старасць

без хаты. І накрыж павесіўшы клункі, ён ходзіць, жабруе без жонкі. Не мае прытулку ніколі, бо дарам шукае ён долі. А доля з бедою сакочэ, бо заўжды так зробіць, як зхочэ.

Рэдкі

В. Рожан

## 81. ХТО ВЫДУМАЎ ГРОШЫ

Быў сабе адзін чалавек да такі скупы, што шкадаваў нават даць людзям напіцца. У яго ўсего было много: поўны хлевы гаўяда, а ён трасецца, як здохне паршывае парасятко; свіран ломіцца ат хлеба, а яму ўсе мало — крукам вісіць над кожным зерняткам і нікому не дась і панюхаць. Свае гніе ў засеках, а ён завідуе, калі ўбачыць у людзей якую-небудзь слімазарную пашніцу. Ат хцівасці высах як ражон, а нішто яго не наталіць. От ён пачаў ужэ есці толькі адзін раз у дзень да й то бульбу або мякіну намесіць з бульбаю, спечэ на вуголі да й есь з халоднаю вадою, а каб было смачней, дак яшчэ пасыпле попелам. Смеюцца людзі з таго дурного чалавека, што й сабе шкадуе хлеба да есь мекіну. І празвалі яго Мекіннікам. Трасецца Мекіннік над сваім дабром да пражэцца, каб нажыць яшчэ больш. Але ведамо, з працы рук много не нажывеш, бо ў гаспадарцы адно прыбывае, а другое ўбывае, от бы вада ў рацэ. Скупы збірае, трасецца, а чорт з яго смеецца, заханчае да ў мех забірае. Не мажэ Мекіннік вытрымаць, аж пукаецца, так яму хочэцца ўсе больш і больш. Дачуўса ён ат людзей, што каб чалавек знайшоў цвет папераці, дак тагды ўселякае дабро паўзло б к яму само. Пачаў ён распытоўваць людзей, а тые кажуць, што паперадь цьвіце толькі аднэйко ў рок на Купало, але што той цьвет вельмі трудно ўзяць, бо яго сцерагуць чэрці да ўселякая нечысь. Пражэцца Мекіннік, каб мець больш дабра, так пражэцца, што й страхаў не баіцца, бо не мажэ вытрымаць — такая апанавала яго хцівась. Па немалум часе прыходзіць Купало. Яшчэ сонейко не зайшло, а Мекіннік узяў торбачку да й пашоў у лес. От сонейко схаваласо за землю; на небе заблішчалі зоркі, да только там іх, што й

ліку нема. І думае Мекіннік, што так много на сьвеце ўселякаго дабра. І гарэй яго берэ хцівась, каб заўладаць тым дабром. Сцемнело ў лесі, бы ў мешку, толькі дзе-нідзе праз веткі блішчаць зоркі. «Мо так блішчыць цьвет папераці»,— думае Мекіннік і прыглядаецца на папераць пад густымі лапамі галья. Лазіў ён, лазіў у гушчэчы, чуць вочы сабе не павыдзіраў, зайшоў у глухі лес, так што й выбрацца не мажэ. Пачаў ён прыслухоўвацца, ці не забрэшэ дзе сабака, але нічого не чуваць. Сеў ён на пні да й не ведае, куды йці. Але ось па лесі штось загуло, затрашчало, аж у яго мароз пабег па шкуры. Куды ён ні зірне, дак бачыць, аж чэрці скачуць з ведзьмамі абняўшыса, а ўселякая нечысь стаіць вокала да ў ладкі плешчэ, толькі вочы блішчаць бы жар да зубы ляскацяць. Спалохаўса ён, да нема чаго рабіць, седзіць да трасецца, бы сабака на марозе. Толькі ось убачыў ён, што непадалечку ў папераці штось блішчыць, от бы зорачка. Дагадаўса ён, што гэта цьвет папераці, да й кінуўса туды. Але куды там! Не паспеў ён і два-тры разы ступіць, як уселякая нечысь з крыкам і піскам налецела туды да й засланіла яму дарогу. Стаў ён, стаіць і не варухнецца, толькі зубы ляскочуць, бы яго трасца трасе. Перш хацеў ён перахрысціцца, але падумаў, што багацье туды йдзе, дзе нема крыжа. «Ну,— думае,— сероўно прападаць, чорту душу запрадаў бы, каб толькі было за што». Толькі ён гэтак падумаў, як адзін чорцік тут як тут. Падбег к яму да й кажэ: «Ты зваў мене? Я тут. Дам табе багатство, якое толькі ты зхочэш, а ты мне дасі тую сваю плюгавую душу, што яна табе саўсім не патрэбна, бо часамі толькі есь да скрабе табе серцэ». Згадзіўса Мекіннік аддаць чорту душу за багатство да й пытае толькі, які тэрмін ён будзе спажываць тое багатство. «Яно заўжды будзе твае,— кажэ чорт,— бо цебе людзі ніколі не забудуць, пакуль і сьвет будзе стаяць, та будуць казаць, што ўсе багатство — твае». І пачалі яны таргавацца, колькі гадоў чорт дась яму жыць. Нарэшце старгаваліса, і чорт узяў з Мекінніка роспіску, каторую ён напісаў сваею кроўю з мезенаго палца. От чорт даў Мекінніку цьвет папераці да й научыў, як яго ўжываць. С тых часаў паплыло к Мекінніку ўселякае дабро, як вада ў рацэ; хутко ў яго

сабралосо толькі багатства, што й места яму нема. Бачыць Мекіннік, што нельга яму сабраць багатства са ўсяго сьвету, бо яно вельмі много займае мейсца да й такое цяжкае, што яго й земля не выдзержыць, от і заве ён к сабе таго чорта. А той і кажэ: «Добрэ, я дам табе такое зелье, што яно зберэ к табе ўсе багатство й мало будзе займаць мейсца». От назбіраў чорт поту, слёз да крыві людзей, наліў у кацёл, варыў-варыў да й выварыў золато. Зірнуў Мекіннік на золато да й кажэ: «Давай сюды, бо ў мене яшчэ нема такое бліскучае рэчы».— «Не,— кажэ чорт,— мы яго перш пусцім у людзі; яно там заберэ ўсе багатство й потым прыдзе к табе». І выдумаў чорт грошы да й пусціў іх па свету гуляць да людзей абіраць. Па немалум часе сабралосо ў Мекінніка вельмі много грошэй, так много, што ён мог купіць увесь сьвет з усім багатствам і з усімі людзьмі. Але бачыць Мекіннік, што скоро канчаецца тэрмін і што прыдзецца паміраць. Папробуваў ён падкупіць смерць, але тая толькі зарагатала з дурного чалавека, так, што аж усе костачкі яе забрашчалі. Папробуваў ён падкупіць знахароў да дахтуроў, каб ат смерці атперці, але тые ў вадзін голас баюць, што ўсе людзі паміраюць. Бачыць ён, што нельга выкруціцца, дак і пусціўса на хітрась. От зсыпаў ён золато ў пограб, набраў сабе ўселякае стравы да й седзіць там, хаваецца ат чорта. Але ось прыходзіць смерць да й кажэ: «Чым было, тым і стань»,— як яна гэто прамовіла, дак усе золато разлілосо ў пот, слёзы й кроў людзей да й заліло пограб аж даверху й утапіло таго хціваго Мекінніка. Тут якурат з'явіўса чорт па яго душу, схапіў яе да й кажа: «Пакуль мае сьвет стаяць, датуль будуць цебе памінаць, што ўсіх дурыў, потам, слёзкамі да кроўю жыў».

Рэдкі

В. Рожан

## 82. СУДЖАНО

Жыў сабе малы хлапчук да вельмі ён любіў слухаць казкі да розные байкі. Куды ні збіраюцца людзі, дак, ведамо, пажупяць трохі аб том, аб сём, а нарэшце

знайдзецца паміж іх хто-нібуць да й пачне хлусіць, пачне плесці, што было й чаго не было, бо праўду кажуць людзі, што ўселякая хлусня, як устарэе, та будзе й праўда. От той хлопец падкрадзецца ціхенько да й слухае. Мо ўжэ ён знаў усе казкі, але ўсе слухае да слухае. І пачаў ён жыць на сьвеце, бы ў казцы. Куды не зірне, та яму здаецца, што гаяўдо гаворыць паміж сабою, што кусты й дзераўлякі шэпчуцца от так, бы й людзі. Убачыць ён пчолку, як тая на кветках збірае медок, дак ён і пытае яе, што яму суджано ці якая яго будзе доля. Бзын! Пчолка палеціць, а яму здаецца, што яна сказала — ліхо. Сустрэне яўёрку, як яна грызе арэшкі, падойдзе к ёй бліжэй, каб запытаць аб сваёй долі, а тая задзерэ хвост, пабежыць угору па дзераве да толькі цмок-цмок-цмок! І здаецца яму, што яўёрка кажэ: ліхо табе, ліхо! Бегае хлапчук да прыслухоўваецца, а чом шэпчэцца ветрык з яварам, што так гожэ ўздымаецца аж у самае небо, прыслухоўваецца к страшнаму рову цёмнаго лесу, як ён у буру матае галавамі, размахвае веткамі, бы чалавек рукамі, да камусь грозіцца, камусь выстаўляе кулакі, баццэ хочэ атагнаць ліхую долю да падужацца з самаю смерцью. Прыслухоўваецца й яму здаецца, што й лес, і рака, й самае камене — усе жыве, усе думае, мае сваю гаворку, толькі людзі яе не разумеюць, хіба адзін дзед Грышко, што ўсе знае да так гожэ бае казкі, што яго слухаў бы дзень і ноч. Пабег той хлапчук к старому Грышку на пчальнік, каб аба ўсём распытаць яго. Да як к яму падступіцца? Грышко хаць і добрэ бае казкі, да такі ён грозны, такі разумны, што хлапчук баіцца з ім і загаварыць. Падбег хлапчук, зірнуў праз плот, аж дзед Грышко, ужэ ўвесь сівенькі, як суседа кабыла, з доўгаю, доўгаю барадою па самы пояс, седзіць на калодачцы да плеце лапці. Ускочыў хлапчук у пчальнік нібыто ненарокам да й пачаў хватацца за сваю гіру, от як бы там пчала заплуталаса.

— А ты, дзетко, не бойса — гэто Божая слуга. Яна не ўкусіць,— кажэ дзед.

Хлапчук трохі пасмелеў да й памаленьку бліжэй падышоў к дзеду. Ведамо, старому хацеласо пагаманіць і ён падазваў к сабе хлапчука, пагладзіў яго па галоўцы да й кажэ:

— Пчолка, дзеткі, носіць нам медок, а Богу вашчок. Гэто светое стварэне.

— А яна ўмее гаварыць?

— Умее, дзетко. Кожнае стварэне ўмее гаварыць, толькі мы не разумеем, бо так Бог велеў, каб мы не зналі, што будзе ўперад.

— А пчолка ведае, што з намі будзе?

— Ведае, мой голубе, ведае, што нам суджано й якую долю нам Бог прызначыў.

— А яна мне кажэ, што мая доля ліхая.

— Гэто, дзетко, як Бог дась. Што суджано, тое й будзе.

— А я, дзеду, не хачу слухаць, што так суджано, а буду дужацца, буду біцца з ліхою доляю,— і хлапчук аж пачырванеў да й сашчапіў свае кулачкі.

Паківаў дзед галавою да патрос барадою. Бачыць, што гэсты хлапчук не абы які, а нават вельмі жвавы да цікавы. І доўго стары Грышко размаўляў з тым хлапчуком, вучыў яго, як на сьвеце жыць, як ліхо абхадзіць, толькі адно казаў, каб ён долі не чапаў, бо суджанаго ні абойдзеш, ні канем не об'едзеш, што суджано, тое й будзе. Яшчэ стары не пасьпеў усяго сказаць таму хлапчуку, як чуе, што на вуліцы якісь крык. Падняўса ён з калодачкі да, апіраючыса на кіёчак, выцягса туды, аж суседзі кажуць, што ўпаў азерод да й насьмерць забіў бацькоў таго хлапчука. Астаўса хлапчук круглаю сіратою от бы віцінка ў полі. Не мажэ ён малы гаспадараваць і нема ніякае радні. Сабраўса сход, абсудзіў дзело да й раздаў гаспадарку хлапчука людзям, покі ён падрасьце, а яго самого прыняў сусед, бо ў яго не было дзецей. Жыве там хлапчук да пасе гусі. Праходзіць год, а мо й больш, толькі ось затаўсьцела жонка таго гаспадара, у якого ён жыў. Падходзіць ёй пара раджаць. Паслалі таго хлопца пасьціць коні. А ён заўёў коні на лужок, там папутаў іх, а сам вернуўса дамоў, ціхенько лёг на палаці да й прытаіўса там, нібыто сьпіць да ўсе пазірае, як гэто маладзіца будзе раджаць. Але ось бачыць, што прышлі ў хату перш сьмерць з касою, потым яшчэ дзьве маладые жанчыны. Зірнула сьмерць на тую маладзіцу да й кажэ: «Вазьму я яе».— «Яшчэ не пара»,— кажэ маладая жанчына да й затуліла яе ат

сьмерці. Паляскала сьмерць зубамі да й кажэ: «Я вазьму хаця дзіця». Тут выступіла другая жанчына да й кажэ: «Я яго доля». Тым часам радзіласа дзевачка да як убачыла сьмерць, дак пачала крычаць с усіх сіл. Але доля засланіла дзіця ат сьмерці. Пабачыла сьмерць, што ёй тут нема чаго рабіць, паляскала зубамі, пабразкала касьцямі, закінула косу на плечы да й знікла. Асталіса тые дзьве маладые жанчыны да й пачалі размаўляць, якая жытка будзе таго дзіцяці. Доля кажэ: «Харошая. Будзе гэто вельмі гожая дзевачка, а як вырасце, дак пойдзе замуж за таго цікаваго хлапчука, што жыве ў яе бацька. Яны будуць жыць вельмі згодно да хорашэнько». А другая жанчына, а то была судзьба, зірнула на дзіця да й кажэ: «Але яе ўкусіць свіньня, дак яна з таго й памрэ». Зніклі тые жанчыны, а хлапчук зірнуў на тую дзевачку, а яна чырвоная, зморшчаная, бы жаба, й вельмі яму не спадабаласа. «Ото ж не дачакане твае,— думае той хлапчук,— каб я з табою пажаніўса». Расце тая дзевачка, але ведамо, малое дзіця, якое там хараство. Пазірае на яе хлапчук да от так і задушыў бы яе як жабу, каб прымеў. Але ось адзін раз пашла кудысь маладзіца, а хлопцу велела пакалыхаць тую дзевачку, як ачнецца да будзе крычаць. Ачнуласа дзевачка, зірнула на хлопца да пачала так крычаць, што аж заходзіцца. Калыхаў, калыхаў хлопец, нічого не памагае, крычыць дзіця, аж пукаецца. Пабачыў хлопец, што дзевачка ат плачу стала такая брыдкая, што аж зірнуць на яе гідко, да й думае: «І гэто яшчэ мае быць мне жонка! Да не дачакане твае!» Тут ён як шалёны схапіў на стале канчаты нож, пырнуў ім раз дзевачку, а кроў так і пасачыласа. Убачыў ён кроў, спалохаўса, схапіўса за валасы да чуць іх сусім не выдраў. «Што ж я нарабіў! Я ж зарэзаў дзіця»,— закрычаў ён да кінуўса бегом з хаты й уцёк у лес. Доўго ён там скітаўса, еў толькі грыбы, ягады да арэхі, а потым, як стало халадней, пацёгса па сьвету жабраваць. Тым часам прышла матка ў хату да як убачыла, што дзіця ў крыві, дак пачала галасіць, аж галавою біцца аб сьцену. Збегліса людзі, агледзелі дзіця да й пачалі яго ратаваць, бо рана хоць была велікая, але яна не глыбокая. Мабыць, нож толькі збоку абрэзаў шкуру да чуць крэнуў мяса. Знеслі бабы

су сёй вёскі ўселякае зелье да як пачалі, як пачалі, дак і атхадзілі тую дзевачку. Пашукалі, пашукалі таго хлопца, нідзе не знайшлі да й кажуць: «Мабыць, спужаўса да ат страху й сунуўса ў воду».

Расце дзевачка да ўсе харашэе, толькі велізны шрам астаўса на баку. От вырасла яна велікая й стала такая ўдалая да гожая, што людзі не могуць надзівіцца. Убачыла яе пані да й узела к сабе ў двор. Спадабаласа яна пані да й жыве там бы паненка. Тым часам той хлапчук шляўса, шляўса па сьвету, надаело яму ў чужых краёх вуглы абціраць і захацеласо хаць адным вокам зірнуць на сваю родную ўёску. От і пашоў ён туды. Прыходзіць у двор, дзе была тая дзеўчына ў пані, да й просіцца на службу. Вырас ён за той час да стаў вельмі гожым да ўдалым хлопцам, так што ніхто й не пазнаў яго. Спадабаўса ён пану да й наняўса служыць намесьнікам. Ці доўго, ці мало ён праслужыў, толькі ось сустракае раз тую гожую дзеўчыну. Да як убачыў, так і не жыў! З першаго погляду так закахаўса, што й жыць без яе не мажэ. Дак і дзеўчыне ён вельмі спадабаўса, але ведамо, дзеўчына — маўчыць да ціхенько плачэ. Застала яе заплаканую раз пані да й давай дапытоўвацца, чаго яна плачэ. Запіраласа, запіраласа дзеўка, а нарэшце й прызналаса, што вельмі кахае маладого да гожаго намесьніка. «А ён што?» — пытаецца пані. «Не ведаю»,— адмаўляе заплаканая дзеўчына. «Не плач, мая котка,— кажэ пані,— ты такая гожая, што ён не мажэ цебе не кахаць. Толькі ты не плач, бо выплачэш свае ясные вочкі». Спалохаласа дзеўчына да й годзі плакаць. От зрабіла пані так, што намесьнік нібы ненарокам сустракае тую дзеўчыну. А яму тое й трэба. Сустрэліса яны да як глянулі адно на другого, дак і без слоў дагадаліса, што вельмі кахаюцца. Хутко яны пабраліса, а тут пан зрабіў маладога акамонам, от і пашлі яны кахаючыса жыць да Бога хваліць. Раз убачыў ён у жонкі на баку пісух да й запытаў, што гэто такое, з чаго яно зрабіласо. Яна й расказала яму ўсе, што чула ат небожчыцы маткі. Дагадаўса ён, хто яна такая, дагадаўса да й падумаў: «Ці ж ат судзьбы нельга нідзе схавацца?» Успаменуў ён, што казала судзьба, да аж сэрцо аблілосо кроўю, так яму страшно стало, каб тое не збылосо, што кахануй

жонцы напісано на раду. От пачаў ён берагці сваю жонку, больш як свае воко й казаў ёй, каб яна берагласа сьвіней. Жыве сабе тая жанчына, як у Бога за пазухаю, усе ў яе е, ніякага клопату не мае. От даў Бог ім дзеткі на радасць да на ўцеху. І забыўся ён на тое, што чуў ат судзьбы. «А мо,— думае,— гэто ўсе прашкі». От ужэ паднеліса на ногі дзеткі да бы залатые калёса тарахцяць па падлодзы. Любуюцца бацько з маткаю на іх глядзячы, да радуюцца, што Бог паслаў такую жытку, такое шчасьце, што не трэба й паміраць. Толькі ось уздумаў пан паехаць на палеване да й узяў з сабою таго акамона. Напалевалі яны много зверыны. Акамон быў удалы стралец і забіў ён двух дзікоў. От прывезлі тую зверыну ў двор, разлажылі на дзедзінцы да й сабраліса ўсе разглядаць да любавацца. Вышла з пакояў і жонка акамона. От і паўёў ён яе паказваць тых дзікоў, што сам застрэліў. Падышла яна туды, пагладзіла цьвордую бы дрот шчаціну на спіне дзіка да й дзівіцца, які ў яго доўгіе да войстрые іклы. Тым часам таго дзіка не сусім застрэлілі, а толькі аглушылі. Ачухаўса ён да як ускочыць раптам да як марськане лычом, дак зачапіў іклом акамона жонку па самых ляшках, так што чуць саўсім ног не атняў. Пакуль людзі хапіліса за стрэлбы, дак ён так сунуў у лес, што ніхто й не дагнаў. А жонка акамона яшчэ памучыласа трохі да й кончыласа. Не плакаў акамон, бо пазнаў, што ат судзьбы нідзе не схаваешся, а што яго пасцігло такое нешчасце затым, што яго доля такая ліхая.

Рэдкі

В. Рожан

## 83. НЕ СІЛА, А СМЕЛАСЦЬ

Была ў вадной вёсцы маленькая ростам дзеўка. Мо ў яе й сіла была як у камара. Смеяліса зь яе дзеўчата. Кажуць, што хлопец дзьмухне, дак яна й палеціць бы пух. Але яна была вельмі смелая, што нічога й нікого не баяласа. «Чаго я буду баяцца,— часам шуткуе яна,— Богу не трэба, а ліхі не возьме, бо й ён на мене не пазарыцца; ведамо, тая, што ат ветру хістае». Толькі ось

кажуць дзеўкі, што яна не такая смелая, як гаворыць, бо поўначы пабаіцца адна схадзіць на могліцы. Спрачаецца яна, што сходзіць, але тые кажуць, што не даюць веры. Злосць узела тую дзеўку, а яна хаць была маленькая, да злосці поўны косці. «Ото ж пайду»,— кажэ яна. «Гэто ты пойдзеш, бо вельмі ўпартая, а ў самой душа ў п'яткі схаваецца, як убачыш цень»,— смеюцца дзеўкі. «Ото ж пайду»,— піснула яна, тупнула бы каза нагою да й пабегла на могліцы, бежыць і не азіраецца. Падбегла к могліцам, супыніласа да й пашла ціхо, а каб не было страшно, запела песню, йдзе да пае. Тым часам зладзеі абакралі пана да й носяць тое дабро кала каплічкі на воз. Пачулі яны песню, спужаліса людзей да й пабеглі ў лес. Падходзіць яна к каплічцы да й бачыць, што там стаяць запрэжаные коні. Запытала яна, хто гэто, але ніхто не абзываецца. Памацала яна на возе, аж там много ўселякаго дабра. От яна атвезала коней, села на воз да й паехала да гасподы. Пагналіса зладзеі за тою дзеўкаю, але не маглі дагнаць, толькі пацікавалі, куды яна паехала. Вернула яна пану коней і ўсе дабро, дак той даў ёй гасьцінца много грошэй. Жыве тая дзеўка да спажывае паньскіе грошы, а дзеўкі толькі аблізваюцца да завідуюць ёй. Шкода зладзеям таго дабра, але яшчэ гарэй сорам ім, што такая невелічкая дзеўка не пабаяласа, а яны разбегліса от яе бы зайцы. От і надумалі яны замсьціцца. Па немалум часе прыходзіць адзін злодзей к ёй у сваты. Яна не згаджаецца, пакуль не пабачыць, як ён жыве. А таму тое толькі й трэ. От і расказаў злодзей ёй, як яго знайці. От і збіраецца яна ехаць к таму злодзею. Матка давай атгаворваць да не пушчаць. Куды там, дзеўка стаіць на сваём. Нема чаго рабіць з упартаю дачкою — прэцца, бы свіньня ў вагарод. От запрагла яна сваю паршывую кабылку, села да й паехала цераз поле. Ось пад'ехджае яна к лесу, бачыць збоку — поваратка, а кала яе на кусьце закручана кукла. Думае яна, што гэто зладзеі зрабілі прыкмету, каб не заблудзіць. Звернула яна на поваратку да й паехала лесам. Праехала мо верстоў п'яць з хвастом да ўсе варочае на повараткі, дзе е прыкметы. Пад'ехала к балоццу, аж і кончыласа дарожка да пашоў такі густы лес, што й носа не ўбіць. Прывезала

яна к берэзіне сваю кабылку да й палезла ў той лес у самую гушчэчу. Разгортае яна аберучкі калючые веткі да ціхенько лезе праз гушчарню. Пралезла яна мо з гоны, аж там прасьвечваецца якаясь хатка. Падкралася яна к той хацці, аж бачыць, што там зладзеяў цэлая шайка. Яны дзеляць праміж сабою накрадзенае, а мо й награбленэ дабро. Дзеляць да лаюцца, крычаць, б'юцца, чуць не нажамі пыраюць адзін другого. Зірнула яна, аж тут і яе жаніх. «Мабыць, ён большы,— думае яна,— бо стаіць, размахвае велізазным нажом да разнімае другіх». Выглядзела яна, што там робіцца, прытаілася ў кусце да й чакае, пакуль яны супакояцца. Але ось старшы й кажэ: «Сонцэ нізко, вечар блізко. Хлопцы, за дзело, пакуль не сцемнело. Час да касцёла нам памаліцца. Заўтра дзеліцца з ранку мы будзем, як грошэй дабудзем». Толькі ён гэто прамовіў, як усе зладзеі хуценько забралі свае нажэндзе да й пашлі ў гушчэчу. Дагадаласа яна, што зладзеі пашлі, каб ночу абакрасці косцел. Пачакала яна трохі, вылезла з куста, зайшла ў тую хатку, аж там поўно крадзенаго дабра. Кінула яна тую хатку, выскачыла на двор да й хацела хучэй бегці да свае кабылкі, каб не спазніцца перасьцерагці ксендза, што зладзеі хочуць абакрасці косцел. Кінуласа яна ў кусты да й не зацяміла, што паляначка зацеценена веткам да ймхом. Толькі яна ступіла на мох, як і шабоўсь у яму да такую глыбокую, што ў ёй саўсім цёмно. Папробувала вылезьці, дак не можне, бо сьцены гладкіе. Пачала яна мацаць, што там на дне, аж гэто лежаць забітые людзі. Схапіла яна аднаго да другого, аткуль і сіла ўзеласа, да давай іх складваць у кучу кала сьцены, наверх яшчэ пасадзіла аднаго, а сама стала яму на плечы да й схапіласа рукамі за веткі. Але ветка абламаласа й тая дзеўчына грыманулася на мерцьвецоў. Але як яна зачапіла веткі, дак сверху ўпаў у яму моцны сук. Схапіла яна той сук, стала на мерцьвеца да давай карпаць землю да забіваць у песок той сук; забіла яго ў сьцену, памацавала — вытрымае, думае сабе, стала на сук нагою да й схапіласа аберучкі за край. От вылезла яна з тае ямы, азірнуласа да й пашла аберучкі расхіляць густые веткі да лезці праз тую нетру. Плішчыласа яна, плішчыласа да й заблудзіласа ў гушчэчы. Яна

туды, яна сюды, нема кабылкі да й шабаш. Бегае, рукі ломіць, чуць не плачэ, што не мажэ перасцерагці, каб зладзеі не абакралі косцел. От выбегла яна на палянчку, а тут тыц ёй насустрэк два ваўкі да такіе здаравенные, от бы подцелкі. Сталі яны да толькі зубамі ляскаюць. «Ну,— думае яна,— з'елі яны маю кабылку». Узела гэто яе злосць, кінуласа яна з голымі рукамі на тых ваўкоў, от тые й спалохаліса смеласьці да й сунулі ў лес. Ідзе яна далей, а тут ужэ й сонейко зайшло, стало цемнець; птушкі заціхлі, толькі пугач крычыць свае пу-гу! да сава падлетае к ёй на сваіх мягкіх крылах, чуць не садзіцца на голаў, а як атлеціць да пачне выгукоўваць, да пачне плакаць, бы малое дзіця, дак аж пошчак ідзе па лесу. Толькі ось зірнула яна ўбок, аж на яе кабылцы едзе якісь чалавек. Прыглядаецца яна, аж гэто сусед маскаль. Хадзіў ён у лесі з сакеркаю, ці не трапіцца знадобная дзераўляка, натрапіў на кабылку да давай гукаць, зваць гаспадара, але не дагукаўса, бо, ведамо, у лесі ат ветру шуміць і нічого не чуваць. «Мабыць, зладзеі,— думае маскаль,— укралі кабылку суседа з драбінкамі да й схавалі яе ў лесі». От ён атвезаў кабылку, сеў на драбінкі да й папхаўса да господы. Зірнуў ён, што з лесу якурат ідзе яму наперарэз якаясь пачвера, й прышло яму ў голаў, што гэто, мабыць, русалка ці якая мара. Ён на кабылцы, а дзеўка бежыць наперарэз да крычыць: «Дзяцько маскаль, дзяцько маскаль, пастой! Гэто ж мая кабылка». Бачыць маскаль, што яму на кабылцы нельга ўцечы ад гэтае мары, саскочыў ён з воза, схапіў сваю сакерку да давай Бог ногі, так сунуў, што толькі п'яты замітусіліса. Села дзеўчына на воз да й заве суседа к сабе. «Дзяцько маскаль, гэто ж я, хіба ж ты мене не пазнаў?» Азірнуўса ён, перахрысьціўса да й пытае: «Калі гэто ты, дак чаму ж у цебе косы распушчаны бы ў русалкі?» Тут толькі дзеўчына агледзелася, што ў яе ў гушчэчы звернуло хустку да й распусціло косы. «Не лекайса,— кажэ яна,— бачыш, я перахрысьціласа». Тагды толькі ён паверыў да падышоў к ёй. Сеў ён на воз, дай паехалі яны хутчэй к таму касцёлу. Пакуль яны даехалі, дак ужэ пеўне была самая глупась. Падышла дзеўка к касцёлу, аж зладзеі атчынілі дзьверы да й шастаюць там. Зачыніла

гэто яна дзьверы да й калом падперла, а зладзеі там засталіса да й вылезці не могуць. Збегліса людзі, палавілі іх да й забілі ў калодкі. На другі дзень павела дзеўчына людзей у лес да й паказала, што там навычваралі гэтыя зладзеі. Дак праўду кажуць, што берэ не сіла, а смеласць.

Рэдкі

В. Рожан

## 84. МАСКАЛЬ

Ідзе маскаль шляхом да чуць ногі цягне, утаміўса да й у жываце бурчыць, баццэ там бубняць на трывогу. Шляг шырокі, паабапал прысады стаяць, бы маскалі на вучэні, а на трахту нікагусьсенько не зорко, баццэ ўсе вымерлі ці паехалі на кірмаш. Толькі бачыць ён, што сонейко спусьціласо саўсім нізко, а тут нема ніякае ўёскі. Лаецца маскаль да ўжэ чуць дыбае далей. «Ото ж старонка!» — бурчыць ён сабе пад нос,— хаць ты лажыса да й памірай. От табе вераю й праўдаю служыў Богу й цару чуць не двадцаць п'яць гадоў да й даслужыўса, што цепер серод поля здыхай з голаду». Хацеў ён сесці, каб трохі атдыхаць, да пабаяўса, што, бадай, як сядзе, та й не ўстане. От закурыў ён люльку да й пасунуўса далей. Але ось толькі ўзышоў на ўзгорачак да зірнуў у бок, аж бачыць там якуюсь вёску. Абрадуваўса да хацеў іці туды наценькі, але ўспомніў, што людзі кажуць: ценькі зводзяць дзенькі, да й пашоў шукаць повараткі. Прайшоў ён мо ганоў двоі, аж праўда, кала крыжа растанцы, і маленькая дарожка паўз балоццо праз хмызнік ідзе ў тую ўёску. Насілу перабраўса ён цераз грэблю да цераз брод па бервам і кладкам, на расоху апіраючыса, пакуль ускарабкаўса на пешчаную горку да прышоў у маленькую ўёску. А тут ужэ й сонейко зайшло. Пастухі гоняць дамоў статак да ляскаюць пугамі, баццэ з пісталета. Зайшоў ён у вадну хату, каб папрасіцца на нач, аж там бабы галосяць над пакойнікам. Сунуўса ён у другую — там хворая ўдава з дробнымі дзеткамі, што некаму й вады падаць. Нема чаго рабіць,

пашоў шукаць лепшае хаты. От бачыць, перад хатаю зроблен агародчык, а ў ём растуць гожые кветкі. «Папытаюса тут»,— думае маскаль да й пашоў у хату прасіцца нанач. Улез туды, аж там маладая гаспадыня печэ аладкі. «Дабрывечар!» — «Здаровенек быў, служывенькі!» — «Пусьці, хаджаечка, паначаваць!» — «Я б і рада, мой саколіку, да ў мене такі паганы гаспадар, што як прыдзе п'яны, дак ён паб'е мене й цебе».— «Непачом, хаджаечка, мне не такіе трапляліса».— «Як знаеш,— кажэ маладзіца,— мне вугла не шкода». От і астаўса тут маскаль начаваць. Накарміла яго гаспадыня аладкамі, спекла яму яечню, прымасціла на лаве да й укладвае спаць. Толькі ўжэ маскаль хацеў легці да расправіць ногі, як ось лезе ў хату п'яны гаспадар, а пад пахаю трымае скрыпачку. А ён быў музыка да ўсе йграў на весельлях. «От добрэ,— кажэ ён, убачыўшы маскаля,— што ты прышоў к нам. Я буду йграць, [redacted] ты будзеш скакаць». Пачаў маскаль атказвацца, што ў яго ногі баляць, бо ўвесь дзень скакаў на шляху да на грэблі, покі сюды даскочыў. Куды там, музыка й слухаць не хочэ: скачы да скачы. Зайграў музыка на сваёй скрыпачцы, пішчыць, бы парася ў плоце, ведамо, як п'яны да струны на весельлі парваліса. «Скачы, такі-сякі,— крычыць ён на маскаля,— а то наб'ю да й выкіну за плот!» Нема чаго рабіць, папробуваў маскаль нібы скакаць, да куды там — ногі не служаць. Схапіў музыка таўкач да к маскалю. Насілу той схапіў свой клунак да давай Бог ногі. Выскачыў з хаты да й не ведае, куды дзевацца. Сцемнело. Людзі паклаліса спаць. Куды тут іці? Пастаяў ён, пастаяў на вуліцы да й пацёгса на гумна. Бачыць — гумно прачыняно. Зайшоў туды, зірнуў у сторану, аж там свежае сено. «Ото ж добрэ будзе спаць!» І палез маскаль на сено. Чуе, што там ляжыць адзежа. «Не,— думае маскаль,— тут хтось спіць». А над сенам угары зроблены вышкі, а на іх накідано сена. Залез маскаль на вышкі да й лёг сабе, бы пан на перыне. От ужэ пачаў маскаль драмаць, як прыйшла дзеўчына да й легла на сене. Па немалум часе скрыпнулі вароты да й прышоў к дзеўчыне нанач малады хлопец. Лежаць яны сабе абняўшыса да жартуюць, а маскаля й сон не берэ — прыслухоўваецца, як маладось цешыцца. Хлопец

прынёс з сабою кварту гарэлкі да пернікаў і цукеркаў на закуску; выпіў ён сам ля разону да й дае дзеўцы. Тая лыканула трохі з пляшкі да й запырхаласа. От і пачаў хлопец жартаваць да прыставаць к дзеўцы, а тая кажэ: «Атчапіса, мара! Я баюса, бо яшчэ будуць дзеці, дак хто іх стане гадаваць?» — «А той, што над намі»,— адмаўляе хлопец. Ён хацеў сказаць, што дзецей Бог выгадуе. Зачуў тое маскаль да як крыкне: «А, хварэць жэ вашуй матары!» Ці ж гэто я буду гадаваць вашых байструкоў?» Спужаліса тыя да ў ногі. Злез маскаль, забраў гарэлку да прысмакі, забраў свой клунак да й пашоў далей. Дак ужэ мо дабраўса да господы.

Мікіта Варабей

В. Рожан

## 85. ТРЫ КСЕНДЗЫ

Даўней ксендзы валачыліса па сьвету да дурылі людзей, каб яны слухалі паноў, шчыро рабілі да давалі на хвалу Божую. А дзе там тое Бог бачыў. Людзі дадуць, а ксендзы да паны сажруць. От раз сышліса разам тры ксендзы: язуіта, барнадын да капуцын. Блізко не было двара, каб наесціса да напіцца ў пана. Ведамо, паны заўжды ксендзоў паважалі да частавалі. Нема чаго рабіць, трэ пацерпець. Пашлі яны разам да й заходзяць пасілкавацца ў адну карчомку. Зайшлі ў алькерык да й казалі сабе даць гарэлкі да закускі. Карчмар быў бедны да на той час апрыч гарэлкі ў яго нічого не было. Бо, ведамо, у малых карчомках заўжды нічого нема. Мужыкі п'юць гарэлку да закусваюць языком, а хто хочэ, канешне, закусіць, та з дому прынесе з сабою ў кішэні ці за пазухою галоўку кіслае капусты, акраяц хлеба, таран, угурок або абы-што. От ксендзы лыкнулі мо па адной ці па другой чарцы, а закусіць нечым. Бачаць яны, аж на двары кала абозьні ходзіць курыца. Давай яны яе лавіць. Бегаюць ксендзы, падняўшы полы, а курыцы не могуць злавіць. Бегала яна, бегала тудысюды, а за ёю ксендзы, нарэшце згубіла яйцо да й залезла дзесь пад абозьню. Схапілі ксендзы тое яйцо да й велелі жонцы ландара яго зварыць. Зварыла да падала

жанчына яйцо. Не ведаюць ксендзы, як яго падзеліць. Рыхтавалі яны, рыхтавалі, але нічого не ўрадзяць. Нарэшце атаўбаваліса на том, што той зьесь яйцэ, хто лепш другіх прыкажэ. Узяў першы капуцын яйцо, пачаў яго лупіць да й прыказвае: «Ачысь яго ат шкарлупы непраўды». Толькі ён хацеў палажыць тое яйцэ ў рот да праглынуць, як ось з яго рук берэ барнадын. От узяў ён яйцэ, пасыпае яго сольлю да прыказвае: «І пасалі яго сольлю мудрасьці». Сказаўшы тое, хацеў ён палажыць яйцэ ў рот да з'есьці. Але ось берэ тое яйцэ ў яго з рук апошні ксёндз язуіта. Ён зірнуў на сваіх таварышоў да й кажэ: «Ачысьціўса ат шкарлупы непраўды, абсыпаўса сольлю мудрасьці, дак увайдзі да хвалы твайго пана». Пры гэтых словах язуіта ўнёс яйцэ ў рот да й праглынуў. От з тых часаў годзі капуцыны й барнадыны таварышаваць з язуітамі.

Ясіньські

В. Рожан

## 86. СЬВІНОЕ РЫЛО

У неякум царстве, у неякум гасударстве жыў-быў адзін Бортнік. У яго была малая гаспадарка: старэнькая хатка да адна кароўка да й тая безхвостая. Толькі даў Бог яму много пчолак. Тые насілі яму салодзенькі медок да збіралі воск на хвалу Божую. Зрана й да вечара даглядаў Бортнік сваіх пчолак, рабіў ім вульі да сцерог, каб жоўны не клевалі да мышы не лазілі або каб часамі на пасеку не забраўса медзьведзь ці які ліхі чалавек. Быў ён ужэ ў серэднюм веку, а жыў адзін бы кол. Ужэ пагаворвалі суседзі, што ён якісь шалапаваты, бо жыве не так, як людзі. І пачалі яго суседзі цурацца да абходзіць, бы ліхого чалавека. Толькі жыла там дзевачка-сіротка. Засталаса яна з маленства без айца да без маткі да так і гадаваласа неведамо ў каго і як. Мо ўжэ ёй было гадоў шэсць, як пачала яна пасьціць гусі. От загоніць яна гусі на рэчку, а сама забежыць к Бортніку на пасеку, назрывае там кветак да й плеце сабе венок або слухае дзяцька Бортніка, як ён кажэ казкі. Немаль

з рана й да вечара кожын дзень седзіць яна на пасецы да дзівіцца, як пчолкі носяць медок. І так палюбіў яе Бортнік, што як яна седзіць на пасецы, та яму здаецца, што й не трэба лепшаго жыцця. Падрасла яна да й стала гожаю дзеўчынаю, а Бортніка не забывае. Равесніцы цягнуць яе з сабою на йгрышчэ або на веселье, а яна бежыць на пасеку да рве там кветкі бы малая блазніца. І пачалі кала яе ўвівацца хлопцы, пачалі да яе сватацца, але яна й слухаць не хочэ, кажэ, што яна любіць толькі кветкі да Божые пчолкі. Залецаліса, залецаліса хлопцы, нарэшце абазліліса да й кажуць, што гэто той шалапаваты Бортнік здурыў тую дзеўчыну, што, пеўне, й яна такая ж шалапаватая, як і ён. Аткаснуліса ат яе хлопцы, як ат накідзішча, а яна й рада: плеце сабе з кветак венкі да пае песні. А пела яна бы салавей. Слухае Бортнік і здаецца яму, што ён не на пасецы, што ў яго вырaслі крыла і што ён бы Божая пчолка леціць куды хочэ, купаецца ў кветках да п'е салодзенькі медок. Але ось яна запае пра сваю горкую сірочую долю, запае так жаласліво, што ў яго самі слёзы льюцца бы з лісця раса, і ўбачыць ён усю сваю адзінокую жытку й так цяжко яму стане на сэрцы, баццэ сам себе пахаваў. Не радуюць яго й Божые пчолкі, не радуе й яснае сонейко. Седзіць Бортнік, павесіўшы голаў да ўсе слухае да ўсе плачэ. Заціхне яна, наложыць на яго венок да й кажэ: «Ты мой царэвіч, што я чула ў казцы». Падніме ён вочы, зірне на яе й здаецца яму, што гэто не сіротка, а тая пракрасная царэўна, што кажуць у казках. От так мілаваліса яны да любаваліса ўсе лецечко, пакуль цьветочкі заяўлі, лісткі пажоўклі да пчолкі насіць медок перасталі. Прышла восень з дождыкам да з туманом. Павеяў халодны ветрык. І пахаладзело ў іх на сэрцы да й зрабіласо якась маркотно. Седзіць Бортнік у сваёй старэнькуй хаце, слухае, як вецер сьвішчэ за вугламі да плачэ ў коміне, і ўспамінае ён як праз сон краснае лецечко, яснае сонейко да гожые кветачкі, як на іх пчолкі збіраюць медок, але больш усяго ўспамінае тую дзеўчыну, што так гожэ пела да так соладко глядзела ў вочы. Стукае сэрцэ, як не выскачыць у яго з грудзей; і так захочэцца яму ўспомніць твар дзеўчыны, што аж не мажэ вытрымаць, але песні чуе, а яе ніяк не бачыць, от

расплываецца, бы ў вадзе, як яна лелее. Усхопіцца ён і бежыць шукаць свае дзеўчыны. А яна прадзе, а ёй здаецца, што гэто не верацено гудзе, а паюць Божые пчолкі, збіраючы з кветак пахучы медок. Пазірае яна на кудзелю, а ёй здаецца, што гэто коскі Бортніка. І пачне яна ўспамінаць краснае лецячко, ясные дзенькі да гожые кветкі. Але больш усяго ўспамінае Бортніка да так задумаецца, што й не ўбачыць, як ён увойдзе ў хату. Зірне яна й разам загарыцца бы макаў цвет. Доўго гэ яны ўздыхалі, нарэшце дагадаліса да й пабраліса. Жывуць яны ў бедноце, але ў ласцы да й згодзе бы ў раю. Дачакаліса яны краснаго лецечка да давай заводзіць гаспадарку. Не надзівяцца людзі, як гэто шалапаваты Бортнік і яго жонка старэнно да добрэ даглядаюць сваю гаспадарку. І пачалі яны жыць як усе добрые людзі. Разжыліса яны, а тут ось Бог даў ім сынка да такого гожаго, такого ўдалаго, што людзі не могуць надзівіцца. Бабы толькі ахкаюць да пытаюць адна ў другое: «Ці ты, родная, бачыла, якого хлапчука прывела Бортнічыха? Такі гожы, такі гожы, што мо такого нема й на ўсём сьвеце». Не нарадуюцца бацькі з таго хлапчука. А ён расце бы на дражджах да ўсе харашэе. Расце хлопец на падзіў усему сьвету. Хто яго ні ўбачыць, та не мажэ атарваць ачу. І пашла далеко прачутка аб харастве таго хлопца. Дайшла яна аж да царыцы, матулькі Кацярыны. Хочэцца ёй убачыць таго харошаго хлопца, але не можна яго патрэбуваць к сабе, бо ён у другом царстве. От паслала яна к таму цару пасланцоў, каб яны купілі таго хлопца й прывезлі к ёй. Прыехалі пасланцы, прывезлі з сабою много золата й розных падаркаў, далі таму цару да й просяць, каб цар даў іх царыцы таго гожаго хлапчука. Цар велеў ім абаждаць, а сам паслаў прыказ Бортніку, каб даставіў свайго сына. Нема чаго рабіць, трэ слухаць царськаго прыказу. От запрог Бортнік сваю кабылку, пасадзіў сына да й паўёз. Збегліса бабы, маладзіцы й дзеўкі са ўсяго села да й плачуць, бы таго хлопца хаваюць ці везуць у некруты. Лезуць жанкі да дзеўкі, каб яшчэ хаць разок зірнуць на харошаго хлопца, а той не ведае, куды ад іх схавацца, бо так яны напрыкрылі, што прыстаюць бы смала жывіца, што лепш бы на іх і не пазіраў. Рад ён, што вырваўса ад

жанок да й просіць бацька, каб паганяў кабылку. Але, мусіць, ужэ так Бог даў, што гожаму хлопцу нідзе нема спакою ат жанчын. Куды ён ні прыедзе, дак зараз жанчыны адна перад другою акружаць яго атусюль да так прыстаюць, што й дыхаць не можна. Замучылі яго бабы пакуль ён дабраўса да цара. Але ось пашла чутка, што к цару прывезлі такого гожаго хлопца, якого й сьвет не бачыў. Дачуласа й царыца. Адзеласа гэто яна ў самую лепшую адзежу і велела таго хлопца прывезці к сабе. Зірнула яна да й не жыва, так ёй спадабаўса той хлопец. Зірнуў на яе цар да й кажэ, што гэстаго хлопца просіць сабе царыца Кацярына. «Трэба,— кажэ,— яго аддаць ёй». Дак куды там, царыца й слухаць не хочэ. «Не дам да й толькі»,— крыкнула яна да й тупнула нагою. Ведамо, жанчына, мой Божэ, заўжды пераможэ. Спужаўса цар і не ведае, што рабіць. І жонкі баіцца да баіцца царыцу Кацярыну прагневіць. От пачаў ён радзіцца з панамі да баярамі, што тут рабіць. І парадзілі яны, каб цар сам паехаў к царыцы Кацярыне да й расказаў усю справу. Паехаў цар к царыцы Кацярыне нібыто ў госьці. Пакуль ён ехаў, тым часам царыца пачала прыставаць к таму харошаму хлопцу. Уцёк ён ат царыцы да праклінае сваю долю, да чуць не наракае на Бога, што даў яму такое хараство. І пачаў ён плакаць да ўбівацца. Але чым больш плачэ, тым харашэйшы робіцца. Лезуць к яму жанчыны бы мухі на мёд. І пачаў ён прасіць Бога, каб узяў у яго хараство. Тым часам царыца Кацярына выслухала цара да й дагадаласа, што тая царыца працівіцца, от яна затрымала цара ў себе, нібыто ён ёй вельмі спадабаўса, а тым часам велела свайму войську забраць тое царство, а таго гожаго хлопца прывезці к ёй. Пашлі людзі ваяваць, пашлі кроў праліваць, пашлі царыцы гожага хлопца дабываць. Ці доўго, ці мало яны ваявалі, ўёскі палілі, людзей забівалі, толькі нарэшце тое царство забралі. Пакуль ішла вайна, Бог учуў малітву таго хлопца, убачыў яго слёзы да й узяў у яго хараство. От ужэ непрыяцельскае войсько забрало сталіцу да й уходзіць у царськіе палацы. А царыца ні на чого не ўважае, абы толькі ёй абняць таго гожага хлопца. От велела яна, й прывелі яго к ёй. Толькі яна хацела яго абняць да пацалаваць, аж

зірне — яго твар абернуўса ў сьвіное рыло. Крыкнула тут царыца, а з яе й дух вон выперло. Забрало войсько царськіе палацы, і пачалі шукаць таго харошага хлопца, ператраслі ўсе царство, а яго нема. Пасадзіў Бортнік сына сьвіное рыло на воз да й паехалі яны да господы. Зірнула матка да пазнала толькі вочкі свайго сынка. І пашоў ён у лес да й зрабіў сабе зямлянку. Доўго яшчэ жыў там, маліўса Богу да вучыў і лечыў людзей. І пачалі ўсе казаць: «Сьвяты ён чалавек, дарма што сьвіное рыло». Кажуць людзі, што на том мейсцы, дзе яго была землянка, й цепер яшчэ стаіць каплічка, а ў ёй абразок таго сьвятого з сьвіным рылам.

Р. Кухталь

В. Рожан

## 87. ІНЬШЫ СОН ЯК У РУКУ ДАСЬ

Быў сабе адзін поп да вельмі бедны. Прыход маленькі, людзі бедные — немашака з іх ніякаго прыходу. Хундушовая земля — адзін песок жоўценькі бы золато. Трымаў ён сабе парабка, горкаго п'яніцу Сьцепана Штукара. Яго дражнілі Штукаром затым, што гэсты дохлы п'яніца часамі такіе вычвараў штукі, што й не прыдумаць. Жыве сабе Штукар у папа да голадам падыхае, бо поп хаць бедны, але дзецей мае як бобу. Яны хаць дробные, але ядзяць бы саранча. Што поп ні заробіць, як хавае каго або хрысціць, дзеці адразу з'ядзяць і не абліжуцца. А тут непадалечку паабапал папа жывуць сабе да таўсцеюць вельмі багатые пан і карчмар. Ведамо, калі людзі беднеюць, та пан і карчмар заўжды багацеюць. Чаго толькі ў пана нема, хіба мо птушачаго малака. Да што й казаць! Ведамо, як у пана ў багатум двары. Аднаго сала мо дзесяць кублоў. Еж, хаць падавіса. У ландара сала саўсім немашака, хіба гусіны шмалац, дак затое ў яго абаранкаў цэлае вясло, аселенцаў поўная бочка да гарэлкі, хаць захлебніса. Падойдзе Сьцепан Штукар у двор, палядзіць на паньскае дабро да толькі сліну каўтае. І так у яго кала сэрца заўе, так яму зробіцца моташно, што ён просто з двара й

пабежыць у карчму. Толькі як лыкне кручок ці два, дак трохі палегчае. Ужэ не раз Штукар зарыўса ўкрасці ў двары што-небуць, да ўсе баяўса, бо куды ты дзенеш, калі немашака ніякаго прытулку. От раз вельмі яму захацеласо есці, от ён прышоў да папа да й кажэ: «Бацюшко, ці ведаеш, што я прыдумаў. Пан багаты, уселякаго ў яго дабра много, аж з горла прэ, а нам нема чаго, каб душу падперці. Дзе ж праўда?» Раскірачыў Штукар ногі, растапырыў палцы да так пазірае, што поп аж зарагатаў. «Не смейса, бацюшко! Нема праўды на сьвеце».— «Праўда ест, да мы яе не бачым, бо сьвет грэшны, дак Бог нас карае».— «Не, бацюшко! Нема праўды, калі ў аднаго з горла лезе, а другі дохне з голаду. Чаму пан багаты, ■ мы бедные?» — «Бо так Бог даў. Ён ведае, што робіць. Яго пуці ніхто не знае». І пашоў поп вучыць Штукара, пашоў яму гаварыць цэлае казаньне да й кончыў на том, што багатые на том сьвеце будуць у пекле смажыцца ў смале, а бедные пойдуць у рай. Слухаў, слухаў Штукар, нарэшце й кажэ: «Сам Бог казаў выцягці з калодзіся казла, а мы, бацюшко, выцягнем у пана вала».— «Што ты кажэш? Якого вала?» — «Гладкаго, бацюшко, вала».— «Не разумею твае гаворкі».— «Украдзьмо ў пана вала, та й будзе што есці».— «Гэто ж грэх».— «Які грэх? У пана красці не грэх, бо пан багаты. Ён у нас пакраў, а мы свае дабро возьмем назад. Дак гэто ж не грэх». Доўго адгаворваў поп Штукара, каб ён нічого не краў у пана, нарэшце махнуў рукою да й кажэ: «Рабі, як знаеш». Пачасаў Штукар патыліцу да й вышаў. Толькі ось уходзіць да папа матулька да ўжэ з самаго парога пачынае крычаць да лаяцца, што поп седзіць дома, нічого не робіць, а тут дзеці галодные, у хаце ні крошкі хлеба й нема чаго ў гаршчок палажыць. Заткнуў поп вушы да бегом з хаты, аж тут якраз сустракае Штукара. Хацеў ён пасласць яго на ўёску, каб пазычыць хлеба да закрасы, але той не даў і вымавіць да й пытае: «Дак што ж, бацюшко, возьмем вала?» — «Возьмем, возьмем»,— адмаўляе поп бы шалёны. От Штукар заўёў папа ў адрыну, падвезаў яму доўгіе кудлы, падабраў раску, а зверху надзеў свае лапікло, да й пашлі яны ў хмызнік, дзе паслосо скарбовае гаўядо, занялі там самаго гладкаго вала, загналі

ў лес да й зарэзалі. Нема чаго рабіць, завіхаецца поп кала вала, а Штукар толькі камендуе. От злупілі яны з вала шкуру, павесілі яе на галіну сушыцца, а мясо пачвертавалі, закапалі ў землю да й засыпалі трухою з сухого балота. Сверху завалілі каладзьём, а самые лепшые кускі прынеслі дамоў да й давай спажываць. Агледзеліса ў двары, што німаш самаго лепшага вала, от яны туды-сюды, бегалі, бегалі — от бы скрось землю праваліўса. Ну, думаюць, мабыць, дзе адбіўса ат гаўяда, дак ваўкі зарэзалі. Але пану шкода добрага вала, от ён велеў пазваць знахароў, каб яны паваражылі да сказалі яму, дзе той вол. Прыходзяць знахары, варожаць, але кожын гаворыць інак. Адзін кажэ, што вол заплутаўса ў лесе й не мажэ выбрацца з балота; другі гаворыць, што ваўкі зарэзалі; трэйці плеце, што цыганы ўкралі, але ніхто дасканало не скажэ, дзе яго найці. Тым часам Штукар седзіць сабе ў карчме п'яненькі да пахваляецца, што ён ведае, куды дзеўса паньскі вол. Пачуў тое ландар да й пабег казаць аб том пану. Пакуль ландар збегаў к пану, Штукар дастаў з кішэні дзьве палачкі, выняў з верэнькі збанок, прылажыў тые палачкі к дну купы з гарэлкаю, да як уперса каленам пасерэдзіне ў тые палачкі, яны выправіліса, да так расперлі клепчыны, што цераз уторы й забурчала гарэлка. Нацадзіў ён сабе повен збан да й пацёгса дамоў. «Дзе ты быў?» — пытае поп, катораму яшчэ вол вельмі карціць. «У карчме, бацюшко,— атказвае п'яны Штукар.— Ось прынёс гарэлкі на магарыч бацюшку за тое, што вельмі смачнае мясо». Поп скрывіўса, аж яму вочы пад лоб завернуло, але ўсе-такі пераліў гарэлку ў пляшкі дай й схаваў. «Нема калі мне з табою дурыцца»,— кажэ поп. От ён адзеў лепшую раску, прычасаў збольшага кудлы да й пашоў к пану, каб і яму сказаць таму прыемнае слаўцо ў нешчасьці. Прыходзіць поп, аж там ужэ много сабралосо ў пана гасцей. Седзяць яны, п'юць, ядзяць да размаўляюць аб том, як цяпер кепсько жыць на сьвеце, як много ўселякіх прыпадкаў; як, напрыклад, прыпадак пану з валом гаворыць і поп да яшчэ складней ад усіх.Ківае яму пан галавою, сам налівае яму віна да гарэлкі, частуе добраго гаваруна да падкладвае яму лепшые кускі. Жумрыць поп, толькі барада трасецца бы ў каз-

ла. Тым часам паслаў пан па таго Штукара, каб ён сказаў, што ён знае пра вала. Прышоў Штукар, раскірачыў ногі, растапырыў палцы да й стаіць сабе ў парозе. «А што скажэш, каханы?» — пытае пан. «Усе добрае, паночку».— «А па добрум што?» — «Дачуўса я, што ў пана прапаў вол».— «Прапаў».— «А добры вол?» — «Добры».— «І з рагамі?» — «З рагамі».— «І з хвастом?» — «Ну, вядомо, з хвастом»,— кажэ з нецерпеньнем пан, катораму ўжэ надаело слухаць п'янаго мужыка. «Дак пеўне ж гэто той самы вол»,— крыкнуў на ўсе пакоі Штукар і сплеснуў рукамі. «Які той самы?» — пытае пан, котораго ўжэ ўзяла цікавасць. «Да той, што я бачыў».— «Да дзе ж ты бачыў?» — «На поплаве кала хмызніку».— «Калі ж ты бачыў?» — «От гэто добрэ не ведаю, паночку, ці ўчорэ, ці заўчорэ, а мо й пазаўчорэ, толькі добрэ памятаю, што тое было ў досьветкі». — «Дак што ж было з тым валом?» — «Нічого, паночку. От стаіць сабе вол да такі рагаты, што хаць ты вілы з рог рабі, стаіць сабе да траву языком косіць, от баццэ касою. Але ж у пана й трава на поплаве. Далібошто, можна касіць».— «Дак кудыш пашоў вол?» — з нецерпеньнем пытае пан. «Нікуды не пашоў, паночку. Гэто я сам ад яго пашоў, паночку».— «Куды ж ты пашоў?» — «Ой, ведамо ж, паночку, хто мае дамоўку, той ідзе да гасподы, а ў мене яе немаш, дак я пацягса к папу. Думаю, ось матулька дась якое-небуць бульбы лаптух наледаваць».— «Цо ты, дурню, плецеш»,— закрычаў пан да ўжэ хацеў і прагнаць п'яніцу. «Пан крычыць на мене, а я ж думаў, што пан хочэ ведаць, дзе прапаў вол».— «Дак кажы, што знаеш».— «Толькі нехай пан не перабівае да не крычыць, бо я й забудуса».— «Ну, кажы».— «Дак от паглядзеў я на паньськаго вала, які ён гладкі да гожы да й думаю: от каб мне такім быць. Што валом, мабыць, паньськім сабакам лепшая жытка, як наша. Дзе ж тая праўда на сьвеце. Што ж гэто Бог робіць!? І прыпамянуў я, што наш бацюшко ўсе кажэ: Бог ведае, што робіць. От я ўзяў бацюшку да й пашлі мы аглядаць таго вала. Вельмі спадабаўса ён нам. От мы яго загналі ў хмызнік да там і зарэзалі. Бацюшко злупіў шкуру».— Тут усе азірнуліса на папа, а ён не седзіць, а ўсё круціцца бы на калу да та пачырванее, та пабелее, кру-

ціцца, аж пот з яго валіць, бацэ толькі што вышаў з лазні. «Эгэ ж, дай Божэ памець. От і забыўса, што далей. Ага! От бацюшко й пытае, куды дзеваць шкуру? А я кажу: павесім на галіну, нехай сушыцца. От павесілі мы шкуру, пачвартавалі мясо, падзелілі, потым пачалі кішкі дзеліць. Ухапіліса мы за кішку разам. Я цягну к сабе, а бацюшко к сабе, я к сабе, бацюшко к сабе, кішка й парваласа, а гной з яе як сьвісне нам у вочы, дак я й прахапіўса».— «Дак гэто ты сніў?» — «Але ж, сніў, паночку. Але хаць сон гразь, толькі іншы як у руку дась».

Сасноўські

В. Рожан

## 88. КРАВЕЦ З ТАГО СЬВЕТУ

Даўней людзі яшчэ не былі такіе хітрые, як цепер. Жылі яны просто, як Бог паказаў; ніхто нікого не крыўдзіў, бо баяўса граху; ніхто нікого не ашукоўваў, каб і яго людзі не ашукалі. Затым усім і добрэ было жыць на сьвеці. Толькі вось зьявіліса такія людзі, што захацелі забагацець, от і пачалі яны ашукоўваць да крыўдзіць людзей. І нарэшце пашло па сьвеці такое круцельство, што кожын адзін другого ашукоўвае да толькі наровіць, каб яму было добрэ. Але трасца яму ў зубы, а не дабро, бо заўжды знайдзецца яшчэ хітрэйшы, што й яго ашукае або гарэй скрыўдзіць. От жыў сабе адзін бедны кравец. Ведамо, з працы рук много не заробіш. Колькі ні працуй, та й то хвала Богу, калі заробіш кавалак хлеба да які зламаны грош на патрэбу. А часамі й нічого нема, хаць ідзі ў старцы. Гэ й той кравец, як ён ні стараўса, як ні працаваў, а не мажэ дзетак пракарміць. От пачаў ён шыць вопратку да прадаваць на кірмашы. Раз не было яму часу самому йці на кірмаш, дак ён паслаў жонку, каб яна прадала тую вопратку. «А колькі ж прасіць за гэстую вопратку?» — пытае яго жонка. «А як на торзі»,— атказвае ён. Несе жанчына вопратку, а людзі пытаюць яе, колькі яна хочэ. «А як на торзі»,— адмаўляе яна. От прышлі яны на кірмаш. Людзей сьвет, от бы на

хвэсьці. Усе крычаць, лаюцца, таргуюцца да божацца, аж глушаць. Пытаюць і тую жанчыну, колькі яна хочэ за вопратку, а яна ўсе адно атказвае, што як на торзі. Паслухалі людзі да падумалі, што гэто, мабыць, якаясь шалапаватая ці саўсім дурная. От якіесь мешчаньчукі давай шуткаваць да кпіць з тае жанчыны, а яна гаворыць ім усе адно, што як на торзі. «Бачыш, маладзіца,— кажуць яны,— на торзі патаргуюцца, патаргуюцца да й беруць уселякіе рэчы. От і мы ўжэ даволі патаргаваліса». І забралі яны тую вопратку ат жанчыны без грошэй да й пашлі сабе. Пастаяла, пастаяла тая жанчына да й пашла да господы. Ці рано, ці позно прыходзіць яна дамоў і без вопраткі, й без грошэй. Распытаўса кравец, як яна прадавала вопратку, да й дагадаўса, што гэто яе абшукалі. Аблаяў ён жонку, абазлаваўса на ашуканцаў да й годзі жыць па-божаму, годзі гаварыць праўду. «Пачакай жэш,— крыкнуў ён,— цепер каго ні стрэну, та ашукаю, пакуль за свае вазьму». От узяў ён сваю краўцоўськую снасьць, а ведамо, якая ў краўца снасьць: голкі ў пазусі, нап'ёрстак у кішэні да прас на кіёчку, на каторум нарэзаны локці да аршыны, да й пашоў у сьвет. Прыходзіць ён у место да й гукае, што вельмі добры кравец, з таго сьвету. Прыслухаласа адна пані, пазвала к сабе да й пытае, што робіцца на том сьвеці. А ў яе, бачыце, недаўно памерла гожая дачка. «Чаго, на том сьвеці вельмі добрэ,— кажэ кравец,— толькі адзене хутко псуецца, бо ў землі трохі вільгаць».— «А ці не бачыў ты там мае Анелькі?» — пытае пані. «Чаму не, бачыў. Ой, якая гожая паненка, дак моо ў ва ўсём небе нема ёй раўні, толькі, прапрашаючы паню, сукенка парвалася да трохі ззаду сьвеціцца».— «Ой мой мілэнькі, ці не можэш ты занесьці ёй новую вопратку?» — «Чаму не, занесу». Пачаставала пані краўца, напхала яму поўны мешок featuresнаго адзеня да яшчэ дала й грошэй на дарогу. Ускінуў ён клунак на плечы да й пашоў. Тым часам прышоў дамой гаспадар тае пані. От яна й пачала казаць яму, як заходзіў кравец з таго сьвету, што ён казаў аб іх дацці да й прызналаса, што паслала на той сьвет добрую вопратку. Дагадаўса той чалавек, што кравец накпіў з яго жонкі, распытаў, куды ён пашоў, сеў хучэй на каня да й пусьціўса наўздагон. Чуе кравец, што

хтось гоніцца ззаду, кінуў хучэй мешок у кусты, а сам пашоў насустрэк. Толькі ось сустракае яго той гаспадар да й пытае, ці не сустрэў ён краўца з клункам за плячамі. «Як жэ,— атказвае кравец,— сустрэў такого от тут саўсім блізенько, толькі ён пашоў у кусты. Пеўне, ты яго не трапіш. От хіба ж дай мне свайго каня, та я духам яго даганю, а то, бачыш, у мяне ногі штось падбіліса». От той гаспадар злез з каня да й седзіць на дарозі, чакае, пакуль вернецца той кравец. А кравец тым часам сеў сабе на каня, ускінуў на яго клунак з адзежаю да й паехаў да гасподы. «Ну,— думае ён — будзе з мене за тое, што маю жонку людзі ашукалі». Седзеў, седзеў той чалавек на дарозі, чакаў, чакаў краўца да так і не дачакаўса. Толькі ось едуць людзі да й кажуць, што сустрэлі такого чалавека, але што ён цепер ужэ вельмі далеко, бо гнаў каня звуса. Дагадаўса той гаспадар, што кравец і яго ашукаў, пашоў дамой пешкі да й кажэ жонцы: «Дагнаў я таго краўца, сам распытаўса, як на том сьвеці нашуй Анельцы да яшчэ паслаў ёй каня, каб пешкі не падбівала сваіх ножак».— «Я заўжды знаю й кажу, што ты такі добры, такі харошы, якіх і на сьвеці нема».— «А ты ў мене такая разумная да добрая гаспадыня, што што б ты ні рабіла, та мудрэй ат усіх людзей».

Сасноўські

В. Рожан

## 89. ХАРАСТВО — СІЛА

У неякум царстве, у неякум государстве колісь жыў адзін цар і задумаў ён жаніцца. От сабралі к яму самых гожых дзевак са ўсяго царства на пагляд. Аглядаў, аглядаў цар тых дзевак, але ніякая яму не спадабаласа. Князі да міністры не ведалі, што рабіць, і давай яны шукаць гожых дзевак у чужых краёх. Назьбіраласо к цару самых гожых дзевак са ўсяго сьвету цьма-цьмущчая, але ніякая яму не спадабаласа. «Нема,— кажэ ён,— такое гожае дзеўкі, каб яна была мне па серцу, дак я сам пашукаю». От пераадзеўса ён папросту да й

пашоў у сьвет наглядаць сабе дзеўку. Хадзіў, хадзіў, але ўсюды так много гожых дзевак, што ніяк ён не мажэ выбраць, якая ад іх харашэйшая. Нарэшце плюнуў ён на хараство, да давай выбіраць сабе такую жонку, каб яна лепш усіх умела рабіць дзело. «От,— думае сабе,— каб мне знайці такую, каб яна з саломы да з сена прала залатые да едвабные ніткі». Давай ён распытоўваць у баб, але тые кажуць, што дзеўкі вельмі гожэ прадуць лён, гожэ ткуць палотна да рушнікі, гожэ нашываюць сабе ўселякіе цацкі на сарочках да хвартухох, толькі такіх, каб яны пралі салому да сено, тутачкі не чуваць. Дачулася аб том адна бедная ўдава да й запрасіла цара к сабе. А ў яе была вельмі гожая дзеўка, да такая гультайка, што нічого не хацела рабіць; затым яе ніхто не хацеў браць замуж. Ведамо, у хаджайстве нема чаго пазіраць на хараство, а трэ дзело рабіць. От улез цар у хату, а дзеўка агінаецца бы сабака да толькі папраўляе сабе косы. От матка й крычыць на яе: «Чаму ты не прадзеш?» — «Нема кудзелі»,— атказвае яна да й пабегла з хаты гуляць з дзеўкамі па загумечы. «Ото ж беда,— жаліцца тая ўдава цару,— дзеўка папрала ўсе кудзелі, папрала ўсю салому да сено, цепер хіба трэ зрываць апошнюю салому з хаты». Пачуў тое цар да й узяў тую дзеўку к сабе ў палацы. Тут ён прыставіў к ёй тры старые бабы, каб яны даглядалі, як тая дзеўка прадзе салому да сено. Бачаць бабы, што простая мужычка будзе царыцаю, да давай ёй памагаць. От дасталі яны самаго лепшаго кужалю да й напралі шмат такіх нітак, што моо таней воласу. Паглядзеў цар на тую работу да й узяў тую дзеўку. Жыве сабе яна царыцаю, нічого не робіць да толькі камендуе, камендуе князямі да міністрамі, а больш усяго царом. А тым старым, зморшчаным бабам у царыцы такая жытка, што й паміраць не трэ. От раз цар і пытае царыцу, чаму яна не прадзе. А царыца атказвае: «А хіба ж ты хочэш, каб твая жонка, твая царыца да была такая зморшчаная, як ось гэстые бабы, што пралі ўсю жытку». Зірнуў цар да й кажэ: «Нехай будзе па-твойму, бо, мабыць, на сьвеці хараство — сіла».

Сасноўські

В. Рожан

# 90. ВОЎЧАЯ ДОЛЯ

Даўно была тая справа, як Бог стварыў сьвет і кождуй рэчы даў звычайнае назначэньне. Рыба паплыла ў вадзе, зверы пабеглі па землі, шукаючы сабе мейсца. Адны зрабілі сабе норы, другіе выкачалі котла або залезлі ў нетры пад вываранцье, трэйціе ўбіліса ў гушчэчу ці схаваліса ў лом, іншые ўзлезлі на дзераво да й прытаіліса ў густых ветках або залезлі ў дупленатые дзераўлякі. Птушкі пачулі сваю здольнасць, пырх і палецелі ў небо высоко над землёю. Доўго яны кружыліса ў небе, паднімаліса аж к самаму сонейку, але апалілі сабе крылца да й мусілі спусціцца на землю, каб аддыхаць і пасілкавацца. Спусціліса птушкі ўніз і пачалі віць сабе гнездзечка, пачалі жыраваць. Спалохаліса перш чэрві, жучкі, матылькі, потым спалохаліса яшчаркі, жабы, гады і рознае малое стварэне. Спалохаліса яны і пабеглі, папаўзлі, паскакалі, палецелі да й пахаваліса хто куды мог: хто ў землю, хто ў ваду, хто залез на расліну або куды, а хто пачаў абараняцца жалам, зубамі ці гойстрымі калючкамі. Як узрухаліса малые зверкі, дак затым узрухаліса й большые зверы й жыўёло. Спужаліса яны адзін другого ды й пачалі біцца й кусацца, а хто не дужы, той уцекаў і хаваўса, куды мог. Ліс і барсук выкапалі сабе норы, бобер і выдра схаваліса ў воду да й спалохалі там рыбу. Рыба пачала ўцекаць, пачала хватаць адна другую. Ментуз і ўюн залезлі ў гразь, рак папоўз у норы, окунь паставіў сваe калючкі, толькі адна шчука пачала смело гуляць на глыбі да хватаць маленькую рыбку. Бегало, бегало тое ж жыўёло, што не мае моцных зубоў, каб абараняцца ат варагоў, і прыбегло к чалавеку. Узяў яго чалавек к сабе на паслугі да на карысць і пачаў яго ратаваць ад драпежнага звер'я. От так пачало жыць разам з людзьмі говядо, пачало служыць людзям, працаваць на людзей, каб яны аберагалі ат ваўкоў, медзьведзей і рознаго звер'я. Першым прыбег к чалавеку сабака да й пачаў лашчыцца, прасіць, каб той укрыў яго ад сваіх братоў ваўкоў. Ведамо, што свой гарэй чужого. Прылашчыў чалавек сабаку, за гэто той стаў самым верным таварышам чалавека, а самым заклятым ворагам свайго брата

воўка. Брэшэ сабака на воўка, брэшэ, не дае яму супакою. Куды ні сунецца воўк, усюды ён стрэне сабачы брэх, а ведамо, не так воўк баіцца сабакі, як яго звягу. Бегаў, бегаў воўк без прытулку, надаело яму бегаць, баццэ жыду без пачпарта і пашоў ён да Бога жаліцца на сваю долю і пытаць, чаму ён баіцца чалавека, хаць той і не мае такіх моцных зубоў, як у воўка. От стаў воўк перад Богам і злажыў сваю скаргу. Выслухаў Бог воўка да й кажэ: «Я даў табе моцные зубы, каб імі ты мог даставаць сабе жыўнасць; даў табе лёгкіе ногі, каб ты мог уцекаць ат дужэйшых за цебе варагоў. А чалавека табе нема чаго баяцца — не рабі яму шкоды, та й ён цебе не зачэпіць». Пакланіўса воўк Богу да й пашоў у сьвет. Хадзіў ён, хадзіў, прагаладаўса бы воўк, а тут куды ні сунецца, на якое жыўёло не зхочэ напасьці, то яно ці палеціць, ці так хутко пабежыць або схаваецца ў воду, а то саўецца ў клубочак, як вожык, да й наставіць свае гойстрые голкі. Толькі тое жыўёло лёгко адалець, каторае жыве разам з чалавекам. Церпеў, церпеў воўк да й давай рэзаць і тое жыўёло, што жыве пад апекою чалавека. Абазліўса чалавек да й пачаў ганяць да біць воўка. І нема яму з тых час нідзе супакою, бо яго гоняць па сьвету чалавек і голад. І бегае ён, бы з воўчым пачпартам, бо такая яго доля.

Сасноўські

В. Рожан

## 91. УПАРТАЯ БАБА

Была адна вельмі ўпартая дзеўка. Яна ніколі не згаджаласа з тым, што ёй гаварылі. Бало ўсе робіць уперак. Напакутаваліса з ею бацькі, але нічого не зробяць, ведамо, не выкінеш вон, бо ўсе ж свае дзіця, хаць паганае, але й паганаго шкода. Расьце тая дзеўка да з кожным днём становіцца ўсе гарэй да гарэй. Перш прыходзілі суседзі жаліцца, што яна абіждае малых дзеўчат, а потым давай лаяцца, што яна й хлопцам выдзірае вочы. Ведамо, хлопцы, хаць яны й упраўней, але

паддаюцца, бо не хочуць крыўдзіць дзеўку. А той толькі тое й трэба, чуць толькі яна закмеціць, што ёй даюць палёгку, дак яна лезе к табе, бы аса ў вочы. Яна думае, што гэто яна такая моцная.

От вырасла тая дзеўка; пара й чакаць сватоў. А тут усе бы змовіліса, ніхто й палкі не пакажэ. Бацькі й так і сяк, пачалі загадкамі да намёкамі жупіць та аднаму, та другому, пачалі чуць не самі сватаць сваю дачку, а ўсе маўчаць, зубы сцяўшы, бы vады ў рот набралі. Нічого не зробяць, гэстым таварам не наб'есса, маўчы да чакай, покуль знайдзецца купец-маладзец. А тут чым далей, тым гарэй, бо залежалаго тавару саўсім не хочуць купаваць. Ужэ бацькі думалі, што тая паганая дачка застанецца ў дзеўках, як ось знайшоўса адзін парабчук, што за яго ніхто не хацеў іці, да й узяў упартую дзеўку. Праўда, гэто была такая ж цаца, як і тая дзеўка,— ён ні ў кого не мог дажыць году, бо быў такі гультай, што й себе не хацеў дагледзяць, а такі задзірака, што яго абходзілі ўсе добрые людзі. Але бацькі рады, што збылі дачку з рук, што хаць такі знашоўса. От пабраліса яны, але жывуць не па-люцку, бо к ёй гаспадар не мажэ й падступіцца, бы к той наравістой кабылі. Маўчыць гаспадар, церпіць, бы гэто так і трэба. От жылі яны так моо год ці больш, нарэшце якісь людзі даведаліса да й пачалі кепкаваць з таго гаспадара, пачалі яму выбіраць вочы да гаварыць, што ён, мабыць, і сам баба, калі яму баба не трэ. Усе мог сьцерпець ён, але сьцерпець, што назвалі яго бабаю, ніякім правам не мог і паставіў сабе зламаць упартасьць паганае бабы. От раз кажэ ён жонцы, што хочэ з'ездзіць к яе бацьком у госьці. «Ото ж і я паеду»,— кажэ ўпартая баба. А таму тое й трэба. От запрог ён жарабіцу ў драбінкі, вымасьціў іх саломаю аж паверх аглабін, пасадзіў жонку да й папхаўса ў госьці. Цесь жыў у другой вёсцы. Туды ехаць трэ было цераз ліхую, вельмі трускую грэблю да цераз лес. От уз'ехалі яны на грэблю да на каладзяны мост, дак драбінкі скачуць, бы здатны хлопец казачка. Трымаласа, трымаласа паганая баба, але ніякім правам утрымацца не мажэ. «Паціху,— крычыць яна,— бо ўпаду». А ён яшчэ паганяе жарабіцу. Церпела баба, церпела, а нарэшце давай зневажаць гаспадара, што ён не

ўмее нават у госьці ездзіць. «Чаму не ўмею? Я добрэ ведаю, што тут усе добрые людзі прывязваюцца к возу, каб не зваліцца, але я знаю, што ты не зхочэш прывязвацца».— «Чаму не? Ото ж прывежуса, толькі ў цебе нема вероўкі».— «Нема вероўкі, та е пояс».— «Дак прывежы». От ён распераза́ў пояс да й прывезаў яе ўдоўшкі к дробінкам. Лежыць паганая баба на саломі, бы на перынах дагары да лае гаспадара, што ён сам не дагадаўса яе ўперад прывезаць. Маўчыць ён да паганяе жарабіцу. От пераехалі яны грэблю да й уехалі ў лес. «Давай развежу»,— кажэ ён. «Ото ж не хачу, нехай людзі бачаць, які ты гаспадар».— «Добрэ, нехай бачаць, што ■ гаспадар». От ён трохі зьвернуў з дарогі да й захадзіўса кала паганае бабы. Тая крычаць, зьневажаць, але ніхто не чуе. Тым часам жарабіца як пачула, што вожкі павісьлі, дак зачапіла за гнілы пень берэзіны да як абернула яго да спалохаласа да пабежыць, дак чуць не абернула воз. Скаціўса гаспадар з воза, а жарабіца так і паперла паганую бабу на ўёску. Гледзяць людзі да толькі сьмеюцца, што й упартая баба на свайго наскочыла.

Сасноўські

В. Рожан

## 92. ЦЬВЕТ ПАПЕРАЦІ

Гэто ўжэ праўда. Кажуць, было ў Гаўрыльчычах ці што. Мне казаў мой сябер, што ён сам знае таго чалавека. От ён, каа, пашоў раз на Купало ў лес шукаць здатнаго дзерава на корбы ля прасьніцы віць вероўкі. Дзень быў хмурны. Сонейка не было з самаго рана. Ён, мабыць, позно пашоў у лес да й там пахадзіў якуюсь часіну. Зірне ён, аж ужэ й цемнее. Ён баржджэй пабег да господы. Але як пачаў хучэй абходзіць вываранцьё да калоды, завалы ці якое-небуць ламач'е, дак саўсім заплутаўса й не ведае ў які бок іці. Хадзіў ён, хадзіў, а тут ужэ й саўсім сьцемнело да зрабіласо так, што хаць ты воко выкаль. Бачыць ён, што нічого не будзе, што яму

поцемку не вылезці з лесу, от ён і заначаваў там. Ведамо, палескі чалавек у лесі, бы дома, нічого не баіцца. А ён і забыўса, што гэто было на Купало. А на Купало кожнаму якась сумно. Ці праўда, ці не, што баюць людзі, нібыто на Купало правіць шабас уселякая нечысь, але лепш начаваць дома, спакайней, чым у лесі. От наклаў ён агню да тут і ўспамянуў, што гэто Купало. Як успамянуў, дак бы мароз так і пачаў шчыпаць плечы, а шапка на галаве й падняласа. Пачасаў ён плечы, нахлабучыў шапку да й седзіць сабе кала агеньчыку. Хаць ноч і так цёплая, аж парыць, але кала агеньчыку якась сьмелей. От ён наламаў вецьця, паслаў яго кала агеньчыку да й прылёг. Ці доўго, ці мало ён лежаў, толькі крыху прыкархнуў, як ось чуе, што хтось тупае, от баццэ капытамі. Падняў ён голаў, зірнуў та ў вадзін бок, та ў другі — нікого нема, толькі агеньчык патухае, бо дровы згарэлі. От ён падняўса да й пашоў зьбіраць ламач'е. Атышоўса ён ат агню моо з паўганоў, а тут кругом папераць па самые пахі. Зірне ён, аж яна цьвіце, бы агнем гарыць. Хацеў ён сарваць той цьвет, да толькі працягнуў руку, дак ось, мае вы каханенькіе, аткуль тое ўзелосо, якое толькі плягі на яго не кінуласо. От так атусюсь тырчком у вочы й суе яму ўселякая нечысь што папало. Схапіў ён хутчэй ахапку ламач'я да бегом к агню. Бежыць, толькі папераць ломіцца. Зірне ён, аж у лапці набіласо поўно цьвету папераці, аж ён гарыць, бы зоркі сіненькім агеньчыкам. Ускінуў ён на агонь ламач'я, узяў галавешку да й абчарціў ею кругом, от і заціхло ў лесі, бы ў вусі. Только ось падходзіць к яму якісь панічок у капелюшыку да й просіць паменяць лапці на новенькіе боты да яшчэ дае прыдатку. Паменяў ён лапці на боты да разам з лапцямі атдаў і цьвет папераці, а нечысьці толькі тое й трэба было. Лёг ён да й праспаў да дня. Прахапіўса, аж нема ні ботаў, ні лапцей, толькі засталіса галавешкі. Дак от якая справа.

Сасноўські

В. Рожан

## 93. ОТО Ж ДОБРАЯ ПАСУДЗІНА

Жыў сабе адзін чалавек. Было ў яго двое сыноў. Адзін просты, шчыры да работы хлопец, а другі якісь шарахвост. Ён много шляўса па сьвету, дзесь быў у месьці, дак лічыў себе вельмі разумным і не хацеў рабіць простаго мужыцкаго дзела. Перш бацько сварыўса, але бачыць, што нічого не памагае, дак плюнуў да й думае сабе: «Ну, нехай толькі чорны вол наступіць на ногу, та ён кіне свае вымышляньне да будзе, як усе людзі». От па немалум часе ажаніўса той гультаеваты хлопец і ўзяў сабе жонку да пугу такую ж, як і сам. Нема чаго рабіць, жонка старого даўно памерла, стала маладзіца поўнаю гаспадыняю ў хаці. Але яна, што запарве, та ўсе цягне сабе ці свайму гаспадару, а стары да працавіты дзевер як сабе хочэ, нехай жывуць абы як. Ведамо, людзі заўжды садзяцца за стол кожын на свае мейсцо. От так раз і тые людзі селі абедаць. Стары сеў на куце ў канцы стала, кала старого на зэдліку сеў старэнны сын, а кала другога канца стала — жанаты сын. Кала яго прысела жонка. Яна та сядзе, та ўстане да прынесе другую страву. Нарэшце прыносіць яна поўну місу кашы; прынесла, паставіла посерод стала, а сама падсела к гаспадару. Узеліса мужчыны за ложкі да давай аплетаць кашу. Жанаты сын з жонкаю ядзяць да толькі аблізваюцца, а стары да яго старэнны сын насілу глытаюць посную кашу. Дагадаўса тут старэнны сын, што, мабыць, братавая зрабіла якіесь кпінкі, от ён узяў місу з кашаю да давай яе круціць. «Ото ж добрая пасудзіна,— кажэ ён,— дзе толькі яна зроблена?» — «Мабыць, у Капылі,— кажэ стары,— бо там робляць добрую паліву». Пахвалілі яны місу да й пакруцілі яе так, што к ім абернуласа каша з маслам, а к жанатаму сыну — посная. Папробувала жанчына кашы да й ложку палажыла. «Еж, галубко,— кажэ стары,— каша смачная, з маслам». Годзі яна з тае пары падаваць на стол не роўную страву.

Сасноўські

В. Рожан

# 94. ТАВАРЫШЫ

Даўно тое было, моо яшчэ дзедоў і прадзедаў нашых не было на сьвеці, жылі-былі два хлапцы, два ўдалые малайцы. Яны вельмі моцно таварышавалі адзін з другім і не было на сьвеці нічого такого, каб яно магло разлучыць іх таварыство. Жылі яны так душа ў душу, што ніколі не жывуць так і родные браты. А была там вельмі гожая дзеўчына, якое й на сьвеці больш не найці. Спадабаласа яна ім вельмі моцно, але не ведаюць яны, катораму яна мае дастацца. От парадзіліса яны паміж сабою да й парашылі, што той яе возьме, каго яна выберэ. Пашлі яны к той дзеўчыні да й пытаюць яе. Але яна сама не ведае, катораго яна больш кахае, бо абудва ёй вельмі спадабаліса. Прыхіліцца яна к аднаму, та к другому цягне; прыхіліцца яна к таму, та к першаму цягне. От так нігоднаго й не мажэ так пакахаць, каб аб другом не балело сэрцэ. Зсушыла яна тых хлопцаў, дай й сама высахла, ходзіць, бы непрытомная, да та сьмеецца, та плачэ. Думалі, думалі хлопцы, што тут рабіць, да й парашылі йці ў сьвет, моо там хто стрэне другую дзеўчыну, а мо дзе загіне, та дась дарогу другому. Як парашылі, так і зрабілі; папрашчаліса яны з каханаю дзеўкаю да й пашлі. Адзін пашоў направо, а другі налево. Яшчэ й да тых час на растанцох лежыць велізазны камень, на каторум яны седзелі, як прашчаліса з дзеўчынаю й між сабою. Яны тут так рашылі, што хто першы вернецца цераз тры гады, таго й будзе тая дзеўчына. От пашлі яны й не было аб іх ніякае чуткі. А яны тым часам сталі нажываць грошы, каб зрабіць дзеўцы самы лепшы да самы дарошшы падарак. Адзін пачаў таргаваць, а другі — купцоў разбіваць. Цераз тры гады нажылі яны шмат багатства. Толькі ось разбойніка й злавілі да й прысудзілі на шыбеніцу. От атусюль сагналі людзей глядзець, як яго будуць вешаць. Прыехаў і той купец — добры маладзец зірнуць на тую цікавасць, як павесяць разбойніка, што забіваў купцоў. Ён не знаў, што гэто яго таварыш. Прыгналі туды й тую іх каханую дзеўчыну. От зрабілі шыбеніцу да й прывелі таго разбойніка. Дзівяцца людзі, што разбойнік стаіць пад шыбені-

цаю бацця на кірмашы, бацця ён і не ведае, што гэто шыбеніца, а ўсе пазірае на людзей, бацця каго шукае ачыма. Толькі ось разам закрычалі двое людзей да й кінуліса к шыбеніцы. З аднаго боку кінуўса той таварыш-купец, а з другого — тая дзеўчына. Яны разам пазналі, хто гэто такі той разбойнік, і кінуліса, каб яго аслабаніць. І дабеглі яны да шыбеніцы ў вадзін момант. Дзеўчына кінуласа разбойніку на шыю да й пацалавала яго. А зьвесно, што быў такі звычай, што калі дзеўка пакахае разбойніка, та яго аслабаняюць ат сьмерці. Але яна пад шыбеніцаю разам з разбойнікам убачыла й яго таварыша. От аслабанілі таго разбойніка да й аддалі яго дзеўчыне. Пачалі людзі зьбіраць ім грошы й назьбіралі цэлую шапку. Пасадзіў іх купец на свой качобрык да й паўёз да гасподы. Прыехалі яны да й не ведаюць, што рабіць, каму павінна дастацца тая дзеўчына. Думалі яны, думалі да так нічого й не прыдумалі, а пачалі разам жыць да пажываць да дабра нажываць.

Сасноўські

В. Рожан

## 95. ШТО БОГ ЗЛУЧЫЎ, ТАГО НЕ РАЗЛУЧАЙ

Ці ведаеце вы, як ліхо жыць на сьвеці, калі ўсю жытку трэ служыць другім людзям і ніколі нема табе слабоды, нема свайго вугла. Хаць ты служы ў палацах, да яны чужые, а хатка хаць курная да брудная, да свая. Праўду людзі кажуць, што як век служыць, та лепей не жыць. Які б там ні быў добры хаджаін, та ці хаджайка ліхая, ці яго дзеці або радня, дак ніколі нема табе супакою. Як ты ні рабі, як ні старайса, та людзі ўсе ж скажуць, што, ведамо, парабак, якая ат яго карысь. От быў такі нешчасны адзін чалавек, што яму ўсе прыходзіласо парабкаваць. Як ніستараўса ён выбіцца на сваю гаспадарку, нельга ніякім правам, бо як тут гаспадараваць, калі ў цебе ні кала, ні двара, калі нема

за што рук зацяць. Перш ён часто меняў гаспадароў, але нарэшце пазнаў, што гэто гарэй, чым жыць у аднаго. Бо ўсім гадзіць, усім рабіць шчыро да добрэ, та й сілы не хопіць (хваціць), а жывучы ў аднаго, та можна яму нарабіць шмат так, што е чым пахваліцца. От так і служыў ён у ваднаго гаспадара, служыў верно, шчыро працаваў, дак і гаспадар як бы лічыў яго сваім семенінам. От прышлі Коледы, накалолі людзі сьвіней, нарабілі каўбас да й балюють. А той парабак пазірае, пакуль дадуць, да яшчэ моо й не дадуць. Дак ось якраз на тое й вышло. Напрагла гаспадыня на скаварадзе сала, палажыла туды цэлае лычко каўбас да й падае на стол. Каўбаса была парэзана на кускі, але яны не саўсім атрэзаны. Дзеўбануў гаспадар кусок каўбасы да так усю й пацёг к сабе. «Прытрымай»,— кажэ ён жонцы. А тая адмаўляе: «Што Бог злучыў, таго не разлучай». Управіў гаспадар адзін усю каўбасу, а парабак толькі аблізаўса, дарам, што разам седзеў пры стале. От на сьвята пашла гаспадыня ў госьці, там трохі падпіла да й замарудзіла. Вернуўса з карчмы гаспадар да й давай лаяць жонку, а тая як пачала яго зьневажаць, дак яны слово за слово да й сплеліса біцца. Седзіць парабак на лаве да толькі пазірае. Горачо прышлосо жанчыне, от яна й просіць парабка, каб ён іх разьвёў. А той і кажэ: «Што Бог злучыў, таго не разлучай». От з тых час кінуў ён парабкаваць да пачаў сам гаспадараваць. Перш зрабіў будан, потым курэнь, а нарэшце й хатку, хаць маленькую, да дарагенькую.

Сасноўські

В. Рожан

## 96. АДКУЛЬ ПАШЛІ ГРЫБЫ[1]

Кажуць, што добры казляк лепш кепськаго мяса. А ў пост і квас не квасам, калі ў ём нема казлякоў. Без казлякоў, ці, як кажуць, грыбоў, людзі не маглі б пасьціць Петроўку. Моо затым у Петроўку больш усего

[1] Гл. № 49.

едзяць грыбы, што яны й пашлі з таго, як святы Петро ўкраў у Хрыста хлеб. От як гэто было. Хадзіў Хрыстос з Петром па землі да вучыў людзей, як жыць на сьвеці. Хадзілі яны ата ўёскі да ўёскі. Часам іх кармілі добрые людзі, а часам паганые й не прымалі. От гэтак адзін раз ішлі яны цераз велікае поле. Доўго не было ніякае ўёскі. Петро любіў добрэ ўжываць, а тут у яго саўсім кала сэрца завіло, бо вельмі прагаладаўса. Было ў іх трохі хлеба. Петро нёс яго ў торбачцы за плечамі. Ідуць яны да йдуць. Хрыстос спераду, а Петро ззаду. Кончыласо поле, вайшлі яны ў лес. Не вытрымаў Петро, ушчыпнуў крыху хлеба да й есь. Пазнаў Хрыстос, што робіць Петро, да й пытае яго, што зрабіць людзям на патрэбу. Хацеў Петро атказаць, да не мажэ, бо повен рот набіў хлебам; от ён выплюнуў, а з таго й пашлі расьці грыбы. Зірнуў Хрыстос да й кажэ: «Нехай гэто будзе на патрэбу людзям». І пашлі грыбы на патрэбу людзям.

Сасноўські

В. Рожан

## 97. ЦЫГАНСКАЕ ТАВАРЫСТВО

Прыходзяць два цыганы ў вёску да й бачаць, аж мужык закалоў кормнаго вапрука да й смаліць яго на агародзе. «Давай, бацю, памагом»,— кажуць цыганы. «Ат вашае памогі нема запамогі,— кажэ мужык.— Не хочэце сьвіней гадаваць да карміць, дак не чакайце й спажыць».— «Эй, бацю, Бог дае на ўсіх долю»,— кажуць цыганы. «Але ж дае,— атказвае мужык,— і воўку дае, бо й ён жывіцца».— «Праўду кажэш, бацю! От затым і мы хочэм пажывіцца».— «Воўк жывіцца ў лесі. От і вы там жывіцеса. У лесі Бог даў на ўсіх долю». Бачаць цыганы, што не на такоўськаго трапілі, от яны аблізаліса да й пашлі далей. «А што, моо й праўду бае мужык,— кажэ адзін,— што ў лесі можна пажывіцца. Хадзем у лес».— «Хадзем»,— атказвае другі. От прышлі цыганы ў лес да бачаць, што там ваўёрка скачэ па дзераву. «От бачыш,

які зьвер»,— кажэ адзін цыган. «Ён маленькі, да так хутко скачэ, а я большы, дак яшчэ не так скакану. Ты хучэй зьбегай да прынесі кацёл, а я тут палаўлю гэстых зьверкоў, от у нас і будзе сьвежына». Пашоў адзін цыган па кацёл, а другі ўзлез на дзераво, дзе была ваўёрка, да й хацеў яе злавіць за хвост. Толькі ён сунуўса к ёй бліжэй, як яна цмок, цмок! да й пераскочыла на другое дзераво. Цыган, не доўго думаючы, да як скокне за ею, дак і палецеў долу, бы камень. Урэзаўса цыган аб землю так, што й зубы вышчарыў. Лежыць ён саўсім непрытомны да чуць дышэ. Тым часам вернуўса тарарыш з велізазным катлом да як убачыў, што той цыган лежыць, дак вельмі абазьліўса на яго, выразаў барджджэй папліску да давай яго пярэсьціць да прыгаворваць: «А, от гэто табе за тое, што ты такі таварыш — сам наеўса да й лежыш, а пра таварыша й забыўса. Дак я табе прыпамену. Ось табе, ось табе прыпамін...» Лупіць цыган таварыша, а с таго й так чуць духі не выскачаць. Прышлі туды ў кусты нашы дзецюкі рваць арэхі да й убачылі тых цыганоў. Насілу яны атратавалі таго цыгана. От с тае пары годзі цыганы таварышаваць, а пачалі яны па адном красьці да абманваць людзей і тым жывіцца.

Сасноўські

В. Рожан

## 98. САМАЯ РАЗУМНАЯ

Жыў сабе адзін чалавек не то, каб багач, а так сабе добры гаспадар. Ён, як жэ кажуць людзі, не баяўса, што ў Петроўку выпадзе снег, бо заўжды меў пра запас берэме сена. Быў у яго сын — удалы да працавіты хлопец, але на свой век моо ўжэ вельмі разумны. Бало яшчэ змалку не хочэ йграць ці сваволіць с таварышамі, а ўсе трэцца кала большых да прыслухоўваецца, што яны гавораць. А як стаў нелапым хлапчуком, дак ужэ такого набраўса розуму, што пачаў і старшых вучыць. Упікалі часамі яму людзі, кажучы, што яйца курэй

вучаць, але ён не слухаў. От прышоў ужэ час, што пара яго й жаніць. Пачалі бацькі наглядаць яму гаспадарлівую да гожую дзеўку. Ведамо, у нашум стане толькі на тое пазіраюць, каб жанчына была добрая гаспадыня, каб умела зпекці хлеб да зварыць страву, а ўзімку паставіць кросна да абшыць гаспадара да дзецей, каб не сьвецілі целам. А той хлопец шукаў сабе жонку самую разумнейшую, каб яна была такая цікавая да растаропная, як і ён сам. Але дзе такую ўзяць, бо, ведамо, які ў жанчыны розум. От нагледзялі яму бацькі адну дзеўчыну ў суседнюй вёсцы ў сябра, з каторым былі ў іх заедные пчолы. От сказалі яны аб том сыну, да й кажуць яму, каб ён пашоў у тую ўёску зірнуць на дзеўку. От была недзеля ці які другі сьвяток, апрануў той хлопец новую сьвіту да й пашоў к сябру ў суседнюю ўёску аглядаць тую дзеўку. Прыходзіць ён туды. А гэто было па весьне, от якась кала Велікдзеня. Высыпалі дзеўкі з курнікаў на загумеччэ, паюць песьні да скачуць там на дошках. Убачыў ён, што тая дзеўка сьмеецца, ляскочэ, бы клекотка, да так скачэ на дошцы, што спадніца аж на голаў задзіраецца. Зірнуў ён да й думае, што гэто самая дурнейшая дзеўка. От прыходзіць ён дамоў да й кажэ бацькам, што да тых час не будзе жаніцца, покуль не знайдзе сабе самае разумнае (жанчыны). Нема чаго рабіць, згаджаюцца бацькі й на тое, да толькі качаюць галавою, бы не даюць веры таму, што дзе-небудзь е такая жанчына. Ведамо, людзі кажуць, што ў жанчыны волас доўгі, да вум кароткі. От і пашоў той вельмі разумны хлопец у сьвет шукаць самае разумнае жанчыны. Хадзіў ён моо год, два ці больш, абхадзіў усе царство, а такое жанчыны нідзе немаш. Усюды жанчыны як жанчыны. Яны яшчэ дурней, чым сябрава дачка. От і пачаў ён пытаць у жанок, ці не знаюць яны дзе самае разумнейшае жанчыны. А тые й кажуць: «Ой, саколе ты наш ясны, чаму не ведаем. Была ў нас тут адна дзеўка, якісь вырадак. Яна ўсе рабіла не па-люцку, лічыла себе вельмі разумнаю. «Не хачу,— кажэ,— быць як другіе дзеўкі, я хачу быць разумней мужчын». Але ведамо, вышэ носа не плюнеш. Хвабрылася яна, хвабрылася да на той самуй... і села. А цепер такая ж дурная, як і ўсе бабы, бо які бабські розум!»

От пашоў ён зірнуць на тую самую разумную да й бачыць, што яна ні баба, ні мужык, аж яму штось занудзіло. Годзі ён больш шукаць разумнае жанчыны, вернуўса да господы да й пабраўса з дачкою сябра, бо яна дурная, а другіе яшчэ дурней, ці бо ўсе самые разумные.

Сасноўські

В. Рожан

## 99. КАМУ БОГ СУДЗІЎ, ТОЙ І СПАЖЫЎ

Жыў сабе не то, што панок, а так сабе багаты шляхціц. Ат бацька яму дасталосе добрае поле да велікая гаспадарка, бо ў яго было сем братоў, але яны ўсе памерлі. Загроб ён у свае рукі ўсе бацькаўскае дабро да й кажэ, што добрэ жыць на сьвеце багатаму чалавеку. А старэнькая матка гаворыць яму, што не таму добрэ жыць на сьвеце, хто багаты, а таму, каму Бог судзіць. «Ці судзіць, ці не судзіць,— атказвае сын,— а што я маю, тое мае».— «Не, сынок. Так казалі й тваe браты, да бачыш, каму Бог судзіў, той і спажыў».— «Якое мне дзело, каму што там Бог судзіў, толькі ■ знаю, што багацей ат мене нема ў ва ўсём засценку, а можэ й у цэлуй акрузе».— «Ой, не грашы Богу, мой сынок, бо Бог скарае». Толькі гэто яна прамовіла, як чуюць яны, што хтось гаворыць зверху, от нібы з неба: «Багаты зажабруе, а каваль запануе». Спужалісе яны, не ведаюць, што рабіць. Але той шляхціц надумаўса абмануць Бога. От ён узяў усе золато, панёс к рацэ да й схаваў яго ў дупленатуй вербе. «От жэ цепер,— кажэ,— нехай каваль запануе». Толькі ён гэто прамовіў, як зноў з неба хтось кажэ: «Багаты зажабруе, а каваль запануе». Спужаўсе шляхціц, прадаў усю сваю гаспадарку, а грошы схаваў у вербу. «Ото ж пабачым, хто запануе»,— кажэ ён. Толькі ён гэто прамовіў, як зноў чуе тое самае, што багаты зажабруе, а каваль запануе. Спужаўсе ён і чакае беды. Але ось яна не за гарамі. Па не доўгум часе захварэла яго матка да й памерла. Толькі

пахаваў ён матку, як усхадзіласе велікая бура й спала такая навальніца, што яго будынак увесь раскідало да й занесло неведама куды, а тую вербу, у каторуй былі грошы, вырвало з карэнем і ўнесло вадою. Астаўсе той шляхціц праве голы, як маці радзіла. Нема чаго рабіць, пашоў жабраваць у далекі край, каб знаёмые людзі не бачылі й не калолі яму ачэй тым, што ён хваліўсе сваім багатствам. Тым часам тую вербу вадою выкінуло кала кузні беднаго каваля. Убачыла каваліха да й кажэ свайму гаспадару: «Нехай бы ты хаць насек мне берэмцо дроў. Бачыш, што нема чым у печы запаліць, каб зварыць якую-небудзь калатушу». Узяў каваль з кузні чужую ломаную сакеру да й пачаў шчапаць на дрова тую вербу. Толькі ён трохі атшчапіў, як аттуль пасыпалосе золато. Забраў ён золато ў хвартух да й панёс дадому. Скоро накупіў ён усего, што трэба, й стаў панаваць. От прышоў раз к кавалю той жабрак, заначаваў да й расказаў, як Бог скараў яго. Пачулі тое каваль і каваліха да й дагадалесе, што гэто яго грошы яны спажываюць. Думалі яны, думалі, як ім даць таму шляхціцу золата, каб яму хапіло пражыць да смерці, а не жабраваць. Надумалісе яны палажыць золато ў булку хлеба да тую булку даць жабраку, та ён як пачне есці хлеб, та й знайдзе там золато. Так і зрабілі. Узяў той жабрак з золатам булку хлеба, падзякуваў да й пашоў. Толькі трохі атышоўса ён, бачыць, аж бедны чалавек арэ на полі дзераўянаю сахою без сашнікоў. «Што ты,— кажэ,— чалавечэ, арэш без жалезных сашнікоў; гэто ж ты только мучыш жыўёло».— «Калі ж, братко, я бедны чалавек і не маю, за што купіць сашнікоў». Узяў жаль таго жабрака. От і атдаў ён таму беднаму чалавеку цэлую булку хлеба, каб ён купіў у каваля сабе сашнікі. Пашоў той чалавек к кавалю да й атдаў яму за сашнікі тую булку хлеба. Разрэзала каваліха той хлеб, ажно там тое золато, што яны палажылі. От каваль запрог добраго каня, узяў тое золато да й паехаў даганяць таго жабрака. От абагнаў ён яго да й бачыць, што ўперадзе цераз рэчку зроблен мост. «Ну,— думае,— жабрак не міне гэтаго моста». Насыпаў гэто ён шапку золата, палажыў шапку пасерод моста да й цікуе, як жабрак заберэ золато. Толькі ось жабрак

падышоў к мосту да й думае сабе: «Ото ж ці я ўмею хадзіць не бачачы, бы слепы». От ён заплюшчыў вочы да й перайшоў церaз мост, нічого не бачачы. «Не,— думае каваль,— што Бог судзіў, тое й будзе. Праўду кажуць: каму Бог судзіў, той і спажыў».— І забраў сабе золата.

Шляхцянка Умінская

Крыжы

## 100. У П'ЯТНІЦУ НЕ СМЕЙСЕ, А Ў НЕДЗЕЛЮ НЕ ПЛАЧ

Ведамо, гаспадарка — таўчысе ад рана да вечара кожын дзень і ніколі нема табе спачынку. Прыдзе сьветая недзелька, дак хочэцца схадзіць па грыбы ці па ягады, бо зайздросно, што людзі назбіраюць грыбоў да ягад на ўсю зіму, а ў цебе нема чаго й хвораму даць. От і робіш так, як людзі, да толькі ўздыхнеш, нехай Бог даруе цяжкі грэх. Дак от жэ так адна кабеціна ў недзельку пакінула дома двое дзетак да й пашла ў лес па грыбы. Было мокрае, але вельмі цёплае лецячко, зарадзіло грыбоў, хаць касі. Назбірала тая кабеціна поўну каробку грыбоў самых маленькіх да маладзенькіх да яшчэ наклала цэлы прыпол, так што цяжко несці дадому. Паседзела яна трохі на пеньку да й пашла на дарогу, расхіляючы веткі. Выходзіць яна на паляначку, дзе былі растанцы, а на іх якісь набажны чалавек паставіў крыж, да й сустракае кала таго крыжа якуюсь маладую да вельмі харошую жанчыну. Павіталася яна з ею да й хацела йці далей, але тая й кажэ: «Кепсько ты робіш, што не сьвяткуеш недзелькі, а ходзіш па грыбы». Перахрысцілася тая кабеціна на крыж да й кажэ: «Нехай Бог даруе цяжкі грэх, бо нельга ў гаспадарцы сьветкаваць». «Ой, мая міленькая,— кажэ тая,— паслухай мене. У п'ятніцу не смейсе, а ў недзельку не плач да дзела не рабі, та Бог табе ўсе дасць». А сама й знікла. Задумаласе тая кабеціна да й дагадаласе, што гэто была Матка Божая. Памаліласе яна перад крыжом да й пашла да дому, только маўчыць, нікому аб том нічого не гаворыць.

Прышла п'ятніца, сабралісе жанкі, пачалі паміж сабою сакатаць, пачалі прыдумоўваць уселякіе смешные здарэня да й смеюццэ, аж заходзеццэ. Толькі тая кабеціна маўчыць, бы вады ў рот набрала. Прыкмеціў тое чорт да й пачаў хадзіць за тою кабецінаю, як цень, не атступае ат яе ні на крок. Сцеражэццэ яна, каб у п'ятніцу не засмеяццэ, а ў недзельку не заплакаць да дзела не рабіць. І пашло з тых часаў ёй шанцаваць у гаспадарцы, пашло ўсе на карысць, так што людзі пачалі завідуваць. Толькі ось у адну недзельку пашоў гаспадар к людзям на сход. Пачалі яны там гаманіць да радзіццэ, як лепш весці гаспадарку да абрабляць поле, загаманілісе да й доўгі час седзяць сабе на ўзгорачку пад ліпамі. Тым часам тая кабеціна пакінула адных дзецей у хаце да й пабегла ў цэркаў памаліццэ да паставіць сьвечку. Уходзіць яна ў цэркаў, а чорт чмыхнуў носам, нельга йці туды, от ён абазліўсе, пабег у хату да й задушыў у калышцы маленькае дзіцятко тае жанчыны. Памаліласе яна Богу да йдзе дадому. Убачыў яе гаспадар, да й пашлі яны разам. Уходзяць яны ў хату, аж бачаць, што маленькае дзіцятко нежывое, а большаго саўсім нема й неведамо, куды яно дзеласе. А яно як убачыло, што маленькае дзіця памерло, дак спалохаласе да й залезло ў печ. Божкае гаспадар, плачэ, аж рукі ломіць, а матка смееццэ да кажэ: «Бог даў, Бог і ўзяў. Яго светая воля». Пабачыў гаспадар, што жонка смееццэ, да й думаў, што яна з гора ашалела. От ён наклаў у печ дроў, запаліў і прыставіў чагун вады, каб было чым памыць тое дзіця. Тым часам і большае дзіця ў печы затохласе. Агледзеўсе гаспадар да чуць не ашалеў з гора. А жонка ходзіць сабе па хаце да смееццэ з гаспадара. А чорт залез пад печ да там толькі хвастом круціць ат радасці да думае, што от цепер пачнуць тые людзі сварыццэ, лаяццэ да наракаць на Бога, што даў ім такое нешчасце. Пабожкаў чалавек, пагараваў, але як пачала яго жонка весело ўмаўляць, дак прышоў у себе да й годзі турбаваццэ. Тым часам нагрэлася вада; памылі, убралі яны сваіх дзецей да й вынеслі на гору. Прыбралі яны ўсе ў хаце да й селі вечэраць. Толькі ось схаменуласе тая жанчына, што забыла кала дзецей паставіць сьвечкі. От запаліла яна сьвечкі да й палезла на гору. Падходзіць

яна к дзецям, аж яны абое жывы й здаровы, седзяць сабе на руках у тае самае жанчыны, якую яна сустрэла кала крыжа, да йграюць. Пакланіласе яна Матцы Божуй да самае землі. Тая аддала ёй дзецей, благаславіла іх і тую жанчыну да й знікла. Прынесла яна ў хату дзецей. Убачыў тое гаспадар да й сам пачаў смеяццэ ат радасці. От і расказала яна гаспадару ўсе, як тое было. Можэ й цепер яшчэ жывы тые людзі. Слухаюць яны Бога, дак і Бог ім усе дае. Дак от бачыце, якое было здарэне.

Шляхцянка Умінская

Крыжы

# ЗЬМЕСТ

**Сержпутоўскі А. К.**

С32 Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета / Маст. В. Р. Мішчанка.— Мн.: Універсітэцкае, 2000.— 270 с.— (Повязь вякоў).
ISBN 985-09-0361-9.

Гэта чацвёртая кніга з серыі «Повязь вякоў». Змешчаныя ў зборніку творы сведчаць аб высокай духоўнай культуры нашых продкаў і адлюстроўваюць быт сялянскага жыцця. Кніга акажа вялікую дапамогу ў адраджэнні беларускай мовы, нацыянальнай культуры, будзе спрыяць прапагандзе дасягненняў айчыннай фалькларыстыкі і этнаграфіі, літаратуры і мастацтва.

Для этнографаў, фалькларыстаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў і вучняў агульнаадукацыйных школ, ліцэяў, работнікаў асветы, навукі і культуры, шырокага кола чытачоў.

**УДК 882.6-3+398.2 (=826)**
**ББК 82.3 (4Беи) 6**

Літаратурна-мастацкае выданне

ПОВЯЗЬ ВЯКОЎ

**СЕРЖПУТОЎСКІ**
**Аляксандр Казіміравіч**

**КАЗКІ І АПАВЯДАННІ**
**БЕЛАРУСАЎ СЛУЦКАГА ПАВЕТА**

Рэдактар *Л. Ф. Вернікоўская*
Мастак *В. Р. Мішчанка*
Мастацкі рэдактар *Н. Б. Ярота*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктары *А. З. Ліпень, Л. М. Макейчык, Т. У. Кульніс*

Здадзена ў набор 26.07.2000. Падпісана да друку 07.09.2000. Фармат 84×108/32. Папера афсетная. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ул.-выд. арк. 13,91. Тыраж 2400 экз. Заказ 1319.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.300.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Універсітэцкае» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 9 ад 31.12.97. 220048, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

